# ПОЛЫМЯ
# РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ



2

1938





# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР



*КНІГА ДРУГАЯ*



МЕНСК—1938

*Якуб Колас*

# СЛАВА ГЕРОЯМ!

Такой эпапеі, герояў такіх
Не чулі мы ў казках, у кнігах:
Совецкая ява дала чацвярых,
Што свет скалыхнулі на крыгах...

Бязлюдная пусташ, бяскрайны прастор
І дзебры ільдзістага поля,
Дзе буры жахлівы вядуць разгавор,
Дзе грозна стыхія сваволіць,

Дзе немыя ночы па месяцы тры
Вартуюць глухія абшары,
Дзе сполахі ў небе стаўляюць шатры
Пад громы лядовых удараў...

Ці ёсць дзе на свеце узор хоць адзін
Такое адвагі і волі?
Скарыць сваёй сіле капрызы ільдзін
І славы здабыць яшчэ болей!

Чатыры героі дзесяткі другіх
Далі нашай слаўнай краіне.
„Таймыр“ і з ім „Мурман“ прыплылі ўдваіх,
А Власаў шлях значыў к ільдзіне.

Такія героі ёсць толькі у нас,
Дзе ясна акрэслена мэта...
Плеяда герояў! Вітаю я вас,
Вас, сталінскім сонцам сагрэтых.

19/II 1938 г.

*Мікола Хведаровіч*

## ПАПАНІНЦАМ

Адвага героя-народа
Бясстрашных на поўнач вяла.
Плылі самалёты горда,
Пурга над ільдамі мяла.

Радзімы сыны асвятлялі
Прасторы суровай начы
І маці руку адчувалі
Яны на сваім плячы.

Паўночныя ветры снягамі
Закрылі халодны простор.
Але зіхацела над льдамі
Зіянне Крэмлёўскіх зор.

Палярная лютая сцюжа
Крышыла таросісты лёд,
Вяла вас нязломная мужнасць,
Натхніў вас савецкі народ.

Імклівыя радыё-хвалі
Да сэрца радзімы плылі.
Мы голас сяброў адчувалі
Па ўсёй неабсяжнай зямлі.

Яны-ж адчувалі ў бязмежжы
Дыханне радзімы свае,
І як на Крэмлёўскай вежы
Гадзіннік дванаццаць б'е.

І вось, пасля доўгай разлукі
Папанінцы на караблі...
Вам цісвуць палярныя рукі
Народы савецкай зямлі...

Радзіма, найлепшая ў свеце —
Краіна праменнай вясны.
Плывуць твае родныя дзеці—
Папанінцы—нашы сыны.

Яны пакарылі прыроду
Праславіўшы нас на сусвет...
Абранцы тытана народа
У самы Вышэйшы Совет.

Мы стрэнем, як маці іх шчыра,
Мы любасцю іх ахінем.
І як маракі з „Таймыра“
Мы іх на руках панясем,

Праз гулкую песеннасць вуліц,
Да слаўных крэмлёўскіх варот;
Сардэчным цяплом вас атуліць
Вялікі совецкі народ.

20/II 1938 г.

*Пятро Глебка*

# ВЕРШЫ

## ПРОВАДЫ

Ходзяць зоры над краінай,
А дарожанька бяжыць...
Выпраўляе маці сына
У чырвоны полк служыць:
— Будзь адважны і харобры
Рэвалюцыі салдат
І з няславаю нядобрай
Не варочайся назад!

Ходзяць зоранькі над ярам...
Сын матулі адказаў:
— За спакой твой і за старасць
Не ступлю ў баях назад.
А калі ад ран нязмерных
Над акопам упаду,
Я памру, як сын твой верны,
Але з ганьбай не прыду.

Ходзяць зоранькі над хатай,
А дарожанька бяжыць...
Выпраўляюць сёстры брата
У чырвоны полк служыць:
— Будзь адважны і харобры
Рэвалюцыі салдат
І з няславаю нядобрай
Не варочайся назад!

Ходзяць зоранькі над полем...
Брат сястрыцам адказаў:
— Я за радасць вашай долі
Не ступлю ў баях назад.
А калі ад ран нязмерных
Над акопам упаду.
Я памру, як брат ваш верны,
Але з ганьбай не прыду.

Ходзяць зоры над залужжам,
А дарожанька бяжыць...
Выпраўляе жонка мужа
У чырвоны полк служыць:
— Будзь адважны і харобры
Рэволюцыі салдат
І з няславаю нядобрай
Не варочайся назад!

Ходзяць зоранькі над нівай...
Муж каханай адказаў:
— За дзяцей сваіх шчаслівых
Не ступлю ў баях назад.
А калі ад ран нязмерных
Над акопам упаду,
Я памру, як бацька верны,
Але з ганьбай не прыду.

Ходзяць зоры небам сінім,
А дарожанька бяжыць
Выпраўляе нас краіна
У чырвоны полк служыць:
— Будзь адважны і харобры,
Рэволюцыі салдат,
І з няславаю нядобрай
Не варочайся назад!

Ходзяць зоры над нізінай...
Сын радзімы адказаў:
— За жыццё тваё, краіна,
Не ступлю ў баях назад.
А калі ад ран нязмерных
Над акопам упаду,
Я памру салдатам верным,
Але з ганьбай не прыду.

---

## ПАГРАНІЧНАЯ

На захадзе і ўсходзе
Па лініях крывых
Уздоўж граніцы ходзіць
Совецкі вартавы.

Таварыш, будзь-жа пільны,
Святыя рубяжы
Вялікае краіны
Адважна беражы!

Няспынна поўным ходам
Працуюць за табой
Магутныя заводы
І новых фабрык строй.

Таварыш, будзь-жа пільны,
Святыя рубяжы
Вялікае краіны
Адважна беражы!

Жытамі і пшаніцай
Шумяць твае палі,
Па рэках у сталіцу
Прыходзяць караблі.

Таварыш, будзь-жа пільны,
Святыя рубяжы
Вялікае краіны
Адважна беражы!

Работай мірнай, шчаснай
Заняты твой народ:
Рабочы і калгаснік,
Вучоны і пілот.

Таварыш, будзь-жа пільны,
Святыя рубяжы
Вялікае краіны
Адважна беражы!

Па гарадах і сёлах,
Далёкі наш зямляк,
Заможна і вясёла
Жыве твая сям'я.

Таварыш, будзь-жа пільны,
Святыя рубяжы
Вялікае краіны
Адважна беражы!

На край твой працавіты,
На мірны твой народ
Фашысты і бандзіты
Рыхтуюць свой налёт.

Таварыш, будзь-жа пільны,
Святыя рубяжы
Вялікае краіны
Адважна беражы!

Табе надалі права
Стаяць на варце дзён
Радзіма гордай славы
І сталінскі закон.

Таварыш, будзь-жа пільны,
Святыя рубяжы
Вялікае краіны
Адважна беражы!

*Сулейман Стальскі*

# ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ

*Таварышу Варашылаву*

Советаў моц і наш спакой,
Чырвоная
армія!

Лёд растае перад табой,
Чырвоная
армія!

Калі ідзеш—дрыжыць зямля,
Віюцца сцягі, як зара,
І зоркі на чале гараць,
Чырвоная
армія!

Твой кожны воін, быццам леў,
У чорнай ночы, ці ў імгле
Зламаць варожы зможа гнеў,
Чырвоная
армія!

Твой погляд—грозны буралом,
А імя—ў буру горны гром,
А трэба—ты ўзмахнеш крылом,
Чырвоная
армія!

Пільнуеш шчасця свету ты,
Нясеш юнацтва пекнаты,
І спеюць за табой жыты,
Чырвоная
армія!

І за табой—цвяцісты май,
Стаіць магутны родны край,
Адвагі поўны ён праз край,
Чырвоная
армія!

Мы ўсе гатовы як адзін,
Нібы ў пару страшных гадзін,
З табой сустрэць агонь і дым,
Чырвоная
армія!

Той будзе дым апошніх войн,
І спаліць катаў усіх агонь.
Табой асёдлан славы конь,
Чырвоная
армія!

Бясконца заваёў тваіх,
Адважных, смелых баявых,
Сусвет у гонары ад іх,
Чырвоная
армія!

Твой позірк—грозны буралом,
А імя—ў буру горны гром,
А трэба—ты ўзмахнеш крылом,
Чырвоная
армія!

Радзіма каб заўжды цвіла,
Каб маладосць заўжды была,
За мір, за праўду ў свет прышла
Чырвоная
армія!

*Пераклаў М. ХВЕДАРОВІЧ*

*Аляксей Талстой*

# ХЛЕБ

## (Абарона Царыцына)

Аповесць*)

### Раздзел першы

Два тыдні бушавала мяцеліца, завываючы ў печных комінах, грукочучы стрэхамі, заносячы горад, усцілаючы на сотні вёрст вакол снежную пустыню. Тэлеграфныя правады былі парваны. Паязды не падыходзілі. Трамваі стаялі ў парках.

Мяцеліца заціхла.

Над Петраградам свяціў, высока ўзабраўшыся, месяц з студзеньскае імглы. Час быў не надта позні, але горад, здавалася, спаў. Дзе-ні-дзе на скрыжаваннях простых і шырокіх вуліц, белымі клубамі дымілі вогнішчы. Ля агня нерухома сядзелі ўзброеныя людзі, перапяразаныя кулямётнымі лентамі, у вушастых шапках. Чырванаваты водбліск лажыўся па гурбах, на трэснуўшыя ад куль люстраныя вітрыны, на залатыя літары пакошаных шыльдаў.

Але горад не спаў. Петраград жыў у гэтыя студзеньскія ночы напружана, усхвалявана, злосна, шалёна.

Па Неўскаму праспекту, па звілістых сцежках, пратоптаных у пушыстым снезе, якія зварочвалі ў папярэчныя вуліцы, праходзіў які-небудзь барадаты пан, паставіўшы ўвесь у інеі каўнер. Аглянуўшыся направа, налева,—стукаў пярсцёнкам у парадныя дзверы, і адразу спалоханыя галасы пыталі: „Хто? Хто?“ Дзверы прыадчыняліся, прапускалі яго і зноў захлопваліся, грукаючы крукамі...

Чалавек уваходзіў у горача напалены жалезнай печкай, завалены рэчамі пакой. Пажылая дама, гаспадыня з істэрычнымі вуснамі, устаўшы насустрач, ускліквала: „Нарэшце-ж! Расказвайце...“ Некалькі мужчын, у чорных візітках, некаторыя ў валёнках, акружвалі ўвайшоўшага. Працёршы запацелыя пенснэ, ён расказваў:

— Генерал Гофман у Брэст-Літоўску высек, як хлапчукоў нашых „дарагіх таварышоў“... Замест таго, каб палезці пад стол

---

*) Аповесць напісана па дакументах і матэрыялах рэдакцыі „Гісторыі грамадзянскай вайны“.

ад страху, генерал Гофман з надзвычайным спакоем працягваў сядзець,—седзячы, заўважце,—заявіў: „Я з задавальненнем выслухаў утапічную фантастыку пана ўпаўнаважанага, але павінен яму зазначыць, што ў дадзены момант мы знаходзімся на рускай тэрыторыі, а не вы на нашай.. І мы дыктуем вам умовы міра, а не вы нам дыктуеце ўмовы...“ Хе-хе...

Дзядуля з сівымі вусамі і ружовымі шчокамі, у візітцы і валёнках, пераб'ў расказчыка:

— Паслухайце, але-ж гэта тон утыльматыму...

— Зусім правільна, панове... Немцы загаварылі з нашымі „таварышамі“ на ўвесь голас.... Я патрыёт, панове, я рускі, чорт вазьмі. Але, сапраўды, я гатовы апладыраваць генералу Гофману...

— Дажыліся,—праказаў іранічны голас з-за фікуса.

І другі—з-за кніжнай шафы:

— Ну, што-ж, немцы ў Петраградзе будуць праз тыдзень.

— Міласці просім...

Істэрычная гаспадыня дома—з плаксівым смяшком:

— Урэшце, не даводзіцца-ж нам выбіраць; урэшце-ж—ні газы, ні цукру, ні палена дроў...

— Другая навіна... Я толькі што з рэдакцыі „Эхо“. Генерал Каледзін ідзе на Маскву! (Усклікі). Да яго масамі прыбываюць дабраахвотнікі-рабочыя, не кажучы ўжо аб сялянах,—гэтыя прыязджаюць за сотні вёрст. Армія Каледзіна вырасла ўжо да ста тысяч.

З дзесятка грудзей выдыхаецца скамечанае паветра: хочацца верыць у цуда—у прасветленыя духам сялянскія арміі, якія ідуць на выручку разагнанаму Устаноўчаму сходу, на выручку такім добрым, такім шырокім, красамоўным расійскім лібералам... Яшчэ хочацца верыць, што немцы прыдуць, зробяць сваю справу і пойдуць сабе, як добры дзед-мароз.

Другі пешаход, пахадзіўшы глыбокімі сцяжынкамі паміж вымерашых асабнякоў, пастукаў на чорным ходзе ў адны з дзвярэй. Увайшоў у пакой з лепнай столлю. Унутры захутанай люстры свяціла лямпачка скрозь пыльную марлю. На паркеце патрэсквала жалезная печка з каленам у фортку. З бакоў печкі на ложках ляжалі ў парваных шарсцяных насках і скамечаных гімнасцёрках штабс-капітан дваццаці гадоў і падпалкоўнік дваццаці двух гадоў. Абодвы чыталі „Рокамболя“. Семнаццаць тамоў гэтых дзівосных прыгод валяліся на падлозе.

Той, што увайшоў, прагаварыў значна: „Георгій і Масква“. Штабс-капітан і падпалкоўнік глянулі на яго з-за разгорнутых кніг, але не выказалі здзіўлення і нічога не адказалі.

— Панове афіцэры,—сказаў увайшоўшы,—будзем адкрытымі. Балюча бачыць слаўнае рускае афіцэрства ў такім маральным разлажэнні. Няўжо вы не разумееце, што твораць большавікі з няшчаснай Расіяй? Адкрыта развальваюць армію, адкрыта прадаюць Расію, адкрыта заяўляюць, што само імя рускі—сатруць з твару зямлі. Панове афіцэры, у гэты грозны час выпрабавання кожны рускі павінен паўстаць са зброяй у руках.

Штабс-капітан прагаварыў пахмура і ляніва.

— Мы тры гады біліся, як чэрці. Мы з братам загналі шпалеры і не зрушымся. Кропка.

Ва ўвайшоўшага пана раздзьмуліся ноздры; падняўшы палец ён сказаў злавесна:

— На волю выпушчан звер. Рускі мужычок пагуляе на вашых трупах, панове...

І пан пачаў распісваць такія апакаліпсічныя страхі, што ў штабс-капітана і падпалкоўніка нядобра заблішчэлі вочы. Абодвы скінулі ногі з ложкаў, моцным рухам абцягнулі гімнасцёркі.

— Добра,—сказаў падпалкоўнік.—Куды вы нас клічаце?

— На Дон, да рускага патрыёта—генерала Каледзіна.

— Добра. Мы яго ведаем. Ён угробіў дывізію на Карпатах. Але, уласна кажучы, хто нас пасылае?

— „Саюз абароны радзімы і свабоды“. Панове, мы разумеем, што ідэя ідэямі, а грошы грашыма...— Пан дастаў зграбны бумажнік і кінуў на брудны ложак некалькі думскіх тысячарублёвак.

— Мішка, — сказаў падпалкоўнік, падцягваючы афіцэрскія штаны,—едзем, ёлкі точаныя. Прапішам нашым мужапёсам гарачыя шампалы.

У гэтыя снежныя ночы ў Петраградзе было не да сну. Вячэрнія контррэвалюцыйныя газеткі разносілі ўзбуджаючыя чуткі аб нямецкім утультыматуме, аб голадзе, аб крывавых бойках на Украіне паміж чырвонымі і гайдамацкімі палкамі Цэнтральнай рады*), аб пераможным прасоўванні генерала Каледзіна на Маскву, і з асаблівым смакам і падрабязнасцямі апісвалі рабункі і „страшэнныя забойствы“. Няўлоўны бандыт Котаў, альбо „чалавек без шыі“, рэзаў людзей кожную ноч на Садавой ля ігарнага прытона—ударам мяснога нажа ў почкі. У адной закусачнай, вядомай падсмажанымі свінымі вушамі, пад падлогай знайшлі сем аблупленых чалавечых туш. Увесь горад гаварыў аб выпадку ў трамваі, калі ў невядомага ў салдацкім шынелі была выцягнута з-за пазухі адрэзаная жаночая рука з дыямэнтавымі пярсцёнкамі.

Туга ахплівала багатых абываталяў Петраграда. На лесвіцах наладжвалі трывожную сігналізацыю, у пад‘ездах—усяночнае дзяжурства. Божа мой, божа мой! Ды ці не сон ужо сніцца ў доўгія зімовыя ночы? Сталіца, мозаг узбунтаванай дзяржавы, строгі, адзеты ў каланады і трыумфальныя аркі, асвятляемы змрочнымі закотамі, вялікадзяржаўны горад—у руках чэрні—вунь тых, хто, надзьмуўшыся, стаіць з вінтоўкамі ля кастроў. Нібы невядомыя заваёўнікі сталі табарам у сталіцы. Не да іх жа, высунуўшыся ноччу з форткі, крычаць: гвалт,—рабуюць! У гэтых фабрычных абматаных кулямётнымі лентамі, у салдацікаў з самай што ні на ёсць вясковай галытвы—на ўсё, на ўсе беды—адзін адказ: „Паглыбляй рэвалюцыю...“

---

*) Цэнтральная рада—нацыяналістычны буржуазны, меншавіцка-эсэраўскі ўрад Украіны.

Нямала было такіх, хто са зларадпасцю чакаў: хаця-б прышлі немцы. Суровыя, у зялёна-шэрых шынелях, у стальных шлемах. Ну—высякуць каго-небудзь на вачах ва ўсіх на плошчы,—расійскаму абывателю нават карысна, калі яго трохі палупцаваць за свінства. І пасталі-б на скрыжаваннях дображаданыя шуцманы: „Трымайся права!“ Ваенны губернатар, з залатымі жгутамі на плячах, праляцеў-бы ў аўтамабілі па расчышчанаму Неўскаму, і засвяціліся-б вокны ў булачных, у каўбасных і ў піўных. І пайшоў бы правым бачком панэлі шчаслівы, як з бані пітэрскі абываталь. Немцу і ў розум не прыдзе такое невуцтва—заяўляць: „Хто не працуе, той не есць“.

Тым, хто служыў у былых міністэрствах і дэпартаментах, у банках і на прадпрыемствах,—а па новаму ў камісарыятах,—канчаткова, з прычыны хуткага прыходу немцаў, не было сэнсу звязвацца з большэвікамі. Хай яны самі паварочаюць дзяржаўную машыну. Гэта не на мітынгу біць кулачышчам у матроскія грудзі: „Новы свет, бачыце, уласнай рукой пабудуем“... „Будуйце, будуйце, дарагія таварышы!“ І, як пацукі ўцякаюць з карабля, так з кожным днём усё больш буйных і дробных чыноўнікаў, па хваробе і проста без усякіх падстаў, не з'яўлялася на службу. Сабатаж зноў з кожным днём пашыраўся, як зараза,—усё глыбей насычваўся палітычнай барацьбой.

Шчыльна завесіўшы вокны, выставіўшы на парадным жоўтаротага гімназіста з браунінгам, чыноўнікі збіраліся каля жалезнай печкі, якая патрэсквала вугалькамі і, адраджаючы старазаветную піцерскую ўтульнасць—чыноўны вінт,—перакідваліся іранічнымі думкамі:

„Так с, панове... Не такі-то быў дурны Нікалай, як аказваецца... Э-хе-хе... Мала секлі, мала вешалі... Што і казаць: усе ладныя... Свабоды захацелася, на капустку пацягнула... Вось вам і капустка атрымалася... А ў Смольным у іх, ваша прэвасхадзіцельства, кожную ноч—оргіі, ды такія, што проста—валасы дыбам...“

Клубы дыму ад двух гарачых вогнішчаў засцілалі калоны Таўрычаскага палаца. Тупаючы валенкамі, пахлопваючы рукавіцамі, пахаджвала ля ўваходу ўзброеная варта. Цьмяна гарэла святло. У вестыбюлях ледзяная імгла.

У вялікай залі рабіў пасяджэнне Трэці ўсерасійскі з'езд совета́ў. На лаўках, расстаўленых амфітэатрам, было цесна, шумна—салдацкія шынэлі франтавікоў, кажухі, вушастыя шапкі і ватныя курткі рабочых. Пад шкляной столлю велізарнай залы—пара, амаль цёмна... Гул галасоў замаўкаў насцярожана. Кулакамі падпіраліся бароды, нябрытыя шчокі. Блішчэлі ўпалыя вочы. Словы прамоўцаў выклікалі рух жаданняў на худых і зямлістых тварах. Насустрач іншаму сказу ўзнімалася хлопанне цяжкіх далоняў, альбо уздымаўся пануры ропат, які прарэзваўся рэзкім свістам і доўга прыходзілася звінець званку старшыні...

Спрэчкі заканчваліся. На трыбуну, якая стаяла перад высокім сталом прызідыума, таропка пайшоў з бакавой лаўкі па-панску

апрануты чалавек з тоўстымі шчокамі. Зняўшы шапку, расплікнуўшы каракулевы каўнер, густым ахрыплым голасам пачаў:

— ... Ніколі, ніякі прымус, ніякія дэкрэты Совета народных камісараў не адбяруць у нас права гаварыць ад усёй рускай дзяржавы. Устаноўчы сход разагнаны, але Устаноўчы сход жыве, і голас яго вы яшчэ пачуеце...

Гаварыў член партыі эсэраў. За яго спіною старшынствуючы Валадарскі бязгучна трос званком. Роў перакатваўся па лаўках амфітэатра: „Пайшоў вон! Далоў! Вон!“

Прамоўца, абапіраючыся на кулакі, глядзеў туды, з перакошанай усмешкай. Калі трохі сціхла, ён зноў загуў, выпучваючы тоўстыя губы.

— ... Пасля кастрычніцкага пераварота, калі вы, таварышы, сталі ва ўладзе, натуральна было-б чакаць, што вы не адчыніце фронта перад нямецкай навалай... Але ўся палітыка народных камісараў ганебна папускае таму, каб агаліць фронт...

Выбух крыкаў. Хтосьці ў салдацкім шынелі пакаціўся зверху на абцасах па прамяністаму праходу да трыбуны. Яго перахапілі, заспакоілі...

— ... Калі вы хочаце міру,—гуў тоўсташчокі,—дык раней за ўсё не павінны дапусціць, каб Совет народных камісараў ад вашага імя здрадніцкі заключыў сепаратны мір...

Амфітэатр зароў, захісталіся галовы, замахалі рукавы. Чалавек дзесяць у шынэлях кінулася ўніз. Прамоўца таропка надзеў шапку, нагнуўшыся, пайшоў на сваё месца.

Старшынствуючы, дазваніўшыся да цішыні, даў слова Мартаву. Член цэнтральнага камітэта меншавікоў Мартаў, у паліто з адарванымі гузікамі, выставіўшы з шарфа кадык худой шыі і падняўшы ўгору сухотны твар з рэдкай бародкаю, каб глядзець на слухачоў праз брудныя шклы пенснэ, якое з'ехала на кончык носа,—ціха, але выразна, насмешліва загаварыў аб тым, што глыбока задаволены толькі што зробленай сёння заявай прадстаўніка мірнай дэлегацыі ў Брэст-Літоўску аб намеры не рабіць больш уступак германскаму імперыялізму...

Амфітэатр напружана прыціх. Напружаная ўвага ў прэзідыуме. Мартаў двумя пальцамі паправіў пенснэ. Сухотныя шчокі яго ўцягнуліся.

— Я заяўляю, таварышы, што палітыка совецкай улады паставіла рускую рэволюцыю ў безвыходнае і безнадзейнае становішча... Вывад рабіце самі...

У прэзідыуме моцна вылаяліся. На лаўках меншавікоў і эсэраў захлопалі. У цэнтры і на левым крыле большэвікі загрукалі нагамі, закрычалі: „Здраднік!“ Падняўся шум і лаянка. Якісьці нізенькі вусаты чалавек у фінскай шапцы пераказваў рыдаючым голасам: „Ты скажы—што рабіць? Што рабіць нам, скажы?“

За Нарвскімі варотамі з левага боку ад шасэ, у рабочым пасёлку, раскіданым па балоцістай пустэчы, у адным з домікаў, які нахіліўся ад трухлявасці, каваль пуцілаўскага завода Іван Гара—

вялікага росту, з вялікім носам, дваццаці двухгадовы хлопец—чысціў вінтоўку, паклаўшы часткі затвору на стол, дзе ў сподачку ў масле плаваў агеньчык.

Два хлопчыкі—адзінаццаці і шасці гадоў—Алёшка і Мішка—уважліва глядзелі, што ён робіць з ружжом.—Іван Гара займаў тут куток у ўдавы Карасёвай. Мамка пайшла з рання, есці нічога не пакінула. Іван Гара нагрэў чайнік на лучынках, напаіў маленькіх чаем, каб перасталі плакаць.

— Ну, цяпер чыста,—сказаў ён грубым голасам.—Глядзіце затвор буду ўкладваць. Ук-лаў! Га-атова! Страляй па ворагах рабочага класа...

Засмяяўшыся, ён паглядзеў на Алёшку і Мішку. У старэйшага худыя шчокі зморшчыліся ўсмешкай. Іван Гара перакінуў рамень вінтоўкі праз плячо. Зашпіліў кручкі бякешы, насунуў на бровы салдацкую з штучнага каракуля папаху.

— Ну, я пайшоў, рэбяты... Глядзіце,—без мяне не дурэйце...

Прыгарадная роўнядзь сінела снягамі. Вакол месяца—бледныя кругі. Іван Гара, правальваючыся валёнкамі, дабраўся да шасэ, на санныя сляды, і павярнуў направа, на завод па пропуск... Ля заводскіх варот увесь у інеі дзед, прыглядзеўшыся, сказаў яму:

— На мітынг? Ідзі ў кузнечны...

На вытаптаным двары было бязлюдна. Пад гурбамі пахаваны велізарныя катлы з ваенных суднаў. Водаль вісела рашотчатая аграмада маставога крана. Цмяна жаўцелі закопчаныя вокны кузнечнай.

Іван Гара з натугай адчыніў калітку ў цэх. Дзесяткі ўсхвалёваных твараў абярнуліся да яго: „Цішэй, ты!“ У вузкай даўгой кузні пахла вугалем, які тлеў у горнах. Сотні паўтары рабочых слухалі светлавалосага, маленькага, з вясёлым ружовым тварам, чалавека, які горача размахваў рукамі. Ён быў у чорнай падпяразанай рамянём суконнай кашулі. Каўнер расшпілены, на тонкай, інтэлігенцкай шыі, зрэнкі светлых круглых вачэй па зладзейску бегалі па тварах слухачоў:

—... Уся наша задача—захаваць для свету чыстату рэволюцыі. Кастрычніцкую рэволюцыю нельга разглядаць як „рэч у сабе“, як рэч, якая самастойна можа расці і развівацца... Калі наша рэволюцыя стане на шлях такога развіцця,—мы немінуча пачнем перараджацца, мы не захаваем нашу чыстату, мы скоцімся галавой уніз, у дробнабуржуазную стыхію, да мяшчанскіх інтарэсаў расійскай вёскі, у абдымкі да мужычка.

Жвавай грымасай ён хацеў паказаць векавечнага расійскага мужычка і нават схапіўся за небачную бародку. Рабочыя не засмяяліся, ніводзін не адобрыў насмешку. Гэта гаварыў адзін з правадыроў „левых комуністаў“, якія штурмуюць у гэтыя дні ленінскую пазіцыю міра...

— Першым крокам нашай рэволюцыі—уніз, у балота,—будзе брэсцкі пахабны мір... Мы распішамся ў нашай капітуляцыі, за чэчэвічную пахлёбку прадамо сусветную рэволюцыю... Мы не можам ісці на брэсцкі мір—што-б нам ні пагражала. (Вочы яго расшырыліся „да адказу“, быццам ён хацеў паглынуць імі ўсю кузню з слухачамі).—Мы сцвярджаем: хай нас нават задушыць германскі

імперыялізм... Хай ён растопча нашу „Расею“... Гэта будзе нават вельмі добра. Чаму? А таму, штс такая пагібель—наша пагібель—запаліць сусветны пажар... Вось таму не Брэсцкім мірам мы павінны адказаць на германскія жаданні, але—вайною, неадкладнай рэволюцыйнай вайной. Вілы супроць германскіх гармат... Так,—вілы.

У Івана Гары валасы ўзняліся на патыліцы. Ён хацеў-бы яшчэ паслухаць прамоўцу,—часу заставалася менш гадзіны да змены дзяжурства. Ён прапхнуўся да дзвярэй, кашлянуў ад марознага паветра. Зайшоў у кантору, узяў нарад у Смольны, узяў паёк—кавалак жытняга хлеба, які соладка пах жыццём, асцярожна засунуў яго ў кішэню бекешы і пайшоў па шасэ ў кірунку чорнай каланады Нарвскіх варот: з боку пустэчы паказаліся цені бяздомных сабак—нячутна прасунуліся да шасэ. Селі ля самай дарогі,—дзесяткі два розных масцей глядзелі на чалавека, што ішоў з ружжом.

Калі Іван Гара прайшоў, сабакі апусціўшы галовы, рушылі за ім...

„Бач ты: мы віламі, а немцы нас—гарматамі і гэта „нават вельмі добра“,—мармытаў сабе пад нос Іван Гара, гледзячы ў марозную імглу... Значыць па яго—выходзіць: неадкладная вайна віламі... Каб нас раздушылі і прыкончылі... І гэта вельмі добра... Разумееш, Іван? Расстрэльвай мяне,—атрымліваецца правакацыя“.

Івану стала нават горача... Ён ужо не ішоў, а ляцеў, валенкі скрыпелі па снезе... У пятнаццатым годзе яго брат, забіты ў хуткім часе, расказваў, як іх дывізіённы генерал атакаваў ворага: трэба было перайсці глыбокі яр,—ён і паслаў чатыры эскадроны—заваліць яр сваімі целамі, каб другія перайшлі па жывому масту...

„Па яго—значыць—савецкая Расія толькі на тое і здольна: наваліць для другіх жывы мост?“

Ён адразу спыніўся. Апусціўшы галаву,—думаў. Сабакі зусім блізка падышлі да яго... Паправіўшы плячом рамень вінтоўкі, зноў пайшоў...

„Няправільна!..“

Сказаў гэта такім моцным ад марозу голасам,—сабакі ззаду яго выскаліліся.

„Няправільна! Мы самі жадаем сваімі рукамі памацаць соцыялізм, вось што... Трэба для гэтага сем скур садраць з сябе і здзяром сем скур. Але соцыялізм хочам бачыць жывымі... А ты,—вілы бяры! І потым—чаму гэта: мужык—балота, мужык—вораг!“

Ён зноў спыніўся пасярод Екацерынгофскага праспекта, дзе ў высокіх дамах у іншым марозным акне, скрозь шчыліны занавескі жаўцела святло. Іван Гара—таксама быў мужык,—восьмы сын у бацькі. Акрамя самага старэйшага,— гэты зараз гаспадарнічае на трох дзесяцінах у станіцы Ніжнячырскай,—усе сыны батрачылі. Траіх забілі за вайну. Трое прапалі без вестак.

„Ну, не: усіх мужыкоў—у адзін кацёл, усё саслоўе. Гэта, брат, лухта... Вёскі не ведаеш: там буржуй—можа, яшчэ горшы за гарадскога, ды на яго—дзесятак пролетарыяў... А што цемра—гэта праўда...“

Была трэцяя гадзіна ночы. Іван Гара стаяў на варце ля дзвярэй у Смольным. У даўгі калідор за дзень нацягнулі снегу. Ледзь свяціла лямпачка пад столлю. Пуста. Пальцы прыстывалі да вінтоўкі. На варце ля дзвярэй таварыша Леніна—уволю можна было падумаць на дасугу. Замахнуліся на вялікую справу: такую вялікую краіну падняць з невуцтва, усю ўладу, усю зямлю, усе заводы, усе багацці прадаставіць працоўным!.. Днём, у гарачцы, на людзях лёгка было верыць у гэта. У начную гадзіну ў халодным калідоры пачынала, як быццам, браць сумненне... Доўгі шлях, ці хопіць сіл, ці хопіць жыцця?

Галавой Іван Гара верыў, а цела дрыжэўшае ў дрэннай бекешы, хілілася ў супярэчнасць. З кішэні цягнула пахам печанага хлеба, у жываце пасмоктвала, але есці на пасту Іван Гара сароміўся.

Здалёк па каменнай лесвіцы хтосьці, чуваць было, спускаўся з трэцяга паверху. У калідоры невыразна паказаўся чалавек у шубе, накінутай на плечы,—спяшаючыся ішоў, апусціўшы галаву ў каракулевай шапцы, засунуўшы змёрзлыя рукі ў кішэні штаноў. Іван Гара, калі ён наблізіўся, з палегкаю рассунуў вялікі рот усмешкай. Пры позірку на гэтага чалавека прападалі сумненні. Павярнуўшы ключ у дзвярах, ён сказаў:

— Змёрзлі, Владзімір Ільіч, паграцца прышлі?

З-пад ілба ледзь раскосымі вачыма Ленін зірнуў халодна, потым цяплей,—на скроні набеглі маршчынкі.

— Вось якая штука,—ён узяўся за ручку дзвярэй.—Ці нельга зараз знайсці манцёра, паправіць тэлефон?

— Манцёра зараз не знайсці, Владзімір Ільіч, дазвольце, я зірну.

— Так, так, зірніце, калі ласка.

Іван Гара грукнуў прыкладам вінтоўкі, услед за Леніным увайшоў у цёплы, вельмі высокі белы пакой, асветлены голай лямпачкай на блоку пад столлю. Раней (калі Смольны быў інстытутам для благародных дзявіц) тут змяшчалася класная дама, і, як было пры ёй, так усё і асталося ў адным кутку—дрэнненькі альховы буфецец, у другім—люстэркавая шафка базарнай работы, выцертыя крэсліцы ля выцертай канапкі, у глыбіні—невысокая белая перагародка, за ёю дзве жалезныя койкі, дзе спалі Владзімір Ільіч і Надзежда Канстанцінаўна. На дамскім аблупленым століку—тэлефон. Владзімір Ільіч працаваў у трэцім паверсе, сюды прыходзіў толькі начаваць і грэцца. Але за апошні час часта аставаўся і нанач—наверсе, ля стала ў крэсле.

Іван Гара паставіў к сцяне вінтоўку і стаў дзьмухаць на пальцы. Владзімір Ільіч—на канапе за круглым столікам—перабіраў спісаныя аркушыкі. Не падымаючы галавы, запытаў нягучна:

— Ну, як тэлефон?

— Зараз паправім. Нічога немагчымага.

Владзімір Ільіч, памаўчаўшы, паўтарыў: „Нічога немагчымага", усміхнуўся, устаў і прыадчыніў дзверцу буфета. На паліцах дзве брудныя талеркі, дзве кружкі і—ні адной сухой скарыначкі. У іх з Надзеждай Канстанцінаўнай толькі ў лютым завялася адна ста-

рая—глядзець за гаспадаркай. Да гэтага здаралася—увесь дзень не еўшы: то няма калі, то няма чаго.

Ленін зачыніў дзверцу буфета, паціснуўшы плячом—вярнуўся на канапу да аркушыкаў. Іван Гара хіснуў галавой: „Ай, ай,—як-жа так: правадыр—галодны, нікуды не варта“. Асцярожна выцягнуў ломаць іржанога, адламаў палову, другую палову засунуў назад у кішэню, асцярожна падышоў да стала і хлеб паклаў на край і зноў заняўся калупаннем у тэлефонным апараце.

— Дзякуй,—рассеяным голасам сказаў Владзімір Ільіч. Прадаўжаючы чытаць,—адламліваў ад кавалка.

Дзверы, вядучыя ў прыёмную, дзе раней змяшчалася ўмывальная для дзявіц і да гэтых пор стаялі ўмывальнікі,—прыадчыніліся, увайшоў чалавек з цёмнымі стаячымі валасамі і моўчкі сеў каля Леніна. Рукі ён сціснуў на каленях—таксама, мабыць, змёрз пад шырокай чорнай блузай. Ніжнія павекі яго бліскацеўшых цёмных вачэй былі прыўзняты, як у таго, хто ўглядаецца ўдаль. Цень ад вусоў падаў на рот.

— Пункт погляду Троцкага: вайну не прадаўжаць і міру не заключаць—ні міру, ні вайны,—няголасна, глухавата прагаварыў Владзімір Ільіч,—ні міру, ні вайны! Гэтакая інтэрнацыянальная палітычная дэманстрацыя. А немцы ў гэты час угрызуцца нам у горла. Таму што мы для абароны яшчэ не ўзброены... Дэманстрацыя нядрэнная рэч, але трэба ведаць—чым ты ахвяруеш дзеля дэманстрацыі...—Ён алоўкам пастукаў па спісаных аркушыках.—Ахвяруеш рэволюцыяй. А на свеце зараз нічога няма важней нашай рэволюцыі...

Лоб яго сабраўся маршчынамі, скулы пачырванелі ад стрыманага ўзбуджэння. Ён паўтарыў:

— Падзеі буйней і важней не было ў гісторыі чалавецтва...

Сталін глядзеў яму ў вочы, здавалася, абодва яны чыталі думкі адзін другога. Распусціўшы маршчыны, Ленін перагарнуў спісаныя аркушыкі.

— Другі пункт погляду: не мір, але рэволюцыйная вайна!.. Гм!.. гм!.. Гэта нашы „левыя“...—Ён хітравата зірнуў на Сталіна.—„Левыя“ адчайна размахваюць картонным мечам, як ашалеўшыя буржуа... Рэволюцыйная вайна!.. І не праз месяц, а праз тыдзень сялянская армія, невыносна стомленая вайной, пасля першых-жа паражэнняў нізрыне соцыялістычны рабочы ўрад, і мір з немцамі будзем заключаць ужо не мы, а другі ўрад, што-небудзь накшталт рады з эсэрамі-чэрноўцамі*).

Сталін каротка, цвёрда кіўнуў, не зводзячы з Владзіміра Ільіча бліскучых вачэй.

— Вайна з немцамі! Гэта якраз і ўваходзіць у разлікі імперыялістаў. Амерыканцы прапануюць па сто рублёў за кожнага нашага салдата... Не, чэснае слова—не анекдот... Тэлеграма Крыленка з стаўкі (Владзімір Ільіч, падняўшы бровы, пацягнуў з кішэні абрыўкі тэлеграфнай ленты): з касцямі, з мясам, сто руб-

*) *Чэрноў*—лідэр эсэраў.

лікаў. Чычыкаў даражэй даваў за душу... (Сталін злёгку ўсміхнуўся ў вусы). Мы апіраемся не толькі на пролетарыят, але і на бяднейшае сялянства... Пры цяперашнім становішчы рэчаў яно немінуча адхіснецца ад тых, хто будзе прадаўжаць вайну... Мы, чорт іх дзяры, ніколі не адмаўляліся ад абароны. (Рыжаватымі—вясёлымі і разумнымі, хітраватымі і яснымі вачыма глядзеў на субяседніка). Пытанне толькі ў тым: як мы павінны абараняць нашу соцыялістычную бацькаўшчыну...

Выбраўшы адзін з аркушыкаў, ён пачаў чытаць:

—... Мірныя перагаворы ў Брэст-Літоўску зусім высветлілі ў сучасны момант—к дваццатаму студзеня восемнаццатага года,— што ў германскім урадзе безумоўна ўзяла верх ваенная партыя, якая, па сутнасці справы, паставіла ўжо Расіі ультыматум... Ультыматум гэты такі: або далейшая вайна, або анексіяністкі мір, гэта значыць мір на ўмове, што мы аддаем усе занятыя намі землі, германцы захоўваюць усе занятыя імі землі і накладаюць на нас кантрыбуцыю, прыкрытую знешнасцю платы за ўтрыманне палонных, кантрыбуцыю, размерам прыблізна ў тры мільярды рублёў, з растэрміноўкай плацяжу на некалькі год. Перад соцыялістычным урадам Расіі паўстае патрабуючае неадкладнага вырашэння пытанне: ці прыняць зараз гэты анексіяністкі мір, ці ўвесці зараз-жа рэволюцыйную вайну... Ніякія сярэднія рашэнні, па сутнасці справы, тут немагчымы...

Сталін зноў цвёрда кіўнуў. Уладзімір Ільіч узяў другі аркушык:

— Калі мы заключаем сепаратны мір, мы з найбольшай магчымай для данага моманту ступені вызваляемся ад абодвух жывучых у варожасці імперыялістычных груп, скарыстоўваючы іх варожасць і вайну,—затрудняючую ім здзелку супроць нас,—скарыстаем, атрымліваючы пэўны перыяд развязаных рук для прадаўжэння і замацавання соцыялістычнай рэволюцыі...—Ён кінуў аркушык, вочы яго сашчурыліся лукавай хітрасцю.—Для выратавання рэволюцыі тры мільярды кантрыбуцыі—не занадта дарагая цана...

Сталін сказаў упоўголаса:

— Тое, што германскі пролетарыят адкажа на дэманстрацыю ў Брэст-Літоўску неадкладным паўстаннем,—гэта адно з меркаванняў настолькі-ж магчымае, як любая фантазія... А тое, што германскі штаб адкажа на дэманстрацыю ў Брэст-Літоўску неадкладным наступленнем па ўсяму фронту,—гэта несумненны факт...

— Зусім правільна... І яшчэ,—калі мы заключаем мір, мы можам адразу абмяняцца ваеннапалоннымі і гэтым самым мы ў Германію перакінем велізарную масу людзей, бачыўшых нашу рэволюцыю на практыцы...

Іван Гара асцярожна кашлянуў:

— Уладзімір Ільіч, апарат працуе...

— Вельмі добра!—Ленін спяшаючыся падышоў да тэлефона. Выклікаў Свярдлова. Іван Гара, ідучы за дзверы, чуў яго вясёлы голас...

—... Так, так,—„левыя" ламалі стулле на з'ездзе... А ў мяне

весткі, што аднаго з іх пеўняў на Пуцілаўскім заводзе ледзь не пабілі за „рэволюцыйную“ вайну... У тым-та і справа: рабочыя вельмі добра аддаюць сабе справаздачу... Якаў Міхайлавіч, значыцца—заўтра роўна ў гадзіну збіраецца ЦК... Так, так... Пытанне аб міры...

Па калідоры да Івана Гары, звонка ў цішыні топаючы абцасамі па плітах, ішоў чалавек у бякешы і смушковай шапцы.

— Я быў наверсе, таварыш, там сказалі—Владзімір Ільіч сышоў уніз,—спяшаючыся прагаварыў ён, падняў да Івана Гары разгарэўшыйся ад марозу моцны твар, з кароткім носам і карымі вясёлымі вачыма.—Мне яго тэрмінова, на два словы...

Іван Гара ўзяў у яго партыйны білет і пропуск.

— Ужо не ведаю. Владзімір Ільіч зараз заняты, сакратар спіць. Надзежда Канстанцінаўна яшчэ не вярнулася,—ён з цяжкасцю разбіраў прозвішча на партбілеце.—Вугалю ў іх, у д‘ябалаў няма, ці што, на станцыі,—нічога не відаць...

— Прозвішча маё Варашылаў...

— А,—Іван Гара шырока ўсміхнуўся.—Чулі пра вас... Землякі... Зараз скажу...

## Раздзел другі

### 1

Позна раніцою ўдава Карасёва запаліла печ і зварыла ў чыгуне бульбу,—яе было зусім мала. Галодная, сядзела каля пустога стала і плакала аднымі слязамі, без голасу. Была нядзеля—пусты даўгі дзень.

Іван Гара заварушыўся на ложку за перагародкай... У накінутай бякешы прайшоў у сенцы. Хутка вярнуўся. Кракнуўшы і паціскаючыся, убачыўшы, што Мар‘я паклала на стол рукі і плача,—спыніўся, узяў расхістанае крэсла, сеў з краю стала і пачаў пераматваць на нагах абмоткі.

— Мароз, мабыць, яшчэ мацнейшы,—сказаў густым голасам.—У кадушцы вада замерзла,—не прабіць. Бульба на складах памерзла—жах колькі... Так яно, Мар‘я, дарагая.

Удава глядзела паўз Івана мутнымі ад слёз, беднымі вачыма. Усе скаргі даўно былі выказаны.

— Так яно, Мар‘я, мая дарагая... Рэволюцыя—справа мужная. Душою ты шчырая, але слабая. Паслухай мяне, выязджай адсюль.

Не раз Іван раіў удаве кінуць трухлявую хаціну і выехаць на радзіму Івана—у Данскую акругу, у станіцу Чырскую. Там не цяжка знайсці работу. Там хлеба досыць і няма такой няшчаднай зімы. Удава баялася,—адна-б—не задумалася. З дзецьмі ехаць у такую чужую далячынь—страшна. Сёння ён зноў пачаў угаварваць.

— Іван,—сказала яму ўдава з ціхім адчаем.—Ты малады, гэтакі здаравенны, для цябе ўсякая далячынь блізка. Для мяне далячынь далёкая. Сілы выматаны.

Удава з дакорам заківала галавою быццам тым, хто пятнаццаць год выматваў з яе сілы. Муж яе, пуцілаўскі рабочы, два разы да

вайны доўгі час сядзеў у турме. У пятнаццатым годзе, як ненадзейны, быў узяты з завода на фронт,—пайшоў з палкай, замест вінтоўкі. Так з палкай яго пагналі і ў атаку—на смерць.

— Дарма,—сказаў Іван,—дарэмна так разважаеш, дарагая, што сілы няма. Тут ты лішні рот, а там свядомыя людзі патрэбны.

— Што ты, Іван... Мне толькі-б іх пракарміць... Здаецца, памры яны зараз,—не так бы іх шкода было... А як ім пражыць—маленькія... Ды яшчэ пойдуць круглымі сіротамі кавалкі збіраць.

Адвярнулася, выцерла нос, потым вочы. Іван сказаў:

— Вось... а там для дзяцей — рай: Данская акруга, падумай. Хлеб, сала, малако. Там, як бачыш, якія справы... — Іван успёрся локцям на стол і выставіў палец з гарбатым кіпцем. — Я, мае браты—нарадзіліся ў Чырскай, і бацька там нарадзіўся, але лічыліся мы іншагароднія „хахлы“*), адным словам, чужынцы. Казакі ўладалі зямлёю, казакі выбіралі атаманаў... Цяпер нашы „хахлы“ і запатрабавалі і зямлі, і правоў,—нараўне з казакамі... У станічнікаў да нас не то што варожасць—крывавая нянавісць. Казак узброены, на кані, смелы чалавек. А нашы—толькі вінтоўкі з фронта прынеслі. Гэта не Дон—гэта порах.

Мар'я ўсміхнулася прыпухшымі вачыма:

— А ты кажаш—рай, клічаш...

— Дон вялікі. Паедзеш у такія мясціны, дзе бальшэвіцкая ўлада ўсталявалася. Табе работуададуць, на Дану будзеш нашым чалавекам для сувязі. Хлеб у Петраград адкуль ідзе? З Дона... Зразумела? А ўжо дзяцей ты там, як парасят, адкорміш...

Мар'я глядзела міма яго, павярнуўшы худы, яшчэ мілавідны твар да замерзшага вакна, адкуль ледзь лілося зімовае святло.

— Пятнаццаць год пражыта тут...

— Гэтую хацінку, Мар'я, не тое што шкадаваць, спаліць даўно патрэбна. Палацы будзем будаваць,—пацярпі трохі.

— Веру, Іван... Сілы мала... Што-ж, калі загадаеш—паеду...

— Ну, загадваю,—Іван засмяяўся,—усё-такі ваша саслоўе жаночае—дзівацкае...

— Па маладосці так кажаш... Я вось, бачыш ты, сяджу і нічога, устану—паплыве ў вачах, галава закружыцца.

— Ну, я рады, мы цябе адправім...

Пагаварыўшы з удавою, Іван адзеўся, перапераззаўся.

— Сёння ідзем да буржуяў за лішкамі... Як яны, д'яблы, лоўка хаваюць! Мінулы раз: вось так вось—калідор,—мы ўжо ідзем назад, нічога не знайшлі,—таварыш мяне зпячэўку і штурхнуў, я локцем у сцяну: гляжу—перагародка ў канцы калідора і шпалеры толькі што наклееныя. Перагародку ўраз разнеслі,—там паўсотні пудоў цукру...

Ён адчыніў дзверы ў сенцы. Мар'я — яму услед, ледзь чутна:

— Хлеб увесь, напэўна, з'еў?

— Так, бачыш, якая справа,—аддаць давялося,—разумееш, адзін быў галодны...

Іван махнуў рукою, вышаў...

*) Хахламі звалі іншагародніх.

2

Усё больш скупа і цягуча цяклі жыццёвыя сокі з чарназемнага чэрава краіны на поўнач—у Петраград, у Маскву. Выбарныя харчовыя кіраўніцтвы, якія ведалі зборам і размеркаваннем хлеба дрэнна спраўляліся, а іншыя знарок тармазілі гэтую справу; у кіраўніцтвы прайшлі члены варожых палітычных партый—меншавікі і эсэры, каб голадам змагацца з большэвікамі за ўладу. Голад усё выразней з'яўляўся ў свядомасці, як самая верная зброя, якая забівае на смерць.

Большэвікоў было не многа—жменька ў трыста тысяч. Іх мэты ляжалі далёка наперадзе. На сёнешні дзень яны абяцалі мір і зямлю і суровую барацьбу за будучыню. У будучыні разгортвалі перспектыву амаль фантастычнага багацця, амаль неахопліваемай выбражэннем свабоды, і гэта прыцягвала і натхняла тых з паўтараста мільёнаў, для каго ўсякі іншы ўклад свету азначыў-бы вечнае рабства і безнадзейную працу.

Але гэтаму будучаму покуль што пагражалі голад, холад і дваццаць дзевяць германскіх дывізій, якія чакаючы міру ці вайны, стаялі на граніцы ад Чорнага мора да Балтыйскага.

Для немцаў выгадны быў хутчэйшы мір з Совецкай Расіяй. Германскае камандванне наперакор усім злавесным дадзеным спадзявалася ў вясенні наступ разарваць англа-французскі фронт, Людэндорф рыхтаваў апошнія рэзервы, але іх можна было дастаць, толькі заключыўшы сепаратны мір з Совецкай Расіяй.

Нямецкія прадстаўнікі ў Брэст-Літоўску, дзе адбываліся перамовы аб міру, гатовы былі абмежавацца нават досыць скромным рабункам. Ім патрэбен быў хлеб і мір з Расіяй для вайны на Захадзе. У Аўстра-Венгрыі голад падступаў ужо да сталіцы, і міністр харчавання загадаў абрабаваць нямецкія баржы з кукурузай, якія плылі па Дунаю ў Германію. Аўстрыйскі міністр, граф Чэрнін, істэрычна прыспешваў перамовы, каб атрымаць хлеб і сала з Украіны.

Гэта разумеў і на гэта разлічваў Ленін, змагаючыся за мір, за неабходную, як паветра, як хлеб, перадышку ад вайны, хоць-бы на некалькі месяцаў, калі змагло-б узмацніцца нованароджанае дзіцянё—маладая совецкая ўлада.

На нарадзе Центральнага камітэта разам з членамі большэвіцкай фракцыі Ўсерасійскага з'езда советаў пункт гледжання Леніна атрымаў пятнаццаць галасоў: перамога засталася за „левымі камуністамі", якія шумна патрабавалі неадкладнай вайны з немцамі.

Праз тры дні сабраўся Цэнтральны камітэт. На ім Ленін прачытаў свае тэзісы міра. „Левыя" на гэтым пасяджэнні былі ў меншасці. Супроць Леніна выступілі трацкісты са сваёй здрадніцкай пазіцыяй—ні міру, ні вайны. Ленін не сабраў большасці.

Тады ён зрабіў стратэгічны ход: ён адступіў на крок, каб узмацніць пазіцыі і з іх працягваць барацьбу за мір: ён прапанаваў зацягваць мірныя перамовы ў Брэст-Літоўску да таго часу, пакуль у немцаў не хопіць больш трывання і яны не прад'явяць, нарэшце, ультыматума.

Рабіць усё, каб немцы магчыма далей не прад'яўлялі ультыматум, і, калі, нарэшце, прад'явяць,—дык ужо бясспрэчна падпісваць з імі мір. Прапанова Леніна прайшла большасцю галасоў. З гэтай абавязковай для яго пастановай Троцкі ў тую-ж ноч выехаў з дэлегацыяй у Брэст-Літоўск.

Не гледзячы на рашэнне Цэнтральнага камітэта „левыя комуністы“ на рабочых мітынгах крычалі аб „нацыянальнай абмежаванасці“ Леніна, аб безумоўнай немагчымасці пабудаваць соцыялізм у адной краіне, ды яшчэ ў такой адсталай, мужыцка-мяшчанскай... Яны шалёна патрабавалі неадкладнай рэволюцыйнай вайны, употай разумеючы, што зараз яна немагчыма, што яна ператворыцца ў разгром. Але ім трэба было ўзарваць Совецкую Расію, каб ад гэтай страшэннай дэтанацыі ўзарваўся свет. А між іншым і мір для іх быў тым-жа полем для асабістых авантур і гульні ў ганарлівасць. Правакацыя і здрадніцтва былі іх мэтадам барацьбы.

У пачатку лютага ў Брэст-Літоўску, у залі пасяджэнняў мірных перамоў з'явіліся два маладыя чалавекі ў сініх світках і смушковых шапках—Любінскі і Сяўрук. Яны прад'явілі немцам свае мандаты—упаўнаважаных прадстаўнікоў Цэнтральнай рады і прапанавалі неадкладна заключыць мір, хоць уся тэрыторыя самасційнага украінскага ўрада абмяжоўвалася цяпер адным горадам Жытомірам, немцаў гэта не збянтэжыла. Тэрыторыю заўсёды можна было пашырыць. І немцы ўпотай ад совецкай дэлегацыі падпісалі з Цэнтральнай радай мірны дагавор на векі, абяцаўшы неадкладна навесці на Украіне „парадак“. У гэты-ж дзень імператар Вільгельм загадаў націснуць больш крута на совецкую дэлегацыю і прад'явіць ультыматум.

Шэранькім раннем дзесятага лютага, калі капала з стрэх аднапавярховых казённых домікаў і вераб'і заводзілі на голых дрэвах Брэст-Літоўскай крэпасці дон-жуанскае шчабятанне,—совецкая дэлегацыя накіравалася праз снежны двор у афіцэрскае сабранне на пасяджэнне, даведаўшыся пра лоўкі ход немцаў. Троцкі пайшоў на тэлеграф. Па простаму праваду ён паведаміў Леніну аб пагражаючых абставінах, ён запытаўся: „Як быць?“

У адказ на лентачцы, якая бегла з апарата, было надрукавана:

„Наш пункт погляду вам вядомы... Ленін. Сталін.“

Дэлегаты, стоячы цеснай кучкай на снежным двары, нервова курылі. Талы вецер адносіў дым, глядзелі, як Троцкі з'явіўся на ганку пошты, спыніўся, зашпільваючы на горле паліто, пайшоў па жоўтай ад пяску, дарожцы. Дэлегаты наперабой сталі пытацца, што адказаў Владзімір Ільіч...

Шырокалобы, цёмны твар Троцкага акамянеў, вытрымаў хвілінную паузу, потым—просты, як разрэз, рот яго раскрыўся:

— Цэнтральны камітэт стаіць на маім пункце гледжання. Хадзем...

Сорак дэлегатаў Германіі, Аўстра-Венгрыі, Балгарыі, Турцыі,— сабраліся за зялёным сталом.

Той, хто сядзеў з правага боку статс-сакратара фон-Кюльмана, прадстаўнік вышэйшага германскага камандавання генерал Гофман (у якога падрыхтаванымі стаялі дваццаць дзевяць дывізій),—буйны, ружовы, брыты—грэбліва апускаў губы. У таго, што сядзеў з левага боку ад статс-сакратара—аўстрыйскага міністра графа Чэрніна дрыгаў цікам худы, скамечаны бяссоніцай твар. Тлусты, чорны балгарын Папоў, міністар юстыцыі, соп, нібы з цяжкасцю пераварваў прамовы.

Было відавочна, што ў гэтыя хвіліны вырашаецца лёс Расіі. Старшыня Совецкай дэлегацыі—з воўчым лобам, татарскімі вусікамі, чорнай—вузкім клінком—барodкай, стаяў у шчыгульнай візітцы, бокам да стала, падняўшы плечы супраматычным жэстам,— падобны на актора, загрыміраванага пад д'ябла.

Упіраючыся фанабэрыстым поглядам праз шклы пенснэ ў германскага статс-сакратара фон-Кюльмана (у якога ў кішэні пінжака ляжала тэлеграма Вільгельма аб ультыматуме), Троцкі сказаў:

— Мы выходзім з вайны, але мы адмаўляемся ад падпісання мірнай умовы...

Ні міру, ні вайны! Якраз тое, што было трэба немцам,—гэта нечаканая шулерская формула развязвала ім рукі. Генерал Гофман густа пачырванеў, адкідваючыся на крэсле. Граф Чэрнін ускінуў худыя рукі, фон-Кюльман ганарліва ўсміхнуўся. Ні міру, ні вайны! Значыць—вайна!

Так Троцкі парушыў дырэктыву Леніна і Сталіна, зрабіў велізарнае здрадніцтва: Совецкая Расія, не падрыхтаваная да супраціўлення, замест міру і перадышкі атрымала неадкладную вайну. Расія была аддана на расцярзанне. Адзінаццатага совецкая дэлегацыя выехала ў Петраград. Шаснаццатага лютага генерал Гофман абвясціў Совету народных камісараў, што з дванаццаці гадзін дня восемнаццатага лютага Германія аднаўляе вайну з Совецкай Расіяй...

## 3

Усю ноч мокры снег ляпіў у вялікія вокны. За прыадчыненымі дзвярамі пастукваў тэлеграфны апарат. Ленін, узнімаючы галаву ад папер, пытаўся: „Ну?“ За дзвярыма адказвалі ціха: „Ёсць“. Ён заклапочана ішоў да апарата. Тэлеграфіст, жмурачы вока ад едкай махоркі, падаваў ленту. На бясконцай вузкай паперцы беглі з апарата весткі стаўкі,—трывога, трывога, трывога... у германскіх акопах пачалося ажыўленне. Усюды задымілі кухні. Па ходах зносін рухаюцца буйныя ваенныя часці, апранутыя па паходнаму. З'явіліся аэрапланы. Германская артылерыя набліжаецца на адлегласць простай наводкі. Пражэктары намацваюць нашы пазіцыі.

Владзімір Ільіч чытаў, чытаў, і нос яго збіраўся іранічнымі зморшчынкамі. Не заставалася ніякай надзеі: заўтра восемнаццатага лютага „немцы пачнуць наступленне па ўсяму фронту ад Балтыйскага да Чорнага мора“...

Учора ўвечары ў габінеце Леніна зноў сабраўся Цэнтральны камітэт. З халоднай логікай Ленін даказваў, што нельга чакаць, пакуль нямецкая армія прыдзе ў рух, а неабходна гэты рух папярэдзіць—неадкладна тэлеграфаваць у Берлін аб аднаўленні мірных перамоў.

Троцкі, які прыбыў з Брэст-Літоўску, запальчыва адказаў: што немцы, вядома, наступаць не будуць і, ва ўсякім выпадку, трэба не праяўляць істэрыкі, а чакаць з прапановамі, пакуль з дастатковай пераканаўчасцю не праявяцца ўсе адзнакі агрэсіўнасці... Яго шумна падтрымалі „левыя комуністы",—прапанова Леніна не прайшла.

Владзімір Ільіч вярнуўся да пісьмовага стала. Бяссоннымі начамі, пад змрочную музыку начнога ветру, паміж тэлефоннымі званкамі, размовамі па простаму праваду, чытаннем папер, пісем, стэнаграм,—ён абдумваў артыкул, дзе хацеў сканцэнтраваць рэволюцыйнае ўзрушэнне таварышоў, на сапраўды грандыёзных па замыслу, але рэальных, надзвычай цяжкіх, але дасягаемых задачах пабудовы соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Перамогу і поспех рэволюцыі ён ускладаў на творчыя сілы народных мас і праводзіў лінію аптымізма праз усе беды, пакуты і выпрабаванні. Ён указваў на тое, што рэволюцыя ўжо выклікала да жыцця моцны, валявы, творчы тып расійскага чалавека. Ён з запалам, з прадбачаннем сцвярджаў, што гісторыя Расіі, гісторыя вялікага народа і будучыня яе вялікая і неабдымная, калі гэта зразумець і захацець, каб так было. „Зразумець, захацець і—будзе",—соцыялізм быў для яго таксама рэальным і блізкім, як святло рабочай лямпы, якое падала на ліст паперы, па якому таропка—з брызгамі чарніла—бегла яго пяро.

Позна ноччу ён заснуў за сталом, паклаўшы лоб на далонь і локцем упіраючыся ў спісаныя старонкі. У пачатку восьмага яму прынеслі знізу брудны ад куродыму чайнік з маркоўным чаем. Владзімір Ільіч адхлябнуў кіпятку, які пахнуў анучаю.

— Ну—што?—запытаўся глухавата-вясёлым голасам.—Якія яшчэ навіны з фронта?

— Дрэнныя,—адказалі з суседняга пакоя, дзе цікаў тэлеграфны апарат.

У дзевятай гадзіне ночы ў габінеце Леніна зноў сабраўся Цэнтральны камітэт.

Дзесяць чалавек, не здымаючы шапак і верхняй вопраткі, селі перад сталом. Ленін, перабіраючы ў акалелых пальцах, якія дрэнна гнуліся, блытаючуюся папяровую істужку, пачаў проста з паведамлення стаўкі за гэту ноч.

— Немцы праяўляюць усе адзнакі наступу... (Голас яго быў глухі і злы. Быў відзен толькі яго залысы лоб і блытаючаяся ў пальцах папяровая істужка). Засталося тры гадзіны... Тры гадзіны, у якія мы яшчэ можам выратаваць усё... Нельга губляць ні хвіліны... Мы можам папярэдзіць катастрофу... Мы яшчэ можам прапанаваць мір.

Ён гаварыў сцісла, нібы ўбіваючы думкі. Скончыўшы, кінуў

папяровую істужку і яна заблыталася вакол чарніліцы. Сталін, які стаяў ля стала, заклаўшы рукі за спіну, прагаварыў адразу:

— Пытанне, таварышы, стаіць так: альбо паражэнне нашай рэволюцыі і звязванне рэволюцыі ў Еўропе, альбо мы атрымаем перадышку і ўзмацняемся... Гэтым не затрымліваецца рэволюцыя на Захадзе... Альбо перадышка, альбо гібель рэволюцыі... Іншага выйсця няма...

Правадыр „левых комуністаў“ (той, каго ледзь не пабілі на пуцілаўскім заводзе),—у расшпіленай шубцы, у фінскай шапцы, з адвіслымі вусамі,—седзячы на падаконніку, крыкнуў насмешліва—напорыста:

— Ды немцы-ж не будуць наступаць,—гэта ўсякаму ясна!.. Нямецкія падрыхтаванні—дэманстрацыі і толькі... На якое-ж ліха ім наступаць, калі мы дэмабілізуем фронт...

Сталін, выняўшы з рота трубку, павольна павярнуў да яго галаў і—холадна:

„— Ваенны механізм зроблены для вайны, а не для дэманстрацыі. Немцы падрыхтавалі наступ, будуць наступаць, таму што мы ім не прапанавалі міру. Калі не прапануюць міра, дык усякі здравамыслячы чалавек разумее, што прапануюць вайну... Праз тры гадзіны немцы пачнуць вайну, а гэта будзе азначаць тое, што праз пяць хвілін ураганнага агню ў нас не застанецца ніводнага салдата на фронце... За дзве гадзіны да нямецкага наступу Цэнтральны камітэт прагаласаваў прапанову Леніна і зноў адным галасам яна была адхілена...

4

Роўна ў дванаццаць гадзін германа-аўстрыйскі фронт ад Рэвеля да вусця Дуная ахінуўся іржавым дымам цяжкіх гаубіц, задрыжэла ад грукату зямля, падняліся камлатыя слупы разрываў, застукалі ў гнёздах кулямёты, паляцелі над фронтам манапланы з чорным крыжам на крыллях, вышэй падняліся прывязныя аэрастаты ў выглядзе калбас, якія блішчэлі на сонцы. Германскія стальнагаловыя ланцугі вышлі з акопаў на прыступ рускіх магутных жалезабетонных умацаванняў.

Занімаўшыя іх рэшткі былой царскай арміі, няздольныя ні да якога супраціўлення, у гэты-ж час пачалі „галасаваць за мір нагамі“,—пакідаючы гарматы, кулямёты, кухні, ваенныя запасы,—хлынулі назад, да чыгуначных ліній і вакзалаў.

Тое, што прадбачыў Ленін,—адбылося: Совецкая Расія стаяла перад гатовым да скачка ворагам, абязброеная і голая. Салдаты лезлі ў паязды, на дахі вагонаў, чапляючыся за буферы і ступенькі паграджалі смерцю машыністам... Разбівалі вагоны з грузам,—на брудным расталым снезе выраслалі кучы піленага цукру, кансерваў, мерлушкавых шапак, зялёнага адзення. Мільённая армія, якая не жадала страляць, забіваць, біцца, адхлынула, як хваля ад скалістых уцёсаў,—згубіўшы ўсю ярасць у пене вадаваротаў, пабегла назад, у родны акіян.

Немцы чакалі гэтага. У іх усё было абдумана і падрыхтавана

для глыбокага наступу. Яны шпарка расчысцілі забітыя чыгуначныя вузлы і рушыліся па магістралі—Брэст-Літоўск—Бранск, Роўна—Кіеў—на Падолію, Одэшчыну і Екацерынаслаўшчыну...

Здрадніцтва Троцкага ў Брэст-Літоўску абышлося даражэй, ніж магло сабе ўявіць самае нястрымнае ўяўленне. Немцы захапілі шэсцьсот восемдзесят дзевяць тысяч квадратовых кілометраў тэрыторыі Совецкай Расіі, трыццаць восем мільёнаў жыхароў і адных толькі вайсковых запасаў—гармат, вінтовак, агняпрыпасаў, вопраткі і харчавання—на два мільярды рублёў золатам.

Увечары таго-ж дня (трэці раз за гэтыя суткі) сабраўся Цэнтральны камітэт.

Владзімір Ільіч пачаў гаварыць, седзячы за сталом, па-малу паціраючы рукою лоб:

— Цяпер не час пасылаць немцам паперкі... Гульня зайшла ў такі тупік, што крах рэволюцыі няўхільны...

Усхапіўся—рукі глыбока ў кішэнях. Праціснуўся паміж таварышамі на сярэдзіну габінета і забегаў на двух квадратовых аршынах... Твар абцягнуўся, вусны запякліся.

— Канец рэволюцыі няўхільны, калі будзе і далей праводзіцца сярэдняя палітыка ні так, ні не, ні міру, ні вайны... Палітыка самая баязлівая, самая безнадзейная, самая няправільная з усяго магчымага... Немцы наступаюць,—супроць дзейнічаць мы не можам. Чакаць, цягнуць з падпісаннем міру—значыць здаваць рускую рэволюцыю на злом. Мужык зараз не пойдзе на рэволюцыйную вайну, ён скіне ўсякага, хто штурхне яго на такую вайну... Мы павінны падпісаць мір, хоць бы сёння немцы прад'явілі нам яшчэ больш цяжкія ўмовы, калі-б яны патрабавалі ад нас неўмяшання ў справы Украіны, Фінляндыі і Эстляндыі... дык і на гэта трэба пайсці ў імя выратавання рэволюцыі...

Услед за гэтымі словамі пачаўся вадаварот у накураным пакоі—слоў, усклікаў, шалёных жэстаў. Сталін і Свярдлоў прысунуліся да Леніна. І адразу цішыня. Сапраўды, нельга было трациць ні хвіліны. Пачалося галасаванне, на гэты раз Ленін перамог: большасцю аднаго голасу Цэнтральны камітэт пастанавіў паслаць германскаму ўраду радыётэлеграму аб згодзе падпісаць мір.

Тэлеграма была паслана ў тую-ж ноч. Немцы працягвалі рашуча наступаць па чыгуначных магістралях. Наперадзе з яшчэ большай хуткасцю адкочвалася старая царская армія, рассейвалася па вёсках. Нямецкія салдаты, адкрываючы вагонныя вокны, весела пазіралі на раскіданыя па касагорах—сярод аголеных садоў—белыя хаты пад саломянымі шапкамі, на прыземістыя свірны, на гракоў, якія ўстрывожана ўзляталі над леташнімі гнёздамі. Тут было досыць хлеба, сала і бульбы, і цукру, тут, як казалі, цяклі малочныя рэчкі з берагах у пумпернікеля... *). Немцы прасякаліся бесклапотнасцю...

---

*) *Пумпернікель*—нямецкі салодкі хлеб.

Праз некалькі дзён эшалоны акупантаў былі атакаваны чырвонымі. Але савецкія атрады, якія іменавалі сябе украінскімі арміямі, налічвалі ўсяго каля пятнаццаці тысяч байцоў. Яны былі адкінуты націскам у дзесяць разоў мацнейшага за іх праціўніка.

Кіеў быў узяты. Першы германскі корпус беспарашкодна перайшоў Днепр і ўзяў кірунак у раёны шахт і заводаў Данбасу.

Адначасова з гэтым немцы сіламі двух дывізій пачалі наступ на Нарву і Пскоў. Фронт быў агалены. Сяляне не бралі вілы і не садзіліся на коней.

Раніцай дваццаць першага лютага Ленін абвясціў соцыялістычную бацькаўшчыну ў небяспецы, рабочыя і сяляне заклікаліся абараняць яе сваім жыццём. У той-жа дзень прыйшоў адказ ад германскага ўрада. Адказваючы выразна на невыразную формулу „ні міру, ні вайны“, немцы патрабавалі цяпер: неадкладнага ачышчэння ўсёй Украіны, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі, з адмаўленнем назаўсёды ад гэтых тэрыторый і, акрамя таго, аддачы туркам Баку і Батума—тэрмін ультыматума канчаўся праз сорак восем гадзін.

За сорак восем гадзін трэба было вырашыць: быць Расіі нямецкай калоніяй, альбо Расіі існаваць незалежным, нікім яшчэ ніколі не ходжаным шляхам.

Увесь дзень і ўсю ноч Смольны гудзеў, як вулей, куды залезла мядзвежая лапа. „Левыя комуністы“, левыя эсэры, правыя эсэры, меншавікі бегалі па заводах і фабрыках, паднімаючы мітынгі.

Штормавы заходні вецер ляпіў снегам у завешаныя вокны абывательскіх кватэр, дзе насцярожана чакалі падзей. Праз тыдзень—канец большэвікам. Але немцы—у Петраградзе!.. Што там ні кажы—шуцман на Неўскім: прыніжаючы, як быццам! Абывательскі патрыятызм трашчаў па ўсіх швах. І тут усім пападала на арэхі—і большэвікам, і Керэнскаму, і ўпартаму ідыёту Нікалаю Другому.

Ніхто яшчэ ніколі не бачыў такім Уладзіміра Ільіча: асунуты твар яго, як быццам загарэў ад унутранога агню, лоб спаласавалі зморшчкі, на скулах плямы. Ён гаварыў з гнеўнай агідай, з гнеўным прысвістам скрозь сцятыя зубы:

— Больш не буду цярпець ні адзінай секунды! Досыць сказаў! Досыць гульні! Ні адзінай секунды! Я выходжу з урада, я выходжу з Цэнтральнага камітэта, калі хоць адну секунду будзе яшчэ працягвацца гэтая палітыка рэволюцыйных сказаў!.. Альбо неадкладны мір, альбо смяротны прысуд совецкай уладзе!..

Палкасцю, нязломнасцю, агаленай логікай і тым, што ў гэтыя гадзіны на ўсіх піцерскіх заводах рабочыя пачалі, гонячы да д'ябла з трыбун трацкістаў і „левых“, крычаць: „Мы—за Леніна, за мір!“—яму ўдалося зламаць апазіцыю.

Ноччу на дваццаць чацвертае лютага пачалася барацьба ва Ўсерасійскім выканаўчым камітэце. „Левыя комуністы“ і левыя эсэры кідаліся, як шалёныя, на трыбуны у паўасветленай зале Таўрычаскага палаца. Логіцы Леніна яны супроцьставілі „ўдары

па нервах",—разгортвалі карціны сялянскіх паўстанняў, якія ўскружалі галаву. Некаторыя з „левых" ускаквалі на лаўкі і з завываннем заяўлялі аб адмаўленні ад усіх партыйных і савецкіх пастоў.

Ленін, без шапкі, у крыва зашпіленай шубе, з зямлістым тварам, адхінуўся ад велізарнай калоны і працягнуў руку, якая павісла над хвалюючымся амфітэатрам:

— Можна крычаць, пратэставаць, у шаленстве сціскаць кулакі... Іншага выйсця, як падпісаць гэтыя ўмовы, у нас няма. Суровая сапраўднасць, самае сапраўднае жыццё, не створанае ўяўленнем, не вычытанае з кніжак, а такое, якім яно існуе ва ўсёй сваёй жахлівай праўдзівасці, стала перад намі...

Толькі пад раніцу згода на жорсткія ўмовы міру была прагаласавана, і Усерасійскі цэнтральны выканаўчы камітэт паслаў тэлеграму ў Берлін. У адказ на яе дваццаць чацвертага лютага немцы занялі Пскоў. На заўтра можна было чакаць нямецкіх конных разведчыкаў ля нарвскіх і маскоўскіх застаў.

5

У акенца пранікла мглістае святло месячнай ночы. На стале белая пустая талерка і—больш нічога не было відаць у пакоі. Пастуквалі ходзікі: цік—выразна, цік—мякчэй. Алёшка і Мішка ляжалі каля ледзь цёплай печы пад коўдрай з ласкутоў. Алёшка шопатам расказваў малодшаму брату пра харобрага Івана Гару. Мішка, слухаючы, пераказваў сам сабе: „цік, так..." Алёшка сердаваў, што брат дрэнна слухае,—штурхаў яго кулаком у стрыжаную патыліцу, іншы раз так моцна,—у Мішкі стукалі зубы.

— Ты, дальбог, слухай, а то—устану, так дам,—перавернешся!—І Алёшка расказваў: — Прыходзіць Іван Гара на адзін двор. І ён ведае: у гэтым доме сутарэнне, і ў гэтым сутарэнні сядзіць буржуй на лішках... У яго там чаго-чаго толькі няма.

— А чаго ў яго няма? Цік, так...

— Маўчы, кажу... Ну, чаго ў яго няма? І мукі, і бульба, і цукар... Іван—туды сюды па двары. Бачыць—жалезныя дзверы. Як ён стукне плячом,—і ў сутарэнне... А там буржуй на залатым крэсле. І там—чаго толькі няма! Сорак шынак вянгліны...

— Гэта што такое – вянгліна?

— Ну, кажуць табе, такі харч, салодкі. Буржуй убачыў Івана—як запішчыць. А Іван не спужаўся: і давай выцягваць мяшкі... Буржуй бразь гранату... А Іван—як дасць яму паміж вачэй...

Алёшка раптам змоўк. Мішка яму губамі ў самае вуха.

— Гэта што?

Нібы пачынаўся вецер. Не, вецер так не вые. У начной цішыні здалёк роспачныя, тужлівыя, ледзь чутныя тут ля печы—даносіліся незмаўкаемыя завыванні. Нават у замерзлым акне ледзь-ледзь дрыжэла шкло... Потым, ужо блізка, завыў сабака. Пачуўся хруст снегу каля дома. Адчыніліся дзверы—далёка, сярдзітае завыванне імглістай ночы напоўніла пакой. Маці нічога не сказала,

расшпіліла кажушок, разматала хустку, і села ля акна, узялася за галаву і так сядзела, як мёртвая. Хлопчыкі глядзелі на яе з-пад коўдры.

Хтосьці ірвануў дзверы. Разам з завываючым гулам уварваўся Іван Гара—проста за перагародку. Зняў са сцяны вінтоўку, ляснуў затворам.

— Хто балаваўся вінтоўкай?

Алёшка і Мішка прыкінуліся, як жукі, баяліся дыхаць.

— Мар'я... Чаго ўткнулася? Пскоў немцы забралі... Выходзь... Збор у Смольным.

Голас у яго быў жорсткі. Мар'я сонна ўзнялася, завязала хустку, заплікнула кажушок. Павярнула галаву да ложка. Алёшка адным вокам з-за коўдры убачыў, што твар у маткі белы. Іван штурхнуў нагою дзверы, вышаў. Мар'я падняла венік, не так даўно кінуты дзяцьмі пасярод хаты, паклала яго ля парогу і вышла ўслед за Іванам.

— Баюся, Алёшанька, баюся,—ледзь чутна заскавытаў Мішка.

— Маўчы, надакучлівы, знайшоў час...

У Алёшкі ў самога засеў у горле камок ад гэтых слоў Івана Гары: „Пскоў забралі немцы..." уяўлялася: Пскоў дзесьці тут, недалёка, за чорным узгоркам Пулкава,—накшталт каменнай сцяны, праз якую лезуць велізарныя, вусатыя... Ад гэтай немінучай бяды ўся ноч гудзе і вые заводскімі гудкамі.

6

Трывожныя гудкі, па загаду Леніна, пачуліся праз дзве гадзіны пасля ўзяцця Пскова. Раўлі ўсе петраградскія фабрыкі і заводы. Рабочым, якія збягаліся, раздавалася зброя і патроны. Збор прызначаўся ў Смольным.

Усю ноч з усіх раёнаў сталіцы, з усіх ускраін ішлі кучкі ўзброеных—на шырокі двор Смольнага, дзе гарэлі вогнішчы, асвятляючы суровыя, хмурыя твары рабочых, іх паношаную вопратку,ператвораную наспех—поясам, патранташам, кулямётнай лентай—у вайсковую; шынэлі, падраныя папахі франтавікоў; залатыя літары на бесказырках балтыйскіх маракоў, якія трымаліся асобна, як быццам гэта незвычайны агляд—толькі адзін з многіх аўралаў пры свежым ветры рэволюцыі.

Было многа жанчын—у шалях, у хустках, у кажушках, іншыя з вінтоўкамі. Дзе-ні-дзе ў цёмным натоўпе пабліскваді студэнцкія гузікі. Ад асвятляемай вогнішчамі каланады час ад часу імчаліся коннікі на худых конях. Людзі цягнулі кулямёты, звязкі шабель, вінтоўкі. Ахрыплыя галасы выкрыквалі назвы заводаў. Кучкі людзей перабягалі, строіліся, сутыкаючыся зброяй.

— Смірна!—надрываліся галасы.—Стройся! Валодаючыя зброяй—крок наперад!..

Зноў праняслася з храпам калматыя коні. Хлопалі дзверы пад каланадай. Выбягалі вайсковыя, ныралі ў хвалюючыйся натоўп... У вогнішча ляцела кімсьці прынесенае пазалочанае крэсла, высока

ўзнімаючы іскры. Сырыя воблакі ірвалі свае лахманы аб голыя верхавіны дрэў, зацягвалі трохкутны франтон Смольнага.

З цемры шырокага Сувораўскага праспекта падыходзілі ўсё новыя і новыя атрады піцерскіх рабочых, узнятыя з убогіх ложкаў і нар, сутарэнняў і хацін незмаўкаемай трывогай гудкоў...

У калідорах Смольнага рабочыя рухаліся суцэльнай сцяною: адны—угару па лесвіцы, другія—са зброяй і загадамі, наспех накіданымі на кавалках паперы,—уніз, у марозную ноч, на вакзалы.

У трэцім паверсе, дзе знаходзіўся габінет Леніна—у гэтай мітусні працісваліся веставыя, кур'еры, народныя камісары, сакратары партыйных камітэтаў, вайсковыя, члены Ўсерасійскага Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Петраградскага совета. Тут бачылі прыціснутых да сцяны калідора, разгуб леных „левых комуністаў“. Тут Іван Гара сваімі вушамі чуў, як стары пуцілаўскі майстар, у жалезных акулярах, прыціснуты да правадыра „левых комуністаў“, казаў яму:

— Вось садова галава, народная-то вайна калі пачынаецца... Гэта, бачыш, табе не фунт дыму...

Владзімір Ільіч у сябе ў габінеце—узбуджаны, рухавы, на смешліва калючы, рашучы—кіраваў бурай: рассылаў тысячы пісулек, сотні людзей. Ад тэлефона бег да дзвярэй, выклікаў чалавека, распытваў, загадваў, растлумачваў, кароткімі запытаннямі, рэзкімі аголенымі фармуліроўкамі, як шпорамі, падымаў на дыбы волю ў людзей, якія ўпадалі ў разгубленасць у гэтай страшэннай сумятні.

Тут-жа, вызваліўшы ад паперы і кніг месца за сталом, працаваў Сталін. Весткі з фронта паступалі жахлівыя, ганебныя. Другая армія канчаткова адмаўлялася падпарадкавацца. Матроскі атрад, на які ўскладваліся вялікія надзеі,—нечакана, не прыходзячы нават у сутыкненне з ворагам, пакінуў Нарву і пакаціўся да Гатчыны... У хвіліны перадышкі Владзімір Ільіч, наваліўшыся локцямі на кіпы папер на стале, глядзеў ва ўпор у вочы Сталіну:

— Паспеем? Нямецкія драгуны могуць ужо заўтра раніцай быць ля Нарвскіх варот.

Сталін адказваў тым-жа роўным, нягучным, спакойным голасам, якім вёў усе размовы:

— Я мяркую--паспеем... Раздадзена вінтовак і кулямётаў... Ён прачытаў даведку. Нямецкае камандаванне паведамлена ўжо аб настроі рабочых. Шпіёнаў дастаткова... Нязначнымі сіламі немцы наўрад ці асмеляцца лезці зараз у Петраград...

У суседнім пустым пакоі, дзе на адзіным стале была разгорнута карта дзевяцівёрстка, працаваў штаб. Ленін выклікаў ваенных спецыялістаў з Магілева, дзе яны ліквідавалі штаб былой стаўкі. Ленін сказаў ім: „Войск у нас няма,—рабочыя Петраграда павінны замяніць узброеную сілу“. Генералы прадставілі план: выслаць неадкладна ў напрамку Нарвы і Пскова разведвальныя групы па трыццаць-сорак байцоў і тым часам фарміраваць і перакідваць ім у дапамогу баявыя атрады па пяцьдзесят—сто байцоў. Ленін і Сталін ухвалілі гэты план. Неадкладна, у гэтым жа пакоі, за адным сталом і табурэткай штаб пачаў фарміраванне груп і атрадаў для адпраўкі іх на фронт.

Усю ноч адыходзілі паязды на Пскоў і Нарву. Многія з рабочых першы раз трымалі вінтоўку ў руках. Гэтыя першыя атрады Чырвонай арміі былі яшчэ мізэрныя па ліку і баявому значэнню. Але ў людзей—сціты зубы, напружаны кожны нерв, нацягнуты кожны мускул. Паязды праносіліся па начах снежнай роўняддзю. Піцерскія рабочыя разумелі, што ўступаюць у барацьбу з магутным ворагам. І вораг гэты носіць імя—сусветны імперыялізм... Гэтае ўсведамленне аказвалася больш грознай зброяй, чым германскія гарматы і кулямёты.

Немцы спадзяваліся без асаблівых клопатаў увайсці ў Петраград. Іх шматлікія агенты рыхтавалі ў Петраградзе калатнюузрыў знутры. Тысячы нямецкіх ваеннапалонных—па патайных загадах—падцягваліся туды з поўначы, з усходу—з Сібіры. Піцерскія абывацелі перашэптваліся, гледзячы на кучкі немцаў, якія без справы цягаліся па гораду. Але ў адну чорную ноч Петраград, па распараджэнню Леніна і Сталіна быў адразу разгружаны ад германскіх падрыўнікоў. Выбух не ўдаўся.

Калі шпіёны пачалі даносіць немцам аб узбуджэнні піцерскіх рабочых, аб усеагульнай рабочай мабілізацыі, калі іх перадавыя часці сталі натыкацца на агонь новасфармаваных пролетарскіх часцей,—заняцце паўночнай сталіцы здалося справай рызыкоўнай і ненадзейнай.

7

Старэчы, з чыста прамытымі зморшчкамі, з цвёрдым, сагнуўшымся на кончыку носам, ружовы твар генерала Людэндорфа быў нерухомы і строгі, у вачах — яснасць і холад, толькі друзлы падбародак па-бацькаўску ляжаў на стаячым каўняры шэрага ваеннага сюртука.

Час ад часу ён браў залаты аловак, і пальцы яго, з сухой скурай і шырокімі кіпцямі, адзначаючы некалькі лічбаў або слоў на блакноце, злёгку дрыжэлі—адзіная адзнака стомы. Направа ад яго рукі дымілася сігара, якая ляжала на стальным чаранку ад знарада. На беззаганна чыстым стале з мёртвай акуратнасцю расстаўлены рэчы пісьмовага прыбора з чорнага мрамара, ляжалі папкі з бліскучага картона.

За люстраным вакном на карнізе—галубы на прыпёку сакавіковага сонца. Крутыя цёмначырвоныя стрэхі Берліна.

Насупроць генерала Людэндорфа ў скураным крэсле, проста і шчыльна, сядзеў генерал Гофман, таксама беззаганна чысты, таўставаты, з пачцівым тварам, які блішчэў ад поту, да якога лепш-бы ішлі барада і вусы, бо—пабрыты—ён здаваўся голым. Прамень сонца падаў яму на жгут залатога пагона.

Ён гаварыў:

— Я баюся, што праведзеная не да канца аперацыя на ўсходве можа не даць таго, што мы ад яе чакаем. Мой пункт гледжання такі: заняцце Украіны і Данецкага вугольнага басейна не трэба разглядаць, як аперацыю, накіраваную толькі для папаўнення сыравінных рэсурсаў Германіі. Мы ўводзім нашы дывізіі ў краіну,

дзе пануе неймаверны палітычны хаос. Мае агенты ў Расіі прысылаюць вельмі сумотныя весткі, якія пацвярджаюць самыя песімістычныя меркаванні. Забойства адукаваных і маемасных людзей, кражы, разбоі, міжусобіца, поўны беспарадак і нават параліч жыцця... Усё гэта выключае ўсялякую магчымасць правільных гандлёвых зносін з Расіяй, калі мы будзем, паўтараю толькі наглядаць склаўшы рукі, гэтыя вельмі небяспечныя і абураючыя ўчынкі большэвікоў...

— Так,—хрыплавата сказаў генерал Людэндорф.—Усё гэта вельмі сумна.

— Так,—таксама хрыпавата адказаў генерал Гофман.—Вельмі сумна. Я-б мог прапанаваць вашаму высокаправасхадзіцельству, адзін з магчымых варыянтаў больш актыўнага ўмяшання ў рускія справы.

— Калі ласка,—ветліва, хрыплавата сказаў генерал Людэндорф.

— Каб пазбавіць няшчасную Расію ад невыносных пакут, дастаткова, па майму разліку, не вельмі шмат намаганняў. Калі-б мы прасунулі наш левы фланг на лінію Пецербург—Смаленск і сфармавалі нядрэнны рускі ўрад, які змог-бы пусціць чутку, скажам, што царэвіч Алексей жывы і, прызначыў-бы рэгента... Я маю на ўвазе вялікага князя Паўла Александравіча. Праз пару тыдняў Еўрапейская Расія была-б прыведзена ў парадак, мы-б атрымалі спакойную сыравінную базу і змаглі-б без шкоды для сябе забраць з Украіны палову нашых дывізій...

Генерал Людэндорф асцярожна ўзяў сігару, раскурыў і зноў беражліва паклаў на чаранок. Гэта заняла, па крайняй меры, хвіліну,—ён абдумваў адказ.

— Я зусім спачуваю ідэям, якія натхняюць вас,—сказаў ён строга.—Мы не павінны і не будзем мець суседам дзяржаву, якая кіруецца комунiстамі. Але каб умяшацца ва ўнутраныя справы Велікаросіі, патрэбны развязаныя рукі... Пакуль на Захадзе мы не вырашым гульню... (Ледзь задрыжаўшыя пальцы яго зноў пацягнуліся да сігары) немэтазгодна ва ўсіх адносінах прадпрымаць што-небудзь на такой вялікай тэрыторыі, як Велікаросія... Акрамя таго перад намі стаяць больш высокія мэты... Чым-бы не скончылася вайна—Англія і надалей будзе ставіць абмежаванні нашай экспансіі на Захадзе. Гістарычная місія Германіі—гэта прасоўванне на Усход,—Месапатамія, Персія і Індыя,—для гэтага мы павінны моцна і назаўсёды замацаваць за сабою самы кароткі і бяспечны шлях: Кіеў, Екацерынаслаў, Севастопаль і морам—на Батум і на Трапезунд. Крымскі паўвостраў павінен застацца назаўсёды германскім, чаго-б гэта ні каштавала. Мандат на Ўсход мы атрымаем у Шампані, на Соме і Уазе... Акрамя таго, снабжэнне такой велізарнай усходняй магістралі патрабуе велізарных запасаў вугалю,—вось таму мы павінны моцнай нагой стаць у вугольным басейне Дона. Я мяркую: заняцце Украіны нашымі войскамі мае бліжэйшую мэту—снабжэнне нас хлебам і сыравінай, але заняцце Украіны нельга разглядаць, як эпізод. Заняць Украіну, Данбас і Крым мы павінны моцна і назаўсёды,.. Масква прыняла

нашы ўмовы міра, дэлегацыя выехала ў Брэст-Літоўск, трэба падпісваць мір...

8

Ад Нарвскіх варот, дзе ўздымаліся чорныя коні з лядзякамі на капытах і мордах, далёка на абледзянелым тратуары стаяла чарга—жанчыны, старыя, падлеткі: моўчкі, панура, іншыя прытуліўшыся да сцяны дома, іншыя пахаваўшы твары ў паношаныя каўняры, каб зберагчы ад сакавіковага ветру хоць крышачку цяплыні за доўгія гадзіны чакання. Спіны, рукавы ва ўсіх памечаны крэйдай—лічбамі.

У Мар'і Карасёвай стаяў 231-ы нумар. Дэвесце трыццаць чалавек, крок за крокам, па ледзяных купінах, з прымерзшым да іх брудам павінны былі прайсці наперадзе яе да дзвярэй харчовай управы.

Тады ў ноч трывогі, Мар'я запісалася была ў санітарны атрад. Там давалі фунт хлеба і сушаную рыбу ды па чвэртцы хлеба на дзяцей. Але дрэнна было са здароўем,—не спынялася кружэнне галавы, прышлося дэмабілізавацца. Іван Гара выехаў начальнікам разведвальнага атрада пад Нарву. Без Івана Гары зусім зрабілася дрэнна,—Мар'я толькі і магла цяпер прастаяць гадзін пяць у чарзе і прывалачыся, ледзь жывой, дадому. Так яна стаяла, прытуліўшыся да сцяны, заплюшчыўшы вочы. Сусед—сярдзіты стары з табачнай барадой—штурхаў яе, нібы шылам, костачкай сагнутага пальца: „Ну, што-ж ты задрымала...“ Чарга варушылася, кранася на крок і зноў застывала.

А другой гадзіне Мар'я ўбачыла, нарэшце, чалавека з вінтоўкай ля дзвярэй харчовай управы, куды ён па аднаму прапускаў чаргу. У гэтага чалавека шчокі паабрасталі шызай шчацінай, і да таго паўваліваліся, нібы ён іх закусіў, сіні ад ветру нос—крукам,—напэўна, быў яўрэй.

— Таварышы,—паўтараў ён,—не напірайце, больш арганізацыі...

Стары зноў націснуў у бок, Мар'я падышла і на фанеры, устаўленай у дзверы замест шкла, на паперцы, прылепленай клейстарам да фанеры, прачытала: „Сёння па картках (гэтакіх-та) выдаецца поўфунта аўсу. Заўтра выдачы не будзе“.

Паперка, аблупленыя дзверы, кручканосы твар з закушанымі шчокамі—пахіснуліся, паплылі... Мар'я асела на тратуар, стукнулася галавой аб ледзяную купіну.

## Раздзел трэці

1

З'езд советаў вырашыў—перанесці сталіцу ў Маскву, каб пазбавіць спакусы немцаў і фінаў кароткім налётам скончыць з большэвіцкім урадам.

У Петраградзе, на Нікалаеўскім вакзале, былі пададзены тры паязды: у адным павінен быў выехаць Ленін і члены Цэнтральнага камітэта, у двух іншых—Усерасійскі цэнтральны выканаўчы камітэт і ўстановы першай важнасці.

Многа рознага народа швэндалася па плошчы перад вакзалам, размешваючы нагамі вясновую гразь на павываварачваным булыжніку. Было дрэннае ветранае надвор'е. Латышскія стралкі сурова правяралі прапускі ля дзвярэй вакзала. Але людзі прабіраліся і без прапускоў,—пералязаючы цераз платы на чыгуначныя шляхі, дзе ў непарадку стаялі паўразбітыя саставы, дымілі, сіпелі, адчайна свісталі манеўровыя паравозы.

Варты было мала. Некалькі маладых людзей, па-панску апранутых, кплівага выгляду з'яўляліся і знікалі ў вакзальнай мітусні. Аднаго ў акулярах з таўстымі шкламі латышы затрымалі. Ён, усміхаючыся, прад'явіў білет члена Петраградскага совета і, ледзь яго выпусцілі, нырнуў у кучку нейкіх „клёшнікаў", якія трымаліся асобна і незалежна.

Толькі каля поўначы на пероне „царскага павільёна" з'явіўся блізарукі, заклапочаны, гаваркі кіраўнік спраў Совета народных камісараў, які загадваў асабістай аховай Леніна; Владзімір Ільіч з таўстым пакам рукапісаў, Сталін у салдацкім шынелі і вушастай шапцы; чорнабароды, нездаровы, бледны Свярдлоў...

Уздоўж сініх вагонаў стаялі румяныя, рослыя латышскія стралкі. Рэволюцыя, ратуючы сябе, ахвяравала іх радзімай. Гэта было цяжка зразумець. Латышы страцілі радзіму. Каб вярнуць яе—патрэбен даўгі вакольны шлях цераз роўнядзі Украіны, Расіі, Сібіры, цераз перамогі рэволюцыі і народаў, імёны якіх латышы пачулі ўпершыню. Цяжка было ўявіць такі шлях, цяжка адважыцца. Яны адважыліся. Спакойныя, суровыя, моцна трымаючы вінтоўкі, —глядзелі на Леніна, які праходзіў. Жыццё гэтага чалавека было іх жыццём, іх надзеяй.

— Чаму рабочыя не зразумеюць? Яны лепш і прасцей за нас зразумеюць—чаму мы выязджаем,—казаў Владзімір Ільіч аднаму з таварышоў, які ў абодвух руках трымаў клятчаты партплед.— Чаму Смольны сімвал Совецкай улады? Пераедзем у Крэмль, сімвалам зробіцца Крэмль. Што за сантыментальная лухта—сімвал! Будзе патрэбна і ў Екацерынбург пераедзем.

Каб згладзіць, што ён гаворыць так сярдзіта, Владзімір Ільіч няўважна ўсміхнуўся чалавеку з партпледам і спяшаючыся ўлез у вагон. Камендант поезда махаў рукамі тым, што спазніліся.— Хутчэй, хутчэй, таварышы!

Вагоны грукнулі. Латышы ўскочылі на падножкі. Поезд адыйшоў.

Адначасова з другіх платформ адыйшлі два іншых паязды з членамі Ўсерасійскага цэнтральнага выканаўчага камітэта і ўстановамі. Ноч была чорная, ледзяны дождж барабаніў па дахах вагонаў. Справа, дзе цмяна праступалі абрысы Іжорскага завода, цмяна відаць было агнявое ззянне,—мусіць выпускалі сталь з мартэна.

Владзімір Ільіч пастукаў пазногцем у шкло:

— Вось гэта—сімвал, калі вы ўжо хочаце... Не гледзячы на голад, на тое, што немцы ў Пскове,—льюць сталь...

Поезд, у якім знаходзіўся Ленін, выйшаў другім у складзе трох паяздоў. Але праз гадзіну ўжо машыністам было выяўлена, што наперадзе ідзе не адзін поезд, але два. Нейкі невядомы састаў таварных вагонаў з двума паравозамі ўклінаваўся недзе на стрэл-

ках паміж галаўным поездам, дзе ехалі члены Ўсерасійскага цэнтральнага выканаўчага камітэта, і другім—з Леніным.

Аб гэтым было паведамлена кіраўніку спраў памочнікам машыніста, які ў дарозе перабраўся з тэндэра па дахах вагонаў. Нікому, нават Леніну не было сказана аб небяспецы. Латышы расчынілі на пляцоўках дзверцы, падрыхтавалі кулямёты. Была трэцяя гадзіна ночы. Дождж перастаў; за туманнымі хмарамі, якія валакліся над чэзлым ельнікам, пачала паказвацца палавіна месяца. На поўвярсты наперадзе ясна было відаць чырвоны аганёк загадкавага поезда, які замаруджваў ходу. З паравоза паведамілі, што зараз Любань і поезд, які ідзе наперадзе, відаць, мае намер спыніцца там на першай каляі.

Так і выйшла. Загадкавы поезд, не гледзячы на адчынены семафор і адчайныя знакі жэзлам начальніка станцыі,—спыніўся насупраць буфета першага класа. Зарыпелі, завішчалі дзверы цяплушак. Поезд з Леніным таксама вымушан быў спыніцца, ударыўшы ў буферы пярэдняга пыхкаючымі грудзямі паравоза.

Першым на перон выскачыў кіраўнік спраў. Кашнэ яго трапалася па ветру, шуба распахнулася; кішэні яе былі набіты рукапісамі і дакументамі. Пазарастаўшыя барадой шчокі, мясісты нос са з'ехаўшымі акулярамі чырванелі ад узрушэння. Ён быў узброены алоўкам.

— Загадваю ачысціць перон!—крыкнуў ён, працягваючы аловак да кучак людзей у марскіх бушлатах, у салдацкіх шынелях, якія злосна гулі, выскакваючы з вагонаў. У шмат каго з іх у руках ужо круцілася зброя. Тут таксама знаходзіўся адпушчаны надоечы кплівы грамадзянін у акулярах з таўстымі шкламі і яшчэ некалькі па-панску апранутых.

Кіраўніка спраў заўважылі: „Чэкіст, сукін сын, пад колы яго!“ Людзям у бушлатах і шынелях відавочна даваліся ўказанні: чалавек сто рашуча накіраваліся к поезду Леніна. Але насустрач ім з пляцовак саскочылі латышы,—яны подбегам па асфальту цягнулі кулямёты.

Кіраўнік спраў з узнятым алоўкам перакрыкваў грукат кулямётных каткоў: „Назад па вагонах!“

Убачыўшы кулямёты, натоўп бушлатаў і шынеляў спыніўся. З дзвярэй цяплушак высоўваліся жанчыны ў стракатых шалях, вішчалі,—махалі рукамі. Натоўп адступіў,—пабеглі, палезлі ў вагоны, хапаючыся за рукі жанчын... Засоўваліся дзверы. Праз некалькі хвілін перон быў ачышчаны, загадкавы поезд пагружаны.

Далейшае адбылося проста і шпарка. Пад дуламі кулямётаў дзверныя клямкі цяплушак былі заматаны дротам. Запячатаны наглуха загадкавы поезд адвялі на запасны пуць і ўсе стрэлкі забілі пустымі саставамі.

Шлях у Маскву быў вольны.

2

Цяпер, калі мір у Брэсце быў падпісаны, Ленін, з усёй энергіяй, пачаў арганізоўваць абараназдольнасць рэспублікі. На тым месцы, дзе рассеялася царская армія, на лініі сутыку з немцамі арудвалі

розныя стракатыя рэвалюцыйныя атрады, якія так-сяк падпарадкаваліся тром галоўнакамандуючым. (Адзін быў прызначаны ваенным камісарыятам, другі—советам „Калужскай федэратыўнай рэспублікі“, трэці быў абраны на фронце, як цэзар—легіёнамі). Атрады складаліся з рабочых Піцера і Масквы, з франтавікоў апошніх прызываў, з мясцовых сялян, партызан, з бежанцаў, з такіх незвычайных фарміраванняў, як „Асобая армія Рэмнёва“, якая на трыццаць процантаў складалася з бандытаў, ці палка „анёлаў смерці“, набранага з усялякага роду аматараў прыгод камандзірам Юркам Цыбулька. Пры з'яўленні такога эшалона, з чорным сцягам на паравозе, станцыйная прыслуга разбягалася, і начальнік станцыі залязаў пад платформу ці ў іншае месца.

Трое галоўнакамандуючых былі зняты. Шматлікія атрады падпарадкаваны ваеннаму кіраўніку—і размяркаваны ў дзве лініі заслон—паўночную і заходнюю,—якія абаранялі подступы к Петраграду і Маскве. Бясформныя атрады пачалі зводзіцца ў роты і батальёны, камплектавацца праз ваенныя аддзелы мясцовых советаў дабраахвотнікамі—па падпісцы і па кругавой паруцы з пенсіяй—пяцьдзесят рублёў адзінокаму, паўтараста—сямейнаму. Такім самым чынам адбываўся набор каманднага складу з былога афіцэрства. Камплектаванне ішло з вялікімі цяжкасцямі. Афіцэры баяліся ісці на фронт, дзе здаралася, што некаторых камандзіраў прыходзілася выратоўваць ад расправы ўзброенай сілай.

З харчамі было зусім дрэнна. Мясцовыя советы і ўправы не маглі ўправіцца з цвёрдымі цэнамі,—хлеб ішоў к спекулянтам, скупліваўся кулакамі. Атрады галадалі. Штабы дывізій у роспачы накіроўвалі па вёсках фуражыраў з соллю і цукрам—мяняць на муку і бульбу. Нават „ваенрук заслоны“ сам выязджаў у поездзе мяняць у сялян рознае барахло на муку і сала.

Армейскія коні з абцягнутай на рэбрах скурай пасвіліся на сялянскіх межах. Не хапала ботаў, гармат, сёдлаў, зброі. Усё гэта ляжала недзе на ваенных складах,—але, чорт іх знойдзе—гэтыя склады, а калі і знойдзеш,—такая пачнецца перапіска, што ўжо і сам чорт ногі зламае...

Усё-ж, не гледзячы на бездапаможнасць і сабатаж арганізацый забеспячэння, на тое, што шмат для каго быў дзікі і незразумелы зварот кадравых афіцэраў, не гледячы на агіду да вайны людзей, якія чатыры гады прасядзелі ў акопах, і таксама на тое, што вёска была цалкам занята сваімі справамі,—барацьбой бедняты з кулацтвам, — не гледзячы на ўсё гэта пачалі акрэслівацца першыя абрысы касцяка Чырвонай арміі.

3

— Вы пад аховай, генерал?

— Два нейкіх балваны... Ці яны мяне ахоўваюць, ці я іх ахоўваю... Анекдот!

На задняй пляцоўцы апошняга вагона, у поездзе, які ішоў з Харкава ў Маскву, гутарылі два вайсковых—адзін у „акопным“, з абадранымі кручкамі, шынелі, у салдацкім картузку з чырвонай

лентачкай,—худы, з вузкім, калісьці выпешчаным, даўно не брытым, тварам, сапсутым выразам грэблівасці і пераможанай прыніжанасці. Гэта быў генерал-маёр Насовіч.

Другі—нізенькі, крамяны і румяны—у добрай бякешы і круглай шапачцы, зухавата—не гледзячы ні на якія рэволюцыі—ссунутай на вуха,—палкоўнік гвардзейскай артылерыі Чэбышаў.

Насовіч, сударгава зацягваючыся папяросай, апавядаў:

— Чацвертага я атрымаў ад генерала Драгамірава інструкцыю—адшукаць у Маскве Савінкава, які стаіць на чале „Саюза абароны радзімы і свабоды" і праз яго звязацца з дабраахвотніцкай арміяй. Пятага я выехаў з Харкава на конях, восьмага мяне затрымалі чырвоныя пад Белгарадам... Начальнік атрада, Мухаперэц,—нядрэннае прозвішча?—чулліва змагаўся з жаданнем расстраляць мяне на месцы з нагана... Я патрабаваў ад чырвоных, каб яны тэлеграфавалі ў Маскву ў Вышэйшы ваенны совет, Троцкаму. Зразумела, гэты гусь зараз-жа адказаў: „З усялякімі выгодамі справадзіць былога генерала Насовіча ў Маскву..." Анекдот, далажу вам...

— Вы не знаходзіце, генерал, што ўся гэтая мярзотная гісторыя занадта доўга цягнецца?..

Насовіч кінуў акурак праз разбітае вакно на рэйкі. Над бруднымі сакавіковымі снягамі паўзлі брудныя хмары. Дзе-ні-дзе пад непрыглядным небам на роўнядзі цямнелі ўбогія стрэхі вёсачак.

— Радзіма! Палюбуйцеся, калі ласка! Святыня!—сказаў Насовіч.—Гэты расейскі народзец на свабодзе трэба заваёўваць так, як яго заваёўваў Чынгіз-хан... Сабатаж, дробная падрыўная работа розных соцыял-дэмакратаў—гэта толькі палахлівыя ўкусы. Гэтым іх не праймеш... Патрэбна армія—маленькая, выдатна забяспечаная, добра дабраная, здольная лёгка манеўраваць і наносіць маланкавыя ўдары... Матэрыялу—дастаткова з двухсоттысячнага афіцэрскага корпуса...

— Паны афіцэры лічаць за лепшае чысціць боты на вуліцы,—сказаў Чэбышаў...—Нельга іх вінаваціць, палкоўнік, няма сцяга, няма жалезнай рукі... Чаму за тры месяцы генералу Драгаміраву ўдалося адправіць з Харкава к генералу Каледзіну ўсяго тысячу афіцэраў? Каледзін—не сцяг... І я лічу за добрачыннасць яго самагубства... Дон трэба умець падняць... Каледзін быў усё-ткі генералам старой школы,—казакі яму не давяралі... Вось—перад ад'ездам я гутарыў з генералам Красновым.

— Ну—гэта фрукт, ведаеце...

— Так, з авантурыстычным душком... Але малады, поўны самых шырокіх планаў.

— Генерал Красноў робіць стаўку на немцаў,—сказаў Чэбышаў, злосна прыпадняўшы губу над дробнымі ахайнымі зубамі.—Красноў патаемна ездзіў к генералу Эйхгорну ў Кіеў... Вам гэта вядома?

Насовіч прамаўчаў. Насупіўся. Некаторы час глядзеў на бегшыя ўсцяж рэйкі. Ён адчуў утому,—плечы апусціліся пад пакарабачаным шынелем, нібы на іх лягло ўсё вар'яцтва апошніх месяцаў: захоп

улады чэрню, канчатковая пагібель арміі, пагібель асабовай кар'еры. Гэты фрукт Красноў, шыкоўны краснабай, аматар жанчын, пісьменнік-раманіст,—які лёгка манеўрыруе палітыкай,—раней іншых уцяміў дух часу... Замест грамоздкай вернасці саюзнікам (а пасля Брэсту гэтую вернасць зноў трэба было даводзіць крывёю)—Красноў, улічваючы бягучыя абставіны, безумоўна, сукін сын, на нямецкіх штыхах пройдзе ў данскія атаманы.

— Што-ж,—пахмура праказаў Насовіч,—калі яму ўдасца збіць казачую армію,—не так ужо дрэнна... Армія заўсёды армія...

Чэбышаў адказаў рэзка:

— Адзінае здаровае ўтварэнне—Добраахвотніцкая армія. Генерал Аляксееў, генерал Красноў—гэта сцяг. А казакі—у лепшым выпадку—падсобны матэрыял... Якія ў вас весткі аб добраахвотніках?

— Апошнія весткі былі аб бліскучых поспехах пад Лежанкай... Вось ужо месяц, як восем тысяч штыкоў і шабель зніклі недзе ў кубанскіх стэпах... Наша бліжэйшая задача: адшукаць Добраахвотніцкую армію і наладзіць з ёю сувязь.

— Вам прыдзецца, генерал, увайсці ў Вышэйшы ваенны совет...

— Гэта будзе не цяжка праз Троцкага... Даруйце, палкоўнік, але мне недастаткова ясная ваша пазіцыя.

У Чэбышава зноў адкрыліся дробныя злыя зубы.

— Мая пазіцыя? Генерал-маёр Насовіч, ва ўсялякіх іншых абставінах я палічыў-бы вашае пытанне не да месца. Афіцыйна—я еду ў Маскву таксама як і вы выкліканы па тэлеграфу Троцкім... Як відаць мне запрапануюць інспектыраваць артылерыю.

4

Па прыездзе, проста з вакзала, Насовіч накіраваўся адшукваць штаб Троцкага. Знайсці якую-небудзь установу ў Маскве было да роспачы цяжка. Здавалася—людзі сумысля маюць мэту не гаварыць праўды, блытаць і пасылаць па няправільных адрасах.

Масква здавалася яму кашай без плана і парадку. Хаця ўжо мінула пяць месяцаў ад кастрычніцкага перавароту—маскоўскія абывацелі дрэнна разбіраліся ў канструкцыі совецкай улады, усіх большэвікоў называлі камісарамі і цвёрда верылі, што ўся гэтая піцерская навала, з аўтамабілямі, дэкрэтамі, з прахадзіўшымі па Тверской—асобым, павольным крокам, шчыльна, плячо к плячу—чырвонагвардзейскімі атрадамі—нязручная з'ява гэтая—часовая, і, як жыла Масква па крывых завулачках, з азіятчынай, з купцамі, з прыгожанькімі гімназісткамі, з аграмаднымі тэкстыльнымі фабрыкамі, вольнадумнымі чыноўнікамі, ліхачамі, плёткамі, сусветнавядомымі акторамі і рэстаранамі,—так, перамалоўшы лютых камісараў, і будзе жыць, гандляваць, жульнічаць, выхваляцца, перамолваць цёмную вёску ля ткацкіх варштатаў у фабрычны люд, пераразваньвацца званамі старых цэркавак, абжытых стаямі галак.

Насовіч дурнеў ад відовішча гэтага горада—сэрца Расіі,—пэратворанага ў большэвіцкую сталіцу. Ні супрацiўлення, ні дзей-

най злосці. Гарачая злоба прылівала да сэрца: „Тут не проста сцёбаць лазой—распаленымі шампаламі ўганяць у расійскія зады страх божы!..“

Позна ўвечары, атрымаўшы, нарэшце, пропуск, ён дабраўся да Александраўскага вакзала, дзе на пуцях стаяў поезд Троцкага. Апоўначы ён быў дапушчаны да Троцкага і гаварыў з ім.

5

Насовіч спаліў карабок запалак, пакуль у брудным і цмяным завулку каля Тварской адшукаў канспіратыўную кватэру—у невялікім дамку ў глыбіні двара. Пастукаўшыся асобым спосабам, ён запытаўся праз дзверы: „Георгій дома?“ Дзверы прыадчыніліся, засланяючы свячу, з'явіўся малады чалавек у акулярах з тоўстымі шкламі. „Не ведаю, здаецца выйшаў“,—адказаў ён умоўным паролем. Тады Насовіч выцягнуў з-за падкладкі штаноў палавінку візітнай карткі, разрэзанай наўкос. Малады чалавек у акулярах дастаў з кішэні другую палавінку яе і са спагадлівай усмешкай:

— Калі ласка, генерал,—вас чакаюць.

Ён увёў Насовіча ў неправетраны пакой, слаба асветлены настольнай лямпай. Насустрач з канапы падняўся лысаваты, з пасмай жыдкіх валасоў—на лоб, несамавіты мужчына сярэдняга росту ў жоўтых крагах, сухі, далікатны—Барыс Віктаравіч Савінкаў, эсэр, які перажыў славу тэрарыста і пісьменніка і цяпер з спустошаным мозгам, са спустошаным сэрцам прадаваў самаго сябе за здань улады.

Ён знаходзіўся тут у Маскве канспіратыўна—прадстаўнікам Добраахвотніцкай арміі, хаця вельмі добра разумеў, што пры сур'ёзным поспеху добраахвотнікі самаго яго першага і павесяць. Праз гады і незадачы ў ім накапілася досыць многа пагарды да людзей. Леніна ён лічыў хітруном і не верыў ні аднаму яго слову. Бачучы рабочыя дэманстрацыі, яго нудзіла. Восем тысяч люта настроеных, гатовых хоць на якія нястачы, добраахвотнікаў, пад камандай Карнілава,—„льва з асловай галавой“,—здаваліся яму нядрэнным пачаткам. Зноў у яго распараджэнні апынулася ўлада, грошы і, галоўнае, той чароўны стан любавання сабой, які быў яму патрэбней за ўсё.

— Вам удалося бачыць Троцкага?—спытаў ён, абмінаючы ўсе папярэднія ўмоўнасці знаёмства. (Такі рэвальверны пачатак ён ужываў яшчэ ў часы баявой арганізацыі, абмацваючы маладых тэрарыстаў). Насовіч з цікаўнасцю зірнуў у яго рыжыя вочы, на напалеонаўскую пасму валасоў на лобе.

— Дазволіце сесці? Я змарыўся... Дазволіце закурыць?—Ён з асалодай выцягнуўся на канапе, закурыў добрую папяросу.— Справа значна спрашчаецца, Барыс Віктаравіч. Відаць, бог ідзе нам на дапамогу.

З Троцкім я толькі што гутарыў... Ён зрабіў на мяне надзвычайна прыемнае ўражанне: некалькі разоў у часе гутаркі ён агаварыўся і ўшанаваў мяне „панам генералам“... Я таксама не застаўся

ў даўгу і ўкруціў яму разік—„ваша прэвасхадзіцельства“... З ім нам лёгка будзе работаць.. Ну-с, і—нарэшце...

Насовіч прыпыніўся. Савінкаў, падагнуўшы пад сябе нагу, не спускаў з яго абмацваючых вачэй...

— ... Ён запрапанаваў мне пост начальніка штаба Паўночна-каўказскай ваеннай акругі са стаўкай у Царыцыне... Я падзякаваў і ўзяў...

— Троцкі перахапіў маю ідэю,—сказаў Савінкаў, усмешкай выцягваючы куток бледных губ.—Тым лепш. Дык вось, магу вас усцешыць, генерал... На днях вы пачуеце аб узяцці Екацерынадара добраахвотнікамі. Карнілаў атрымае салідную базу іаграмадныя запасы зброі.

(Насовічу захацелася перахрысціцца, але было няёмка пад немігаючым позіркам сухапарага тэрарыста,—абмежаваўся крыжом у думцы).

— Заўтра я пастаўлю пытанне аб вас у штабе маскоўскага аддзела Дорбарміі. Мы мелі намер пераправіць вас к Дзенікіну, але цяпер выкарыстаем у больш цікавым плане—як чырвонага начальніка штаба. (Абодвы ўсміхнуліся). Ваша задача: арганізаваць у Царыцыне цэнтр паўстання. Памятайце,—калі немцы займуць усю Украіну і Данбас—Царыцын застанецца ў большэвікоў адзінай сувяззю з прыволжскім хлебным раёнам. Калі мы яго адарвем—гэта будзе смяротным ударам па Маскве.

Насовіч ухваляюча ківаў, яму пачынаў падабацца гэты хлюст,—у ім была пруткасць арганізатара і, відаць, вялікі вопыт у галіне ўсякіх выбухных спраў.

— Даруйце, Барыс Віктаравіч, хацеў задаць вам пытанне... Чаму вы паднялі тады руку на вялікага князя Сяргея Александравіча, на Плеве?.. А вось на розных там Леніных?.. Рашучасці, ці што, не хапае? Ці—як? Даруйце...

Савінкаў спахмурнеў, павольна падняўся з канапы, узяў са стала папяросу, пастукаў аб пазногаць, закурыў, павольна задзьмуў аганёк запалкі.

— Пра такія рэчы звычайна не пытаюць... Але вам я адкажу... Тыдзень таму назад Совет Народных Камісараў павінен быў скончыць сваё існаванне на станцыі Любань. Толькі выпадкова яны ўніклі адплаты...

Прыжмурыўшыся, ён асцярожна паднёс папяросу да роту, выпусціў ценкі струменьчык дыму.

— Ведаеце, генерал, ніхто і нішто не спыніць караючай рукі.

Словы і жэсты былі на рубяжы літаратурнага фатаўства. Насовіч злавіў сябе на тым, што любуецца...

— Хочаце віна?—спытаў Савінкаў.—Мне дасталі цудоўнага Амонтыльядо.

## Раздзел чацверты

### 1

Вышаўшы з вакзала, Мар‘я Карасёва азірнула стэп, які дыміўся вільготным вясновым маравам, каршуноў, якія плавалі ў святле і сіні. Мар‘я села на траву, паклала галаву Мішкі сабе на кале-

ні,—у яго галава вісела, да таго быў схудзелы. Поезд адышоў. Цяпер толькі чутно было, як слаба пасвістваў вецер у траве, звінелі жаўранкі.

Мар'я выехала з Петраграда з харчовым атрадам. Праз гэты атрад на заводзе было многа спрэчак. Комуністы крычалі, што гэта зрыў плана, самацёк, мяшочніцтва... Старыя рабочыя крычалі комуністам: „Прамовамі бруха не наб'еш, пакуль соцыялізм пабудуеце, усе здохнем". Сабралі праміж сябе грошай, здабылі салдацкай бязі, солі ды рознага жалезнага бараха—цвікоў, вінцікаў, дзверных завесаў,—і з гэтым паслалі шасцярых надзейных хлопцаў на Дон—мяняць на муку...

Угаварвалі ехаць Івана Гару. Ён адмовіўся: „А якімі я вачамі на Владзіміра Ільіча пагляджу? Гаўкаць на мітынгах, скажа, гарласты,—бруха падцягнула—крамку на колах паслалі. Гэта сусветная ганьба". Мар'і ён усё-ж рашуча загадаў узяць дзяцей і ехаць на поўдзень. Сам пасадзіў яе ў вагон, даў дзецям на дарогу па пяць гатаваных бульбін. „У станіцы Чырскай, Мар'я, проста ідзі да майго брата Сцяпана. Ён цябе прытуліць. Тыдні два адпачнеш, пасля справа для цябе знойдзецца..."

Алёшка прынёс вады ў бляшанцы ад кансерваў. За дарогу ён навучыўся гаварыць грубым голасам.

— Маці, пойдзем у станіцу пешкі.

— Зараз, сынок, пасяджу.

— Мішка,—сказаў ён, з прыемнасцю, тупаючы босымі нагамі па цёплай траве,—пойдзем скачкоў лавіць.

У Мішкі задзёрыста заблішчэлі вочы, не падымаючы галавы з матчыных кален,—усміхнуўся зморшчкамі.

— Ну, пойдзем...

— Паспееш, наловіш,—праказала Мар'я,—іх тут многа. Лепш вунь да ваза падбяжы, можа, добрыя людзі падвязуць.

Па пясчанай дарозе, кіруючы сытым гнядым канём, ехала, стоячы ў калёсах шырокаплечая дзяўчына ў вылінялай хустцы, вецер трапаў яе палатаную спадніцу. Алёшка дагнаў яе: „Цётачка, пачакай". Дзяўчына напяла лейцы, павярнула да Алёшкі смуглявы твар з цёмнымі брывамі з неласкавымі пільнымі вачамі.

— Шэсць дзён стоячы ехалі, цётачка, не спаўшы, не еўшы, у мамкі ногі папухлі.

— Да каго ў станіцу?—спытала яна сурова.

— Да Сцяпана Гары—іванавага брацënніка.

Пачуўшы імя Івана Гары, дзяўчына здзіўлена падняла бровы, шырокі твар яе асвятліўся ласкай. Кіўнуўшы Алёшку, каб сеў у калёсы, павярнула каня да вакзала. Саскочыла каля Мар'і, апусціла на босыя ногі падаткнутую спадніцу.

— Рэчы дзе?

Мар'я паспрабавала ўстаць, мармытала, дзякавала,—дзяўчына ўзяла ў яе багажны квіток. Рэчы—цяжкі куфрык і два клумкі подбегам вынесла з вакзала. Падняла Мар'ю, як дзіця, пасадзіла ў калёсы на клункі, дала ёй на рукі Мішку і, не размаўляючы,

пагнала сытага каня ў станіцу. Толькі, калі Мар'я спытала: „Як зваць цябе, залатая?"—адказала з нездавальненнем:

— Ды—Грыпінай...

Ехалі доўга стэпам, узгоркамі да станіцы Чырскай. Пераехалі па масту звілістую рэчку Чыр, атуленую кучаравымі хмызнякамі. Паказаліся высокія тапалі, мазаныя жоўтыя хаты з моцнымі варотамі. На шырокай вуліцы—куры, занятыя сваёй справай ля куч гною. Над станічным упраўленнем выліня́лы кумачовы сцяг, на ганку, прыкрыўшы твар шапкай дрэмле чалавек з вінтоўкай паміж ног. Ідзе гарбатая свіння, звесіўшы на рыла брудныя вушы, за ёй трушком такія самыя брудныя гарбатыя парасяты. Пякло сонца, адсвечвалася ў пухорчатых шклах. Праносіліся стрыжы з белай званіцы.

Мар'я сказала:

— Вось цішыня дзе, спакой...

На гэта Агрыпіна, не абарачваючыся, нездаволена тарганула плячом. Спынілася каля цаглянога белага дома на тры вакны, з моцнымі вакяніцамі. Агрыпіна саскочыла з калёс, пачала адчыняць выфарбаваныя вохрай вароты.

— Ідзіце,—сказала,—вунь—да хаты, наўскасок,—вось—хата Сцяпана Гары. Я клункі прынясу.

Яна заехала з канём у двор, адтуль грубы голас паклікаў:

— Гапка... Каго прывезла?

— Ды Сцяпанавы сваякі.

— А я загадаў каня мардаваць?

У варотах, зачыняючы іх, паказаўся чорнабароды, з вялікім ротам казак сярэдніх год,—у рубашцы, упраўленай у старыя штаны з чырвонымі лампасамі. Ён нядобра з-пад чорнага чуба на лобе, пазіраў, як пераходзіла вуліцу Мар'я, апранутая ў піцерскую кацавейку з выцертай рудой футрай, шчупленькі з хваравіта крутой патыліцай Алёшка і маленькі Мішка, перавязаны накрыж вязанай хусткай...

— Піцерскія! Ха!—гаркнуў казак, разявіўшы вялікі белазубы рот...

## 2

У той самы дзень вёрст за дзвесце на захад ад станіцы Ніжнячырскай, у станавым горадзе Луганску, дзе на ўскраіне і ў рабочых пасёлках стаялі тыя самыя мазаныя хаты на тры акенцы, але ўжо без скірт хлеба ў прасторных агародах і па вуліцы брыла такая самая свіння з парасятамі, таксама мірна цвілі вішні і крычалі гракі над гнёздамі,—на машынабудаўнічым заводзе Гартмана ішоў мітынг.

Народу было столькі, што сядзелі на высокіх падваконніках, на варштатах, звешвалі галовы з маставога крана. Старшынстваваў арганізатар і начальнік луганскай Чырвонай гвардзіі—Пархоменка, вялікі мужчына з вісючымі вусамі, у ссунутай на патыліцу бараняй шапцы.

На трыбуне наспех збітай з негабляваных дошак, дзе проста на дошках напісана дзёгцем: „Не аддадзім Данбаса імперыялістам",—стаяў невялікага росту чалавек, румяны ад узрушання. Бякешу ён

скінуў, ваенная кашуля аблягала яго моцныя грудзі, край каўняра пацямнеў ад поту.

Ён гаварыў звонка, напорыста. Вясёлыя вочы расшыраліся, калі ён абвадзіў твары слухачоў,—то панурыя, то пахмурнарашучыя. Вось яны раскрылі рты: „Ха-ха“ голасна разлятаецца пад закопчаным дахам, і яго вочы жмурацца ад жарта. І зноў сагнутыя ў локці рука рабром далоні адсякае рубеж паміж двума светамі—нашым і тым, што наступае зараз мільёнамі штыкоў...

— ... Мы павінны зразумець, што толькі ў нас саміх вырашэнне нашага лёсу. Грозная гадзіна надышла. Расійская буржуазія заклікала на дапамогу нямецкую буржуазію. Ім трэба заліць крывёй пролетарскую рэволюцыю. Ім трэба захапіць нашы заводы, нашы руднікі... І вас, таварышы, прыкуць ланцугамі да гэтых варштатаў...

Яго так уважліва слухалі—здавалася, пры іншых яго словах пачуеш, як у тысячы чалавек шуршаць зубы. Яму верылі, яго добра ведалі—старога падпольшчыка Клімента Варашылава, тутэйшага ўражэнца. У часе сусветнай вайны ён працаваў у Царыцыне ў падполлі, дзе арганізоўваў групу большэвікоў. Праследуемы паліцыяй, уцёк у Петраград і там працаваў у майстэрнях Сургайла. Пасля лютаўскай рэволюцыі вярнуўся ў Луганск, выдаваў газету, пісаў артыкулы, быў абраны старшынёй соўдэпа. З мандатам ва Устаноўчы сход выехаў у Петраград. Пасля Кастрычніка быў там камісарам парадку. У дні нямецкага наступу зноў вярнуўся на Данбас, увайшоў членам Совета народных камісараў у Данецка-Крываарожскую рэспубліку і зараз мітынгаваў з землякамі гартманаўскімі металістамі.

— ... На Данбасе мы павінны даць рашучы адпор нямецкім псам, якія рыхтуюць у першую чаргу вам, таварышы, крывавую няволю... Немцы ўжо абкружаюць Харкаў. Рэволюцыйныя чырвоныя атрады малыя па ліку і раскіданыя. Цэнтральная рада прадала Украіну, прадасць і Данбас. Хто згодзен прасягнуць шыю пад ярмо?—Варашылаў абвёў вачмі скамянелыя твары.—Такіх тут няма!

Нейчы чыгунны голас праказаў услед за ім:

— Такіх тут няма... Правільна!..

Многія павярнуліся туды, дзе за чыгуннай станінай стаяў чалавек, які гаварыў чыгунным голасам. Гэта быў ліцейшчык Бакун (які падымаў рукамі, калі невыгодна было падчапіць кранам, сорака-пудовыя выліўкі)...

— Здарова, Бакун!—крыкнуў Варашылаў.—Дык вось, таварышы, па прыкладу яго пяройдзем ад слоў да справы... Хай немцы сустрэнуць на Данбасе дзвесце тысяч пролетарскіх штыкоў. Пачын за Луганскам... Мы павінны зараз-жа сфарміраваць атрад у шэсцьсот-семсот байцоў... Выступім насустрач інтэрвентам. За намі кожны завод, кожная капальня пашле атрад. Якія застануцца, павінны рыхтаваць бранявікі і бронепаязды. Зброя ў нас ёсць, а не хопіць—здабудзем у баі. Сотні пролетарыяў, натхнёных рэволюцыйнай мэтай, узброеных класавай нянавісцю,—вгрты брыгады імперыялістычных наймітаў...

— Запісвай—Тарас Бакун!—зноў пакрыў яго чыгунны голас з-за варштата.

Старшыня—Пархоменка, кашлянуўшы не менш густым голасам, чым Бакун, памеціў яго на аркушы, паварушыў вусамі. Насустрач яго позірку пачалі падымацца цяжкія рукі.

— Стауляй—Салох Мацвей...

— Прахвацілаў Іван, стауляй...

— Чабрэц...

Пархоменка зноў заварушыў вусамі.

— Як? Паўтары...

— Ну, Мікалай Чабрэц... Не ведаеш, ці што?

— Запісвай—Васілій Крыванос і другі Васілій Крыванос.

Запісваліся падумаўшы і не спяшаючыся. Прапіхваліся к трыбуне і, міргаючы, сачылі як старшыня стауляе яго прозвішча на аркушы. Уздыхнуўшы, адварочваліся.

— Так, значыць...

Іншы варочаўся да таварышоў, устрасаў галавой:

— Ваюем, хлопцы...

Іншы і выхваляўся і жартаваў няскладна. Іншы, як аглушаны, глядзеў перад сабой невідушчым зрокам. Усе разумелі, што справа не жарты і ўжо калі ўзяліся—трэба выцягнуць. Народ быў тут сур'ёзны.

3

Часці І германскага корпуса рухаліся з Кіева на Рамадан—Палтаву ў паўднёва-заходнім кірунку і ў паўночна-заходнім—на Бахмач—Канатоп, ахапляючы глыбокімі абдымкамі Харкаў і ўвесь паўночны Данбас.

Аператыўны штаб галоўнакамандуючага украінскімі чырвонымі арміямі не мог наладзіць трывалай сувязі з шматлікімі атрадамі, раскіданымі на подступах да Харкава. Атрады дзейнічалі паводле свайго рэволюцыйнага разумення, адступаючы і загруджваючыся ў месцах, якія яны лічылі патрэбным абараняць.

Не існавала больш ні тэлеграфнай, ні тэлефоннай сувязі. Арыентаваліся—дазваньваючыся да бліжэйшай якой-небудзь станцыі і, калі ў трубку брахалі незразумелыя словы,—вызначалі, што станцыя занята немцамі.

Немцы націскалі на Рамадан, і калі абыйшлі яго, чырвоныя, адступаючы, пачалі згруджвацца пад Бахмачам і Канатопам, загароджваючы раён цукровых і парахавых заводаў. Пад Бахмач адыходзілі атрады кіеўскіх рабочых—„арсенальцаў“, атрады Шарава, Рамнёва. У тым самым кірунку рухаўся з Харкава „Першы луганскі соцыялістычны атрад“—камандаваў ім прапаршчык Грышын, камісарам у ім быў Клімент Варашылаў. Ядро складалі гартманаўскія рабочыя,—рэшта—рабочыя іншых заводаў і чыгуначнікі. Яшчэ ў дарозе прышлося вычысціць з атрада да паўсотні бандытаў.

Усе гэтыя групы, калоны і атрады—апрача Луганскага занялі фронт пад Бахмачам—падковай на паўднёвы захад. Немцы, якія цмяна ўяўлялі месцазнаходжанне і сілы рускіх, наткнуліся на іх

нечакана і лакаматыў пярэдняга эшалона паваліўся пад адкос. Па поезду сцебанула свінцом. Немцы высыпалі з вагонаў і, калі падцягнулі сілы,—перайшлі ў наступ, паводле ўсіх правіл сучаснага бою.

Чырвоныя біліся няроўна. Атрад Рамнёва, які разграміў па дарозе канячынскі вінны склад, пад агнём адкаціўся ў стэп, у яры, і пачаў мітынгаваць. Байцы ўзлазілі на калёсы і, раздзьмуваючы голыя шыі, крычалі:

— ... З прычыны таго, што на фронце мы трапілі ў самы беспарадны стан, з прычыны дурнога камандвання, мы, байцы партызанскага атрада імя таварыша Рамнёва, пратэстуем супроць руху на немцаў, таму што з гэтакай тэхнікай вынікі наступу будуць нашай прадсмяротнай агоніяй...

— Галасуйце за пратакол—згруджваючыся ля калёс, аралі гарачыя ад злосці асобы...—Не можам біцца з гэтакай тэхнікай... Кацiся па хатах!

Найбольш стойкімі выявіліся кіеўскія „арсенальцы" і чырвоны атрад партызана Капусты, які пасек цэлы корпус гайдамакаў атамана Пятлюры, якіх немцы кінулі наперад, як буйвалаў на частакол! На роўным полі доўга валяліся і гнілі нікім не прыбраныя гайдамакі ў сініх жупанах і чырвоных, як агонь, шараварах.

Немцы неапісана раз'юшыліся, выявіўшы на правым флангу чырвоных выдатна дысцыплінаваную стойкую часць: гэта быў полк з ар'ергарда чэхаславацкага корпуса (з былых ваеннапалонных) які пасля Брэсцкага міру пачаў адступаць на ўсход у Вялікаросію.

Лютасць немцаў разбілася аб спакойную трываласць чэхаславацкага ар'ергарднага палка. Але нечакана ўначы ён самавольна зняўся з фронту, пагрузіўся ў эшалоны і накіраваўся на злучэнне з сваім корпусам. Праз утварыўшыйся прарыў нямецкая конніца зайшла ў тыл чырвоным часцям, і ім прышлося адкатвацца, пакідаючы немцам і Бахмач і Канатоп.

Луганскі атрад, не ведаючы яшчэ аб гэтых падзеях, падходзіў з усходу. Васемнаццатага сакавіка эшалон луганскага атрада ўварваўся праз закрыты семафор на станцыю Варажба—у адным перагоне ад Канатопа. У Варажбе ўсе шляхі былі забіты платформамі з гарматамі, таварнымі вагонамі, у расчыненых дзвярах якіх, звесіўшы ногі, сядзелі байцы розных атрадаў. Усюды—вогнішчы, гамоняць кучкі людзей, бразгаюць кацялкі, бялеюць зады, прысеўшых пад вагонамі за патрэбай, гучаць крыкі, іржуць коні, трэплюцца па ветру анучы і кашулі.

Варашылаў і Грышын пайшлі на вакзал у камендатуру—далажыць аб прыбыцці атрада і па прамому праваду звязацца з галоўнакамандуючым. Тут згрудзіўся розны стракаты народ у ватавых паліто, даўжынёй да пят, у вясковых кажухах, у акопных шынельках. Баяздольнасць вызначалася лікам навешанай зброі, асабліва—ручнымі гранатамі. На вакзале дзверы выламаныя, на падлозе—упавалку спяць.

У памяшканні каменданта ў махорачным дыме стаялі—асобна

кожны—пахмурныя людзі. Шчокі іх трэсліся ад раз'юшанасці, яны з'явіліся сюды, каб атрымаць што ім трэба, ці на месцы застрэліць сукінага сына, каменданта. Ён, вядома, схаваўся. І яны чакалі яго, баючыся нават зірнуць адзін на аднаго, бо ў вачах ні ў каго з іх не было літасці.

— Пойдзем, знойдзем каменданта,—спакойна сказаў Варашылаў. Ён ведаў вакзальныя парадкі і проста пайшоў у пустую багажную камеру. Там на лаўцы для багажу спаў камендант, укруціўшыся з галавой у кажух. Варашылаў пачаў трэсці яго, пакуль той не высунуў з-за кажуха свінцовы апухлы твар.

— Ну?—сказаў камендант, пазіраючы ці няма ў іх у руках зброі.

— Ты чаго-ж?—спытаў Варашылаў.

— А вам чаго трэба?

— А тое, што я павінен далажыць табе аб прыбыцці атрада.

— Ну, дакладвай.

— Пойдзем у каменданцкую.

— Не пайду. Гэта бескарысна. Я сем дзён не спаў.

І ён зноў палез пад кажух, але Варашылаў скінуў яго ногі з паліцы і выразна праказаў аб прыбыцці луганскага атрада ў пяцьсот штыкоў.

Камендант міргаў. Словы, якія-б страшныя яны не былі, адскоквалі ад яго мазга.

— Ну, прыбылі,—праказаў ён.—Прыбылі—выгружайцеся.

— Патрабуем прапусціць наш эшалон на Канатоп, на фронт.

— Немагчыма. Забіты ўсе шляхі.

— Мы патрабуем злучыць нас па прамому з галоўнакамандуючым.

— Немагчыма, божа-ж ты мой...

— Чаму? Дзе камандуючы? У Канатопе?

— А чорт яго ведае—дзе камандуючы... Правады не працуюць. Наогул, вялікая блытаніна.

— Добра... Тады мы ведаем,—што нам рабіць.

— Рабіць не маеце права,—з млявай пагрозай сказаў камендант, зноў скоса пазіраючы на ручку нагана, якая тырчэла з кабуры ў Варашылава.

Больш тут не было чаго рабіць. Варашылаў і Грышын вярнуліся к эшалону. Грышын ад абурэння сіпеў, як гусак. Былы прапаршчык, сын фельчара, Грышын быў нядрэнным хлапцом, але як камандзір, відаць, ні чорта не быў варты: расставіўшы доўгія, без ікр ногі, ён гаварыў:

— Што-ж нам рабіць, таварыш Варашылаў? Мы проста ў нейкай пастцы. Тут проста нейкая каша з небаяздольных элементаў. Стаяць тут,—нашы рэбяты проста-такі разложацца.

Маленькі падбародак у яго, калі ён гаварыў, хаваўся ў каўняры суконнай кашулі. Камандзір павінен падабрацца байцам і цвёрдай знаходлівай гаворкай, і строгім, а калі трэба вясёлым бляскам вачэй і адвагай і ўсімі паводзінамі. Грышын не піў гарэлкі, не курыў, быў чэсны да прастаты. Але Варашылаў ужо разумеў, што з такім камандзірам многа не наваюеш.

— Пастаў вартавых, каб ніхто з вагонаў не выходзіў пад страхам смерці,—сказаў ён Грышыну.—Прыходзь у маё купэ будзем раіцца.

На нараду Варашылаў паклікаў начальніка разведкі—Чугая, матроса-чорнаморца. Было вырашана перш за ўсё высвятліць абставіны: дзе немцы? І ў адпаведнасці з гэтым займаць фронт, дзейнічаючы самастойна, пакольві сувязь з камандуючым не наладжана.

Чугай папрасіў чарку спірту і па-марскому—касалапа—палез з вагона—выклікаць ахвотнікаў. Грышын павінен быў да атрымання вестак ад разведкі накарміць байцоў і берагчы іх ад разлагаючых чутак. Варашылаву прадстаяла самае цяжкое: дастаць паравоз, платформу і вывезці іх з ахвотнікамі на свабодны шлях.

Спачатку з ім не жадалі гаварыць.

„Ты хто такі?—з пагрозай пыталі атаманы атрадаў.—Адыйдзі ад вагона. Адыйдзі далёка!“

Чугуначнікі адварачваліся: „Нічога мы не ведаем, ніякіх паравозаў, пляцовак няма“.

Настойлівы, вясёлы, у зялёнай бякешы крытай па кажуху—ён бегаў па шляхах, залазіў у вагоны, на паравозы, ведаў ужо, каго як завуць, у каго які характар,—аднаго пераканаў, другога—палохаў, таго—прыстрашыў, трэцяму расказаў пра нямецкую акупацыю ў такіх гарачых словах,—чалавек пачынаў закасвацца.

І вось усё бясформнае скапленне паяздоў і людзей прышло ў некаторы рух: дзе штурхнулі наперад састаў, дзе падаліся назад. Брудны, сіпаты паравоз і дзве платформы былі выведзены на першы шлях. Паставілі гармату, кулямёты, пагрузілі снарады. Семдзесят пяць ахвотнікаў, абвешаныя гранатамі палезлі на платформы. Варашылаў, Чугай і прапагандзіст атрада сталі на паравозе. Поезд вышаў на Канатоп.

На захадзе, куды ішла палоска рэек, зеляneў мірны стэп. З-за яго краю паднімалася,—не магло падняцца, воблака, падобнае да снегавой гары. Шпарка набліжаліся—праскаквалі тэлеграфныя слупы з ападаючымі дратамі і птушкамі на іх.

Паравоз набаўляў хуткасць.

Праплыла чыгуначная будка, бочка на возе, белая каза, якая са страхам пацягнула вяроўку прыкола. Вартаўнік нешта крычаў, спалохана махаў неразгорнутым флагам.

Мурзаты машыніст пракрычаў:

— На перагоне нядобра!..

Чугай сказаў яму ляніва, скрозь зубы:

— Давай, давай пары, што ты—спіш?

Чугай наваліўся бокам на парэнчы пляцоўкі падстаўляў ветру шырокую шыю, налітыя сілай грудзі. Яму заўсёды было горача. Яму здавалася, што ўсё на свеце занадта марудна рухаецца. Вецер біў у яго шырокі нерухомы твар, з закручанымі вусікамі і светлымі, круглымі, як у птаха, вачмі.

Варашылаў, перакрываючы лёскат колаў спытаў: ці не будзе асцеражней выслаць разведчыкаў, не даязджаючы да Канатопа? Чугай, не адвярнуўся—скрывіў губы:

— Не трэба асцеражней... Падыйдзем на поўнай хуткасці. Там разбярэмся...

Высунуўшыся па пояс з пляцоўкі, ён пачаў махаць рэбятам, каб рыхтаваліся. Праляцелі чыгуначную будку на дванаццатай вярсце ад Канатопа. Наперадзе на фоне белага, як снегавая гара, воблака азначыўся паравозны дым. Варашылаў крануў машыніста за плячо.

— Давай ціхі...

Завізгалі тармазы, паравоз дыхаў, засопшыся. Калі пару аднесла,—наперадзе, вярсты за дзве—ясна было відаць германскі бронепоезд—купалы вежаў і бліндзіраваны паравоз.

Далі задні ход, але ўжо было позна. З вежаў выляцелі іржавыя дымкі. Снарады завылі ў сіні. З грукатам пасмы зямлі, дыму, агню ўзняліся перад самым паравозам і—правей—ля платформы. Два грымотных удары страсянулі стэп. З віскам праляцелі асколкі. Варашылава скінула з паравоза на насып. Ён скаціўся пад насып, усхапіўся, абсыпаны зямлёй, аглушаны. Зноў прасіпеў снарад,—удар, засляпіў агонь... Спіна паравоза раскрылася з крыгочучым выбухам, нібы ў роспачы пасылаючы высока ў неба сваю душу ў воблаках пары.

Адначасова другі знарад, другой чаргі ударыў у заднюю платформу. Людзі, якія не паспелі саскочыць, узляцелі разам з трэскамі і грудамі зямлі, і раздзёртыя рэшткі іх цел у шматках адзежы, якая дымілася, былі раскіданы па стэпу.

Ад разведвальнага атрада засталося менш палавіны байцоў; паравоз быў развернуты і асеў на бок; платформы гарэлі, на іх у агні ірваліся бляшанкі з патронамі.

Чугай быў кантужаны—круціўся пад насыпам, стараючыся стаць на ногі. Прапагандыст атрада разгублена страсаў пыл з лацканаў паліто. Байцы,—хто лежучы страляў па немцах, хто ашалела глядзеў, як гарэлі рэшткі поезда.

Прамінула некалькі хвілін ад першага гарматнага стрэла.

Трэба было зараз-жа прымаць рашэнне. (Зноў руды дымок з вежаў бронепоезда). Варашылаў падбег да байцоў.

— Выходзь з лініі агню! Падбяры вінтоўкі!..

Схаваны дымам і пылам выбуха, ён пералез цераз палатно на той бок, крычаў, лаяўся, тыцкаў наганам у ашалелых байцоў,—загадаў падымаць раненых, адступаць:

— Спакойна, хлопцы! Нічога страшнага!

З рэшткамі атрада ён адыйшоў, выносячы на шынелях семярых раненых. Немцы паслалі наўздагон чаргу, але, відаць, пашкадавалі траціць знарады дзеля кучкі людзей. Бронепоезд стаяў на гарызонце, на фоне снегавой хмары, густа дыміў. Зайшоўшы пад прыкрыццё чыгуначнай вышкі, Варашылаў загадаў развінчваць рэйкі. Байцы паклалі раненых на траву. Глядзелі на рэйкі,ківалі галовамі. Чугай імкнуўся нешта праказаць, але толькі перакошваў ссінелыя губы. Ключоў развінчваць рэйкі ні ў кога не было.

— Не гадзіцца,—сказаў Варашылаў.—Трэба схадзіць к поезду. Ключоў было многа.

Прысеўшы на насках, ён шпарка аглядаў твары. Адзін пахмура адвярнуўся, другі засоп, не гледзячы ў вочы...

— Добраахвотна, хто пойдзе?

— Добра. Я збегаю—сказаў Бакун.

Ён быў без шапкі, з абгарэлымі валасамі, у ватавай камізэльцы з зялёнага каленкору.

— Зараз разуюся, Клімент Ефрэмавіч.

Ён прысеў на рэйку і пачаў разматваць аборкі, якімі былі прыкручаны да босых ног гумавыя галёшы.

— Хлопцы, глядзіце,—паберажыце галёшы.

Ён падміргнуў Варашылаву і пайшоў, нібы па гарачаму,—босымі нагамі па жвіру насыпа, спусціўся на траву, і—ух, тут мякка!—запусціў, мільгаючы чорнымі пяткамі.

На станцыі Варажба пачалася паніка: ніхто не чакаў германскага бронепоезда на гэтым перагоне. Лазілі на вадакачку глядзець у сіняватую даль, дзе калыхалася веснавое паветра, і таму, што на гарызонце нічога не было відаць,—яшчэ грозней здавалася небяспека.

Як стэпавы вецер раптам наляціць і закруціць пыл на дарозе, так па ўсёй станцыі закруціліся беспарадачныя мітынгі.

Надрываліся—крычалі камандзіры, пагражаючы наганамі з пляцовак вагонаў. Дымілі паравозы. Торгаліся, грымелі саставы з байцамі на дахах вагонаў. Частка атрадаў адступіла ў эшалонах. Частка выйшла грунтам. К вечару на спусцелай станцыі застаўся адзін луганскі атрад. Камандзір Грышын мужна выканаў загад камісара і ніхто з байцоў не пакінуў эшалона, ніхто з староніх на дзесяць крокаў не падышоў к вагонам.

Грышын не ведаў—ці жыў Варашылаў. На гарызонце кожную хвіліну мог паказацца дым бронепоезда,—трэба было аднаму, без хістанняў, прымаць рашэнне: выгружацца, займаць фронт ці адступаць. Але рашэнне, як заўсёды, у Грышына трапляла ў развіліну супярэчлівых ідэй.

З наганам у левай руцэ, з гранатай у правай, ён крочыў, як сабака на ланцугу, уздоўж вагонаў. Ён вырашыў чакаць раніцы. Сонца заходзіла, павялічваючыся да ненатуральных памераў. Грышын прысеў на вагонную ступеньку. Шырока разлівалася святло зары—аранжавае, зеленаватае, абяцаючае ціхае надвор'е...

„Рызыкаваць сваёю скурай,—калі ласка... Але я-ж адказваю,—жарты!—за пяцьсот байцоў... пры чым жа тут нерашучасць!..“

У шпарка цямнеўшай ліловай вышыні разгараліся зоры. Пачулася цоканне капытоў каня, які спатыкаўся. Грышын люта закрычаў:

— Хто ідзе?

Чалавек саскочыў з каня і, цягнучы яго за повад, падышоў:

— Свае, свае...

З радасці Грышын недарэчна ўзмахнуў рукамі: гэта быў Варашылаў. Ён сказаў, паклаўшы руку на панурую шыю сялянскага незаседланага коніка:

— Пашлі чалавек дваццаць узяць раненых з калёсаў. Байцоў накармі. Рэйкі мы дзе-ні-дзе разабралі. Масточкаў пада-

рваць не здолелі. Пашлі на паравозе каманду,—на пятай вярсце і на чатырнаццатай трэба падарваць масточкі...

— Немцы ў Канатопе?

— Немцаў чакай к раніцы.

— Значыць, як-жа мы, таварыш камісар? З аднаго боку...

— А ты вырашай без аднаго і без другога боку...

У голасе яго была насмешка. Але Грышын так усцешыўся, што камісар жывы,—толькі бязгучна хіхікаў, хаваючы маленькі падбародак у каўнер гімнасцёркі.

— Ну?—ужо з пагрозай спытаў Варашылаў.—Будзеш біцца ці адступаць?

— Бачыш ты, я так разважаю: нашы пад Канатопам разбіты, сувязі няма... Але дзе немцы—невядома. Гэта ўжо дае сітуацыю. Калі мы адступім,—мы не выканаем задання... Значыць, абапіраючыся на невядомыя нам дадзеныя мы павінны ўвайсці ў сутыкненне з праціўнікам...

— Фу, ты!—Варашылаў трасянуў галавой (і пануры канёк матануў галавой).—Дзе ты навучыўся гэтай дыялектыцы? Выгружайся зараз-жа. Давай—мітынг...

— Гэта і маё рашэнне, Варашылаў.

— Правільна.

— Пачакай, ты, напэўна, галодны?

— Жарты сказаць—галодны! Ну, давай, давай—выгружацца.

Грышын, перагнуўшыся з пляцоўкі вагона, трымаў закопчаны кандуктарскі ліхтар. Варашылаў на ніжняй ступеньцы гаварыў байцам, якія згрудзіліся ля вакна.

—... Толькі бандыт і здраднік можа брахаць у такі сур'ёзны час,—нібы нам не ўправіцца з немцамі. Хто гэта крыкнуў?.. Не ўправімся з немцамі? Падымі, камандзір, ліхтар,—хачу пазнаць у твар здрадніка...

Чалавечых твараў не было відаць, у цмянае святло ліхтара траляла ўваліўшаяся шчака, абросшая шчацінай ці гарачыя вочы пад насунутымі брывамі... Рэзкі голас Варашылава разлёгся па шчыльна і блізка насунуўшымся натоўпе байцоў...

—... Рэвалюцыйнай воляй саміх працоўных мы павінны стварыць жалезную дысцыпліну... Камандзір загадаў заняць фронт,—памерці, але ворага не пусціць на Данбас... Гэтая рэч не падлягае абмеркаванню... Падлягае абмеркаванню пытанне,—як нам умацаваць дысцыпліну? у нашых радах няма месца панікёрам і правакатарам... Загадваю—гэтаму, хто крыкнуў, што нам не ўправіцца з немцамі, выходзь к ліхтару!

Ён задзёрыста працягнуў руку. Ліхтар калыхаўся над яго галавой,—па моцнаму твару яго поўзалі цені, увесь ён быў напружаны. На секунду маса байцоў прыціхла. Неахайна раскінуліся зоры над вагонамі, над чорнымі абрысамі выцягнуўшыхся к зорам пірамідальных тапаляў. Як вецер, паляцеў па натоўпу байцоў усё ўзрастаючы гоман. Недзе ззаду—раптам дзікі крык: „Гэта не я!“ І галасы: „Брэша! Бяры яго!..“ Натоўп загудзеў. Пачуліся ўдары. Лямант: „Давай яго, давай!..“ Байцы раздаліся, і скрозь іх натоўп

быў выкінуты к падножцы вагона чалавек у гарадскім паліто. Ён цяжка ткнуўся, стараўся прыпадняцца, паваліўся набок.

Варашылаў вырваў у Грышына ліхтар. Нагнуўся, асвятляючы разбіты ў кроў твар чалавека.

— Зразумела,—сказаў ён.—Гэтага малайца я яшчэ раніцай заўважыў на вакзале.

І ён шпарка ліхтаром затуліў яго ад байцоў, якія прысунуліся для расправы. Чалавека паднялі. Ён круціў галавой, валіўся, не хацеў стаяць. Некалькі рук залезла да яго ў кішэні, выцягнула дакументы, нахіліліся к ліхтару, прачыталі, збянтэжыліся: чалавек гэта быў рабочым кіеўскага дэпо з атрада Рамнёва. Сморгаючы носам, са слязмі ён паўтараў:

— Дарэмна мяне забілі, рэбяты... Ах, дарэмна...

Па тварах байцоў было відаць, што дарэмна пагарачыліся, ужо нехта нядобра пакасіўся на камісара. Рассоўваючы лакцямі байцоў, к чалавеку прысунуўся Бакун. Угледзеўся, паклаў аграмадную руку на плячо яму.

— Рэбяты, а я-ж яго ведаю. Яго прозвішча іншае.—Бакун раптам узлаваўся, закрычаў чыгунным голасам:—Ці не ты гэта ўзімку крычаў за Устаноўчы? Жаба!

Яшчэ да світання луганскі атрад вёрст за пяць ад станцыі заняў пазіцыю—паабапал палатна. Варашылаў застаўся ў Варажбе, каб вярнуць і арганізаваць хаця-б частку атрадаў, якія надоечы адступілі.

Раніца была бязвоблачная, бязветраная. Горача пялі жаўранкі над свежа-зялёнымі палямі. Байцы, паклаўшы вінтоўкі на ўзгорачкі, падстаўлялі сонцу спіны,—іншы зняўшы кашулю, з прыемнасцю паводзіў лапаткамі, пачухваўся. Грышын стаяў, як жэрдка на даху чыгуначнай будкі, аглядаючы ў бінокль гарызонт. Правей чыгуначнага палатна, на ўзгорку ледзь прыкметныя, паўзлі коннікі—Чугай з разведкай.

— Разлагаючая абстаноўка,—прабурчэў Грышын, апускаючы бінокль.—Сволач гэтыя жаўранкі...

Сапраўды цяжка было прыдумаць больш непадыходзячую абстаноўку для таго, каб забіваць і паміраць у такую слаўную раніцу. Тут бы ісці за плугам, падганяючы сівых як срэбра, слінявых валоў. Тут бы на парозе мазанай хаты папрасіць гладыш малака ў крамянагрудай дзяўчыны з вясёлымі вачамі, пад спеў жаўранкаў піць гэтае малако, пазіраючы скаса на дзявочыя шчокі, засмужаныя вясновым хараством...

— Слухай, заўхоз,—сярдзіта крыкнуў Грышын з даху,—гатуй байцам абед. Што ў цябе сёння?

— Кулеш,—адказаў заўхоз, драпаючы трэсачкай пуза схудзеламу шчаняці.

За ўзгоркамі, не з таго боку, куды ўвесь час глядзеў камандзір,—а з паўночнага захаду, салідна застукаў кулямёт. Грышын нават прысеў, бінокль заскакаў у яго ў руцэ. Злева, таксама за ўзгоркамі, застукаў другі кулямёт. Па стэпу пакаціўся гарматны ўдар.

Грышын з'ехаў з даху, і, прытрымліваючы палявую сумку, пабег к перадавым акопам.

За хвіліну перад тым, як застукалі кулямёты, баец Іван Прахвацілаў палаяўся з байцом Мікалаем Чабрацом. У наспех вырытых акопах было цесна,—байцы Мацвей Салох, абодва Крываносы і Мікалай ляжалі тут-жа на зямлі,—хто грыз горкі сцеблік, хто, прыкрыўшы далонямі патыліцу, драмаў—носам у палын. Іван Прахвацілаў у раздзёртай на грудзях кашулі, сядзеў, падагнуўшы па-татарску босыя ногі. Круглы казачы твар яго з маленькім ротам, быў злы, кплівы.

— Ты мяне з сабой не раўняй, хахол,—выразна гаварыў Прахвацілаў і пакатыя, моцныя плечы яго хадзілі пад кашуляй.— Мы роўныя ў цаху. А на Дану мы не раўня...

— Дурань ты,—адказваў Мікалай Чабрэц, грызучы травіцу.— Што ты казак—у цябе кроў ці што гарачэй?

— Маёй крыві табе не прабаваць... Яе нямецкая шабля прабавала... А тваю кроў хто піў бесплатна? Іван Нягодзін тваю кроў піў, хахол...

Мікола адказваў сумысле,—ленавацей чаго ўжо нельга:

— Ты—фанабэрысты... Усе вы казакі былі пахабнікамі і злодзеямі, пахабнікамі і злодзеямі засталіся на адвечны амінь...

Іван Прахвацілаў не адразу адказаў,—маленькі рот яго прыадкрыўся, белыя, моцныя зубы сцяты, з усмешкай пільна глядзеў на Мікалая, пальцы загарэлай нагі ўпіліся ў гарачую зямлю.

— Шкадуй, шкадуй, дарма ты пакрыўдзіў мяне, Мікалай...

Тады стары рабочы, Мацвей Салох, бачучы, што, мусіць, не мінуць бойкі, салідна кашлянуўшы, сказаў разумна:

— Досыць вам гарачыцца, хлопцы. Чаго не падзялілі? Абодвы вы—рабочыя, абодвы мыецеся крывёю за савецкую ўладу. Давай пакурым.

Спрэчка ў іх пайшла з-за дзеўкі Агрыпіны—сястры Мікалая Чабраца. Абодвы былі са станіцы Ніжнячырскай.—Іван—казак, Мікалай—іншагародні. Абодвы галадавалі. Абодвы пашлі на завод. Іван пачаў лаяць Мікалая за тое, што яго сястра працуе батрачкай у багатага казака Іоны Нягодзіна, усяму Дону вядомага распусніка і азарніка.

„Ды я маю сястру, Анютку, лепш-бы сваімі рукамі ўдушыў, чым аддаць на такую ганьбу... Эх вы хахлы—адно слова...“

Мікалай пакрыўдзіўся—адказаў, што ў іншагародняй дзеўкі і ў казачкі адно ўстройства і прахвацілаўскай Анютцы не будзе чаго есці,—у тыя-самыя вароты пабяжыць па кавалак хлеба. Так слова за словам, запамятаўшы ўжо аб дзеўках, пачалі лічыцца. У Івана загаварыла казацкая кроў, у Мікалая—мужыцкая ўпартасць.

— Кулакі паабіваеце, пакуль усе спрэчкі вырашыце,—яшчэ больш уразумліва сказаў Мацвей Салох, дастаючы з штаноў капшук з махоркай.—А трэба хлопцы вырашыць галоўную спрэчку—за савецкую ўладу.

У гэты час і застукалі кулямёты. Іван Прахвацілаў, нібы яго апякло, схапіў вінтоўку, выскаліўся, шукаў, бегаючы зрэнкамі,

яшчэ нябачнага ворага. Байцы павалiлiся ў акопы. Iржавымi дымкамi бязладных стрэлаў закурылася перадавая лiнiя.

Камандзiр Грышын, падбягаючы, нешта крычаў. З боку Варажбы бацнула адзiная гармата атрада, якая там засталася. Знарад свiснуў над галовамi. Грышын спынiўся, задзёршы локцi—вадзiў бiноклем па гарызонту. Кулямёты стукалi ўсё настойлiвей, пагрозлiвей, нiбы падпаўзаючы,—справа i злева... Атрымоўвалася зусiм не так, як меркаваў Грышын: немцы, не выяўляючы сябе, змяталi агнём рэдкiя ланцугi чырвоных. Завыў i лёг недалёка цяжкi знарад—iрвануў, здавалася, сто тон зямлi, павалiў яе на акопы. Грышын прадаўжаў тырчэць на полi, рассунуўшы ногi, паказваючы прыклад мужнасцi: больш ён нiчым не мог дапамагчы. Увесь стэп ухаў, стукаў, сатрасаўся. Наперадзе за курганамi паднялiся жалезныя шлемы, паказалiся нямецкiя ланцугi.

З акопаў, нагiнаючыся, пабеглi двое. Грышын закрычаў: „Назад!“ Байцы леглi. Яшчэ i яшчэ—вiхурыць зямля, свiшчуць асколкi... Мiма Грышына прабеглi трое. Гэта было адступленне. Ён кiнуўся да iх: „Назад! Ганьба!“ Поўз чалавек, з адарванага рукава тырчэла ружовая костка... Грышын падбег да акопаў: „Таварышы, трымайцеся...“ Прахвацiлаў валок, ухапiўшы пад пахi Мiкалая Чабраца... „Не бачыш, чорт!—задыхаючыся крыкнуў ён,—абыходзяць... Кавалерыя!..“

З паўночных узгоркаў спускалiся коннiкi,—германскiя драгуны лiкам не менш эскадрона, на рысях заходзiлi з правага флангу ў тыл.

На калматым конiку Варашылаў урэзаўся ў натоўп. З вачамi круглымi ад напружання, без шапкi, страшны,—хапаў зверху за плечы байцоў, штурхаў iх канём, крычаў—круцiў наганам:

— Стой! Такiя—гэткiя! Назад! Бакун! Салох! Прахвацiлаў! Крыванос!

Круцiўся, як чорт, сярод байцоў,—круглыя вочы... рот крычыць... матаецца конская грыва... чэпкая рука рве кашулю... выскаленая конская морда... рэвальвер проста ў вочы... Лаяўся, хапаў, штурхаў...

— Стой! Заб'ю! Наперад... За мной!..

Яго сабраная воля ўварвалася ў натоўп суровых, мужных, але разгубленых людзей. Ён сканцэнтраваў на сабе ўвагу, у момант зрабiўся больш моцным фокусам, чым тое, ад чаго байцы пабеглi... Ён абрастаў людзямi—энергiчны, моцны, верхам на конiку, якi хроп, кусаўся.

Аграмадны Бакун апамятаўся першы—павярнуўся ў бок немцаў, увагнаў абойму ў вiнтоўку... Наўкол Варашылава, яго калматага конiка збiлася некалькi дзесяткаў байцоў, i ён загадаў iм зрабiць тое адзiнае, што было патрэбна: залегчы ланцугом i страляць па драгунах...

Нахiлiўшыся к грывам, немцы—усяго з поўвярсты—ускач заходзiлi ў тыл, было ясна вiдаць, як зiхацелi iх роўныя палашы.

Варашылаў паскакаў далей, збiраючы тых, што беглi,—цяпер iх ужо было лягчэй вярнуць к ланцугу, якi залёгшы страляў... Байцы падбягаючы к тым, што ляжалi, стралялi. Было вiдаць, як

адзін з драгунаў пачаў завальвацца і конь шарахнуўся, павалок яго за стрэмя.

Цяпер амаль увесь атрад рассыпаўся, залёг і бегла біў па драгунах. Коннікі валіліся. Пярэднія пачалі паварачваць, хвастаючы палашамі па конскіх задах, уцякалі за ўзгоркі.

Драгуны былі адкінуты. Варашылаў паслаў частку атрада, з двума кулямётамі на паўночныя ўзгоркі—прыкрыць фланг ад новай спробы абыходу і з усёй рэштай—каля трохсот байцоў—пайшоў насустрач нямецкім ланцугам.

Ён загадаў Бакуну разгарнуць чырвоны сцяг і несці наперадзе побач з сабой.

Ён падабраў вінтоўку і йшоў, амаль бег, не нагінаючыся пад кулямі, якія свісталі наўкол.

Байцы пачалі забягаць наперад яго. Атрад распаліўся і бегам ішоў на немцаў, агалошваючы стэп шалёнай лаянкай. Многія валіліся, упускаючы перад сабой вінтоўку. Немцы не чакалі такога націску,—агонь іх рабіўся ўсё больш спешным, усё больш нервовым.

„Ура!“ закрычаў Варашылаў, выбягаючы наперад. „Ура“—зароў Бакун размахваючы сцягам. „Ура... Ура!..“ Прахвацілаў, абодвы Крываносы, Салох,—з вылупленымі вачамі, раздзіраючы крыкам горла,—заскочылі наперад, кідалі гранаты...

Немцы не прынялі штыкавога бою—падняліся, адстрэльваліся, адыходзілі... пабеглі...

— З такім камандзірам загінем, як бараны... Дарэмна, таварышы, льецца дарагая кроў... Дарэмна заплачуць нашы сем'і.

— Правільна... Скідывай Грышына... Не хочам Грышына,—загулі галасы...

У цёмным стэпу, акапаўшыся пасля доўгага праследвання немцаў, байцы сабраліся ў кола пад зорамі. Байцы развавжалі, што ў такой небяспечнай справе патрэбны разумны, знаходлівы і адважны камандзір. Злосці на Грышына не было,—хай сабе бярэ гаспадарку замест забітага сёння заўхоза. Але камандзірам яго не хацелі. Камандзірам аднагалосна пастанавілі абраць Варашылава.

За ім пайшоў Бакун і прывёў яго ў кола. Варашылаў падзякаваў байцам за давер'е і—адмовіўся...

— Не прымаем. Хочам цябе камандзірам,—загаманілі байцы. Пачакаўшы, калі адгарланяць, Варашылаў сказаў:

— Добрая ў нас будзе дысцыпліна, калі ў баявой абстаноўцы пачнем на мітынгах скідываць камандзіраў... Грышын наш начальнік, у яго руках наш лёс. Калі-б я на яго месцы быў, дарагія таварышы,—усіх, хто зараз крычыць,—бязлітасна аддаў бы пад ваенны суд.

Ён сказаў гэта рэзка і абарваў прамову. Зрабілася так ціха, было чутно, як рыпіць драч, недалёка ў вільготнай лагчыне.

У кола праціснуўся Грышын. Заікаючыся ад хвалявання, загаварыў голасам, які зрываўся:

— Я ваш камандзір... Патрабую падпарадкавацца... З прычыны

выключных абставін, дазваляю гэты мітынг... З прычыны важнасці агульнай справы... Сваёю ўладаю здымаю з сябе абавязкі камандзіра... Раблюся радавым байцом... Галасую за таварыша Варашылава... І патрабую, так сказаць, каб ён падпарадкаваўся агульнаму рашэнню.

4

Агрыпіна несла мокры брэдзень і вядро з акунямі. Ззаду стукаў падкутымі ботамі Іона Нягодзін. Падняўшы чорную бараду, з-пад казырка казачай фуражкі з нездавальненнем пазіраў на голыя агрыпініны ногі, па якіх хвастаў мокры падол, на яе роўную моцную спіну. Ішлі па беразе Чыра—прыгожай рэчкі, якая недалёка ўлівалася ў светлы Дон, схаваны за густымі хмызнякамі.

Ці гады Іоны былі ўжо не тыя, ці часы былі не тыя,—такой непадатлівай, злоснай дзеўкі яму зроду не пападалася. Бывала, якіх аб'язджаў стэпавых кабыл! Бывала, жартуючы, у разводдзе пераплываў Дон, калі, абманіўшы соннага мужа, маладая казачка чакала яго ўначы, стаіўшыся ля скірты саломы.

Раз увечары Агрыпіна цягнула ахапак сена. Іона схапіў яе за моцныя бакі: адвярнулася рэзка,—у яго разляцеліся рукі, сказала:

— Кінь, не люблю гэтага.

— Но, но, цішэй,—жанчына...

— У апошні раз—кінь...

І пільна зірнула з-пад цёмных брывоў... (Золата-б не пашкадаваў такой).

— Скардзіцца не пабягу, а нажу ў табе быць. Злаўчуся, памятай, Іона Ларывонавіч.

Ён закрычаў, затупаў ботамі на яе. Матанула падолам, пайшла ў стайню. Даўно-б выгнаць такую сцерву, а ўсё-ткі трымаў яе.

На тым беразе Чыра бялелі гусі, ляжалі чырвоныя валы з белымі мордамі, з доўгімі рагамі. На гэтым беразе, ля самай сцежкі, па якой ішлі Агрыпіна і за ёй Іона, сядзела хворая Мар'я.

Яе меншанькі гуляў унізе на пяску з дзецьмі, большанькі, па калена ў яшчэ сцюдзенай веснавой вадзе, разам з голымі хлапчукамі лавіў рэшатам малькоў. Ціхі і светлы быў дзень над Чырам, над заліўнымі лугамі.

Іона праходзячы міма Мар'і, раптам спыніўся:

— Піцерская... Чаму твае дзеці з казацкімі дзецьмі гуляюць?

Мар'я ўзняла бледны твар, спалохана спытала:

— А чаго-ж ім не гуляць?

— Чаго! Чаго!...—перадражніў Іона і паказваючы на сабачку, што сядзеў на пяску:—Будуць твае дзеці смактаць малако ў гэтай сучкі...

І ён пайшоў, стукаючы падковамі. Мар'я нічога не зразумела, заміргала яму ўслед. Агрыпіна, відаць, добра зразумела, але прамаўчала, толькі ціха сказала Мар'і:

— Зайду ўвечары...

Па драўляным мосце цераз Чыр крокам ехаў здаровы казак на нізенькім коніку. Іона Нягодзін, запусціўшы кіпці ў бараду, ча-

каў, калі казак пераедзе мост. Конік нялёгка нес яго сяміпудовае цела: і ростам і ў плячах ён быў мацней за Іону, мусіць, што ўдвая,—з круглым тварам, круглай галавой, якая проста пераходзіла ў магутную шыю. На ім быў расшпілены кажух, дрэнныя боты, старая фуражка з зашмальцаваным да чорнага чырвоным аколышам.

— Здароў, Іона Ларыонавіч,—густа сказаў ён, не злазячы з каня,—толькі трасянуў фуражкай і падміргнуў на вядро ў руцэ Агрыпіны:—Ну як—улоў?

— Здароў, Анікей Барысавіч,—адказаў Іона і зноў бліснуў зубамі.—Ды што—улоў. Дробны акунёк. Што цяпер добрае...

— Дрэнна, я бачу, казакі, жывяцё на Ніжнім Чыру,—сказаў Анікей Барысавіч, нагнаўшы на вочы вясёлыя зморшчкі.—Расказвай бабцы казёл, які ў казы хвост падцяты...

Іона адвёў вочы, чакаў, каб Анікей Барысавіч ад'ехаў. Але той стаяў і таксама з усмешкаў глядзеў зверху на Іону. Яшчэ ў царскія часы самы быў скандальны, небяспечны казачок,—а зараз пахаваў казачы гонар: зрабіўся членам станічнага совета ў Пяціізбянскай станіцы на высокім беразе Дона.

— А ў коніку тваім, мусіць, двух вяршкоў не хапае, не па казаку конь,—сказаў Іона.

— Што-ж, Іона Ларыонавіч, па беднасці на нізенькім ездзім, у пазалеташнім годзе за гэтага коніка акружны атаман мне кіпцямі твар ірваў... За совецкай уладай нічога—езджу.

— На ім толькі цяпер і ездзіць...

— Не ў вяршках сіла, і на ім паваюем.

— З кім ваяваць збіраецеся пяціізбянскія казакі?

— З ворагамі совецкай улады.

Іона пачаў цяміць, што Анікей заводзіць небяспечную гутарку. Для гэтага зразумела і прыехаў сюды ў Ніжнячырскую (дзе ад даўніх часоў быў акружны цэнтр і раней сядзеў атаман, а зараз на месцы атамана—рэўком).

— Ворагаў тут у нас нібыта і няма.

— У добры час,—ужо сурова адказаў Анікей Барысавіч.— А мы нешта чулі.

— Ага!—Іона зусім насцярожыўся.—Пра што-ж вы чулі?

— Пазаўчора нібы-та на тваім двары Гаўрушка Папоў, п'яны, крычаў словы...

— Гаўрушка—дурань вядомы...

— Вось тое-ж і ёсць, што дурань... Крычаў: „Пачакайце такія гэтакія, на дваццатае ў ноч—засядлаем коней,—ці гэтая рэч здарыцца, ці нам к немцам выхадзіць!..“

— Не ведаю, пра якую рэч крычаў Гаўрушка.

— Не ведаеш?

Іона зноў адвёў вочы ад раскрытых бліскучых вачэй Анікея Барысавіча.

— Ну, не ведаеш—самі даведаемся...

Анікей Барысавіч штурхнуў абцасамі коніка і, рыссю ўз'ехаўшы на адхоністы ўзгорак, знік на станічнай вуліцы з двухпавярховымі белымі цаглянымі крамамі, белай царквою на пыльнай плошчы.

Толькі цяпер Іона заўважыў, што Агрыпіна, трымаючы брэдзень і падсачак на плячы, слухала ўсю іх гутарку. Ён закрычаў шалёна:

— Вочы разявіла, сука! Па дварах сакатаць, плёткі разносіць! Я табе ўжо прыгну пяткі да патыліцы. Пайшла дамоў!

Сцяпан Гара (такі самы даўгі, худы, насаты, як і брат Іван, але крыху спакайней за яго), Мар'я і яе дзеці вячэралі прыцемкам. Святла не запальвалі, не было газы. Багатыя казакі прывозілі газу з Царыцына,—там усяго можна было дастаць у спекулянтаў, якія панаязджалі з Масквы. У станіцах пра газу забыліся. За звычайную іголку давалі курыцу, а то і парася.

— У нас на поўначы,—загаварыла Мар'я,—у вёсках пачалі лучынку паліць.

Сцяпан Гара здзівіўся, кіўнуў галавой. Ён думаў марудна і гаварыў марудна. Спяшацца няма куды. Сцяпан трэці год быў удовы. А цяпер было не нудна прыходзіць прыцемкам да дому: хата падмецена, стол да вячэры накрыты, за сталом сядзіць, чакае прыемная ціхая жанчына і спакойныя хлопчыкі... Хлеба на чацвярых хопіць.

Сцяпан сёрбаў з эмаліраванай талеркі, кожны раз клаў лыжку і доўга жаваў. Алёшка рабіў усё, як Сцяпан і вучыў брата, штурхаючы яго каленкам, таксама класці лыжку і доўга жаваць.

— Заходзіла ў совет, абяцалі даць работу па школьным сектары,—сказала Мар'я.—Але абяцалі няпэўна... Там адзін такі сярдзіты...

— Чаго спяшацца. Час прыдзе—сваё адробіш.—Сцяпан узяў сушонага судака і аддзіраў мяса ад косткі. Кавалак даў Алёшку, кавалак даў Мішку.— А хто, кажаш, там сярдзіты гэта?

— Сакратар, ці што, Папоў.

— Ага... Гаўрушкі—азарніка бацька. Там чысцей за яго ў совеце сядзяць: дзяк Грамячаў, Гур'еў, ды Пашка Палухін. Людзі вядомыя... Яшчэ нешта будзе.

У Мар'і ўздрыганулі губы, але стрымалася. Алёшка сіплым шэптам брату:

— Падавіся, падавіся, абрыдлы... Не смакчы, ты яго грызі...

Ляснула фортка. Сцяпан павольна павярнуў голаў да дзвярэй. Увайшла Агрыпіна. Пакланілася—нізка нахіліўшы адну галаву,— села воддаль на лаўцы.

— Сядай з намі,—сказаў Сцяпан.

— Вячэрала.

Сцяпан насцярожана паглядзеў на яе. Скончылі вячэраць. Мар'я прыбрала са стала. Ён, прыўстаўшы, пацягнуўся да бажніцы, дзе на трыкутнай палічцы стаяла бутэлька з-пад газы, лямпа без шкла,—дастаў з-за чорнага абразка абрывак газеты, прымераўся, адарваў вузкі шматок, высыпаў з капшука крошкі табакі, скруціў, закурыў і, закашляўшыся, сказаў Агрыпіне:

— З чым прышла?

Яна напоўголаса пачала шпарка гаварыць:

— Анікей Барысавіч тут быў і ён выехаў назад, яшчэ як было відна, другой дарогай,—гэта бачылі Пашка Палухін і Гур'еў, і яны крычалі ў Іоны на двары:—„Усё адно Анікею нас не мінуць!..“ З імі быў Гаўрушка Папоў і ён засядлаў каня і запусціў у станіцу Сувораўскую...

— Значыць—к Мамантаву...

— Так... Мамантаў зараз у Сувораўскай, прыехаў з нізу... Я была на сенавале, усё чула,—у іх і дзень умоўлены...

Сцяпан зноў пакашляў, каб не выказаць трывогі.

— Які дзень?

— Дваццатага ўночы будуць сядлаць коней.

Агрыпіна сядзела нерухома, трымаючыся за лаўку. У прыцемку цямнелі яе шырокія вочы, чорныя высокія бровы на прыгожым абліччы.

— Мар'ю з дзецьмі ты, можа, на хутар пашлеш, Сцяпан?

— Так,—сказаў Сцяпан,—гэтага трэба было чакаць... Не, Мар'я хай тут застанецца... Не з дзецьмі, не з бабамі яны збіраюцца гэтыя справы рабіць.

## Раздзел пяты

### 1

Іван Гара з дэлегатамі ад петраградскіх заводаў сядзеў за даўгім сталом у прыстойным і ціхім кабінеце Совета народных камісараў. За вакном—стая маскоўскіх галак, занепакоеная ўсё больш мізэрным харчам, круцілася над зубцамі крэмлёўскіх сцен. Прыстойная ціша габінета, чвэрткі паперы на вішнёвым сукне, крэслы ў чахлах, павольнае ціканне сцяннога гадзінніка—усё гэта спадабалася дэлегатам,—тут совецкая ўлада сядзела моцна.

Увайшоў Владзімір Ільіч, усё ў тым самым паношаным пінжачку, свой, просты. Увайшоў з бакавой дзверцы і зараз-жа прычыніў яе за сабой, павярнуў ключ.

Коратка прывітаўся. Усе ўсталі.

— Сядайце, сядайце, таварышы!—Ён сеў у канцы стала на дубовы стул са спінкай—вышэй яго галавы. Спрытна агледзеў худыя, у зморшчках, суровыя твары рабочых, і па вачах яго, жаўтаватых і чыстых, з маленькімі, як прасянка, зрэнкамі, можна было заўважыць, што зрабіў адпаведныя вывады.

Заўважыўшы Івана Гару, прыпадняў брыво. Іван Гара ўсміхнуўся вялікім ротам ад вуха да вуха.

Владзімір Ільіч выцягнуў з партфеля, які ляжаў на каленях, спісаны аркушык, паклаў яго перад сабой і зноў узняў галаву. Твар у яго быў пахудзелы, як пасля хваробы.

Дэлегаты моўчкі пазіралі на яго, іншыя выцягвалі шыі з-за пляча таварыша. Многія бачылі Леніна так блізка ў першы раз. Яны прыехалі да яго ў Крэмль з прычыны крайняй патрэбы: Петраград паміраў з голаду. Вёска цяпер і за грошы не давала хлеба. Голад усё тужэй зацягваў пояс на пролетарскім жываце.

— Расказвайце. Будзем думаць—якое знайсці выйсце,—сказаў Владзімір Ільіч, і зноў узняў брыво, зірнуўшы на Івана Гару.— На свеце не бывае „нічога немагчымага“.

Іван ахнуў: „Памятае!“ Збянтэжыўся і таму, што не мог глядзець на Владзіміра Ільіча, не ўсміхацца ад вуха да вуха, пазіраючы на яго,—пачырванеў густа.

Дэпутат, які сядзеў побач з Леніным, стары, у жалезных акулярах, паклаўшы азызлыя рукі на аркуш паперы, пачаў:

— Дрэнна, Владзімір Ільіч. Галадуем. Трымаемся, мацуемся, пролетарскую свабоду не прададзім. Але трывожымся: да ўраджаю чакаць тры месяцы, а есці няма чаго, дзеткі ў вясну пачалі паміраць. Шкада, Владзімір Ільіч. У жанчын хістаецца ўяўленне. Ежу толькі ў сне бачым.

Другі дэпутат шырокаплечы наўгародзец, пахмуры і прыгожы з чорнымі кудрамі, якія падалі на лоб, сказаў, не гледзячы ні на каго:

— Два тыдні петраградскія раёны могуць пратрымацца пры ўмове васьмушкі. Праз два тыдні пачнем паміраць. На заводах, дзе палова, а дзе і больш рабочых ваеннага часу—пайшло. Мы аб іх, бадай што, і не шкадуем. Засталося пролетарскае ядро. Але яго трэба карміць...

Іншыя дэпутаты, не спяшаючы, расказвалі падрабязнасці пра навалу голаду, пра тое, як прыходзіцца прымушаць прыватнікаў пячы хлеб з прыпёкам у сто процантаў: „Атрымліваецца такі вадкі хлеб, Владзімір Ільіч, жменямі яго чэрпаем, і гэтай дрэні выдаем толькі па васьмушцы...“

Расказвалі пра непарадкі ў харчовых управах, дзе усюды напаткаеш патаемных арганізатараў голаду. На заводах, то тут, то там выбухае незадаваленне і выяўляюцца шаптуны; аднаго выявіш, на месцы яго—два. Прадатрады пасылаюцца неарганізавана, часта ў іх пападаюць тыя самыя шаптуны, прывозяць мяхі для сябе, а на сходах, даючы справаздачу, плачуць, што нічога моў не маглі здабыць...

— К прыкладу, Владзімір Ільіч,—адкашляўся і прабасіў Іван Гара.—У нас на заводзе сакратара партыйнага калектыва таварыша Ефімава крыху не забілі, ледзьве адбаранілі... Раптам у ліцейным цэху—мітынг. У чым справа? Шум, крыкі: „У Ефімава на кватэры—мука і цукар“. І так крычаць, так распаліліся,—немагчыма не верыць... Я бачу—справа дрэнь,—к тэлефону. Ефімаў—якраз дома. Я яму ціха, каб рэбяты не чулі: „Выходзь“. Ён перапытвае. Я—у другі раз: „Выходзь“.

Ён смяецца:

— Ды куды выходзіць?

Я яму кажу: „Выходзь“.

— Ды хто гэта гаворыць?

— Іван Гара,—кажу.—Завод да цябе ідзе.

Ён зразумеў у чым справа—адказвае:

— Чаго-ж ім турбавацца. Я сам да іх прыду.

Прыходзіць у ліцейную. Уваходзіць смела, глядзіць—агнём паліць. Пасля гэта мне расказваў: „Галаву гэта я высока трымаў,

а ў самаго кроў у жылах акамянела". Рэбяты ўбачылі яго—равуць: „Спекулянт! Сметанкавае масла жрэш!" Ірвуцца да яго,—вось, вось,—заб'юць. Ён стаіць, падняў руку, чакае, калі адгарланяць:

— Ну?—кажа спакойна.—Чаго гэта крычыце. Вось ключ —І незадаволена кідае ключ ад сваёй кватэры.—Ідзіце, абшукайце. Знойдзеце хоць кавалак хлеба—тады мне смерць. Ідзіце, я пачакаю.

Чалавек дваццаць пабегла. Ён стаіць, закурыў.

Варочаюцца нашы рэбяты, галовы павесілі—самім сорамна ў вочы яму зірнуць.—„Вось, знайшлі",—кажуць—і паказваюць цвілую скарыначку...

Ён тут адразу і павесялеў:

„Значыць, пераканаліся,—мукі, цукру ў мяне няма... Цяпер давайце ў гарладзёраў пашукаем..." І паказвае на Ваську Васільева, які дні за два да таго вярнуўся з харчатрадам і слёзы ліў. Мы—да Ваські: „Вядзі, паказвай".

— І знайшлі ў яго?—шпарка спытаў Ленін.

— А як-жа... Мука і сала і ў кухні каза прывязана. Харчы і казу прывалаклі на мітынг. Рэбяты раз'юшыліся. Каза, ім, галоўнае, не спадабалася. „Гэта,—крычаць,—сусветная ганьба!"

— Так, так, так,—паўтарыў Ленін ужо не слухаючы апавядання.—Дык вось, таварышы. Цяпер дазвольце мне ўзяць слова.

— Просім,—сказалі дэпутаты...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— ... Скаргамі справе не дапаможаш... Становішча краіны дайшло да апошняга рубяжу... У краіне голад. Голад стукаецца ў дзверы да рабочых, у дзверы да беднаты...

Ленін пачаў гаварыць ціха, глухаватым голасам, нават нібы няўважліва...

Грудзямі ён прыхінуўся к сталу, рукамі прытрымліваў партфель на каленях. Дэпутаты не варушыліся, глядзелі яму ў пахудзелы, жоўты твар. Не спяшаючы стукнуў сценны гадзіннік...

— ... Усе гэтыя спробы здабыць хлеб толькі сабе, свайму заводу, павялічваюць дэзарганізацыю. Гэта нікуды не варта... А між тым у краіне хлеб ёсць...—Ён прабег вачамі лічбы на аркушыку, які ляжаў перад ім.—Хлеба хопіць на ўсіх. Голад у нас не таму, што няма хлеба, а таму, што буржуазія дае нам апошні рашучы бой... Буржуазія, вясковыя заможнікі, кулакі зрываюць хлебную манаполію, цвёрдыя цэны на хлеб. Яны падтрымліваюць усё, што губіць уладу рабочых...—Ён узняў голаў і сказаў жорстка:—Губіць уладу рабочых, якія дамагаюцца ажыццявіць першы, асноўны, карэнны прынцып соцыялізма: „Хто не працуе, той не есць..."

Ён памаўчаў—і зноў.

— ... Дзевяць дзесятых насельніцтва Расіі згодны з гэтай ісцінай. У ёй аснова соцыялізма, невычарпаемая крыніца яго сілы, незнішчаемы залог яго канчатковай перамогі.

Ён адсунуў крэсла, паклаў партфель і прадаўжаў гаварыць, ужо стоячы, толькі час-ад-часу, робячы некалькі крокаў ля стала:

— На днях я дазволю сабе звярнуцца з лістом да вас, піцерскія таварышы... Піцер—не Расія,—піцерскія рабочыя—малая

частка рабочых Расіі. Але яны—адзін з лепшых, перадавых, найбольш свядомых, найбольш рэволюцыйных, найбольш трывалых атрадаў рабочага класа... Якраз цяпер, калі наша рэволюцыя шчыльна падыйшла практычна да задач ажыццяўлення соцыялізма, якраз цяпер на пытанне аб галоўным—аб хлебе—ясней яснага бачым неабходнасць жалезнай рэволюцыйнай улады—дыктатуры пролетарыята...

Ён падмацаваў гэта жэстам—працягнуў да тых, што сядзелі ля стала, руку, сціснуў кулак, нібы напінаючы лейцы рэволюцыі...

— ... Хто не працуе, той не есць,—як ажыццявіць гэта? Ясна, як божы дзень,—патрэбна, па-першае, дзяржаўная манаполія... Па-другое—самы строгі ўлік усіх лішкаў хлеба і правільны іх падвоз... Па-трэцяе—правільнае, справядлівае, якое не дае ніякіх прывілегій багатаму, размеркаванне хлеба паміж грамадзянамі—пад кантролем пролетарскай дзяржавы.

Ён з намаганнем пачаў быў адчыняць замочак партфеля, які захлопнуўся. Прыжмурыўся, зірнуў на гадзіннік..

— Цудоўна... Вы кажаце: на Пуцілаўскім заводзе было сорак тысяч. Але з іх большасць—„часовыя" рабочыя, не пролетарыі, ненадзейныя, друзлыя людзі... Цяпер засталося пятнаццаць тысяч. Але гэта пролетарыі, апрабаваныя і загартаваныя ў барацьбе...

Вось гэты самы авангард рэволюцыі і ў Піцеры і ва ўсёй краіне павінен кінуць заклік, павінен узняцца масай. Павінен зразумець, што ў яго руках выратаванне краіны... Трэба арганізаваць вялікі „крыжовы паход" супроць спекулянтаў хлебам, кулакоў, міраедаў, дэзарганізатараў, хабарнікаў.

Дэпутаты ўжо не сядзелі ля стала. Рухам рукі ён іх падняў, і яны абкружылі Владзіміра Ільіча,—ківаючы, паддакваючы, уздыхаючы ад паўнаты адчуванняў... Іван Гара стаяў проста перад ім, гледзячы зверху ўніз разяўленымі вачамі яму на цвёрды рот, які цвёрда выкідаў словы:

—... Толькі масавы ўздым перадавых рабочых здольны выратаваць краіну і рэволюцыю... Патрэбны дзесяткі тысяч перадавікоў—згуртаваных пролетарыяў. Настолькі свядомых, каб растлумачыць справу мільёнам бедноты ва ўсіх канцах краіны і стаць на чале гэтых мільёнаў... Настолькі вытрыманымі, каб бязлітасна адсякаць ад сябе і расстрэльваць усякага, хто „спакусіўся"—здараецца—спакусамі спекуляцыі. Настолькі стойкіх і адданых рэволюцыі, каб вытрымаць усе цяжкасці „крыжовага похода".

Гэта зрабіць цяжэй, чым выявіць гераізм на некалькі дзён... Рэволюцыя ідзе наперад, развінаецца і расце... Расце шырыня і глыбіня барацьбы. Правільнае размеркаванне хлеба і паліва, узмацненне здабычы іх, найстражэйшы ўлік і кантроль над гэтым з боку рабочых і ў агульнадзяржаўным маштабе—гэта сапраўднае і галоўнае пераддзвер'е соцыялізма... Гэта ўжо не „агульнарэволюцыйная", але іменна комуністычная задача...

Падняўшы палец, Владзімір Ільіч паўтарыў гэта, і зрэнкі яго нібы шукалі ў вачах слухачоў: „Зразумела? Зразумела?".

Іван Гара, таксама выцягнуўшы вялікі палец, праказаў:

— Правільна. Гэта задача відочная. Можам, Владзімір Ільіч.

— Можам, можам,—загаманілі дэпутаты...

— Таварышы, адна з найвялікшых, невыкаранімых спраў кастрычніцкага—совецкага перавароту ў тым, што перадавы рабочы пайшоў у „народ“,—пайшоў, як кіраўнік беднаты, як правадыр вясковай працоўнай масы, як будаўнік дзяржавы працы... Але, таварышы, распачаўшы комуністычную рэволюцыю, рабочы клас не можа адным ударам скінуць з сябе ўсе слабасці і парокі, якія дасталіся яму ў спадчыну ад грамадства памешчыкаў і капіталістаў. Але рабочы клас можа перамагчы і немінуча пераможа, урэшце, стары свет, яго парокі і слабасці, калі супроць ворага будуць ісці ўсё новыя і новыя, усё больш шматлікія, усё больш асвечаныя вопытам, усё больш загартаваныя на цяжкасцях барацьбы атрады рабочых...

Владзімір Ільіч кіўнуў,—гэтак, моў... Адступіў на крок. Вялікія пальцы яго рук папалі ў кішэні камізэлькі. Са скроняй на вуглы павек набеглі зморшчкі, вочы асвятліліся гумарам і дабрадушнасцю...

— Вось, так яно,—сказаў ён...

Іван Гара засоп, з намаганнем устрымліваючыся, каб не заграбсці ў лапы гэтага чалавека, не расцалаваць яго—друга...

— Цяпер, таварышы, накідаем канкрэтны план дзеяння. Сядайце.

## Раздзел шосты

### 1

Перад ад‘ездам Іван Гара з двума таварышамі з харчатрада пайшоў купацца на Няву. Петраград быў ціхі і прыгожы. На поўнаводнай Няве толькі дзе нідзе струмені плыні калыхалі адлюстраваныя ў вадзе палацы. Белыя каланады, гранітныя львы, аблупленыя ростры з насамі караблёў, залатая ігла цытадэлі, пышныя вербы на мелі ля яе падножжа—апускалі свае адлюстраванні ў бяздонную глыбіню. Рэдкі прахожы з харчовым мехам за спіной ці з бляшанкай з-пад газы, касалапа крочыў па булыжнай маставой, дзе паміж каменнямі пачынала ўжо зелянець травіца. Зрэдку чулася грукаценне трамвая. Неба было чыстае, бяздымнае над апусцелым напалову горадам.

Іван Гара сядзеў на ніжняй ступеньцы гранітнага спуску з набярэжнай. Ногі яго былі па костачку ў вадзе. Шкрабаючы пазногцямі голыя калені, ён жмурыўся ад сонечных зайчыкаў у струменях пад нагамі.

— Вось так, дружа мой Замоткін,—казаў Іван Гара таварышу, які сядзеў поплеч з ім, з пасінелымі вуснамі, са старой скурай на прышчаватым ад знясілення твары.—Гэта нічога, што дрыжыш: карысць будзе. Хіба гэта справа—пролетарыю хадзіць брудным... Заваявалі Няву, давай перш за ўсё купацца. Свежая вада! У ёй сіла...

— Эх, з мылам бы іх памыць!—сказаў Камароў, другі таварыш, таксама голы; ён вартаваў наверсе мокрыя кашулі, каб вецер не паскідаў іх з гранітнага парапета.

Іван Гара прадаўжаў з добрадушнасцю:

— У царскі час табе-б гарадавы па храпе надаваў—тут купацца...

Бачыш—якое царства заваявалі: хараство! І ты павінен падцягвацца, дружа мой, Замоткін. Энергія сонца пры свежай вадзе замяняе недахоп харчавання. Ну, лезь...

— Пачакай крыху,—жаласна сказаў Замоткін,—дай пасядзець... Я-ж утаплюся...

— Нічога, ты барахтайся, я выцягну...

Іван Гара, нібы незнарок зачапіў рукой Замоткіна па вострых пазванках, і хлапец баўтнуўся ў ваду. Камароў наверсе засмяяўся.

— Трэніруеш хлапца...

— А як-жа... Паедзем, — там, браце, з кулаччом патрэбны нервы.

Іван Гара выцягнуўся, ледзь не ў сажань ростам з упалымі грудзямі, з магутнай сутулай спіной, і пластом упаў у ваду... Здалася, Нява з пялёханнем раздалася пад ім... Даплыўшы да Замоткіна, які барахтаўся і адплёўваўся, узяў яго за плячо, прыгроб да ступенек, дапамог вылезці і сеў побач з ім,—далонямі абцёрса сцёгнаў ваду.

— І другое,—сцюдзёная вада ў нашым халастым становішчы— адцягвае... Паедзем, там, браце, ні гу-гу... Ці мала нашага брата загінула праз гэтую слабасць. „Ах, піцерскія госці, ах-ах, а мы вам і лазню нагрэлі..."

— Гэта хто-ж—„ах-ах?"—спытаў Замоткін.

— Кулацкая жонка. Там табе адпаведную бабку падсунуць... І толькі ты размяк, пільнасць у цябе аслабла, вінтоўку пакінуў у сенцах лазні,—шась у лазню гаспадар!..

— Лаўрэнція Казлова так забілі кулакі ў Луге,—сказаў Камароў.

— Вуха трымаць войстра, рэбяты... Каб пра нас слава ішла і прыехалі жалезныя... Мне, дружа, Замоткін непараўнальна цяжэй чым табе... У цябе адны пазванкі, у мяне масы больш, — Іван Гара выпрастаў адну нагу, пасля другую.—К восені—наладзім рэвалюцыю,—далі-бог, адпрашуся дамоў, у Ніжні Чыр...

— Жаніцца? Краля чакае?—спытаў Замоткін, усміхаючыся сінімі губамі.

— Ага! Такая краля чакае... Усю бы Няву з палацамі ёй падарыў...

— Гэта Агрыпіна, ці што?

— Ну, ну, добра—лезь у ваду... Чаго там, Агрыпіна...

2

Харчовыя атрады піцерскіх рабочых раз'язджаліся ўсюды па хлебных сёлах, па глухіх вёсках. Строгага плану не існавала. Атрады па ўласнаму разуменню кідаліся з галавой у вясковую рэвалюцыю, якая ўжо надыходзіла.

У іншым сяле міраед, хрыстапрадавец нагнаўшы самагону, сабраўшы сход, трос мокрай ад слёз барадою, прасіў праваслаўных, удоў і сірат даравацьяму грахі: „Што маё—тое ваша,—казаў,— гасподзь угневаўся за нашыя грахі, паслаў пошасць... Дык няўжо-ж я д'яблам—большэвікам аддам хлеб? Бярыце лепш вы з майго свірана па два пудзікі, ужо мы палічымся, бог нас рассудзіць".

У іншым сяле арудвалі папы, грозна заломваючы на амвоне калматыя бровы: „Бачылі ў комуністаў на шапках казліныя рогі? А хто не бачыў, хай вочы шырэй разявіць... Разумець можаце?.. І хто ім хоць зерне дасць,—пра гэта зерне на страшным судзе спытаюць... Хлеб наш насушчны даждзь нам днесь, — сказана ў пісаніі. А пра манаполію ў пісаніі не сказана“.

У іншых сёлах кулачкі па нагах прыстрэльвалі непакойных мужыкоў на гародах і прыгуменнях, наганялі страху на вясковую беднату. Былі такія хаты, дзе ўсё яшчэ сядзеў „ліберальны“ памешчык, гутарачы прыцемкам на ганачку аб французскай рэволюцыі, аб выкупных плацяжах, аб славянскай богашукальніцкай душы.

Харчовы атрад, калі з'яўляўся ў сяле, вылазіў з калёс ля сельсовета. Выклікалі старшыню,—чалавек прыходзіў і са страхам міргаў на суровыя твары піцерскіх. Садзіліся за хісткі столік, заляпаны чарнілам. Высвятлялі прычыны недаздачы хлеба, „прасвечвалі“ і самога старшыню. Не верылі ні ў якія апраўданні, глядзелі ў класавы корань рэчаў. Надыміўшы поўную хату махоркай, склікалі на заўтра агульны сход.

Іван Гара забраўся са сваім атрадам у сем чалавек далёка ў чорназем'е, у Мілерава—бліжэй да знаёмых мясцін.

У сяле Канстанцінаўцы, куды прыехалі на двух калёсах, распачалі з таго, што арыштавалі сельсовет: старшынёю быў былы ўраднік, пісарам—дзяк. Усё сяло загуло ад ранку ля сельсовета.

Іван Гара распарадзіўся: „Тутэйшае кулаччо нам падстроіць правакацыю. Ні ў якім выпадку не распачынайце страляніны,— толькі ў крайнасці. Двое—са мной, без вінтовак,—на ганак. Рэшта сядзіце ў хаце“.

Іван Гара выйшаў на ганак. Па натоўпу, чалавек у чатыраста разлілося нараканне. У таго-сяго ў руках былі здаровыя кіі, выдраныя з частакола. Іван Гара крыху памахаў на натоўп, нібы гэта быў рой пчол:

— Страшыць мяне пачнеце пасля, таварышы. Давайце пагаворым.

Пагаварыць, зразумела, знайшліся аматары: нараканне сціхла. Ён пачаў з галоўнага.

— Што такое совецкая ўлада? Совецкая ўлада—гэта вы ды мы... Мне сам Ленін загадаў аб гэтым сказаць... А вы што робіце? Выбралі крывавага ката царскага ўрадніка, Гніларыбава, выбралі дзяка сакратаром. Чые яны агенты? Гніларыбаў жыве ў двары ў Мітрохіна, на ўвесь свет вядомага міраеда. Дзяк—яго, Гніларыбава, заяц. Вось яны чые агенты, вось хто іх паставіў у сельсовет. Для чаго? А для таго, каб кулак Мітрохін сядзеў у гэтым глухім сяле як царок, ды вам-бы—каму пудзік, каму два,—а вы яму на лета за пудзік—два пуды, і вы-бы ў яго батрачылі горш як за Нікалашкам крывавым... Зразумела?

— Зразумела, зразумела,—адказалі з натоўпа галасы.

Іван Гара кінуў вокам у той бок.

— Не думаю, каб вы былі такія дурні, таварышы... Не для таго мы, піцерскія рабочыя, рабілі пераварот у Кастрычніку, каб Мітрохін з Гніларыбавым і ўся іхная зграя жорлі гарачыя бліны,

колькі ўлезе, а вы-бы... (тут ён пачаў паказваць пальцам на тых, пра каго даведаўся ад возчыкаў у дарозе). А вы-б, Іван Васільевіч, вы-б, Мікалай Мікалаевіч, вы-б Сцяпан Мітрафанавіч без шапкі пад вокнам у іх слёзна прасілі—пачакайце з даўгом,—„дзецям, моў, есці няма чаго“... Зрабілі вы ў сябе совецкую ўладу, рэбяты,—дзякую...

Ён чакаў,—так і атрымалася: у задніх радах зноў пачаліся наракання, злосныя галасы: „Каго другога ідзі навучаць. Не горш за цябе ведаем пра совецкую ўладу!“ Не даючы разгарэцца шуму, Іван Гара раздзьмуў шыю і загудзеў басам:

— Совецкая ўлада—„хто не працуе, той не есць“ наша першая і апошняя запаведзь... Батрак, бедняк, аднаконнік—гэта совецкая ўлада... А той, на каго вы робіце, а ён есць,—гэта вораг совецкай улады...

— Як гэта мы не працуем?—шалёна закрычала дзесяткі два галасоў.—Дармаеды піцерскія! Рабаваць прыехалі! У хрысціян апошні кавалак адбіраць!

Іван Гара зрабіў рашучы крок з ганка.

— Правільна! Рэволюцыя паслала нас да вас па хлеб. Узброеныя пролетарыі, мыючыся на франтах крывёю, патрабуюць ад вас хлеба. Яны бедакі паміраюць, каб вашыя дзеці былі сытыя... Патрабуюць хлеба не ў тых, у каго няма... А патрабуюць у цябе, заможнік Еўдакімаў... У цябе Трэцьякоў... У цябе, Мітрохін... Стойце!—Ён падняў руку. Тыя, што крычалі мацней за ўсіх, бачучы, што не дружна падтрымліваюць і не даюць прабіцца к ганку, замоўклі на хвіліну.—Стойце!... Мы дзейнічаем паводле рэволюцыйнага совецкага закона... у сілу гэтага мандата... (выхапіў з кішэні пінжака, памахаў паперкай) старшыню Гніларыбава, які скрыў сваю прыналежнасць да царскай паліцыі, і зяця яго, дзяка арыштоўваем і яны будуць перададзены рэволюцыйнаму суду... У сілу гэтага мандата абвяшчаю на завтра новыя выбары ў сельсовет... І новы сельсовет зробіць справядлівую развёрстку хлебных лішкаў... У каго мала хлеба—у таго не папытаем, у каго многа хлеба,—таму прыдзецца крыху падзяліцца з рэволюцыяй...

Іван Гара звярнуў вялікі нос, падміргнуў, і прыязна засмяялася большасць схода.

Увесь дзень гуло сяло, пакуль на вуліцы, якая выходзіла ў стэп чорным шляхам, не паказаўся статак. Ззаду заходзіла шырокае сонца, б'ючы скрозь пыл нізкімі праменнямі па кароўіх раздзьмутых баках. Запахла параным малаком. Зарыпелі вароты. Пераклікаліся жаночыя галасы.

Кучкі спрачаўшыхся пачалі разыходзіцца. Вуліца апусцела. Толькі ля сельсовета яшчэ віднеўся народ,—уваходзіў і выходзіў, ляпаючы дзвярмі. Жаўцела скрозь вакяніцы святло. Назаўтра былі намечаны ўдалыя кандыдатуры ў старшыні сельсовета і ў сакратары—спрытныя нядурныя хлопцы—з самых захудалых на сяле. Высветлены прыблізныя запасы хлеба па кулацкіх дварах. Здавалася—усё ішло гладка.

Апусцела і плошча ля сельсовета. Над высокім таполем разгараліся сем зор Вялікай Мядзведзіцы. Зразумела, калі ўслухацца ў начную цішу не гарадскім, а вясковым вухам, можна было-б адрозніць непрывычныя гукі, напрыклад—далёка ў стэпу конскі тупат. Але ці мала каму спатрэбілася скакаць сярод начы...

Замоткін, загадчык гаспадаркі атрада, раздабыў хлеба, яек і кіслага малака. Камароў, Жылін, маўклівыя браты Уйбо і хворы цынгой Федзічкін (усе пуцілаўцы, з аднаго цэха) павячэралі, Іван Гара прыадчыніў вакяніцу.

— Ад гэтай махоркі душу верне...

Ноч была чорная, вільготная, ціхая. Нават сабакі не брахалі. Гультаявата пачынаў шапацець топаль, засланіўшы некалькі зор. Замоткін паведаміў, што на двары вялікая пуня, праўда, без даху, але ў сярэдзіне чыста і пуста...

— Тут бабёнка адна круцілася ў прыцемках: „Ці не трэба вам чаго-небудзь, таварышы?“—Загадаў ёй саломы прынесці.

— Бабёнка круцілася?—здзіўлена спытаў Іван Гара.

— Свая зусім, таварыш начальнік. Я-ж да яе не адразу, а з падазрэннем „Ты, што, кажу, тут нюхаеш, тоўсценькая? Можа лазню натапіла?“

— От дурны!—Іван Гара зарагатаў, тупаючы ботам.—Ну, як хлопцы, у пуню пойдзем?

Усе згадзіліся, што абставіны не паказваюць небяспекі. Усё-ж для асцярогі рашылі па чарзе дзяжурыць. Узялі рэшту хлеба, партфель, вінтоўкі, пашлі ў пуню. Тут сапраўды было добра, халаднавата, пахла свежай траўкай, якая расла каля парогу шырокіх, шчэлістых, пакошаных дзвярэй.

— Замоткін, ты як-жа—так яе ў лоб і спытаў пра лазню?

— Ага. Думаю,—ну як скажа пра лазню—зараз арыштую...

— Умора!?

Іван Гара закруціў галавой. Пачаў здзяваць боты, але падумаў: не варта, бадай. Адзін з братоў Уйбо ўзяў вінтоўку, пашоў да варот. Сем чалавек ляглі на рэдзенькую саламяную падсцілку, і тут-жа—хто роўна задыхаў, хто пачаў свістаць носам...

Іван Гара яшчэ чуў, як Уйбо, якому відаць абрыдла стаяць каля варот, сеў на бярвенне—цяжка прыхіліўся знадворку да дошак пуні. Над галавой невыразна цямнеў пераплёт крокваў, гарэлі вялікія данскія зоры.

Раптам Іван Гара, не расплюшчваючы вачэй, прыўзняўся: здалося, што ў сцяну пуні ўдарыла нечым, нібы застагнаў чалавек. Але прачнуўся Іван Гара ад раздзіраючага трэску паваленых дзвярэй, ад звярынага ляманту. Ускочыў, выцягнуўшы рукі. Нехта кінуўся на яго, востра прасмярдзелы потам,—шалёна абхапіў, ламаючы, і зараз-жа ўдарылі лязом мімаходзь—мокра—у галаву.

3

Першы Луганскі атрад, калі высвятлілася, што чырвоныя пад Канатопам разбіты, адступіў ад Варажбы на паўднёвы ўсход, на станцыю Основа, пад Харкавам.

У Харкаве ішла паспешная эвакуацыя рабочых атрадаў, ваеннай маемасці, машын, завадскіх матэрыялаў. Выязджаў і Совет народных камісараў Данецка-Крыварожскай рэспублікі — большэвіцкі ўрад Данецкага басейна.

Калі пачалося наступленне немцаў, старшыня ўрада—Арцём—паслаў ультыматум імператару Вільгельму, дзе папярэджваў, што ў выпадку парушэння граніц Данецка-Крыварожскай Рэспублікі, якая ніякага дачынення да Украіны не мае, рэспубліка будзе лічыць сябе ў стане вайны з Германіяй.

Гэты дакумент на чацвяртушцы паперы, з змазаным лілёвым штампам, быў дастаўлены галоўнакамандуючаму наступаючых германскіх войск генералу Эйхгорну. Тры разы перакладчык чытаў генералу дзіўны дакумент. „Гэта жарт?—спытаў генерал.—Пан таварыш Арцём—чорт вазьмі!—лічыць сябе ў стане вайны з Германіяй“. Секунду генерал нічога не мог вырашыць: ці лопнуць ад абурэння ці, ухапіўшыся за ручкі крэсла, зарагатаць да слёз...

Але, так ці іначай, Данецка-Крыварожская Рэспубліка лічыла сябе ў стане вайны з нямецкімі акупантамі. Урад пераехаў у Луганск і разам з украінскімі чырвонымі сіламі прыкладаў усе сілы, каб не пусціць немцаў у раён заводаў і шахт Данбаса.

Сілы былі няроўныя. Рэшткі пяці чырвоных украінскіх армій, партызанскія атрады і наспех фарміруемыя рабочыя атрады, якія далучіліся да іх, не налічвалі і дваццаці тысяч байцоў.

Пад напорам батальёнаў 1 германскага корпуса чырвоныя адступалі на ўсходзе ад Харкава, на лінію, што ідзе з поўначы на поўдзень. (На поўнач, у Валуйках, стаяла 5-я армія пад камандай Сіверса, у Ізюме—Данецкая, у Лазовай—3-я, пад Сінельнікавам—2-я, на поўдні, у прыазоўскім стэпу, на ўсход да Александраўска—1-я армія).

Па магістралі Харкаў—Луганск (між размяшчэннем 5-й і Данецкай армій) ішла эвакуацыя Харкава. Тут, не трацячы ніводнага дня, трэба было стварыць моцную і стойкую групу.

Ядром для яе мог паслужыць Луганскі атрад Варашылава, што стаяў на гэтай магістралі на станцыі Основа. У яго быў уліты Харкаўскі комуністычны атрад пад камандай Лукаша. Да яго было вырашана далучыць былую 5-ю армію Сіверса. У яго павінны былі ўліцца па дарозе ад Харкава да Луганска шахцёрскія і рабочыя атрады. Гэта новая група войск атрымала назву 5-й арміі. Камандзірам яе згодна рашэння Данецка-крыварожскага атрада, назначаўся Варашылаў.

На станцыі Основа Варашылаў пачаў фарміраванне сваёй арміі. Але падзеі разгортваліся занадта шпарка: немцы буйнымі сіламі падыходзілі да Харкава. Луганскаму і комуністычнаму атрадам прышлося адступіць з станцыі Основа да наступнай станцыі—Зміева.

У гэты час прышлі звесткі, што былая 5-я армія Сіверса ў Валуйках далучыцца да Варашылава не можа з той прычыны, што ў ёй ішло поўнае разлажэнне...

„... Замест баявога размяшчэння салдаты масамі пакідаюць свае ўчасткі і ловяць рыбу ў рацэ Осколе... Караулы па лініі

іграюць у карты і спяць... Праз фронт ідуць усялякія шпіёны... Утвараецца дзікая ружэйная страляніна, прытупляючая магчымасць распазнавання—дзе адбываецца хуліганская трата патронаў, а дзе, сапраўды, ідзе бой...“

4

З Харкава ўдалося вывезці ўсю ваенную маемасць. Калі немцы занялі Халодную Гару і адтуль пачалі страляць з гармат па вакзалу, калі некалькі гружаных павозак з шалёным грукатам праімчаліся да вакзальных варот, калі на апусцелых вуліцах ужо чуліся адзіночныя стрэлы невядома з якіх чардакоў—каля перона дыміў апошні паравоз апошняга эшалона.

Затрымка была толькі за тым, што не маглі знайсці начальніка штаба 5-й арміі, маладога чалавека Колю Руднёва, пасланага Варашылавым у дапамогу інжынеру Бахвалаву, занятаму эвакуацыяй Харкава.

Руднёў не спаў трое сутак і, як відаць, недзе зваліўся. У разбітыя вокны вагонаў з трывогай пазіралі байцы. Машыніст крычаў з паравоза:

— Шо вы не бачыце, маць вашу так, немцы-ж мост абыйшлі! Зімаваць нам у Харкові!

Бахвалаў, стоячы каля вагона, сярдзіта хрыпеў, падарваным голасам. Знарады з Халоднай гары разрываліся на чыгунцы. Дыміў, разгараючыся, доўгі деравяны пакгауз. Апухлы ад бяссонніцы тэлефаніст, апошнім пакідаючы станцыю, моцна раптам пачаў махаць ад дзвярэй:

— У царскім павільёне спіць нейкі хлапчук.

У царскі павільён трэба было бегчы праз пляц, дзе ўзвіваліся касматыя разрывы снарадаў. У пустой малінавай зале, на канцылярскім стале, бестурботна паклаўшы русую галаву на локаць, спаў Руднёў. Яго трэслі, паднімалі,—ён толькі круціў галавой. Яго пацягнулі на руках. Каля вагона ён растапырыў локці, расплюшчыў сінія вочы, спытаў ясным голасам:

— У чым, уласна кажучы, справа?

— Чорт,—хрыпеў Бахвалаў,—спіш, немцы мост занялі.

— Вельмі добра, іду.

Руднёў пазяхнуў. Не закрываючы рота, дзіка аглянуўся. Пабег да паравоза. Узлез спераду на пляцоўку, дзе стаяў кулямёт. З усіх вагонаў закрычалі:

— Давай поўны!

Поезд, набіраючы хуткасць, пашоў да мосту. Там відненіся людзі ў касках, у зялёна-шэрых мундзірах. Руднёў з паравознай пляцоўкі пачаў біць па іх з кулямёта. Фігуры ў зялёна-шэрых мундзірах, нагінаючыся, пабеглі з насыпу. Поезд наддаў ходу. Па вагонах разанула чарга куль.

Поезд, грукаючы на стрэлках, засланяючыся дымам, бліскаючы ўспышкамі стрэлаў з акон, з дахаў, дзе ляжалі байцы,—цяжкім гураганам праімчаўся міма немцаў, якія пахаваліся. Потым з грукатам перайшоў мост і знік за паваротам.

5

Нямецкая кавалерыйская разведка ўзарвала мост каля станцыі Зміева і гэтым абрэзала шлях эшалонам, якія эвакуіраваліся з Харкава. Калі на выручку з суседняй станцыі вышаў бронепоезд, немцы ззаду яго таксама ўзарвалі чыгунку. Харкаўскія эшалоны і бронепоезд апынуліся ў пастцы.

З перадавога эшалона пасыпаліся байцы Комуністычнага атрада—трыста харкаўскіх рабочых. Яны ўбачылі на ўзгорках за горадам Зміевам воблака карычневага пылу,—гэта падыходзілі немцы.

— Смір-р-на!—на ўсю маладую глотку, закрычаў упершыся ў бакі і завальваючыся перад фронтам байцоў, румяны малады чалавек у туга падпяразанай скураной куртцы.—Смірна! Шчоб вам на пупе нарвала, таварышы! Шчо ў вас гарыць пад нагамі... Стройся! Ніякай панікі! Немцы-ж у ва сне не чакалі, шчо нарваліся на комуністычны атрад.

Крычаў камандзір Лукаш, устаўляючы такія моцныя словы, што байцы падбадзёрыліся, ажывіліся, успомнілі і строй і дысцыпліну.

— Кулямёты ўперад! Сцяг да мяне!

Ён пашоў наперадзе атрада, паказваючы шашкай на тапол, мазаныя хаты і плятні, адкуль з канаў і вымоін усё часцей стралялі нямецкія салдаты.

— Пад кулямі не класціся!... Дабірайся да штыкавога бою, хлопцы!

Атрад рассыпаўся па гарадскому выгану. Беглі, не кладучыся як шалёныя пераскаквалі праз плятні. Лаянка і крыкі заглушалі трэск кулямётаў, асуджаных на расплаў. Нямецкія ланцугі пачалі падымацца, перабягаць, не прымаючы рукапашнага бою. Па ўзгорках, дзе паказаліся былі конныя драгуны, ударылі з бронепоезда. Коннікі на ўзгорках зніклі.

Увечары палатно чыгункі было папраўлена. Эшалоны рушыліся далей на ўсход. На станцыях і паўстанках да вагонаў кідаліся сумныя шахцёры і сяляне, якія ўцякалі ад нямецкай акупацыі. Пісклівыя жанчыны прасоўвалі ў вокны кошыкі з хатнімі птушкамі, коўдры з ласкутоў і падушкі, падсаджвалі дзяцей. Іншая, абхапіўшы цёмную морду спакойна жуючай каровы, галасіла скрозь слезы: „Ды вазьміце-ж яе, дабрадзеі! Вазьміце карміліцу маю!“

Эшалоны папаўняліся рабочымі і партызанскімі атрадамі. У Купянску павялічылася колькасць паяздоў амаль удвая. Але калі расцягнутая на вёрсты вераніца вагонаў і паравозаў пачала праходзіць Сватава,—з стэпу, з поўдня, зноў паказаліся немцы. На гэты раз яны падыходзілі буйнымі сіламі.

6

Немцы павялі наступленне адначасна па ўсяму фронту заслоны, размешчанай з поўначы на поўдзень. Не гледзячы на гарачую гатоўнасць чырвоных атрадаў біцца і не пусціць ворага ў сэрца

Данбаса, выявіўся найглыбейшы беспарадак у камандванні. Штаб галоўнакамандуючага загадваў,—камандармы пяцёх армій рабілі па-свойму, улічваючы мясцовыя акалічнасці і настрой сваіх атрадаў.

На поўдзень ад магістралі, па якой ішла эвакуацыя і дзе фарміравалася 5-я армія Варашылава,—у горадзе Ізюме размяшчалася Данецкая армія, каля тысячы штыкоў. Калі ўбачылі нямецкую разведку пад Ізюмам, камандарм Данецкай запатрабаваў падмацаванне.

Галоўштаб паслаў яму буйны Знаменскі атрад. Ён падышоў у чатырох паяздах з песнямі, гармонікамі, свістам. Навучаны вопытам, камандарм не пусціў яго ў горад. Атрад выкаціўся з вагонаў і на выгане перад мостам праз Оскол пачаў мітынгаваць. Спробы ўнесці які-небудзь парадак і прымусіць знаменцаў заняць фронт ні да чаго не прывялі. Яны крычалі, што самі ведаюць, дзе і як біць немцаў, патрабавалі, каб іх пусцілі ў горад, патрабавалі даставіць ім камандарма на расправу і, урэшце, адкрылі страляніну праз Оскол па Ізюму. Прышлося выклікаць бронепоезд,—пад аховай яго гармат камандарм вывеў сваю, пачаўшую ўжо хістацца, армію з горада і адступіў на ўсход.

Знаменскі атрад кінуўся ў эшалоны—пачаў блукаць па станцыях і гарадах. Ізюм быў пакінут. Правы фланг 3-й арміі, што стаяла на поўдзень пад Лазовай, быў адкрыт.

3-я армія ў той-жа час перайшла ў наступленне. Камандарм 3-й даносіў у галоўштаб:

„... Усе часці арміі вышлі з эшалонаў, і наступленне праводзіцца ў поўным парадку. 3-я армія ад імя ўсіх яе атрадаў заяўляе, што адступлення яна не прызнае. Але ў арміі ўсяго 5 тысяч байцоў, рэзерваў няма, правы і левы флангі незабяспечаны“.

Немцы, адступаючыя пад імклівым націскам 3-й, падцягвалі падмацаванні—бронепаязды, бранявікі, германскую пяхоту і гайдамацкую конніцу. Але пролетарскія і партызанскія атрады 3-й абвяргалі ўсе размовы аб непераможнасці немцаў, прадаўжалі біць і гнаць іх, захопліваючы палонных, кулямёты, сцягі, гарматы, бранявікі.

Наступленне цягнулася чатыры дні без яды і сну. Армія далёка высунулася ўперад лініі заслоны. Рэзервы не падыходзілі і стомленых байцоў не было кім замяніць.

Раніцой дзевятнаццатага красавіка немцы зайшлі ў адкрыты фланг лепшым часцям—Ленінскаму, Таўрычаскаму і 1-му Савецкаму батальёнам, і ў той-жа час германскія драгуны прарвалі цэнтр. Флангі расстрэльваліся ва ўпор. У гэтым баю 3-я страціла палову сваіх байцоў. Рэшта арміі пачала адыходзіць пад прыкрыццём ленінскага батальёна.

К ночы ўдалося выйсці з судатыкнення з ворагам. Але ад слаўнага Ленінскага батальёна ў жывых засталася толькі кучка—дзесятак параненых, перавязаных анучамі герояў, якія ўпарта змагаліся.

Другая армія, размешчаная на поўдзень ад 3-й, таксама адступала. Яе камандарм у роспачы даносіў у галоўштаб:

„... Немагчыма быць камандуючым арміяй то без войск, то з войскамі, якіх прыходзіцца збіраць пакрысе ўсюды, дзе толькі можна. Такія, нічым не звязаныя з арміяй, атрады не маюць сталасці і ў першым-жа баю разлятаюцца ў эшалонах па станцыях.“

7

Калі немцы паказаліся каля станцыі Сватава (праз якую праходзілі паязды 5-й арміі), там стаяў толькі зборны рознаколерны атрад Госцемілава. Варашылаў у той час умацоўваў Луганск, абучаў і ўзбройваў атрады, набіраў дабраахвотнікаў з суседніх вёсак. На Гартманскім заводзе дзень і ноч будавалі бранявікі і бранявыя пляцоўкі. Фарміравалі полк з рабочых-кітайцаў.

У тры гадзіны раніцы немцы рушылі на станцыю Сватава. У цёмным яшчэ стэпу загудзелі маторы браневікоў, паказаліся гайдамацкія сотні, адрозніваемыя ў халодным святле зары. Ішлі ланцугі германскай пяхоты. Стэп азарыўся доўгімі ўспышкамі гармат.

Моцна завылі эшалоны, якія прасоўваліся на ўсход праз Сватава. Паляцелі тэлеграмы да Варашылава. Стойкая частка атрада Госцемілава складалася з ста сямідзесяці байцоў пры чатырох палявых гарматах. На правым флангу знаходзіўся партызанскі атрад „Маланка“ з двума гарматамі ў пульманаўскім вагоне. На левым—за поўвярсты ад станцыі—у акопах ляжалі два атрады левых эсэраў,—у іх былі таксама дзве гарматы—ззаду на прасёлачнай дарозе.

Калі ў святле зары, у гарматных успышках, паказаліся на поўным ходу бранявікі,—пярэдняя лінія эсэраў паднялася і пабегла, падаючы ад куль, кідаючы вінтоўкі. Госцемілаў верхам нёсся да чыгункі, да кулямётаў.

— Агонь па гадах!—дзіка закрычаў ён кулямётчыкам, паказваючы на ўцякаючых, і завярнуў назад ашалеўшага каня. Левыя эсэры пад двайным агнём з фронту і з тылу заляглі ззаду сваіх гармат. Паніка была прыпынена. Чатыры палявых гарматы галаўнога атрада, кулямёты з чыгуначнага насыпу, гарматы і кулямёты з атрада „Маланка“ былі згрупаваны на нямецкіх бранявіках і на гайдамацкіх сотнях, што разгортваліся за імі.

Адзін з браневікоў асеў, паваліўся, другі пакрыўся дымам, запалаў, трэці, як сляпы, закруціўся і перакуліўся... Гайдамакі паварачвалі ў стэп... З захаду, выючы, сцелячы дымам падыходзіў партызанскі эшалон на падмогу. Шэсць германскіх гармат, успыхваючы маланкамі на навакольных узгорках, пачалі біць па батарэях, па станцыі, па падышоўшаму эшалону. Партызанскі атрад, які знаходзіўся ў ім, пачаў быў выгружацца, але байцы не вытрымалі, кінуліся па вагонах, і эшалон пад агнём уцёк.

Паднялося сонца над пыльным стэпам, над станцыяй, ахутанай дымам пажараў. Немцы білі гураганным агнём. У Госцемілава засталіся толькі дзве гарматы і каля паловы кулямётаў. Эсэраўскія атрады былі знішчаны. З стасямідзесяці байцоў галаўнога атрада жывымі засталося менш за сотню. Перабіты былі ўсе

артылерыйскія коні... Нямецкія бранявікі, гайдамацкія сотні зноў рушылі ў атаку... Госцемілаў загадаў цягнуць на руках дзве гарматы, якія засталіся, грузіць на вагонныя пляцоўкі і, пакуль апошні вагон з ваеннай маёмасцю не пакіне станцыю,—трымацца...

— Трымацца, хлопцы! Крывёй умыемся, хлопцы... Не аддадзім жабам рэволюцыйнай маёмасці!

З усходу з усёй хуткасцю, якую можна было выціснуць з старога паравоза, прыляцеў невялікі састаў. Загрукацеў, стаў. З вагонаў павысыпалася паўтараста байцоў атрада Кісялёва— з арміі Варашылава.

Тады, пад прыкрыццём агня двух гармат, пагружаных на пляцоўку, і двух гармат з пульманаўскага вагона атрада „Маланка“— гэтыя сто пяцьдзесят байцоў і рэшта атрада Госцемілава і „Маланкі“—амаль усе раненыя, аглушаныя, кантужаныя,—кінуліся ў штыкавую контратаку і ў другі раз адкінулі немцаў і гайдамакаў.

У дзве гадзіны дня Госцемілаў, забраўшы ўсю маёмасць і рэшту артылерыі, адступіў на ўсход, на станцыю Кабанье, куды ўжо падыходзілі з Луганска эшалоны Варашылава—дзве тысячы байцоў, без артылерыі.

8

Госцемілаў, з натапыранымі вусамі, з абвязанай галавой, уляцеў у вагон камандарма. Варашылаў і Коля Руднёў сядзелі ў салоне над картай.

— Чорт!—закрычаў Госцемілаў.—Утыркнулі насы. Загадвай наступаць!

Шчака ў яго тузалася, вока, гарэўшае шалёнай злосцю, што хвіліны закрывалася векам, нібы месяц воблакам.

— Чорт! К вечару мы іх раскалашмацім! Мясарубку ім зробім, чорт!

Ён выкідваў рукі, таптаўся па маленькаму салону. Ад яго моцна пахла порахам, потам...

— Сядзь,—сказаў Варашылаў.—Куры. Супакойся. Я паслаў разведку ў Сватава. Абставіны вельмі сур'ёзныя.

— К чорту сур'ёзныя абставіны! Які ты, к чорту, камандуючы! Наступаць! От табе ўсе абставіны.—Ён дзіка зірнуў на Руднёва.— Хто гэта ў цябе? Начштаба? Дай-ка, начштаба, спірту поўшклянкі... Здохну, чорт!

Госцемілаў раптам апусціў забінтаваную галаву ў чорныя рукі, якія ляжалі на стале. Заскрыгаў зубамі. Варашылаў вачмі паказаў Руднёву—прынесці спірту. Устаў. Нахіліўшыся, паклаў руку на ўздрыгваючую спіну Госцемілава.

— Ідзі да мяне ў купэ. Ляж. Хопіць з цябе на сёння.

— Ах, сукіны дзеці, сукіны дзеці!—праз зубы паўтарыў Госцемілаў.—Што яны з намі зрабілі... Не! (Адкінуўся, стукнуў кулаком). Гайдамакі! Гады паўзучыя! Ох, я-ж іх сам, гэтымі рукамі з кулямёта...

Пацягнуўшы спірту з шклянкі, застукаўшай аб зубы, адразу заціх, шчака больш не тузалася, вочы ашклянелі. Варашылаў зноў сеў за карту, сказаў паціху сурова:

— Справы такія. Данецкая армія адступае, рассыпалася. У якім

стане Сіверс у Валуйках—буду ведаць увечары, але мабыць,— Сіверс будзе адыходзіць на поўнач. Галоўштаб настойліва патрабуе, каб я ўзяў зноў Сватава. Я выканаю баявы загад. Але я не сумняваюся, што мы ўжо ў мяшку: заўтра ці паслязаўтра прыдзецца адступаць на Луганск. І вярней за ўсё, аддадзім немцам і Луганск. Глядзі на карту, вось яны дзе...

Госцемілаў утаропіўся ашклянелымі вачмі на тое месца, дзе на карце—паўднёва-заходней Луганска—цвёрды пазногаць камандарма правёў рысу.

— Немцы выходзяць да Дэбальцава... Адсюль удар па станцыі Ліхой і шлях адступлення нам—запёрты... (Кастлявыя плечы Госцемілава падняліся да вушэй). Галоўная задача—захаваць жывую сілу і ваенную маёмасць... Мы адступім, але мы вернемся ўжо не з партызанскімі атрадамі,—з арміяй... Даваць расстрэльваць сябе па частках, у эшалонах,—гэта не гульня.,. Зразумела табе?

9

Карасіхін Алёшка, закідваючы валасы, басаном каціў па вуліцы да іонінага двара. У час перамены ён бегаў з школы ў совет,— дзе цяпер служыла Мар'я ў аддзеле агітпропа,—і мамка загадала адным махам аднесці Агрыпіне толькі што атрыманае пісьмо, усё залепленае маркамі.

На вуліцы было пуста,—народ працаваў у полі. Толькі каля аднаго цаглянага дома іржалі верхавыя коні, прывязаныя да таполяў. Алёшка пералез праз плот, знайшоў Агрыпіну ў вішанніку,— яна абкапвала дрэвы. Агрыпіна паправіла мокрыя валасы пад хусткай, моўчкі ўзяла канверт з хвастом марак.

— Я па пісанаму не разумею,—сказала ціха.—Пачытай.

Яна села на распілаваны ствол старога таполя, абхапіла калені. Чорныя бровы яе сыйшліся і твар пабялеў, калі Алёшка, седзячы перад ёй на цыпачках, чытаў, разбіраючы па складах:

„Добры дзень, Агрыпіна Кандрацеўна, як вы жывы-здаровы, часта пра вас успамінаю. Думаў убачыцца з вамі раней, але ўтварылася затрымка. Зараз усё абыйшлося,—рана на маёй галаве зажывае, і рэбры зрасліся. У сяле Канстантынаўцы нас, увесь атрад, забілі кулакі,—уначы ў пуні засеклі тапарамі. Адзін я астаўся жывым і дзіўлюся гэтаму дагэтуль,—якая мне бабка варажыла? А праўдзівей, што вельмі не хацелася паміраць. Мяне адвезлі ў Мілерава ў лазарэт,—у Канстантынаўцы я прасіў не пакідаць: кулакі-б мяне там—ухітрыліся—і ўсёроўна дабілі-б... Шкада таварышоў: былі смелыя, адданыя людзі, яшчэ такіх не знойдзеш... Вельмі добрыя былі людзі, і загінулі па-зверску. Вінавачу першага сябе ў аслабленні пільнасці... Цяпер—папраўляюся—мы з канстантынаўскімі кулачкамі пагаворым сур'ёзна. Бывайце, Агрыпіна Кандрацеўна. У лазарэце рабіць няма чаго,—усё думаю пра вас, выбачайце мне... Кланяюся вам. Іван Гара“.

Алёшка падняў вочы. Агрыпіна сядзела, апусціўшы павекі,—губы ў яе былі сінія і твар пасінеў. Алёшка спалохаўся, асцярожна паклаў ён на калені пісьмо і канверт з маркай, паціханьку выбраўся

з вішанніка і на вуліцы зноў запусціў, закідваючы валасы,—яму здавалася, што ён—конь, ён нават сам сабе паўтараў: „І-га-га!“

Каля таполяў, дзе былі прывязаны коні, пахмура стаялі Андрэй Касалапаў і Вахрамей Ляпічаў—франтавікі.

Цяжка стукнуўшы каліткай да іх вышаў трэці... (Алёшка сам сабе сказаў: „Тпру“, тупнуў пяткамі, спыніўся—паглядзець). Трэці быў Анікей Барысавіч,—ішоў, пакручваючы магутнымі пакатымі плячамі, як мядзведзь,—з круглым тварам, медны, паросшы кудлатай шчацінай.

— Ну і ўлада ў вас, казакі,—густа, як званова медзь, сказаў Анікей Барысавіч,—толькі і чакаюць вас прадаць.—Ён адвязаў каняку, які сагнуўся, калі сеў на яго. Франтавікі таксама адвязалі коней, селі.

— Зараз, казакі, айда—па хутарах.

Усе ўтраіх рушылі рыссю. Алёшка глядзеў, як пад капытамі закруціўся пыл. Андрэя Касалапава вясёлы конь, збіваючыся на галоп, усё наравіў прыціскаць задам каняку Анікея Барысавіча. Казакі завярнулі за вугал. Па вуліцы спяшаючыся ішла Агрыпіна, б'ючы па каленях паліняўшай спадніцай.

— Алёша,—паклікала яна, задыхаючыся.—Куды-ж ты?—Схапіла яго за плячо.—Пачытай яшчэ... Там, можа яшчэ сказана...—І, нагнуўшыся, глядзела на яго матавымі зрэнкамі.

— Не, я ўсё прачытаў, Гапка...

— Калі ласка, прачытай спачатку...

З-за рэчкі Чыр данесліся асобныя стрэлы. Зноў пачуўся конскі топат. З-за вугла зноў паказаліся Касалапаў і Вахрамей Ляпічаў. Яны, як шалёныя, праімчаліся па вуліцы да совета. Праз хвіліну праскакаў і Анікей Барысавіч,—не зварачаючы—проста па дарозе, што вядзе па-над Донам у напрамку станіцы Пяціізбянскай.

Агрыпіна правяла да Сцяпанавай хаты Алёшку і Мар'ю, выбегшую без памяці з совета, кінулася шукаць маленькага,—худы галенасты сабака заклапочана павёў яе ў агарод, дзе Мішка, спалохаўшыся стрэлаў, плакаў пад вішняй.

Прыбег і Сцяпан Гара з поля. Запёр дзверы ў сенцы, сеў з боку вакенца—так, каб бычыць вуліцу.

— Сувораўскія,—сказаў ён,—сур'ёзныя казакі. Дзве, а то тры сотні наляцела... І гэта-ж сярод белага дня!.. Значыць, была ў іх тут рука...

Па станіцы сцябалі стрэлы. Вуліца была мёртвая. Раптам па вуліцы панёсся, дапамагаючы сабе крыламі, певень. Сцяпан зморшчыў лоб. Мар'я—клапатліва—да яго:

— Адышоў-бы ты ад акна, Сцяпан.

Услед за ашалеўшым пеўнем мільгануў міма акна верхавы—прыгнуўся да грывы ўлегшага каня. Пачуліся стрэлы—блізка, нібы за вуглом дома. Мішка кінуўся ў матчыны калені. Агрыпіна, стаяўшая каля печкі, сказала:

— Уцячэ. Гэта Пецька Вострадымаў, сакратар рэўкома... Конь у яго добры...

Дзесяць барадатых казакаў, з лампасамі на штанах, з пагонамі на вузкіх чорных мундзірах, праскакалі ўслед, высока стоячы ў сёдлах, нязграбна і цяжка махаючы шашкамі...

— Сувораўскія снахачы,—зноў сказала Агрыпіна.—Курашчупы.

Сцяпан усміхнуўся, крутнуў галавой:

— Трымайся зараз,—пачнуць лупцаваць хахлоў...

Алёшка не спужаўся ні стрэлаў, ні коннікаў з шашкамі, але калі Сцяпан выгаварыў: „пачнуць лупцаваць хахлоў",—у Алёшкі замуціла пад лыжачкай,—падышоў да Агрыпіны, прытуліўся да яе каменнага бядра.

Вуліца ажывала. Стукалі калиткі, выходзілі за вароты пажылыя казакі, перагаварваліся, не адыходзячыся ўсё-ж далёка ад варот. Наўскасяк сцяпанавай хаты вышаў Іона Нягодзін—у поўнай форме, пры шапцы. Каўнер цісну ў яму шыю, сухая кудлаватая барада блішчэла воранавым бляскам. Задзіраючы бараду, наліваючыся крывёй, крыкнуў суседу:

— У добрую гадзіну!

Сусед адказаў:

— Гадзіна добрая... Даўно пара канчаць з гэтай заразай.

— Стаяў Дон і стаіць Дон!—гаркнуў Іона.—Комуністам нашага кавалка не прыглынуць...

Казакі каля варот выцягнуліся. Іона, бліскаючы зубамі, сінявымі бялкамі вачэй, ліха прыклаў пальцы да заломленага картуза. Па вуліцы рыссю ішла сотня. Наперадзе скакаў даўгі афіцэр з вялікімі светлымі вусамі, у белай чаркесцы з срэбрам, у белай смушкавай шапцы. Строга, пільна паглядаў на бакі, стрымліваючы танцуючага варанога жарабка, браў пад казырок казакам.

— Мамантаў!—ахнуў Сцяпан.—Трымайся цяпер...

На Крэстаўздвіжанскім пляцы, між белым саборам і цаглянымі, пабеленымі вапнай, крамамі, некалькі сот ніжнячырскіх добрых казакаў—усе ў форме, пры шашках, з шырока расчэсанымі барадамі—слухалі генерала Мамантава. Казакі стаялі пешыя ён гаварыў з каня, якога, важна надзьмуўшы губы трымаў за вуздзечку Гаўрушка Папоў.

У першым раду стаялі важна члены станічнага совету: старшыня—шчуплы, сівенькі Папоў, сакратар—дзяк Грэмячоў—рыжы, ваяўнічы мужчына ў шнураваных па калена аўстрыйскіх шчыблетах, і навыцяжку—па ўсёй форме, у вусах колцамі—Гур'еў...

Мамантаў, упёршыся рукой у бок і другой,—з бліскучым пярсцёнкам,—то ўзмахваючы ў паветры, то працягваючы к „добраму" казацтву гаварыў з слязмі:

— Відаць дрэнна жылося вам, казакі, пры бязвінна замучанай дзяржаве нашай? Цяжкая была казацкая служба? Абмялеў ціхі Дон? Ці пахіліліся казацкія хаты, апусцелі засекі, абяднелі табуны станічныя? Прадалі свайго цара... Прадалі царквы божыя... Прадалі казачую волю. Шчалкапёры, соцыялісты, комуністы маскоўскія селі на казацкую шыю... Што-ж, пагулялі, казакі, паспрабавалі рэволюцыі? Ці не хопіць?—Ён павёў вылуп-

ленымі вачмі на станічнікаў,—яны маўчалі, апусціўшы вочы.—Цяпер я вам скажу, што надумалі зрабіць з вамі маскоўскія камуністы... Надумалі адабраць увесь хлеб на Дану, сагнаць станічныя табуны. Спрадвечную казацкую зямлю аддаць хахлам... І вас аддаць хахлам і жыдам у вечную няволю... Апамятайцеся, казакі!... Яшчэ не позна... Яшчэ вострая казацкая шашка...

Саплі, чырванелі, слухаючы яго, казакі. Ён грозна павярнуўся ў сядле—паказаў:

— За пяцьдзесят вёрст—Царыцын, большэвіцкая цытадэль. Не быць сэрцу Дона казачым, пакуль Царыцын, у іх руках... Станіцы Сувораўская, станіцы Ніжнячырская і Пяціізбянская, і Калач, а за імі іншыя станіцы і хутары, паўстаўшы за волю роднага Дона, павінны сфарміраваць палкі і ўзяць Царыцын у першую чаргу... У маёй асобе слаўны атаман Усевялікага войска Данскога—генерал Красноў—вам кланяецца на гэтым... (Мамантаў здзеў белую смушкавую шапку і нізка, з каня пакланіўся на тры бакі. Казакі спачувальна загаварылі). Прапануе вам атаман мабілізаваць неадкладна на абарону роднага Дона ўсіх годных насіць зброю казакоў іншагародніх ад дваццаці да пяцьдзесят год. Прапануе неадкладна і зараз-жа разгарнуць 23-і і 6-ы данскія казачыя палкі і да іх далучыць мабілізаваных. Тыя, хто будзе ўхіляцца ад мабілізацыі, належаць арышту і пакаранню розгамі... Казакі, абдумайце, не трацячы часу. Вынесіце мудрае рашэнне. Ад сябе дадам: веру, госпадзі, веру—хай будзе стаяць непахісна ціхі Дон. Наперад ведаючы ваша рашэнне, казакі, нізка вам кланяюся: дзякуй. І асабліва дзякуй маім залатым арлам...

Генерал у другі раз пакланіўся казакам і асабліва—былым членам станічнага совета.

Вяртаючыся пехатой з казацкага схода, Іона Нягодзін раптам спыніўся каля сцяпанавай хаты, падышоў і, шчыльна прыціскаючыся барадой і носам да шыбы, глядзеў, прыжмурыўшыся. Сцяпан адчыніў акенца.

— Заходзь, Іона Ларыёнавіч, што-ж ты так гэта...

Не адказваючы, Іона ўсунуў у акенца ўсю галаву.

— Гапка тут? Тут Гапка.. І ўдзень яна тут, і ўначы яна тут...

— З маленькім усё возіцца,—прымірэнча адказаў Сцяпан.

— За гэту работу я ёй пенсію плачу, я яе кармлю, я яе паю? Гэта якая звычка—казацкая ці хахлацкая?

— Хахлацкая,—гучна сказала Агрыпіна. Стукнуўшы дзвярмі—выйшла. Іона глядзеў ёй на спіну, калі Гапка наўскасяк пераходзіла вуліцу. Зноў улез галавой у акно...

— Ты дзеўку навучаеш так адказваць? Яшчэ ўбачу ў цябе яе, на двары,—горла перакушу, маць тваю!..

Іона скрыпнуў зубамі, выставіўшы губы. Ад яго пахла гарэлкай.

— Запомніў?

— Ідзі з богам, Іона Ларыёнавіч...

— А гэта...—Іона вылупіў вочы, налітыя злосным азарствам,

на Мар'ю, якая сядзела каля печы.—Піцерская... як цябе—жонка, каханка? Як нам разумець?

Мар'я раскрыла рот—ахнула. Сцяпан нахмурыўся.

— Дарэмна набіваешся на шум, Іона Ларыёнавіч,—не хачу я з табою біцца.

Іона абрадваўся, закінуўся, зарагатаў. Зноў усунуўся ў акно па плечы.

— Комуністка! Не схаваеш, Сцяпан, нічога з тваёй справы не выйдзе... Ух, ты, сцерва! (Зноў выставіў бараду). Агітпроп!

І ён шпарка ўхіліўся, выхапіўшы з акна галаву, калі Сцяпан махнуў кулаком. Паправіўшы раменны паясок, пагражаючы, сказаў:

— Рыхтуй назаўтра каня,—мабілізацыя.

Агрыпіна звадзіла коней на Чыр, напаіла кароў, загнала курэй у плецены, абмазаны глінай, куратнік, прынесла вёдраў трыццаць вады на агарод і не ведала—чым-бы яшчэ заняцца, толькі-б не ісці ў хату, дзе Іона, не запальваючы агня, сядзеў за сталом, курыў папяросы (падарунак Мамантава казакам)... Хаця ўжо дрэнна было відаць—прыцемкі,—Агрыпіна адчыніла дзверы пуні, зняла з дравянога цвіка падраны хамут і села на парозе ладзіць яго.

Нізка нагінаючыся, яна пракалвала доўгім шылам скуру, сціснуўшы хамут моцнымі каленямі, цягнула дратву. Два кажаны з'явіліся ў цямнеючай зары, закружыліся—усё ніжэй і ніжэй—над галавой Агрыпіны.

„Каму зараз скардзіцца? У каго шукаць абароны? Брат Мікола—далёка на фронце. Была-б яшчэ казачкай—усё-ж пасароміліся-б. Хахлушка, дзеўка, сірата—лёгкая здабыча..." Станічнікаў ды яшчэ такіх, як Іона, яна ведала: зараз ад іх нагцямі, зубамі не адаб'ешся... Уцякаць? Куды-ж уцякаць з роднай станіцы?"

Падняўшы галаву, Агрыпіна з сумам глядзела на зару, цямнеючую за вішнёвымі галінкамі. Кажаны мякка падняліся ўгару, кружыліся вышэй над яе галавой.

Яна ўспомніла, моўчкі шавелячы губамі, ад слова да слова ліст Івана Гары. Тайком паехаць да яго ў Мілерава? Сурова спытае: чаго прыляцела? За сядлом цябе, скажа, цягаць няўмелую, дурную, слабую? Не, скажа, Гапа, спатрэбішся,—сам паклічу. Не паскардзішся-ж, што збегла ад дзікага дзявочага страху, гледзячы сёння на чырвоныя казацкія патыліцы, што падкасіліся ногі,—адчула сябе ярачкай сярод ваўкоў.

Агрыпіна, не маргаючы, углядалася ў прыцемкі, мацней сціскала калені,—калі за варотамі пачуўся азарны тупат падкаваных ботаў, п'яныя, моцныя казацкія галасы. І зусім абамлела ад раптоўнага шораха лісця: кошка саскачыла з плоту ў вішаннік...

У хаце тузанулі дзверы, на двор вышаў Іона—у адной сарочцы, запраўленай у штаны з лампасамі. Расставіўшы ногі—зрабіў патрэбу. Пашоў, няцвёрда адчыніўшы калітку. Слухаў, як здалёку далятала ці то сабачае выццё, ці то крык чалавека...

— Лупцуюць,—сказаў,—лупцуюць...

Пашоў, цяжка тупаючы, ад варот, гаркнуў хрыплай глоткай: „Чубік, чубік, вися, чубік, весяліся казак малады..."

Раптам спыніўся, убачыўшы мутна бялеючую агрыпініну вопратку ў расчыненых дзвярах пуні:

— Гапка! (Яна не падняла галавы,—ледзь бачучы, тыркала некуды доўгім шылам). Гапка!—надрыўна паўтарыў Іона.—Кінь гэта... Давай па ласцы... Ведаеш час зараз? Вайна... Сабачыя рэўкомы, советы—пад корань...—Ён памалу, шалёна сціснуў кулак.—Шаблі наточым, комунію—пад корань.. Эх, ты, ярка!

Ён цяжка плюхнуўся на парог карэтніка. Драпаючы ботамі па зямлі, схапіў Агрыпіну за плечы—паварачваў да сябе тварам. Цяжка дыхаў, абдаючы яе гарачым дыханнем часнаку і гарэлкі. Агрыпіна ірванула плечы, але рукі ў яго наліліся нібы каменныя,—разінутымі ноздрамі цягнуў паветра.

— Па ласцы, па ласцы, сучка...

Барахталіся моўчкі... Ён толькі раз апусціў руку, каб адкінуць хамут, заціснуты ў гапкіных каленях...

— Калі паслаць цябе на хутар, Мар'я,—нічога не выйдзе... Па ўсіх хутарах, бадай, коннікі наляцелі ўжо з гэтай паперай... (Сцяпан чытаў і перачытваў адстуканы на машынцы загад новага станічнага атамана аб звяржэнні совецкай улады і мабілізацыі). Адна табе дарога—у Піцер...

— Не,—цвёрда адказала Мар'я,—туды—не.

— Вось то-та-ж, што не... А тут бы ўсё-ж дагледзела-б.. Карову трэба падаіць раніцай, увечары... Птушкі, парасяты—прападуць. Ах, божа ты мой, разлад поўны... Схадзі да атамана, пакажы пачпарт, беспартыйная-ж...

— Не,—зноў адказала Мар'я ўпарта,—і цару не кланялася...

— Ніхто цябе тут не зачэпіць,—сядзі ціха...

Сцяпан шпарка прысунуўся, прыадчыніў акенца. Слухаў, не кранаючыся. На шарэючых шыбах тужліва чарнеў яго вялікі нос, адвіслая губа...

— Другі крычыць... Лупцуюць, сволачы... Ну вось,—ты кажаш,—як я не мабілізуюся. Засякуць шампаламі... Браценнік Іван—іншая справа... Ванька—адукаваны, ён не можа ісці супроць сумнення... А я за што ім зад падстаўлю?

— Пойдзеш Івана забіваць?—ціха спытала Мар'я (сядзела яна ўсё там-жа на лаўцы каля печкі).

— Як так—Івана забіваць?.. Здурнела ты...

— Супроць каго цябе мабілізуюць? Супроць сваіх жа рабочых.

— Ах ты, божа ты мой!—Сцяпан з прыкрасцю зачыніў акенца.—Вось заўсёды вы так—адукаваныя... Наш брат—пакуль падумае,—а ўжо ўсё зроблена... Ну, дрэнна зрабіў, ну—ах, ах! А вам усе трэба наперад прымерыць, у вас, гарадскіх, часу, ці што, многа?.. Куды-ж я дзенуся ад мабілізацыі? У стэп збегчы? Што я там—суслікаў буду лавіць?

Мар'я, усё так-жа няголасна не спяшаючыся, адказала:

— Ты—не адзін, ты ды другі... Ведаць трэба—хто табе вораг, хто табе друг... Ты пры советах—жыў?..

— Ну, жыў...
— А пры атамане—знімай парткі...
— Фу ты, з бабамі гаварыць, ваду таўкчы... Ды куды-ж я дзенуся?
— Мабілізуйся... Такіх, як ты, у іх—тысячы... Кожная куля дана для рабочага... Будзеце гэта цвёрда памятаць,—атаманы многа з вамі не наваююць...
— Ну і—дурніца! Страляць-жа прымусяць?...
— Пападаць не прымусяць...
— Так, гэта, вядома,—страляць адно, пападаць другое... Ах, Мар'я... Ай, Мар'я... То была маўклівая, як авечка. І—скажы—як разгаварылася.

Ён охаў і паціскаў плячыма, круцячыся задам на лаўцы.

Дзверы пацягнулі знадворку. Сцяпан і Мар'я павярнуліся. Увайшла Агрыпіна і тут-жа, каля дзвярэй села на дашчаты ложак, дзе спалі Алёшка і Мішка. Спяшаючыся, грэбліва паклала нешта побач з сабою на край ложку. На другім баку дзвярэй над гліняным тазам вісеў рукамыйнік—з носікам... Агрыпіна глядзела на яго. Парыўчаста паднялася, вымыла рукі, выцерла іх аб падол і зноў села, нізка апусціўшы галаву.

Мар'я маўчала, выцягнуўшыся, глядзела на дзяўчыну. Ледзь адрозніваемы, белы твар Мар'і ўвесь нібы затросся. Агрыпіна ўскочыла, схапіла тое, што прынесла з сабою, кінула на падлогу, і зноў да рукамыйніка,—пачала ў другі раз мыць рукі. Яе ўзнятыя плечы ўздрыгвалі. Сцяпан нагнуўся з стула і падняў тое, што яна прынесла і кінула на падлогу: гэта было—шыла, да драўяной ручкі яго прыліпалі пальцы. Мар'я глядзела зараз на рукі Сцяпана, які круціў гэту рэч. Нібы дагадаўшыся, яна ўзялася за шчокі, з стогнам—ахнула гучна... Агрыпіна—на ложку—закруціла галавой. Сцяпан разявіў рот.

— Ты што нарабіла, Гапка?

Грыпіна адказала хрыпла:

— Іону... забіла...
— Іону? Ды—ілжэш? На смерць?
— Не памятаю... Нічога не памятаю...

Мар'я шпарка села побач з Агрыпінай, абняла, прытуліла галаву яе да грудзей. Дзяўчыну ўсю калаціла, як голую на ледзяным ветры.

У тую-ж ноч Агрыпіна ўцякла. Мар'я сабрала ёй з сваёй бялізны вузялок, падарыла—хаця і шкадуючы—зусім не ношаную поўшарсцяную цёмнабардовую спадніцу. Агрыпініна спадніца была ўся падрана, калі Іона ў дзвярах карэтніка ламаў дзяўчыну і яна, трацячы сілы, амаль без памяці, адчула ў руках заціснутае шыла і пачала калоць ім у часта дыхаючыя грудзі Іоны.

У пацёмку, шэптам, яна сказала Мар'і:

— Гідка мне, муціць мяне, лепш я голая пайду, а гэту спадніцу, кофту абкрывяненую—кіну.

Тады Мар'я ёй і падарыла бардовую спадніцу. Сцяпан таксама пахваліў: „Канешне, ад такой страшэннай справы табе трэба ўця-

кацъ падалей,—садзіся ў Чыру на поезд, едзь у Луганск, у Каменскую ці ў Мілерава... Работу знойдзеш, пачпарт у цябе не спытаюць...“

Агрыпіна пашла гародамі. На зорцы павярнула з дарогі да звілістай, яшчэ захоўваючай начную імглу, рэчкі Чыр, у кустах кінула падраную вопратку. Дзюга, моцна цёрла ўсё цела мокрым пяском. Прысеўшы, акунулася ў сцюдзёную ваду і—свежая, патрасаючы вільготнымі валасамі, зноў пайшла па дарозе да станцыі Чыр.

10

Мінула тры дні, як забілі Іону. Збегшую Агрыпіну не знайшлі: час быў такі гарачы,—спыталі на хутары і пакінулі. Па станцыях і хутарах скідалі савецкую ўладу. Лавілі комуністаў па гародах, па сенавалах, палявалі за імі па стэпу. Першыя атрады фарміруемай Мамантавым белай арміі перастрэльваліся ўжо праз Дон з атрадамі царыцынскіх рабочых. Тапілі лодкі і разбівалі паромы на тым і другім баку.

З станіцы Пяціізбянскай, па дарозе, што ідзе над Донам, потым спускаецца з узгоркаў, пакідаючы ўлева вялікі чыгуначны мост, а справа—хутар Рычкоў і далей—станцыю Чыр,—крокам ехала павозка на адным кані. Каля колаў ішлі, апусціўшы галовы, бязвусыя казачаняты—хто ў гарадскім пінжачку, хто ў рубашцы, але ўсе ў новых, сініх, з чырвоным аколышам, картузах. Іх было чацвёра з вінтоўкамі. Пяты сядзеў бачком, зачапляючы пяткамі спіцы колаў,—падганяў лейцай мокрага каняку, які ледзь выцягваў павозку з пяску.

У павозцы на саломе ляжаў Анікей Барысавіч. Круглы твар яго быў разбухлы, сіні, у кусках засохшай крыві. Вочы зацяклі, губы разбіты, галава абматана бруднай, у крывавых плямах, анучай. Рукі скручаны раменнымі лейцамі.

Калі дарога павярнула на роўнае месца, што спускаецца да станіцы Ніжнячырскай (за шаснаццаць вёрст ад станцыі),—на захадзе, на Лісінскіх прадгор'ях, замаячылі коннікі—тры, і яшчэ да іх з балкі выскачыла двое. Коннікі стаялі нерухома. Павозка спынілася. Казачонак спалохана саскочыў з яе, падышоў да таварышоў і яны пачалі глядзець на далёкіх коннікаў, без толку перакідваючы вінтоўкі з рукі ў руку...

Тады Анікей Барысавіч цяжка ўзняў плечы, лёг на бакавінку павозкі. На месцы заплыўшых крывападцёкамі вачэй у яго паказаліся шчэлкі. Набраўшы ў магутныя грудзі паветра,—захроп:

— Піць дайце...

Адзін з казачанят моўчкі падыйшоў да перадка павозкі, выцягнуў з-пад пасцілкі бутэльку з цёплай вадой, паднёс яе да распухлых губ Анікея Барысавіча. Напіўшыся, ён цяжка сказаў:

— Ягор,—ты ці што?

— Я, Анікей Барысавіч.

— Не сорамна табе?

— Бацька мой загадаў цябе везці. Сам яго ведаеш,—як мне не паслухаць?..

Другі з казачанят, у вялікім картузе, задзіраючы худаваты, пяшчотна-румяны твар, каб лепш бачыць з-пад насунутага казырка з злосцю сказаў:

— Ну, што? Да ночы тут стаяць? Ягорка, паганяй...

Ягорка ўзяў лейцы, торгаючы і паганяючы, пашоў збоку, каля кола. Коннікі, павярнуўшы, крокам рушылі па ўзгорку ў тым-жа напрамку.

— Хлопцы,—сказаў Анікей Барысавіч,—атрымліваецца такая справа: лепш вы мяне адпусціце.

— Маўчы!—крыкнуў казачонак у вялікім картузе.

Анікей Барысавіч павесіў галаву, цяжка дыхаў, вохаў, калі павозку падкідала. Але скрозь шчэлкі вочы яго пільна сачылі і за коннікамі, і за стэпам, і за тварамі казачанят.

— Добрага мала,—зноў сказаў ён.—Гэта разведчыкі на Лісінскіх вышынях. Калі белы раз'езд, я памру. Калі чырвоны раз'езд—вы памрэце. Што-ж тут добрага?

Павозка зноў спынілася. Казачаняты шэптам пачалі раіцца.

— Ох, хлопцы, ірвецца ў мяне ўсё ў сярэдзіне...—Анікей Барысавіч з цяжкасцю сеў у павозцы—хлопцы вы маладыя, данскія. Не якія-небудзь з верхавых яркоў павучкі, хто і Дона нават не бачыў,—пяцiізбянскія казакі! Ох, ох! Што добрага,—пойдзе пра вас слава, што вазілі ў Сувораўскую катаваць вядомага казака... Заспяваюць казачкі па ўсяму Дону славу пра пяціізбянскіх... Калі білі мяне ўчора—дык білі старыя казакі .. Адзін старычынка: мяне б'юць, а ён стаіць—прывёз пакет ад Мамантава—і прыгаварвае: „Не будзеш, Анікешка, цара праганяць, не будзеш...“ Вось якія манархісты мяне білі... А з маладых ніхто не адважыўся блізка падыйсці... Значыцца, гэта нашы справы—старэйшых... А вам лепш за ўсё: развяжыце мне рукі, і я пайду з богам... А вы скажаце: конь раптам спудзіўся ў яры, павозка перакулілася, а ён уцёк.

Двое казачанят пачалі нібы згаджацца, двое маўчалі, адвярнуўшыся. Анікей Барысовіч засоп:

— З Ванькам маім разам, бадай, гулялі? Ванька-б мой вашага бацьку павёз-бы катаваць... Куды ён вочы потым дзеў-бы?

— Адпусцім яго хлопцы,—глухім голасам сказаў казачок Ягор. Другі, у вялікім картузе, схапіў лейцы, ударыў каняку. Ніхто за павозкай не пайшоў, і ён кінуў лейцы. Павозка зноў спынілася.

Казачкам было па пятнаццаць-шаснаццаць гадоў. Атаман Півавараў, выбраны чатыры дні таму назад, пасля таго, як старыя станічнікі разбілі пяціізбянскі рэўком і совет, загадаў ім адвезці Анікея Барысавіча ў Сувораўскую і здаць пад распіску самому Мамантаву. Прыгразіў ваенным часам.

Казачаняты, сапраўды, толькі здалёку глядзелі, як іх бацькі і другія казакі з коламі і віламі прыбеглі на пляц, дзе Анікей Барысавіч паматушкі лаяў атамана Півоварава. Лаяў ён яго за загад—разбіраць чыгуначнае палатно ад маста да станцыі,—колькі магчымым будзе,—расцягваць па хатах дрот, семафоры, жалеза ўсякае... „І рэйкі бярыце,—загадваў атаман,—навошта нам дарога, у нас валы і коні, без яе Дон стаяў і будзе стаяць, а дарога патрэбна маскоўскім комуністам—хлеб у нас браць...“

Анікей Барысавіч за гэта лаяў атамана, і шмат хто разумелі, што правільна. І ён яшчэ крычаў: „Мабілізацыю абвясцілі. Ну, і хай ідуць ваяваць, каму не надакучыла, а мы і германскай вайной сыты па горла..“

Тады старыя казакі і кінуліся да яго, крычучы: „Мабілізацыю разбіваеш, пёс, комуніст“! Пачалі ірваць на ім рукавы і рубаху. Казачаняты бачылі, як ён валіў па двое, па трое казакаў, прабіваючыся да свайго дома. Злаўчыўшыся, яго ўдарылі калом па галаве, ён паваліўся на калені, і тут яго білі каблукамі, і каменнем, і каламі, пакуль ён перастаў варушыцца...

— Рукі мне развяжыце,—сказаў Анікей Барысавіч.—Я-б кроў высмаркаў...

Ягор паклаў вінтоўку і пачаў ужо раскручваць яму рукі,— у гэты час здалёку, з боку масту, спяшаючыся засвістаў знарад, гулка ўдарыла гармата, і над галовамі коннікаў на Лісінскіх узгор'ях лопнула белае, як вата воблачка. Коннікі павярнулі коней і схаваліся ў яры.

Анікей Барысавіч і казачаняты ведалі, што каля маста з учарашняга дня стаяла белая батарэя. Казачанё ў вялікім картузе рашуча схапіла лейцы, і сцёбаючы каняку, пабегла каля павозкі, Анікей Барысавіч споўз на салому. Павозку перакульвала. Распухлы твар яго матляўся, як мёртвы.

Выехалі на роўную нізіну. І тады—здалося зусім блізка—ззаду, з боку станцыі Чыр, бухнула гармата і—як вокам маргнуць— другая,—так злосна і гулка, што каняка спатыкнуўся і казачаняты адскочылі ад павозкі. Анікей Барысавіч ускінуўся на іх.

— Стой!—зароў, раздзіраючы павекі.—Стой, сволачы! То— чырвоныя! То Яхім падкаціў на Чыр! Пусціце мяне!

Зноў удар з боку маста і ўдар з боку Чыру. Крокаў за сто ад павозкі ірванула зямлю. Анікей Барысавіч учапіўся зубамі ў рамяні на руках сваіх. Казачаняты, ачмурэўшы ад страху пад перакрыжаваным агнём белых і чырвоных, беглі за павозкай. Каняка імчалася па дарозе да ніжнячырскай.

Калі ўехалі ў станіцу, Ягорка, ледзь не плачучы, сказаў:

— Анікей Барысавіч, у Сувораўскую не павязем, тут цябе здамо пад распіску, бог з табой...

Каля станічнай управы, пакуль прымалі пад распіску, Анікей Барысавіч ляжаў, не кранаючыся, зажмурыўшыся. Па галасах казакаў, якія стаялі натоўпам каля павозкі, пазнаваў знаёмых і запомніў усё:

„Не дабілі сабаку, шкода, шкода,“—гэта прапішчэў Папоў. Нехта цюкнуў у галаву, у акрываўленую анучу, і голас Грэмячова прагудзеў: „Хацеў быць чырвоным, зараз ты чырвоны... Хо-хо!“

Анікей Барысавіч ляжаў, як труп. Прышлося сцягваць з павозкі. Падхапіўшы яго сяміпудовае цела, павалаклі праз двор да разваленай хацінкі. (Усе сутарэнні і пуні былі забіты на атаманскім двары палоннымі). Кінулі на падлогу, прыперлі знадворку дзверы.

Анікей Барысавіч некаторы час прыслухоўваўся. Пачаў зубамі перагрызаць раменныя лейцы. Вызваліў рукі, устаў, хістаючыся.

дакрануўся да твару, да галавы, рэбраў. Нагнуўшыся—высмаркаў кроў. Стала лягчэй дыхаць.

Два акенцы без рам былі забіты знадворку гарбылямі. Скрозь шчэлкі ў іх быў відаць закінуты гарод з гнілымі цяблямі сланечніка і памідораў. Там паказаўся невялікі хлапчук, з светлымі скронямі. Паганяючы сябе дубцом, ён дурэў па конскаму: „І-га-га! Падскакваючы, падыходзіў усей бліжэй. Анікей Барысавіч пастукаў у дошку нагцём. Хлапчук зараз-жа падбег, узлез на акно, прытуліўся да шчэлкі між гарбылямі. Убачыўшы ў пацемках чорны, разбіты твар,—спалохаўся. Анікей Барысавіч, прываблiваючы яго, разляпіў разбухлыя губы,—хлапчук адскочыў. Потым усё-такі зноў узлез.

— Сынок, ты чый?

— Піцерскі, Алёшка.

— Мар'ін сын? Гэта—радасць. Ну, малы, выручай мяне.

— Уга, дзядзя,—сказаў Алёшка, бліскаючы вачмі,—хто гэта цябе так распісаў?

— Белыя казакі, брат.

— А ты ім таксама, бадай, панаклаў?

— Зразумела... Нутка, ляці хутчэй да Сцяпана. Скажы: Анікея Барысавіча пабітага прывезлі.

— Дзядзя, ды Сцяпана-ж забралі сёння...

— Ай, яй,—сказаў Анікей Барысавіч,—кепскія нашы справы. Тады табе прыдзецца... Ты смелы?

— Нічога, смелы. Адных павукоў баюся.

— Ну?—Анікей Барысавіч прысеў і выразна, шэптам, пачаў гаварыць:—Ляці, Аляксей, на станцыю Чыр, там убачыш эшалон з байцамі—Марозаўскі атрад... Цябе, вядома, затрымаюць. Можа, страляць будуць,—нічога не бойся... Вазьмі ў мамкі белую хусцінку і памахвай... Цябе схопяць: „Хто? Куды? Чаго?" Ты кажы: ад Анікея Барысавіча пасол. Крычы, каб вялі цябе да начальніка, Яхіма Шчадэнка... Яму, бачыш, далі ведаць, што тут казакі паскідалі советы, ён і прыбыў... Яхіму скажы: найпазней—заўтра раніцай—Анікея Барысавіча будуць расстрэльваць. Яхім, мусіць, пашле байцоў мяне выручаць, ты іх проста вядзі сюды... Усё зразумеў?

— Зразумеў,—часта міргаючы, сказаў Алёшка.—Добра, гэта я зраблю...

— Малайчына! Вы ўсе такія, піцерскія...

— Дзядзя, а як я да станцыі дабягу? Далёка.

— Ды верхам трэба, дурачына.

— Ой, верхам! Я звалюся...

— Які-ж ты смелы,—звалюся! Я сцяпанавага каня ведаю, ён разумны конь: звалішся, ён спыніцца. Звалішся, зноў узлезеш...

— Ну, добра, ці што,—сказаў Алешка. (З хвіліну яшчэ глядзеў у шчыліну на Анікея Барысавіча). Уздыхнуў:—Зраблю.

Ён асцярожна, аглядаючыся, пашоў па гароду—пабег, пералезшы праз пляцень.

Хутка настаў і змрок. Анікей Барысавіч лёг на тое месца на падлозе, куды паваліўся, калі яго ўпіхнулі ў хацінку. Лепш

за ўсё было задрымаць,—але не мог: то прыслухоўваўся ці не ідуць па яго—цягнуць на допыт да атамана, то перашкаджалі думкі, што хлапчук забаіцца, не паведаміць Яхіму. Мучыла смага. Хацелася халоднага гарбуза.

На атаманавым двары пачаў крычаць чалавек: „Ой, братцы! Ой, што вы робіце...“ Па крыку зразумела, што лупцавалі чалавека не лазой,—шампаламі. Ад гневу ў Анікея Барысавіча ледзь не разарвала грудзі, сэрца стукала ў палавіцы. Ляжаў, не варушачыся.

Вечар хутка пацямнеў зусім. Уціхлі гукі на двары. Ноч была цёмная, зацягнутая. Пахла дажджом.

Калі на жалезны дах пачалі падаць першыя кроплі і зашумеў невялікі вясенні цёплы дождж, Анікей Барысавіч раптам заснуў, заснуў так моцна, што толькі ад грукатаў ручных гранат—недзе побач—ачмурэла ўсхапіўся, прываліўся каля дзвярэй да бярвення сцяны.

Ірваліся гранаты... Пачуліся стрэлы... Дзікія крыкі... Цяжкі, шалёны тупат ног... Паспешныя галасы: „Дзе ён? Дзе ён?“

Піскрлівы галасок Алёшкі: „Тут, тут, таварышы...“

Дзверы пачалі трэсці і рваць,—затрэслася хацінка. Уварваліся горача дыхаючыя людзі... Анікей Барысавіч засоп, працягваючы рукі... яго падхапілі, пацягнулі з прэлай хацінкі на дождж, які пах дарожным пылам, тапалёвымі лістамі...

— Бегчы сам можаш, Анікей Барысавіч? Бяжым... Тутака недалёка,—Яхім за табой каляску прыслаў...

*(Канец у наступным нумары).*

*Андрэй Ушакоў*

# ПЕСНІ

## 1. Пісьмо

На цёплых лугах зацвіла мядуніца,
У садзе пяе салавей.
Такою парой мне твой погляд прысніцца
З шырокім разлётам брывей.

Ты зараз стаіш на граніцы з вінтоўкай
І пільна глядзіш на ўсход.
Ці помніш з вясёлаю песняй сяброўку,
Дзяўчынку семнаццаці год?

Ці помніш той сад, дзе ў чаромхавым цвеце
Сядзелі, забыўшы пра сон.
Чаму-ж цэлы месяц у сінім канверце
Пісьма не нясе паштальён?

Калі-ж, дарагі, ад бандыцкага зброда
Прыдзецца памерці ў баю,
Ты так памірай, як таварыш Лагода
Памёр за радзіму сваю.

Каб стаў на заставу твой брат ці равеснік,
Вялікай зямлі патрыёт.
Каб мужасць героя ўславіў у песнях
Шчаслівы, савецкі народ.

## 2. Песня маці

Любы сын дай пацалую,
Паляціш на смертны бой.
Ты вазьмі, вазьмі святую
Ненавісць маю з сабой.

Помні бедных матак слёзы,
Сірат голад і адчай.
Пры сустрэчы з бамбавозам
У рашучы бой ўступай.

Помні гарадоў руіны,
Здзекі азвярэлых зграй.
Будзь бязлітасным, краіну
Ад фашыстаў ачышчай.

А калі ты мужнасць страціш,
Прыгадай мяне ў бядзе.
Хай тады нянавісць маці
У рашучы бой вядзе.

З ёй ты заўжды і усюды
Пераможца і герой.
За тваю адвагу буду
Ганарыцца я табой.

---

*Мікола Аўрамчык*

## ПАРАШУТЫСТКА

Глуха, ціха ўжо шумеў прапелер
І матор змаўкаў у вышыні.
Знак падаў пілот.
А цёплы вецер
Павяваў лагодна ў цішыні.

Да зямлі з крыла прыжок спакойны.
За кальцо кранула ў сіняве.
Лёгкі скалануў штуршок. Павольна
Да зямлі яна цяпер плыве.

Глянула, над ёю купал белы,
А вышэй—грукоча самалёт,
Кружыцца пад хмаркаю, і смела
Ёй рукой махае сам пілот.

І на твары ўсмешка зацвітала,
І дзяўчына лёгкаю рукой
Птушку срэбракрылую вітала,
Плывучы над роднаю зямлёй.

Пазірала радасна і ясна
На прастор шырокае зямлі,
Дзе за гаем родным, за калгасным
Збажынной хісталіся палі.

Вось ужо зямлю кранулі ногі,
Вось ужо вакол шуміць трава;
І яе падружкі ля дарогі
Пачынаюць песню запяваць.

Заспявала. І на твары ўсмешка,
Зноў знаёмы ўспомніўся пілот.
Бачыла як на зямлю за рэчкай
З вышыні спускаўся самалёт.

Ст. Цялуша.

*Анатоль Астрэйка*

## НАШЫ РОДНЫЯ, БЛІЗКІЯ...

Нашы родныя, блізкія —дома.
Добры дзень, сакаліны атрад,
Першы лётчык, адважнейшы Громаў,
Баявая сям'я арлянят.

Вас расціў вучань Леніна—Сталін,
Гартаваў вас крылаты народ,
Каб былі вы падобныя сталі,
Каб не зналі ў шляхах перашкод.

І вы славу краіны пранеслі
Над усёю зямлёю, як сцяг,
Як жывую, як вечную песню
І ў шыр, і ў высь, і наўсцяж.

Громы воплескаў ллюцца над вамі,
Буры воклічаў мчацца ў бяскрай.
Ганарыцца па праву сынамі
Найдзівоснейшы сталінскі край.

Мы падымем адвагаю нашай
Вышэй сонца свае караблі,
Бессмяротна слава бясстрашных
Будзе жыць на вялікай зямлі.

А калі загрукоча навала,
Калі вораг навяжа нам бой,
Возьмем смеласць з сабою і славу,
І нянавісць мы возьмем з сабой.

Нашы родныя, блізкія—дома.
Добры дзень, сакаліны атрад,
Першы лётчык, адважнейшы Громаў,
Баявая сям'я арлянят.

*Ю. Віцьбіч*

# АПАВЯДАННЕ КАВАЛЯ РАЯКА

Гэта апавяданне мы пачулі на жалобным сходзе, прысвечаным памяці правадыра. Спачатку сакратар парткома расказаў пра неўмірушчае жыццё непахіснага большэвіка, імя якога з гонарам нясе наш чырвонасцяжны завод. Потым, адразу за сакратаром, папрасіў слова каваль Евель Раяк. Ніхто раней не бачыў, каб ён на сходах выступаў. Таму мы з яшчэ большай зацікаўленасцю слухалі маўклівага каваля, які, хвалюючыся, часам спыняючыся, нарэшце ўсё-ж загаварыў.

Улетку трыццатага года, таварышы,—так пачаў сваё апавяданне Раяк—здарыўся са мной няшчасны выпадак. Калі я каваў нажы для плугоў, нечакана адскочыла драбінка метала і трапіла мне проста ў вока. Ад болю я застагнаў і пахіснуўся. Мне здалося што ўвесь цэх ахапіла полымем, якое адразу-ж і пагасла. Кавалі падхапілі мяне пад рукі. Павялі ў завадскі медпункт. Там вока прамылі борнай кіслатой і я зноў убачыў ясны дзень, але ўсё-ж жалеза гэта не цукар, каб ад борнай распусціцца. Таму з медпункту накіравалі мяне да гарадскога акуліста.

— Неадкладна паязджайце ў Менск,—прапанаваў малады доктар.—Вам патрэбна аперацыя. На жаль мы яе тут пакуль што зрабіць не можам.

І праз некалькі гадзін я ехаў у Менск. Страхкаса дала накіраванне і грошы. На заводзе вельмі чула аднесліся да мяне і таксама дапамаглі. Завод сказаў:

— На, табе, Раяк, сто пяцьдзесят рублёў, язджай у Менск і лячыся!

Калі я прыехаў у Менск боль амаль што сціх. І вядомы прафесар-акуліст, агледзеўшы вока, супакоіў мяне:

— Нічога асабліва страшнага няма. Цяпер аперацыю рабіць нельга, а як толькі забаліць зноў, дык мы вам іншароднае цела выцягнем.

Прапрацаваў я на сваім заводзе без асаблівых здарэнняў два гады. Часам вельмі балела вока. Гэта-ж не казюлька, а жалеза у ім сядзела. І вось неяк у трыццаць другім годзе боль так асіліў, што я больш не мог трываць. Вакол вока апухла, з'явіўся галаўны боль, па начах не сплю. Хоць ты ратунку крычы!

Усе мне раілі ехаць у Ленінград. Падрыхтавалі нават спіс Ленінградскіх больніц і прафесароў, але страхкаса туды накіра-

вання не дае. Што рабіць? Пайшоў я параіцца да сакратара парткома Сімуні. Вы добра ведаеце гэтага прахвоста. Надысь ён, як вораг народа, атрымаў ад сесіі Вярхоўнага суда цалкам заслужаную ім колькасць год. Дык вось гэты, на жаль тады яшчэ не выяўлены вораг, пачаў з мяне кпіць:

— Інтурыст які знайшоўся. Залетась ездзіў у Менск, сёлета збіраецца ў Ленінград, а там пэўне мяркуе і ў Маскву прабрацца. Проста табе, Раяк, катацца хочацца. Далося нам у знакі твае вока. Ніякай падтрымкі не чакай. Хопіць і віцебскіх дактароў.

Але хіба было ў роднага завода „Чырвоны металіст" што-небудзь, калі-небудзь агульнае з гадам Сімуні? Таму завод сказаў:

— На, табе, Раяк, пяцьсот рублёў, язджай у Ленінград і лячыся.

І вось я апынуўся ў Ленінградзе. Спыніўся на кватэры ў жончыных сваякоў, у першы-ж дзень накіраваўся ў Облздраў. Іду па вуліцы і ад болю хістаюся, як, даруйце, апошні алкаголік. Вока завязана. На яго проста жах зірнуць—адзін суцэльны нарыў з кулак велічынёй. Перад другім вокам ад бяссоніцы нейкі чад плыве. Галава, нібы коўш чыгуном наліты. Ледзь толькі дайшоў да вялікага будынку, у якім памяшчаецца Облздраў. І з гэтым будынкам, трэба праўду сказаць, я надта добра пазнаёміўся. Спачатку, мяне накіравалі на трэці паверх, потым з трэцяга на першы, затым з першага на другі. На чацверты паверх не пасылалі пэўна таму, што будынак трохпавярховы. А калі я абыйшоў усе гэтыя паверхі і амаль што усе калідоры ды пакоі, тады пачуў:

— Накіраванне мы вам, як не ленінградскаму не дадзім. Паспрабуйце звярнуцца ў больніцу на Махавой. Захочуць там прыняць, няхай прыймаюць, не захочуць—няхай не прыймаюць. Гэта іх асабовая справа, якая нас зусім не датычыцца.

Не помню, як толькі дацягнуўся да Махавой. У рэгістратуры больніцы са мной абыйшліся больш ветліва, чым у Облздраве, але таксама адмовілі:

— Уся справа ў тым, што вы не мясцовы. Паспрабуйце папрасіць непасрэдна самога загадчыка. Ён часам прыймае і з іншых вобласцей. Цяпер загадчык у камандыроўцы, але не заўтра, дык паслязаўтра прыедзе.

Прыходзіў я ў больніцу на другі дзень, на трэці, на чацверты, на пяты. За гэты час абыходзіў шмат прафесароў і па іхніх кватэрах. Усе яны гаварылі, што трэба зрабіць аперацыю, а каб зрабіць аперацыю, трэба больніцу. Нарэшце праз тыдзень даведаўся, што загадчык прыехаў, але нікога не прыймае. Толькі на другі дзень трапіў я да яго. Упусцілі мяне ў вялікі пакой, у пакоі стаяў адзін стол, за сталом адно крэсла і ўжо на гэтым крэсле, за шклянкай кавы, сядзеў сам загадчык. Нічога сабе, ніштаваты грамадзянін. Такі наогул дзесяціпудовы, нос з добрую бульбіну і на ім вялікія акуляры, барада бліскучая, нібы ў алей акунутая.

— Няма месца,—сказаў загадчык, скасавурыўшыся на мае дакументы.—Для ленінградскага мы-б яшчэ самаўплатніліся, але-ж вы з Беларусі.—Памешваючы лыжачкай у шклянцы і крыху пры-

губіўшы з яе, ён дадаў.—Усё-ж прыходзьце заўтра. Можа што зробім.

Два тыдні штодня пасля гэтага хадзіў я да загадчыка і нарэшце больш не вытрымаў. Адкуль толькі словы ў мяне ўзяліся. Расказаў яму пра наш Віцебскі завод „Чырвоны металіст", які паслаў мяне лячыцца, пра плугі, якія мяне ўдарніка чакаюць, пра сям'ю, якая разам са мной за мяне хварэе і скончыў:

— Я сапраўды не тутэйшы, але скажыце, калі-б, крый божа, я-б трапіў пад тутэйшы трамвай, дык вы-б паслалі мяне для першай перавязкі ў Віцебск?

Тут загадчык устае і далікатна бярэ мяне пад руку:

— Ну, добра, пойдзем, калі ласка, таварыш Раяк!

Абрадаваўся я вельмі. Думаю,—а што, расчуліла цябе мая прамова? Спушчаемся мы ўдвох па лесвіцы на ніжні паверх і раптам, крута звярнуўшы ад рэгістратуры да раздзявальні, загадчык гаворыць:

— Таварыш гардэробшчыца, падайце, калі ласка, іншагародняму грамадзяніну яго паліто і больш у больніцу не пушчайце. У выпадку чаго такога паклічце дворнікаў.

Нават пачырванеў я ўвесь ад знявагі. Шмат чаго хацелася сказаць, але-ж я каваль, а не адвакат, молат мяне лепш слухае, чым язык. Таму пацішу пайшоў да кватэры. А з кватэры паехаў проста на вакзал. Апанавала мяне, трэба праўду сказаць, крыўда. Калі-б я быў зусім здаровым, дык можа і дабіўся свайго, але-ж я апошні час пачаў хадзіць з кійком. А потым зачым здароваму больніца? Прыехаў я гэта на вакзал, па дарозе купіў на апошнюю пяцёрку куклу сваім дачкам і заняў месца ў чарзе. Стаю гэта я ў чарзе, ад болю вусны сам сабе кусаю, і раптам чую збоку:

— Га-а! Раяк! Чорт мазаны! Ледзь толькі спазнаў! Хто-ж гэта табе вока падбіў? З жонкай паспрачаўся? А можа пасля чаркі паслізнуўся? Ці што? Ці даўно наогул у Ленінградзе працуеш?

Гляджу—ажно гэта стары знаёмы, чырвонаметалістаў. Ён раней працаваў у нас кавалём, а потым пераехаў у Ленінград. Забыў яго прозвішча, ведаю толькі, што ён з Полацку і зваць Масеем.

— Каб табе, Масей,—кажу я, моцна паціскаючы руку,—такая добрая жанчына, як мая Хана. Ніколі мы з ёй не спрачаемся. Жывём душа ў душу. Слізгануцца мне няма чаму, бо гарэлку не ўжываю. А ў Ленінградзе я хацеў лячыцца—і расказваю старому знаёмаму, як, што і ў чым справа. Расказваю, а сам разам з чаргой усё бліжэй ды бліжэй да касы пасоўваюся.

— Ну і дурань ты Раяк!—гаворыць нечакана Масей.

— Чаму гэта дурань?—здзівіўся я.

— А хіба не?—пацвярджае Масей.—У Облздраў ты хадзіў? Хадзіў. На Махавую хадзіў? Хадзіў. Да прафесароў на кватэры хадзіў? Хадзіў. А ў Смольны ты хадзіў? З нашым Міронычам гаварыў?

Нічога я спачатку не зразумеў. Пэўна, думаю, у маім віцебскім спісу прапусцілі больніцу Смольны і прафесара Міроныча. Не

інакш, мяркую. Але чырвонафлоцец, які перада мной за білетам на Одэсу стаяў, раптам растлумачыў:

— Сапраўды, трэба вам, таварыш, з'ездзіць у Смольны і пагаварыць з таварышам Сергеем Міронавічам Кіравым.

— Да яго падайцеся,—дадаў побач дзед-плотнік з сякерай за поясам.—Надысь ён, як родны бацька, сустрэў нашых вялікалуцкіх.

Тут я ўсё зразумеў. Толькі, як ехаць наконт вока да таварыша Кірава? Адзін з вокам прыедзе, другі з рукой, трэці з нагой. Думаю аб гэтым і якраз падыйшла мая чарга атрымоўваць білет. Зірнуў я неяк разгублена на касіршу, працягваю ёй грошы, пытаю білет з плацкартай, а касірша вясёлая, разбітная дзяўчына, грошы не бярэ, білет не дае і ўсміхаючыся гаворыць:

— Я даю білеты на Віцебск, Кіеў, Одэсу, а вам, таварыш, трэба да Смольнага. Вось тут каля вакзала сядайце на трамвай і абавязкова, зараз-жа, паязджайце да таварыша Кірава.

Падзякаваў я касіршу за параду і пайшоў да трамваю. Майсей за руку падтрымлівае. Чырвонафлоцец чамадан мой нясе. Дзедплотнік ззаду крычыць:

— Сустрэне, як родны бацька!

Пасадзілі яны мяне і я паехаў.

У Смольным дзяжурны спытаў дакументы. Я паказаў просьбу завода, каб мяне вылячылі, профсаюзную кніжку, паперкі ад больніц. І дзяжурны сказаў:

— Сядайце вось там, таварыш, і пачакайце. Таварыш Кіраў цяпер у горадзе, але неўзабаве прыедзе.

Чакаць мне давялося не доўга. Да будынку пад'ехала машына і з яе выйшлі тры чалавекі. Сярод іх я адразу спазнаў па партрэтах таварыша Кірава. Каржасты, шырокаплечы, малажавы, вясёлы, ён ішоў па калідору і ўсміхаўся, жартаваў, гаварыў. На ім была яго звычайная фуражка, палінялы макінтош і простыя боты. Ён прайшоў у свой габінет і праз якую хвіліну адтуль выйшаў дзяжурны:

— Таварыш Раяк, увайдзіце.

Я ўвайшоў і збянтэжыўся. Таварыш Кіраў сядзеў за сталом, на якім цяпер паміж кавалкам нейкай руды і невялікай мадэллю знарада ляжалі мае дакументы. Заўважыўшы маю збянтэжанасць і завязанае вока, ён, так добра і так спачувальна ўсміхаючыся, прапанаваў мне сесці насупроць сябе:

— Сядайце, таварыш. Адкуль вы?

— З Беларусі, таварыш Кіраў,—адказаў я.—З Віцебскага заводу „Чырвоны металіст".

Далей таварыш Кіраў спытаўся, як ідзе работа на нашым заводзе, якія заводы яшчэ ёсць у Віцебску, як здарыўся са мной няшчасны выпадак. Мая збянтэжанасць адразу знікла. Мне здалося, што я размаўляю са старым найлепшым сябрам, які ведае да дробязей не толькі маё ўласнае жыццё, але і жыццё маіх бацькоў і дзядоў. Я расказаў, як мне давялося хадзіць у пошуках лячэння, а потым, неяк выпадкова, ужо прызвычаіўшыся паказваць сваё вока дактарам, прыпадняў павязку і таварыш Кіраў ахнуў:

— Скандал, чорт вазьмі! Які скандал!

Ён пачаў нешта хутка пісаць і адначасова дапытваўся: ці вялікая ў мяне сям'я? Колькі год маім дзяўчынкам?—Потым працягнуўшы ліст сказаў:

— Паязджайце на Махавую і лячыцеся. А калі зусім вылечыцеся, тады бярыцеся каваць плугі. Яны нам патрэбны.

Я ўзяў ад таварыша Кірава ліст і падзякаваў яго.

Ідучы ад Смольнага да Махавой, не чуў пад сабой ног. Нават боль у воку не адчуваўся так балюча. Я ўсміхаўся, мне хацелася пяяць, хацелася спыніць таго ці іншага сустрэчнага і падзяліцца з ім сваёй радасцю.

— Я, віцебскі каваль Евель Раяк, толькі што гаварыў з нашым Сергеем Міронавічам Кіравым.

Неўзаметку дайшоў да бальніцы. Бачу з яе дзвярэй нечакана выскачыў на вуліцу, без шапкі, загадчык, бяжыць у мой бок дробным трушком і яшчэ здалёк крычыць:

— Добры дзень, таварыш Раяк! Як ваша вока? Як здароўе нагул?—Спяшаючыся мне насустрач, ён усміхаўся так салодка, што мне, трэба праўду сказаць, зрабілася млосна. Чым гэта тлумачыцца?—думаю. Я працягваю яму ліст, але загадчык, узяўшы мяне пад рукі, сказаў, абціраючы з твару пот:

— У-уф! Не трэба. Мы ўжо ўсё ведаем, таварыш Раяк! Толькі што наконт вас нам тэлефаніраваў таварыш Кіраў. З Облздрава таксама тэлефаніравалі і прапанавалі тэрмінова забяспечыць усе ўмовы для лячэння. Калі ласка, праходзьце, таварыш Раяк.

У раздзявальні загадчык дапамог мне скінуць паліто. Потым, нават не пасылаючы для афармлення ў рэгістратуру, ён правёў мяне проста да ванны. Тэрмометрам паспрабаваў тэмпературу вады. Увесь час усміхаўся, але я ўжо не верыў шчырасці яго ўсмешак. Не дарэмна не верыў. Пасля, у Віцебску, з ліста ленінградскіх сваякоў, даведаўся, што пазней загадчыка гэтай бальніцы знялі з работы і арыштавалі, як шкодніка. А тады гэты гад, якому моцна прыцiснулі хвост і ўзялі на адпаведны ўчот, штодня па некалькі раз падыходзіў да майго ложку, амаль штодня збіраў кансіліумы дактароў.

Праз месяц, зусім здаровы, я ехаў у Віцебск. На вакзале яшчэ раз падзякаваў вясёлую касіршу, якая не дала мне білет пакуль я ёй і чарзе пра ўсё не расказаў. Масей, стаючы на пероне, махаў мне ўслед рукой. Я ехаў зноў на свой завод „Чырвоны металіст“, які цяпер носіць імя таварыша Сергея Міронавіча Кірава. Мяне чакалі чырвонаметалістаўцы, мой молат і найлепшыя кіраўскія плугі.

Вось і ўсё, што мы пачулі ад заўсёды маўклівага каваля Евеля Раяка. Ад яго апавядання ахутала нас цяплынёй вялікага кіраўскага сэрца, якое радавалася з усімі намі і хварэла за ўсіх нас. Хварэла за горцаў Каўказа, за нафтавікаў Азербайджана, за працоўных горада Леніна і за вока віцебскага каваля.

Віцебск.
Снежань, 1937 г.

*Алесь Жаўрук, Андрэй Ушакоў*

## ПЕСНЯ ПРА ДУКОРСКІХ ПАРТЫЗАН

Дрыжэлі на золку халодныя зоры,
Бялеў на лагчынах туман.
Жаўнеры вялі за мястэчка Дукоры,
Вялі на расстрэл партызан.

Паставілі ў шэраг над вырытым ровам.
Страляць афіцэр загадаў...
Пятнаццаць маўчалі, нахмурыўшы бровы,
Шаснаццаты мужна сказаў:

„Браты дарагія, няхай за советы
Нас каты на смерць прывялі—
Я веру—жыццё закрасуе на гэтай
Палітай крывёю зямлі.

Не плачце над намі, гаротніцы маткі,—
Не схіліцца ленінскі сцяг!"...
Махнуў афіцэр тады злосна пальчаткай,
І залп загрымеў у прасцяг.

Гады праляцелі, як шэрыя гусі,
Развеялі скруху вятры.
Красуюць без межаў палі Беларусі,
Гудзяць у палях трактары.

Красуюць чарэшні ў мястэчку Дукоры,
За рэчкаю песня гучыць.
Нам яваю стала жыццё, аб каторым
Вы марылі, ў бой ідучы.

Дык спіце спакойна пад рослай травою
Па схіле высокай гары:
Зямлю, што здабыта гарачай крывёю,
Мы пільна вартуем, сябры.

Масква, кастрычнік 1937 г.

*А. Піскавіцін*

# СМЕРЦЬ САЛДАТА

Апавяданне

Апранутыя ў зашмальцаваную салдацкую форму, яны беглі па адхоністаму скату яра, трымаючы вінтоўкі напагатове. Твары азвярэлыя, пазарасталыя, худыя. Там, наперадзе быў ён, вораг. Адзін з іх, дабегшы да бярозавага куста, раптам спыніўся, левай рукой схапіўся за грудзі. Вінтоўка выпала ў яго з рук і пакацілася па скату. Чалавек упаў.

У гэты ясны сонечны дзень па дарогах і палях грукацелі, пылілі, імчаліся коні, гарматы, абозы—узнімалася і ірвалася ў клочча зямля, падалі людзі, а тыя што асталіся ў жывых, як і раней, імкнуліся наперад, нібы зачараваныя.

На зямлі ішоў бой, а над зямлей, як заўжды, ззяла сіняя вышыня—бясконцая і спакойная—празрыстага, вераснёўскага дня.

Людзі, гарматы, фурманкі прагрукацелі, праімчаліся, пакінуўшы ззаду разбітыя павозкі, груды скалечаных трупаў, чорныя ямкі ад знарадаў, якія дыміліся па краях.

Падала сонца, усё больш цмяным рабіўся дзень і надыходзячая ноч агортвала акрываўленыя палі. І поле і лес у паўзмроку набывалі звычайны мірны выгляд. Палымнеў небасхіл, у далінах кладіся доўгія цені ад бугроў і ад лесу і толькі сям-там па буграх ружовым святлом палалі вярхушкі траў. Узрывы грукалі ўжо ў аддалях і толькі зрэдку ў вышыні свісталі кулі.

Паранены ў грудзі чалавек з скруткам шыняля праз плячо праз сілу падняўся, сяк-так узабраўся на край яра і, заўважыўшы ў далячыні людзей, закрычаў тонка і пранізліва. Пасля раптам закашляўся, абодвума рукамі схапіўся за грудзі і, харкнуўшы чорным згусткам крыві, захістаўся і адразу асеў на зямлю. Ён дрыжачай рукой развязаў скрутак шыняля і скінуў яго з пляча, пасля зняў заплечную сумку, расшпіліў рубашку і, убачыўшы як з раны струменіць кроў, спалохаўся і закрыў рану рукой.

Другой рукой расшпіліў сумку—бінта ў ёй не было. Тады ён разматаў пыльную абмотку з правай нагі, дастаў брудную насавую хустачку, прыкрыў ёю рану і сяк-так закруціў рану абмоткай.

— Трэба да сваіх,—прамільгнула ў свядомасці і ён не скончыўшы перавязку, зноў узняўся на ногі.

Адчуваючы моцную слабасць, у галаве муць, ён ступіў тры крокі, захістаўся і упаў на спіну. Знепрытомненне прайшло хутка і, расплюшчыўшы вочы, паранены ўбачыў нерухомае лісце бярэзніка і неба. Ён паспрабаваў павярнуцца, але боль спыніў яго

спробу. Шырока адкрытымі, запаленымі вачыма ён бачыў, як высокія перыстыя воблакі расплываліся, зліваючыся з небам. Цяпер ён адчуваў спакойную абыякавасць да сябе ад слабасці, якую ён адчуваў ва ўсім целе. Недалёка чарнела спакойная глыбіня лесу. Лес быў надзвычай падобны на той, каля якога знаходзілася яго родная вёска. Яму здавалася, што ён на радзіме, што гэта над роднымі, знаёмымі з малых год палямі спускаецца вечар.

Надалёка, разарваўшы цішыню, выгукнуў гудок паравоза. Па зялёным гушчары пакацілася рэха, гучала доўга, доўга, усё далей і далей... І вось яно сціхла. Але недалёкі, аднастайны, да няўлоўнасці высокі гук, падобны на звон тэлеграфных правадоў у летні вечар, чуў паранены. Гук гэты, як удары ў штосьці надзвычай звонкае, то ўзнімаўся і чуваць быў выразна, то зусім прападаў. Паранены заплюшчыў вочы, прыслухоўваючыся, напружваў памяць— дзе чуў ён такія знаёмыя, хвалюючыя і незразумелыя гукі? Ніяк не ўспомніць. Але гукі далятаалі больш выразна, паранены кідаўся ад жару і яму здавалася, што выращыўшы загадку гукаў, ён скіне з сябе груз пакут. І толькі пачуўшы, што ў далячыні тройчы прагучэла медзь невялікага звона, ён адчуў палёгку і ўспомніў даўнішні забыты вечар, густыя травы, кветкі, высокае чыстае неба, пяшчотныя колеры закату, неабсяжныя гарызонты і ружовыя рэйкі, што беглі ў таямнічую далячынь. Тады ён быў маленькі, мала што разумеў і адчуваў сябе згубленым у гэтым вялікім і незразумелым свеце. У той вечар ён чуў гэтакія-ж гукі—званіў звон на іхнай станцыі—і тады ўпершыню убачыў хараство і велічнасць жыцця. Ён працягнуў нітку успамінаў да таго першага вечара, што астаўся ў памяці, далей праз усё сваё жыццё і толькі цяпер зразумеў, колькі дробязнага, штодзённага і нязначнага, што цалкам забрала яго увагу, усе яго сілы, было ў яго жыцці. Жаданне жыць інакш, асэнсавана, для шчасця такіх, як ён, у спалучэнні з усведамленнем няўхільнасці блізкай смерці, напоўніла сэрца параненага бязвыходнай тугой.

Паранены ўзняў галаву, каб больш выразна пачуць далёкі гук. Было зусім ціха. Боль у плячы разануў распаленым жалезам і, нібы ільдзяною рукою, сціснула сэрца. Ён адкінуў галаву і застагнаў. У сярэдзіне так пякло, што цяжка было трываць, усё роўна як там ляжаў распалены камень. Хацелася піць.

Слабая надзея, якая заўсёды заходуваецца ў чалавеку пакуль ён жывы, то ўспыхвала ярчэй, то згасала і тлела, як вугаль, які дасталі з кастра.

Ён паварачваў галаву, чакаў ці не з'явіцца дзе чалавек, і бачыў, як на ружовым фоне небасхіла хісталіся сухія былінкі, ды ў канцы яра ў малінавым моры растапліваўся і расплываўся бясформны злітак золата.

Правай рукой ён асцярожна мацаў на грудзях рану, прыпухлую, у бугарках запёклай крыві. Сабраўшыся з сіламі, ён узняўся на калені і папоўз уніз к вадзе, правай рукой абапіраючыся аб зямлю, а левую цягнучы, як бізун. Абяссілеўшы, ён пахіснуўся, упаў на левую руку і страціў прытомнасць.

Свежасць вераснёўскай начы вярнула яму прытомнасць, ён

доўга думаў аб тым, дзе ён і, успомніўшы, што з ім здарылася, зноў пацягнуўся к вадзе. Над ярам узышоў белы, нібы зашаранелы месяц. Паранены дабраўся да вады, чэрпаў яе рукой і прагна піў. Вада сцякала з далоні і звочка булькала, адбітак месяца пераліваўся палаючымі чырвонцамі пад рукою. Вада асвяжыла хворага, ён павярнуў назад, пачаў узбірацца па схілу і, убачыўшы міргаючыя зоркі Мядзведзіцы, спыніўся. Зоркі бліскалі адвечным халодным святлом і хваравітую свядомасць параненага агарнуў страх, які невыразна аформіўся ў думку.

— Ззяюць даўно... абыякава і будуць доўга, вечна ззяць... Я ўжо не пабачу іх.

Ён адпоўз яшчэ некалькі крокаў, лёг на спіну, намагаючыся падкласці пад рану абмотку, якая з'ехала. Ён прымушаў сябе верыць, што ён астанецца жыць. Каб староннi чалавек мог зірнуць у душу параненага, ён здрыгануўся-б, убачыўшы тытанічныя намаганні асуджанага чалавека, які безнадзейна змагаўся з смерцю. Яму хацелася ўстаць і бегчы з гэтага праклятага, крывавага месца. І ён чакаў, чакаў і верыў, што да яго вернуцца сілы і ён пойдзе адсюль на першы міргаючы агонь.

Слабасць кружыла галаву, пад ім падала ўніз і круцілася, як карусель, часам спыняючыся, зямля і тады думкі варочаліся да яго, збіраліся ў стройны парадак, ахопліваючы аграмадны круг у часе і прасторы. І цясніліся, цясніліся вобразы перажытага. Ён успамінаў, як трывожыла і выклікала ўздым медзь горна, чуў як бразгалі акаваныя боты, звінела зброя, білі барабаны, грукацелі абозы. У паход, за цара, за бацькаўшчыну!

Яму ўспамінаўся перажыты ўздым, як ён хацеў быць героем, як моцна сціскаў зброю, адчуваючы ап'яняюча-саланаваты пах парахавога дыму. У паход, на бой!—і смерць аднаго здавалася мізэрнай у грозным руху мільёнаў рускай арміі.

Белавусы генерал у абшытым золатам мундзіры, стоячы на аўтамабілі, нервова ківаў галавой і крычаў грамыхаючым голасам:

— Гонар і слава рускаму салдату загінуць на полі бойкі за веру, вялікую праваслаўную вер-р-ру...

Вецер разносіў яго словы, шкуматаў стракаты трохкаляровы флаг.

— Хвала і слава памерці за цара, вялікага самадзержца расійскага...

Шырока ляжалі зялёныя палі і генерал, паказваючы на іх рукою, патэтычна крычаў:

— За нашу непераможную айчыну з доблесцю памерці рускаму салдату...

Тады гэтыя словы гучэлі важка і салдаты ўспрыймалі іх як нешта падобнае на праўду. А цяпер паранены адчуваў спустошанасць. Яна была разбіта нашчэнт гэта ўпэўненасць у неабходнасці абароны веры, цара і бацькаўшчыны. Яе разбілі месяцы франтавога жыцця, калі ў акопах салдаты палілі абразы, каб абагрэць азябшыя пальцы рук.

Цара праклялі змучаныя вайной, галодныя салдаты і ў казарме, пад агульныя заахвочваючыя крыкі, пакалолі штыхом і знішчылі яго грозны партрэт.

Да фронта дайшлі словы, падхопленыя салдацкай масай за іх глыбокую праўдзівасць.

— Далоў вайну!—чулася ў акопах, услед за заклікам піцерцаў, што прышлі на фронт у папаўненне.

— Вайна вайне!

І калі параненаму прыгадаўся салдат Русаў, расстраляны афіцэрамі за прапаганду спынення вайны, гэты ўспамін раптам вярнуў яму частку страчаных сіл.

У тыя часіны, калі ў бясконцым грукаце, у крыві, з дня ў дзень штыхі, кулі, знарады няспынна, няўхільна знішчалі тысячы людзей, калі жыццё пасля чарговага бою здавалася выпадковай знаходкай, у тыя цяжкія часіны голас Русава прагучэў, як голас розуму і паказаў выйсце з безвыходнасці.

Русаў расказаў салдатам, што яны паміраюць за шчасце шчаслівых, ён расказаў, што бедным не патрэбна бацькаўшчына, у якой іх прыгнятаюць і распараджаюцца імі як хочуць, кідаючы іх у гарматны агонь вайны, прымушаючы забіваць такіх, як яны, і паміраць невядома за што.

Хтосьці здрадзіў, выказаў агітатара і яго павялі і расстралялі на вачах ва ўсіх. І Русаў не збаяўся—гэта бачылі ўсе. І перад смерцю ён сказаў тое, што гаварыў пры жыцці. Салдаты бачылі бясстрашнасць Русава, ведалі, што для яго шчасце большасці было куды даражэйшым, чым яго жыццё.

Думаючы пра Русава, паранены забыў пра свае пакуты—нейкае вялікае і цёплае пачуццё, важнейшае і значнейшае, чым яго жыццё, падступала, саграваяа яму душу.

І калі праяснялася свядомасць параненага, ён слаба стагнаў ад цяжкага прыгнёту кашмараў. І зноў разгараліся пачуцці, хацелася асэнсаваць сваю пагібель, знайсці ёй апраўданне, хацелася захаваць, перадаць камусьці сваё вялікае, жывое, няўміручае.

— Русаў памёр... памёр...

Але тое чым жыў Русаў, што было ў яго самага дарагога, асталося, перайшло да іншых. „Паміраць за жыццё іншых—гэта поўсмерць“, успомніў ён словы Русава. Нездарма сярод салдат з'явілася нянавісць да афіцэраў, нездарма ў іх абудзілася свядомасць і яны пачалі абмяркоўваць свае становішча, сярод іх пачалося бражэнне і ні пагрозы, ні расстрэлы не маглі яго спыніць.

Пакуты бяссэнснай смерці—самыя страшныя пакуты чалавечага духу.

І вось паранены ўстае на ногі, доўга шукае вінтоўку, і цягнучы яе за сабой, згорбіўшыся, хістаючыся, ідзе ўсцяж яра. Ледзь пераступаючы, ён спатыкаецца аб выступы зямлі, у вачах у яго мітусяцца рэчы, зямля круціцца і бяжыць справа налева, шматлікі месяц скача, але ён ідзе, нагнуўшы наперад галаву, з дзівацкай мэтаімкнёнасцю. Яму здаецца, што вось зусім блізка яго таварышы і ён прыйдзе да іх, ён раскажа ўсё, пра што ён думаў, ён павядзе іх і яны пойдуць за ім, пойдуць са зброяй у руках забіваць тых, хто прымушае іх паміраць нямаведама за што...

І ён загіне, але ён будзе шчаслівы, і ён загіне за жыццё іншых.

Яму здаецца, што ён прайшоў шмат, хоць сапраўды ён прайшоў дзесятак крокаў, не заўважыў, як з яго рук выпала вінтоўка. Яшчэ крок, другі і ён грузна асядае, валіцца і стогне. Рукі яго зрабіліся цяжкімі, нібы наліліся свінцом і ён адчуваў, што пальцы дзервянеюць і робяцца неймаверна тоўстымі. Ён варушыў пальцамі і пераконваўся, што яны невымерна вялікія.

Ён зноў адчуваў слабасць і яна пазбавіла яго магчымасці думаць актыўна. Пытанне, што паўстала перад ім,—за што, за якія святыні ён пакутуе, за што ён, яшчэ сёння поўны сіл, памірае—асталося без адказу.

Замест яго блукала вялікая пакутлівая пустата. І вось прыйшла жаласць—апошняе супакоенне. За сябе, за родных, за тысячы забітых і знявечаных, за астаўшыхся удоў і маці, за тых, хто яшчэ дужыя, і смела страляюць і сякуць да сябе падобных, не ведаючы што і яны заўтра-ж, слабыя і бяссільныя будуць паміраць і, паміраючы, зразумеюць горкую праўду вайны.

Сілы пакідалі хворага. Насоўвалася чорная пустата, лядзяны бязмежны холад. Ён трапятаў ад страху і верыў, што чорная бездань паглыне яго, паглыне іншых, знішчыць усё жывое. І вось у чорным змроку заззяў агонь, усё бліжэй і ярчэй ззяла яго прамяністае святло. Уся ўвага параненага накіравалася к святлу. Святло разганяла змрок, разганяла чорны холад.

— Русаў...—прастагнаў паміраючы і адразу супакоіўся і ўпаў у забыццё.

А калі ён яшчэ раз адкрыў вочы, то ўбачыў месяц і здрыгануўся ад жаху: месяц адзінока маячыў у чорнай бездані. Ён адчуў, як робяцца халоднымі рукі і ногі і паспрабаваў павярнуцца, каб убачыць родную зямлю. На момант ён зноў убачыў прыгожы ўзор кустоў над ярам, і зноў месяц замаячыў у чорнай пустаце. Падняўшы галаву, паранены ўпіўся ў яго голы твар страшным напоўзвяр'яцелым поглядам, поўным смяротнага жаху. У апошні раз бліснуў яго залаты серп і ўсё знікла.

На світанні зноў загрукаталі страшыдлы з метала, зноў пачалі бухаць узрывы, ізноў узнімалася і клоччамі, і пылам ляцела зямля. Ізноў грымела, пыліла, імчалася і падалі людзі, а жывыя імкнуліся наперад нібы зачараваныя.

Раніца пачыналася неахвотна і аранжавае сонца, якое ўзнялося над далёкім лесам, з халоднай усмешкай пазірала на крывавую камедыю, нібы шкадавала аб многім жывым і прыгожым, што загінула жорстка бяссэнсна і ганебна. Здавалася, яно, жыццяноснае свяціла, шкадавала аб тым, што вялікія чалавечыя сілы, узрошчаныя ім, загінулі дарэмна.

Над трупам хісталіся сухія травы і выразна вырысоўвалася бярозавае лісце. Белыя воблакі туману ўзняліся над ярам і першыя промні нясмела абмацвалі забітага.

Але чалавек не бачыў вялікага хараства і чорнага жаху новага дня. Чалавек быў спакойны. На астыглай галаве ў валасах паблісквалі кропелькі расы і ранішні ветрык, агаляючы бяскроўную скуру чэрапа, перабіраў мяккія валасы, якія ласкава перабіралі калісьці пальцы.

*Вл. Глазырын*

# ВОРАГ

Апавяданне

Пра тое, што Сямён жывы і здаровы, Сакаліхін даведаўся зусім выпадкова з размовы са спадарожнікам па купэ. Гэта было так нечакана і так яго ўсхвалявала, што апошнюю ноч перад Масквой ён доўга не мог супакоіцца і амаль зусім не спаў.

Не жарт, Сенька, Сямён, лепшы сябра, якога ён лічыў памёршым ад ран у палявым лазарэце пад горадам Барысавам і які памёр амаль што ў яго прысутнасці,—жывы. Не, ведаеце, ва ўсё можна верыць, ліха ведае, якія рэчы здараюцца, але гэта... даруйце, гэтаму паверыць цяжка. Але-ж вось гэты чалавек, што ляжыць супроць яго на верхняй полцы, гэта-ж ён казаў: „Дырэктар іхнага трэста Сямён Мікалаевіч“ і прозвішча сыходзіцца. І як ён апісваў, дык і з твару падобны—пасівелы толькі; ну што-ж, звычайная з'ява—час пабяліў галаву сівізною. Сямён у памяці яго на ўсё жыццё астаўся ваенным і ён запытаўся ў спадарожніка ці прызываюць іхнага дырэктара ў армію на зборы, і той, як работнік аддзела кадраў, адказаў, што прызываюць і на ваенным учоце ён камбатам лічыцца. Гэта канчаткова разбіла ўсё сумненні, якія былі ўзніклі ў пачатку размовы з суседам-пасажырам.

Поезд імчаўся к Маскве. Сакаліхін загадзя адчуваў радасць ад блізкай сустрэчы з сябрам. Адольвала нецярплівасць. Уначы ва Ўспольі злез, тэлеграму даў дамоў жонцы,—бач, сябра яго камбат Сенька, пра якога ён расказваў часта, сапраўдны герой—жывы, віншуй мяне,—дадаў ён у тэлеграме,—якая радасць!

У вагоне быў паўзмрок і цішыня. Нахлынулі ўспаміны. Далёкія, напоўзабытыя эпізоды выразна паўставалі ў памяці. А шмат іх было розных выпадкаў. Яны імчаліся, як на экране кінематографа, складаючы шлях чалавечага жыцця, звілісты, цяжкі, упарты і радасны ў адчуванні перажываемага цяперашняга.

Вось яна станцыя Прыяміна пад Барысавам. Рэдкі лес, цяжкія пяскі. Невясёлая лагчына, а ўлева балоты і балоты. Як цяпер помняцца дні канца мая і не сонечныя і не дажджлівыя. Гарачыя баі разыгрываліся штодня. У Слаўным была база нашай авіяцыі, якая дапамагала баявым аперацыям пяхоты. Але вораг трымаўся так упарта, што выбіць яго з Прыямінскай пазіцыі здавалася немагчыма.

З Сенькам ён пазнаёміўся і пасябраваў яшчэ да Прыяміна, у Оршы. Накіраваны камандным аддзелам галоўштаба ў часць, ён шукаў па шляхах дывізію, якую перакідвалі з другога ўчастка фронта. Роту

прымаў у вагонах. Жыць камбат запрасіў да сябе. Абодвы былі маладымі хлапцамі, скончыўшымі адны і тыя-ж Вятскія курсы, але ў розны час. Абодвы табольскія. Пасябравалі адразу. Праз тры дні сталі на пазіцыю. Два тыдні прайшлі ў баях і сяброўстве. Хоць і часу не так багата прайшло, але пасябравалі яны моцна, баявыя абставіны сяброўства мацавалі. У часе зацішша разам чай пілі з бляшаных кружак, успаміналі табольскія мясціны, Іртыш раку і кедравыя арэхі, курылі махорку ў самакрутках. Аднойчы на сутачным адпачынку ў дывізіённым рэзерве, пельменяў нагатавалі, праўда, пельмені крыху няўдалыя вышлі, у самы важны момант, калі вада на агні ключом біць пачынае, расклеіліся; але затое здорава вышла—сібірскія пельмені ў палявых абставінах, амаль на пазіцыі.

Тры дні без адпачынку біліся з палякамі. Батальён крок за крокам адціскаў ворага к далёкаму лесу. Закопваючыся ў пясках і хаваючыся ў рэдкіх хмызняках, пад моцным агнём адольвалі ўжо трэці дзень сухую, амаль пазбаўленую расліннасці лагчыну. Вось, ліха на яго, трапілі на мясцовасць. І лагчыну гэту ўсе „рудай" празвалі. Ні табе з'есці чаго ў кухнях падвезці, ні табе чаю нагрэць, ні табе, каб ручай хоць адзін. Нават у кулямёты наліць вады узяць няма дзе. К начы бой сціхаў—падмацоўваліся, па чарзе спалі, нават пасляваць упаўголаса спраўляліся. Ноч чэрвеньская кароткая. Прыходзіла раніца і з новымі ахвярамі, удачамі і няўдачамі пачыналася баявое жыццё.

На трэці дзень надвечар быў атрыманы загад авалодаць ва што-б там ні было вышынёй 9407, далёкім лесам і вёскай Нача.

Камандзіры рот і комуністы збіраліся каля камбата.

— Ноч на адпачынак. Прыйшла адна рота падмацавання. К раніцы прыбудзе палкавая першая разведка. Як толькі ўзыйдзе сонца, у бой пойдзем па сапраўднаму,—коратка абвясціў камбат, падмацаваўшы свае апошнія словы характэрным жэстам моцна сціснутага кулака.

Раніцою належала паўзком, у перабежках прайсці вялікую „рудую" лагчыну, прабіцца на паўночны скат вышыні і атакаваць праціўніка на ўчастку пяці, шасці вёрст. Намеснікам камбата быў прызначаны камроты Сакаліхін. Рота Сакаліхіна мела ударны кірунак.

Палякі на досвітку, нібы прадбачачы наступ, адкрылі надзвычай моцны агонь. Неба хмурылася. Лагчына была рудая ад іржавых пяскоў і нагадвала велізарную пустэчу, якія бываюць на ўскраінах вялікіх гарадоў і на працягу многіх год з'яўляюцца звалачным месцам. У тумане была цмяна відаць вышыня 9407 і далёкі сіні лес. Было выгадна пачаць рух прыкрываючыся туманам, які вісеў над лагчынай велізарнымі разарванымі палосамі.

З-за далёкага лесу пачала біць артылерыя. Дазоры нашай разведкі агнём намацвалі распалажэнне ворага. Тэлефаніст не адымаючы трубкі ад вуха, прыняўшы загад камбата, крыкнуў Сакаліхіну: „У наступ!" і пачаў здымаць апарат. Шарэнгі байцоў, расплываючыся ў тумане, рушылі наперад. Паветра разрэзаў аддалены рокат чырвоных „Сопвічаў", скрытыя туманам, яны плыл

ад Слаўнага пад Нова-Барысаў. За наступаючымі калонамі, конна, са звяном разведчыкаў, ішоў камбат, часамі кідаючы позірк на карту.

Пярэдні ланцуг уступіў у непасрэдную сутычку з польскай пяхотай. Нашы ўзводы накапляліся на лініі пярэдніх ланцугоў. Разгараўся ўпарты бой.

Цяпер наша артылерыя біла па аддаленым лесе. Праз пустэчу са свістамі ляцелі знарады. Насычаная агнём і смерцю паласа аддзяляла чырвонаармейцаў ад края польскай абароны. Агонь зрабіўся прамым. Пазіцыя палякаў была выгаднейшай за нашу, ланцугі чырвонаармейцаў пачалі прыкметна радзець.

Прышлося супроць волі адкаціцца і заняць стары рубеж.

Туману ўжо не было, разгараўся дзень ясны і сонечны.

Да Сакаліхіна падпоўз камбат.

— Косця, ва што-б там ні было палякаў трэба выбіць. Як будзе заходзіць сонца, атаку паўторым. Я наважыў усе сілы сканцэнтраваць у вялікі батальённы кулак і ўдарыць у цэнтр абароны... Была — не была... Сам павяду. Па адхону гары падцягну ўсіх і ўдару.

— Зразумела, Сеня!—адказаў Сакаліхін і памаўчаўшы некалькі секунд, дадаў,—слухаюся, таварыш камбат.

Артылерыя ўпарта прадаўжала біць па аддаленым лесе. Пад сонцам рудая лагчына рабілася медзяна-чырвонай. Павяваў ветрык.

Заходзіла сонца—зноў наступалі. У атацы дапамагаў эскадрон конніцы. Але ўпартасць абароны ворага стрымлівала націск чырвоных. Аставалася адно выйсце для дасягнення мэты—лабавая атака. Або лабавая атака, або зноў адыход. Затрымлівацца тактычна і нявыгадна і немагчыма. Батальён быў сабраны ў кулак. Палякі кожную хвіліну ўзмацнялі абстрэл. Перад байцамі з'явіўся камбат. Ён прыўзняўшыся, падаў каманду, яна была кароткая і разнеслася па ўсёй лагчыне: „Таварышы, у атаку!“ Рота Сакаліхіна ішла за камбатам, каманду падхапілі астатнія роты і камандзір кавалерыстаў. З вінтоўкаю ў руках бег наперадзе камандзір батальёна. Пяціхвілінным скачком батальён, як паток кіпучай лавы, заліў пярэдні край распалажэння абараняючагася ворага і апракінуўшы пагнаў яго... У фланг польскіх ланцугоў, не паспеўшых перагрупавацца, уварваўся эскадрон. Бой перайшоў у рукапашны.

Была занята вышыня, палякі пакінулі аддалены лес.

Камбат быў цяжка паранены. На ўзлессі пад наглядам ротнага санітара ён ляжаў непрытомны. Яго адпраўлялі на перавязачны. Моўчкі развітаўся з ім Сакаліхін.

Стан Сямёна быў яўна безнадзейны. Змахнуўшы слязу, ч.в.а. камбат Сакаліхін пайшоў да батальёна аддаваць загад пра новую атаку. Сямён паміраў.

Позна ўвечары пачаўся новы наступ, палякаў гналі на Барысаў.

На другі дзень у батальён прышло паведамленне аб смерці камбата.

Сакаліхін крадком плакаў.

Гэта было 12 чэрвеня 1920 года.

* * *

8 чэрвеня 1920 г., на перагоне паміж станцыямі Слаўнае і Крупкі ваенны эшалон № 11077 „Кір. Чырвонаармейскіх крам Захфронта“ пацярпеў крушэнне. Чатыры дзесяткі таварных вагонаў ляжалі пад адкосам дымячыся і вывярнуўшы свае вантробы. У часе крушэння загінула 112 чалавек, у тым ліку 11 жанчын. Тавару для забяспячэння палявых чырвонаармейскіх ларкоў і чайных амаль што на мільён рублей. Машыніст поезда Балеслаў Смалкевіч скрыўся. Крушэнне здарылася таму, што поезд моцна разагналі пад адхон.

Гэта, відаць, была работа белапольскіх шпіёнаў. Але варожая рука крыху пралічылася, пераблытаўшы ў саставах баявую часць з тылавой установай, якая следавала на фронт.

* * *

Аформіўшы пакой у гасцініцы, Сакаліхін паехаў па справах свайго прадпрыемства, вырашыўшы к чатыром гадзінам наведацца да Сямёна ва ўстанову, па адрасу, дадзенаму суседам-пасажырам.

У Маскве яму затрымлівацца больш чым два, тры дні было нельга і ён вырашыў гэтую сустрэчу не адкладваць. Раз'яджаючы па розных установах і трэстах, ён не пераставаў хвалявацца ад блізкай сустрэчы з сябрам. Спраў было шмат, але ён іх хутка, з нейкім асаблівым уздымам уладжваў. Нарэшце аказаўшыся ў цэнтры Масквы, ён падаўся да Пятроўскіх ліній, дзе быў трэст Сямёна.

Сямёна ў трэсце ён не застаў. Супрацоўніца-сакратарша сказала, што ён выехаў, праўдзівей, выязджае сёння ўвечары ў камандзіроўку, у Растоў-Дон і вернецца не раней як праз тыдзень. Сакаліхін пайшоў, забыўшыся запытацца пра адрас сябра і нумар тэлефона яго кватэры. Не захацеўшы варочацца ў трэст, ён вырашыў даведацца пра адрас у бліжэйшым даведачным бюро. У даведачным бюро гасцініцы „Метропаль“ даведку чакаць давялося хвілін трыццаць. Сакаліхін, вырашыўшы, што можа яшчэ застаць Сямёна дома, пайшоў па адрасу яго кватэры.

Сямён жыў на Бахмецеўскай. Дзверы адчыніла поўная цікавая жанчына. Запытаўся ці дома ён. Ажно ён з поўгадзіны назад паехаў на вакзал. Жанчына зірнуўшы на гадзіннік, што вісеў на сцяне, сказала, што поезд адыходзіць праз дзесяць хвілін. Гэта была жонка сябра.

Незадаволены, што сустрэча не ўдалася, сустрэча, якая абяцала столькі радасці, Сакаліхін пайшоў, пакінуўшы Сямёну кароткую запіску.

Праз два дні ён паехаў з Масквы.

* * *

Прайшоў роўна год. У 1937 годзе ўвосень Сакаліхіну зноў давялося быць у Маскве. Ведаючы адрас кватэры Сямёна, ён ўвечары пайшоў да яго і з яшчэ большай, чым у мінулым годзе, нецярплівасцю хваляваўся.

Адчыніла дзверы тая самая поўная і цікавая сябрава жонка.

Адбылася сустрэча. Халодная,—не такая, якою яе ўяўляў сабе Сакаліхін. Неяк афіцыйна пацiснулі рукі. Перад Сакаліхіным стаяў чалавек, падобны на Сямёна, але нейкі не той — не Сямён, не Сенька.

„Чорт, час змяніў чалавека, семнаццаць год",—думаў Сакаліхін і пазіраў на свайго сябра, пазіраў з неўразуменнем.

Абодвы былі змоўклі, але гэта было няёмка і сябра адразу зноў загаварыў.

— Справы, брат, мінулае выбіта з памяці. А я ўжо быў забыўся пра цябе, Канстанцін Сакаліхін. Запіску тваю ў мінулым годзе прачытаў і ўспомніў. Ну, расказвай...

За чаем і бутэлькаю віна размова таксама не асабліва клеілася. Так сабе размова была. Пытанне—адказ. Адказ і зноў пытанне. Пра старое не ладзілася гаворка. А хацелася Сакаліхіну пра былое пагутарыць, прыгадаць гады, душу адвесці. Седзячы за сталом, ён крадком пільна ўзіраўся ў твар Сямёна і дзівіўся, як можа змяніцца чалавек.

Сямён расказаў як ён, будучы, паводле заключэння хірурга, безнадзейным, проста цудам выжыў. Па шпіталях каля году валяўся.

Развітваючыся, Сямён напомніў і пра кедравыя арэхі, якія часта ўспаміналіся на фронце і пра няўдалыя пельмені.

Машына, выкліканая Сямёнам, адвязла Сакаліхіна ў гасцініцу. У машыне Сакаліхін думаў усё пра тое-ж: „Вось яно як, чалавек то змяніўся, а пра франтавыя дробязі да гэтага часу памятае, усёткі нешта не тое... І ў сустрэчы не было ніякай радасці, холад нейкі"... У гасцініцы Сакаліхіна чакала тэлеграма ад яго намесніка, якая патрабавала па неадкладных, непрадбачаных пры ад'ездзе акалічнасцях, звароту Сакаліхіна на завод. Сакаліхін вырашыў на другі дзень выехаць.

Гэтую ноч, пасля сустрэчы з Сямёнам, ён таксама не спаў як і год назад, пад'язджаючы да Масквы, у прадбачанні сустрэчы з ім.

Мінулае раілася ў галаве. У галаве ў пошуках чагосьці незразумелага, невытлумачальнага і дзіўнага, свідравала думка, дапытлівая, няўгамонная. Засынаючы, Сакаліхін запісаў на палях газеты— „літара „Л" пераходзіць у „в". „Таксама паведамленне пра смерць". „Зноў-жа арэхі і пельмені..."

Ён заснуў, не пагасіўшы святла.

* * *

Выехаць на другі дзень Сакаліхіну не ўдалося.

* * *

Каб было зразумела, чым усё скончылася, дадаю тры дакументы:

ЗАЯВА

*гр-на Сакаліхіна Канстанціна дырэктара механа-зборачнага завода ў гор. . . . . . . . .*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . усёткі гэтая асоба выклікала ў мяне сумненне, і не гледзячы на тое, што ён дакладна ведае дробязі з нашага сумеснага жыцця на фронце, вымушаны давесці да ведама органы НКВД. Галоўным повадам да падазронасці з'явілася наступнае: 1) я ўспомніў, што праз два дні пасля таго, як камбата панеслі на перавязачны, з брыгаднага лазарэта прышло паведамленне аб яго смерці. 2) З 1920 года камбат гаварыў чыста па-руску, што характэрна для чалавека, які нарадзіўся ў Сібіры, а цяпер гэты чалавек літару „л" вымаўляе падобна на „в", што выдае ў ім чалавека, які нарадзіўся і вырас у Польшчы. Яшчэ будучы на польскім фронце, я запомніў вухам сібірака, які ўпершыню трапіў на Захад, гэтую асаблівасць у гаворцы, часта ўласцівую нават палякам, якія добра гавораць па-руску, прычым гэта ледзь прыкметна . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Вытрымка з вопісі ўзятых пры вобыску рэчаў і прадметаў, якія належаць дырэктару трэста.*

Запісная кніжка камбата... стралковага палка Сямёна Мікалаевіча, а ў ёй у даўніх запісах упамянута: „Пра камроты Сакаліхіна Кастанціна, пра кедравыя арэхі і „пельмені", апошнія ён і Сакаліхін варылі 4 ліпеня 1920 г., прычым у кніжцы запісана, што пельмені атрымаліся няўдалыя — расклеіліся... Кніга Э. Т. А. Гофман, „Аповесці і навелы", выд. Скірмунта—1897 г., у кнізе гэтай на старонцы 147 надпіс напоўсцёрты, дробны, ледзь прыкметны „Б. Смалкевіч". Фатаграфія невядомага чырвонага камандзіра часоў грамадзянскай вайны, якая пасля аказалася здымкам камроты Сакаліхіна . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Вытрымка з пратаколу допыту дырэктара трэста.*

. . . . . . . пасля зробленага мною крушэння на перагоне Слаўнае—Крупкі, я накіраваўся на фронт. Па дарозе я забіў адстаўшага ад сваёй часці чырвонаармейца. Узяў яго даку-

менты і адзежу. Ён аказаўся санітарам 1012 палявога падвіжнога шпіталя. У гэты-ж дзень з дакументамі санітара я этапам быў прыкамандыраваны да перавязачнага атрада, N-скай стралковай брыгады. Праз суткі пасля гэтага ў лазарэт быў дастаўлены памёршы пры пераносцы камандзір. Убачыў я яго выпадкова. Мне літаральна шчасціла. Было нецяжка заўважыць некаторае падабенства майго твару з тварам мёртвага камандзіра. Я без усякай цяжкасці атрымаў дакументы і партбілет мерцвяка. У гэтую-ж ноч я пакінуў перавязачны атрад і зрабіўшы сабе „цяжкае раненне“, праз эвакпункт папаў у Маскву...

... Увесь час свайго прабывання на кіруючай рабоце ва ўстановах дзяржаўнага значэння я па заданню агентуры... дзяржавы, займаўся шпіёнска-дыверсійнай дзейнасцю, удала маскуючы сваю работу. У 1933 г. замежная агентура мяне звязала з трацкіцскай арганізацыяй. . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

Вораг быў выкрыты і абясшкоджаны.

---

*Уладзімір Шахавец*

## ПЕСНЯ КАСЦА

Яшчэ нават сонца
не паспела ўстаць,
І яшчэ расою
зьяе сенажаць,
А каса ўжо лёгка
ходзіць па траве,
І касцоў да працы
ўпэўнена заве.
Паляці-ж ты, песня,
з маладых грудзей
Пра таго, здабыў хто
шчасце для людзей,
Пра таго, хто шчасце
гэта беражэ,
Хто за ўсіх на свеце
сэрцу даражэй;
Пра таго, з кім шчасце
будзе расцвітаць,
Як цвіце багацьцем
гэта сенажаць.
Ў дальнія прасторы
аж да сцен Крэмля
Паляці-ж ты, песня
шчырая мая.
Эх, каса, ты лёгка
у руках хадзі,
Ў роўныя пакосы
травы пакладзі,
Лысымі зрабі ты
рэчак берагі,
На лугу каб густа
выраслі стагі.
І калі прасторы
зашумяць вайной,
Кулямёт мне стане
баявой касой.

Ї тады другая
            песня зазвініць,
Ї тады я стану
            ворага касіць.
Будзе ён ляжыцца
            скошанай травой,
Будзеш век свабодным,
            край шчаслівы мой!

Снежань 1937 г.

---

*Антон Алешка*

# БЛАКІТНАЯ НОЧ

Апавяданне

Ці даўно гэта было? Вось здаецца толькі ўчора давялося яму расстацца са стэпавай шырынёю палёў, з узгоркамі-узбярэжжамі серабрыстай паласы Дона. Ён едзе верхам і да яго цяпер нібы далятаюць гарачыя словы дзяўчыны, западаюць глыбока ў нутро і бяруць аберуч за сэрца:—Ізэт, мой каханы...

Ізэт толькі што вярнуўся з суседняй заставы, саскочыў з каня і, ускінуўшы повад на слупок агародчыка, знік у памяшканні. Конь змакрэў і на ім камякамі збілася шэрсць. Ён трэ мордаю аб штакеты агарожы і бадай адчувае што хутка будзе адпачываць. Ізэт вышаў на ганак і з хвіліну затрымаўся, нешта абдумваючы, а пасля паволі павёў каня да канюшні. Покуль рассядлаў, паставіў яго на месца і накрыў паповай, дык і нахлынулі зноў успаміны пра хутар, пра знаёмых, пра Іру. Скрыпнулі вароты канюшні. Дзынкнула жалезам запора. Ізэт накіраваўся ў казарму. Пад нагамі паскрыпвае малады сняжок, а востры вецер з-за чорнага галля саду так і пячэ ў твар, залазіць у рукавы.

Ізэт невысокі, карчукаваты. Ды дзе яму было і быць рослым. Добра яшчэ і так пракідаўся, стаў на свае ногі Сам ён аб сабе нічога не памятае. Ведае толькі, што суседзі гаварылі, ды калі стаў бегаць з падшпаркамі такімі як ён у бахчы па гарбузы, то заўсёды яго абдзельвалі пасля ўдачы і яшчэ прыгражалі:

— Татаршчына... Морда...

А ўжо калі ён падрос і стаў нелапым, то аднойчы едучы з сенажаці яму Яўхім аб усім і ўталкаваў як след. Бацька яго быў казак і загінуў у першыя-ж дні вайны на палетках Усходняй Прусіі. Гаспадарка трымалася на плячах яго маткі і сястры. Мусіць гады праз тры да іх зайшоў пажылы ўжо чалавек і наняўся на сенажаць. Як там яно было, хто яго ведае, толькі калі пайшоў увосень гэты чалавек, то матка стала цясней падвязваць паўразы хвартуха і меней паказвалася сярод жанчын. К новаму году ўжо не было як хавацца ад суседак, ды і гаворка пайшла па ўсяму хутару.

— Падумаць гэта, ад татарына...

А вясною дзяўчынка вазіла па двары каляску і суцішала вельмі-ж ужо крыклівае дзіця. Гаспадыні не было дома, яна была ў полі. Гадоў праз два ад тыфусу памерла дзяўчынка і матка. Застаўся Ізэт адзін-адзінотаю.

Узяў яго да сябе канцавы бяздзетны Паўлюк. І калі Ізэт, яшчэ малым хлапчуком рабіў дарожкі ў пяску насупроць Паўлюковае хаты, з сяла хлапчукі пускалі ў яго камені і галасіста крычалі:

— Татарская морда!.. Татар...

Ізэт не разумеў што і к чаму тут, а пасля прывык, абабіўся і амаль не зважаў, калі на яго і вельмі ўжо насядалі. Думалася яму, што гэта так і трэба, а раз трэба дык і агрызацца няма чаго. Патрэплюць языкамі, а пасля і сціхнуць. Не завідным хлапчуком ён рос. Ну, проста так і тырчэлі косці. А калі гады праз паўтары, вясною напала на хутар банда і нічога не кажучы двое звязалі Паўлюка і павялі яго, ён застаўся з адной гаротнай бабкай. Потым адкрылася неяк нечакана новае жыццё для Ізэта. Ён стаў пастухом. Пасвіў з Ахрэмам хутарскія авечкі. Так бы яно мусіць было і надалей, каб не здарылася аднойчы, што бабка заснула і болей не прачыналася. Тады Ізэт наняўся да Халімона Якаўлевіча. Тут вось ён і пакаштаваў чаго і не жадалася. Прышлося рабіць усё, умець быць няпрыкметным, калі пільнае вока гаспадара цікавала злавіць на чым-небудзь. Выкручваўся Ізэт з усялякіх нягод так што і расці не было калі.

Яўхім да Ізэта адносіўся ну так, як старэйшы брат, мусіць таму, што адна рука іх цiснула, адны і тыя-ж рыжыя вусы гаспадарылі над імі.

І аднойчы ўвосень выдаўся такі дзень, што ўстаўшы рана, Ізэту і Яўхіму не было работы. Не было таму, што Халімона добрыя людзі збіралі ў дарогу.

З гэтага часу ў хаце засталіся жыць яны ўдваіх. Яўхім хутка ажаніўся, а Ізэт быў пасланы на курсы хатнікаў. Прыехаў у калгас ён неяк ужо на прадвесні. Кожны вечар праседжваў у хаце-чытальні каля прыёмніка. Збіралася многа моладзі. Пад вечар хадзіў к настаўніку: прасіў што растлумачыць, а што паказаць. Праз год стаў камсоргам комсамольскае арганізацыі калгаса.

Паабедаўшы ён вышаў у ленінскі куток, сеў за круглы столік з газетамі, закрыў далонямі твар і задумаўся. Яму сёння толькі што ў Макранах сустрэлася дзяўчына вельмі падобная да Іры. Ён нацягнуў тады павады і крыху не спыніў каня, утаропіўшыся шырока адкрытымі вачыма. Яна падміргнула яму і хутка знікла ў двор.

Ізэт бачыць перад сабою свой родны калгас, гурт моладзі за канцом хутара. Ён і яшчэ шэсць чалавек з хутара накіроўваюцца ў станіцу, а там куды прыдзецца. Для Ізэта ўсероўна дзе быць—ці тут паблізу, ці хоць на далёкую поўнач ехаць. Хлопцы-сябры неяк з зайдрасцю пазіраюць на ад'язджаючых у армію і жартуючы даюць апошнія парады. Ад'язджаючыя таксама ў вачавідкі зрабілі занадта ўжо дзелавы выгляд і ў гурце ідзе ажыўленая гаворка.

— Васька, глядзі, ад твайго клінка не адна фашысцкая галава зляціць. Добра даглядай каня,—раіць, стоячы каля Ваські, яго дзед Максім і пацягвае за падсмажаны тытуном вус. Лоб яго у зморшчынах і яму трэба задзіраць галаву, калі ён хоча глядзець у твар Ваську.

— Мы тут управімся і без цябе. А ты моцна трымай вінтоўку,—кажа дзед далей.

У Ізэта няма радні такое ўжо кроўнае, затое ад комсамольцаў няма адбою. Усякі хоча сказаць, параіць, паабяцаць. Адчуваючы, што хутка прыдзецца ад'язджаць, Ізэт накіраваўся нібы к кабіне аўтобуса, ды зайшоў на другі бок дарогі і нясмела ўзяў за руку Іру.

— Аб чым думаеш, Ірка?

Яна пазірала за хутар у далёкую сінь стэпавай раўніны вялікімі чорнымі вачыма. Валасы смоллю выбіваліся з-пад зялёнае сетачкі і падалі, уючыся, на белую блузку. Яна глянула на Ізэта і ўздыхнуўшы адказала:

— Чаму я не магу паехаць так, як ты? А ўсё таму, што дзяўчына...

— Толькі і бяды.

Яна нахілілася да яго і вырваліся словы з самага сэрца, такія цёплыя, блізка-родныя:

— Мой каханы, глядзі. Будзь сталінскім казаком...

Нешта комам засела ў горле Ізэта і ён хрыплавата, коратка адказаў:

— Добра...

— На другое лета я прыеду да цябе, тады ўбачу...

Яна хвалявалася. Пад белай блузкай часта ўздымаліся грудзі.

Хлопцы садзіліся ў аўтобус. Ізэт нерашуча абняў Іру і пацалаваў у гарачыя губы.

— Прыедзь, глядзі...

Аўтобус плаўна ўзяў з месца. Стаяўшыя махалі хто чым: шапкамі, хусткамі. Так развіталіся яны. Назад ляцела знаёмая дарога. Ізэт пазіраў на шырокі Дон і зялёную сенажаць па той бок ракі.

... Ізэт устаў і прайшоўся па пакоі. Праўда ён невысокага росту, але плячысты. Каўнер рубашкі туга абцягвае яго загарэлы карак і з-пад каўняра выглядае белая палоска бацiста. Ён пазірае ў вакно на аснежаныя палеткі. Чорныя шырокія бровы густа навісаюць над не меней чорнымі, такімі добрымі вачыма. Калі гляне ён на каго, дык здаецца, што ты з ім даўно ўжо быў знаёмы, амаль што не сябраваў, а гэта вось праз колькі часу зноў сустрэўся.

Нос тонкі, з гарбінкай і некалькі прыжмураны пагляд. Адна толькі загана ў яго на твары засталася, гэта з малых год. Ён на вуліцы перасыпаў пясок і не ўчуў нават, як яго ледзь не пераехаў воз. Усё абышлося тым, што ён выкуліўся з-пад воза з разарванай верхняй губою. Неяк так зачапіла бярозавай затычкай ад кола і цяпер у яго на губе ад носа к краю рота цягнуўся белаваты шрам. Яшчэ з хвіліну пастаяў ён каля вакна і хацеў ісці, як зайшоў камандзір аддзялення.

— Як справы?

— Толькі што вярнуўся...

— Чаму не адпачываеш?

— Не утаміўся...

Камандзір аддзялення памаўчаў, зірнуў на Ізэта яшчэ раз і запытаў:

— Падрыхтаваўся несці сталінскую вахту?

— Усё перадумаў, абмеркаваў і магу сказаць—гатоў.

— Тады ідзі адпачывай.

— Можна...

Ізэт знік. Да вечара заставалася нямнога. Час прайшоў як бачыш. На заставе ўжо даўно адчуваўся ўздым. Лепшыя байцы рыхталіся несці вахту, а хто змяняўся і не быў у нарадзе з нецярплівасцю чакалі хутчэй пачуць словы роднага Сталіна.

Камандзір аддзялення зайшоў у радыё-пакой, паслухаў апошнія паведамленні і засеў каля вакна з палітруком.

— Хто з твайго аддзялення ідзе сёння?

Ён налічыў траіх.

Апошнім назваў Ізэта.

— Вельмі ўжо важны баец. Без заганы. Даўно сам рвецца. Ды што можа быць больш ганаровае, як несці вахту ў такі радасны час, калі там сабраліся лепшыя сыны радзімы прымаць Сталінскую Канстытуцыю. Шкода, што я толькі ўчора змяніўся.

— Гэта так. Але і астатнія... сам разумееш...

Палітрук вышаў. Камандзір аддзялення зайшоў у дзяжурнае памяшканне. Дзяжурны лейтэнант голасна гаварыў у тэлефон:

— Таварыш начальнік, усё гатова.

І паправіўшы сумку працівагаза, палажыў трубку на стол. У памяшканне зайшоў каравульны начальнік.

— Развод гатоў.

Пакуль праходзіў інструктаж, Ізэт стаяў і ўзіраўся ў малажавы твар начальніка заставы. Ён кракнуў і закончыў апрос байцоў. Прайшоў па ўтаптанаму снягу двара і паўтарыў яшчэ раз.

— Сёння дзень незвычайны. Пільнасць і пільнасць, як ніколі.

Пасля развадзяшчы пайшоў са зменамі на развод. Паціху ішла змена. Ізэт быў трэцім. Вышлі праз поле да лесу, а там прагалінай к мяжы. Хрумстаў з снегам леташні ліст. Яшчэ колькі загонаў і яны спыніліся. Там уперадзе спынілі, але пароль дазволіў развадзяшчаму ісці далей. Праз некалькі хвілін змяніліся. Ізэт прысеў ля куста і ўзіраўся туды, на захад. Адразу перад ім адкрылася белая лагчына засыпанага снегам возера, якое цягнулася за мяжу. Лявей яго ў абходзе размясціліся яшчэ двое. Ізэт старшы. Гэты край возера ўпіраўся ў высозны бераг, на якім чарнеў лес. Ізэту з вышыні відаць было далёка, хоць і старанна зацягнуў вечар сіняву. Ён у белым халаце прысеў на снег і прыслухаўся. Вецер закручваў на круцізне берага і свістаў у голым галлі арэшніка працягла, аднастайна. Ізэту не хацелася ні аб чым думаць. Ён пільна пазіраў у белы прастор, ці не пакажацца дзе-небудзь чорная кропка. Вуха лавіла тонкія шолахі. Нават чуваць было, як ледзь-ледзь шуршэў-перасыпаўся снег ад ветру. К поўначы, а мо' і пазней пачаў цярушыць сняжок. Нячутна слаўся ён белым пухам і прастор стаў зацягвацца цмянай пеляною. Бачнасць зменшылася. Ізэт устаў і прайшоў паўз кусты. Потым вярнуўся назад. Снег стаў падаць гусцей. Ужо зніклі кусты на тым беразе возера і стала зусім цёмна. Вецер мацнеў. Кругом круціла снегам, як у гаршку.

Ізэт паволі ступаў па сваім участку і калі вяртаўся назад, слядоў ужо не было, нібы тут ніхто і не хадзіў.

„Вось дык мяцеліца“,—думаў ён і напружваў слых. Але як хутка ўзнялася мяцеліца, гэтак-жа хутка і сціхла. Праз гадзіну на небе заіскрыліся зоры.

Ізэт прайшоў яшчэ раз участак, ідучы назад спыніўся каля маладзенькіх ёлак. Пайшоў тады ўніз на шырокі дыван замеценага возера. Яму здалося спачатку, што пачуўся свіст.

Ён збіў на бок шлем і прыслухаўся. Чуваць аднатонны посвіст ветру і больш нічога. „Пачало здавацца, трэба спакайней“,—падумаў ён і падышоўшы к берагу возера, сеў на снег. Вецер шчыпаў за аголенае вуха. Ізэт узіраўся ў далеч. Праз хвіліну штосьці зацямнела каля таго берагу. Ізэт на некалькі секунд закрыў вочы і зірнуў зноў. Не, гэта не здалося яму. Тут нешта павінна быць. Ізэт падбежкам накіраваўся к байцам, што былі непадалёк і не паспеў прайсці дзесятка крокаў, як наткнуўся на ішоўшага да яго Нікана ва.

— Вунь, бачыш,—шопатам сказаў ён.

— Я бег сказаць табе.

— Добра... Ты заставайся тут, а мы абойдзем яго справа.

Ніканаў знік.

Ізэт вышаў на бераг і з-за куста сочыць, што робіцца там. Ён бачыць, як правей пашлі ў абход яго таварышы. Зараз тое, што чарнела, перастала рухацца. Ізэт аглядае левы край возера.

Нікога не відаць.

Ён жмурыць вочы, глядзіць на той бераг і не можа ўжо знайсці таго, што чарнела. У гэты момант да вуха даляцеў шорах злева. На прагаліне паказаўся чалавек.

Усё сціснулася унутры Ізэта і ён яшчэ ніжэй прыпаў на снег.

У галаве свідравала адна думка: „Каб хаця не ўцёк“... Ён моцна сціснуў вінтоўку і чакаў.

Чалавек набліжаўся. Мацней забілася сэрца ў Ізэта і яму ўжо добра відаць, што чалавек ідзе на лыжах. Вось і поскрып лыж на снягу ўжо дастаткова чуцен... У кроках сямі перад ім, нібы з зямлі, вырас Ізэт. З нутра глуха вырвалася:

— Рукі ўгару!..

Чалавек уздрыгануў, адхіснуўшыся назад і ўбачыўшы штых пад носам, падняў рукі.

— Ляж і не варушыся...

У гэты момант з кустоў выскачыла яшчэ двое. Бліснуў стрэл.

Ізэт злажыўся і стрэліў ва ўпор бегшаму. Той як сноп бразнуўся каля голых кусцікаў, а другі завярнуў назад. Той, што ляжаў насупроць яго, заварушыўся.

— Ляжаць!—крыкнуў ён і стрэліў угару.

На стрэлы прыбеглі байцы з абхода.

— У чым справа?..

— Абшукаць яго,—гаварыў Ізэт. Ляжаўшага абшукалі. Зброі не было. За пазухай знайшлі скрыначку з запаянымі шклянымі пузыркамі.

Разбірацца не было калі.

— Вунь там ляжыць яшчэ адзін, іх тут цэлая банда...

Той падвярнуў галаву і ніц распластаўся на снягу. Яго паднялі, паставілі на ногі. Ён пахіснуўся і асунуўся.

Трэці баец засеў уперадзе.

— Ён страляў, зброя павінна быць.

Кругом перапаролі ў снягу і ледзь знайшлі бельгійскі браўнінг.

— Ну, вось...

— А гэта што ў цябе?—запытаў Ніканаў Ізэта і паказаў на левы рукаў.

— Дзе?

Ізэт убачыў, што белы рукаў халата ніжэй локця ўвесь пачарнеў. Махнуў рукою—мокра, значыць кроў.

— Нічога. Іх на заставу трэба даставіць. Вядзіце яго, а гэты не ўцячэ...

Гаварыў Ніканаў, каб Ізэт ішоў на заставу, праводзіць затрыманага, таму што Ізэт паранены. Ізэт адмовіўся.

Байцы пашлі. Ізэт вышаў з-за кустоў на бераг і сачыў адкуль выйшлі сляды.

„Хацелі мяцеліцу скарыстаць і прабрацца. Не ўдалося“,—разважаў ён сам з сабою. Толькі ён завярнуўся назад і ўбачыў з нашага боку верхавых.

— Стой!..

Пачуў пароль і пазнаў па голасу развадзяшчага. Яны пад‘ехалі і спешыліся.

Ізэт адрапартаваў начальніку заставы аб выпадку і паказаў на ляжаўшага.

— Маладзец,—сказаў начальнік.—Мне перадалі, што вы паранены. Дзе?

— Нічога страшнага.

— Загадваю зараз змяніцца, на каня і на заставу. Крывёй трэба даражыць.

— Ёсць!

Ізэта змянілі.

Ён асядлаў каня і праз узлескі рыссю паехаў на заставу. У лесе было ціха. Калі выехаў на палеткі, то зрабілася нібы святлей. Толькі цяпер адчуў ён, што балела рука ў локці... Унутры было ўсё так спакойна і хацелася скакаць, крыкнуць штосьці такое радаснае на ўвесь голас.

Ён пусціў каня ступою па замеценай дарозе і пазіраў уперад.

Насустрач усміхалася блакітная ноч.

Ленінград, кастрычнік 1937.

---

*Альфрэд Радзюк*

## ВЕЦЕР, БУЙ-ВЕЦЕР...

Ой, вецер, буй-вецер, ляці, нібы сокал,
Нясі маю вестку далёка-далёка,

Нясі над расквечанай нашай зямліцай
Да мілага друга, да самай граніцы.

Там любы вартуе ад ворагаў дзікіх
Наш сонечны край і багаты й вялікі...

Як выйду, я выйду у сад, у зялёны,—
Там мак расцвітае на градах чырвоны;

Як выйду, як гляну на нашае поле—
Ураджаем багатым шуміць наваколле.

Пайду я ды гляну ў калгасную хату,—
Там шчасця і радасці светлай багата,

Я там заспяваю з людзьмі дарагімі:
— Стой смела, мой мілы, на варце радзімы.

Хай свецяць, хай пільна ўглядаюцца ў ночы
Твае сакаліныя ясныя вочы.

Хай вораг не пройдзе совецкай граніцы
Ні ў гром, ні ў пагоду, ні ў час навальніцы!..

Гэй, вецер, буй-вецер, ляці, нібы сокал,
Нясі маю песню далёка-высока

г. Дзержынск.

*Павел Хадарэнка*

## СМЕРЦЬ СЯМЁНА ТРУХАНАВА

Ліпеньская раніца мыецца ў вадзе,
Ліпеньская раніца па краіне йдзе,

Паўз лясы суровыя коціцца зара,
У дазор выходзіць сталінцаў атрад.

Раптам гулкі выстрал разарваў спакой—
Вораг паказаўся... Дзесьці, за ракой

Як жывыя ўсталі цёмныя кусты,
З ветрам шапацелі важкія лісты.

Не пусціць шпіёнаў ў наш чароўны сад,—
Вырашыў Труханаў і яго атрад.

І ланцуг адважных пад гару ідзе,
Стрэламі ўстрывожан залацісты дзень.

Падалі ў знямозе кулі ў цёмны вір,
Быў смяротнай куляй ранен камандзір.

Прынімала кроплямі кроў яго зямля,
У жалобе ветры сталі ля Крэмля.

... Сталінцы-героі ворагаў змялі
З большэвіцкай нашай роднае зямлі.

м. Лёзна.

*Мікола Лупсякоў*

# КРОЎ

Апавяданне

Васіль Сініца прачнуўся ад дзіўнага глухога гулу, што даносіўся з-за рэчкі. Ён высунуў з-пад коўдры галаву, прыслухаўся.

Але гул раптоўна сціх.

Сініца скінуў з сябе коўдру, апрануўся і вышаў на двор.

Была ясная вясновая раніца. На загарадзе, задраўшы ўгору паласаты хвост, шчабятала сарока. Шэрыя канаплянікі бегалі па двары, штосьці выбіраючы з пачарнелай леташняй саломы.

Сініца прайшоў да сярэдзіны двара і застанавіўся. Ніякага гулу не было чуваць. „Ці то мне спрасонку здалося?"—падумаў ён, але ў гэты час нейдзе ўбаку грымнуў адзінокі гарматны стрэл. Яму адказала яшчэ некалькі.

Васіль Сініца ўбег у хату, пачаў будзіць жонку:

— Мар'я, чуеш—страляюць. Чырвоныя тут хутка будуць. Недалёка недзе бой,—і падышоў да акна.—Парсючка нашага палякі забралі. От як адступаць будуць, глядзі—карову забяруць. Дык я думаю, каб схаваць яе куды.

Мар'я ўсхапілася і пачала апранацца...

А тым часам у вёску ўязджалі дзве двуколкі. Следам за імі на вараным жарабцы ехаў польскі паручык, сухарлявы, з невялікімі, як у сусліка, чорнымі вусамі на твары.

Двуколкі праехалі да сярэдзіны вёскі і застанавіліся супроць двара Васіля Сініцы.

— Чаго сталі? Заязджай!—крыкнуў паручык.

Жаўнер злез з двуколкі, адчыніў вароты...

Васіль зірнуў у акно і твар яго пабялеў.

— Што-ж гэта будзе, Васіль! Ой, ліха на іх! Чаму яны да нас чэпяцца?

Мар'я накінула на галаву хустку і вышла ў сенцы. Васіль дагнаў яе.

— У нас, Мар'я, крыху самагону ёсць. Пастаўлю я ім. От можа як і адкаснуцца.

Васіль вышаў на двор сустракаць няпрошаных гасцей.

— Заходзьце, паночку,—палахліва загаварыў ён да паручыка і падумаў: „Прынесла цябе нялёгкая!"

Паручык злез з жарабца, адшпіліў папругі ў сядле і аддаў повад жаўнеру.

— Трымай,— буркнуў ён.—Гаспадар, зараз-жа жар яешню! Ды падсмаж мне гуся ў дарогу!—крыкнуў ён Васілю.

— Няма ў мяне, паночку, гусей. Куры ёсць, дык от пеўніка можна будзе...

— Гуся смаж! Чуеш? Гуся, кажу! Не падсмажыш—галаву з плеч здыму!

Паручык пырскаў слінои. Ад недаспаных начэй твар яго хваравіта ўздрыгваў. Правай рукой ён хапаўся за шаблю.

Васіль маўчаў, ківаў галавой у знак згоды, думаў: „Шаблю выхваціць, дык я яго калком церабну" (непадалёк ляжаў моцны дубовы кол).

Але ўсё абыйшлося пакуль што добра.

Увёўшы жаўнераў у хату, Васіль паставіў на стол бутэльку самагону, Мар'я прынесла спрэжанае сала.

— О, у цябе нават выпіць ёсць,—зарадаваўся паручык і наліў сабе першую шклянку.

— Гаспадар!—крыкнуў ён, калі ап'янеў.

— Што, паночку?

— Ідзі... дай коням сена.

— Добра, паночку.

Васіль вышаў у двор і накіраваўся да сенавала,—там засталося яшчэ крыху сена. Ужо ідучы адтуль з ахапкам, ён раптам пачуў у хаце лямант Мар'і. Акамянелы, Васіль застанавіўся. Сярод двара ён кінуў сена і пабег у хату. Паручык сярод хаты барокаўся з Мар'яй. Яна адбівалася ад яго, намагалася вырвацца.

Не кажучы ні слова, Васіль Сініца падскочыў да п'янага паручыка, размахнуўся і з усяе сілы ударыў яго ў твар. Паручык перакуліўся праз лаву і ўдарыўся галавою аб сцяну.

Жаўнеры наваліліся на Васіля. Васіль спрабаваў вырвацца, але не мог. Яму звязалі рамянём рукі і павалілі на падлогу.

Ускочыўшы, збіты паручык закрычаў:

— Большэвік, пся-крэў!—і з пагардаю ўдарыў Васіля ботам у твар. З рота ў Васіля палілася кроў.

— У штаб яго!—загадаў раззлаваны паручык.

Васіля Сініцу выцягнулі з хаты і ўзвалілі на двуколку. Адзін з жаўнераў стрэліў угару. Па вуліцы прабегла жанчына, залементавала. Крык гэты і стрэл абудзілі вёску. З двароў выбягалі спалоханыя людзі. Прыбег на васілёў двор рыжы, як восень вясковы поп айцец Афанасій.

— Пане паручык! Чаго-ж вы да мяне не заехалі?—і нагнуўшыся да паручыкава вуха зашаптаў штосьці. Паручык матнуў галавой у знак згоды. Поп, гэтак-жа хутка, як і з'явіўся, знік з двара.

Тым часам на вуліцы паказаўся стары дзядок Янэк. З невялікім сукаватым кіёчкам ён, прыкульгваючы на левую нагу, ішоў да сініцынага двара. Да дзеда далучылася яшчэ некалькі вяскоўцаў. Выбягалі з двароў жанчыны. Натоўп рос з кожнай хвілінай і ішоў палахліва, баючыся, што палякі пачнуць страляць.

Унерадзе ўсіх ішоў Янэк. Ён трос сівой барадой, размахваў кіёчкам, падбадзёрваў:

— Не бойцеся, браткі. Праўда яна возьме верх...—Двуколкі ў

гэты час ужо выехалі з сініцынага двара і застанавілася на вуліцы. Сухарлявы паручык трымаў варанога жарабца за повад і глядзеў сабе пад ногі. У нагах галасіла Мар'я:

— Паночку, даруй мне. Адпусці яго, Васіля. Ох, божа ты мой... Васілё-о-чак!..

Паручык замахнуўся нагою і ўдарыў у Мар'ін твар брудным ботам.

Жанчына войкнула і расцягнулася на сырой зямлі. З яе рота і носа цякла кроў.

Якраз у гэты час і падышоў да двуколкі Янэк. Натоўп абступіў жаўнераў, шумеў.

— Разыйдзіся-а!...—закрычаў паручык. Ён ускочыў у сядло, выхапіў з кабуры рэвольвер.

Натоўп сціх.

— Бунтавацъ, пся-крэў,—лаяўся паручык.—Волі хочаце, гады!—паручык падняў на дыбы жарабца і накіраваў яго на людзей.

З двуколкі хрыпеў Васіль:

— Суседзі не пакідайце дзяцей! Дапамажыце ім, сіротам...

Дзядок Янэк забег наперад паручыкава жарабца, схапіў яго за цуглі.

— Хлопцы, чаго глядзіце! Біце іх!—закрычаў ён, і падняўшы свой сукаваты кіёчак, сакануў ім паручыка. Паляцела ў жаўнераў колле.

— Палякі!—крыкнула ў гэты час нейкая жанчына.

І сапраўды, па вёсцы галопам нясліся коннікі. Кінуліся людзі, хто куды. Апошнім бег дзед Янэк. Ужо каля самага двара нагнала яго паручыкава куля. Дзед узмахнуў кіёчкам і расцягнуўся на зямлі...

Запалала вёска. Едкі дым віўся ўгору, рыжыя языкі полымя лізалі саламяныя стрэхі. Калі двуколкі падымаліся на гару, Васіль Сініца добра бачыў, як гуляў „залаты певень".

Жаўнер казаў паручыку:

— Ваша благароддзе! Дзеля чаго мы яго вязем?

Двуколкі застанавіліся.

— Гані далей,—нездаволена бурчэў паручык.—Доўгагрывы лайдак казаў мне, што гэты ведае пра партызанаў...

У паручыка былі свае планы. Калі ён толькі вязе чалавека, ад якога можна будзе што-колечы дазнацца, як казаў яму поп, то паручык зможа выслужыцца...

А Васіль успамінаў:

„Некалі на полі сварыўся я з эканомам. Пабіў ён тады мяне. Сцярог я яго пасля—не злавіў. Як шкада, што не спагнаў злосці. Бацюшка дружыў з эканомам. Вось і нагаварыў."

Недзе блізка грымела кананада, тахкалі кулямёты... К самаму вечару прывязлі Васіля Сініцу ў вёску Баравую.

2

У гэтую ноч уцякаў Васіль Сініца ад белапалякаў. Пасадзілі яго ў пуню, прыставіўшы да яе вартавога. Калі вёў яго да пуні салдат, Васіль прасіў:

— Браток, развяжы мне хаця рукі. Цісне вельмі...

Салдат быў у патрапаным дзіравым шынялі. Ён падвёў Васіля да пуні і агляну́ўся.

Нікога паблізу не было. Тады ён выхапіў з кішэні складаны нож, разрэзаў ім рамень на руках.

— Дзякуй, браток.

Ноччу прадраў Васіль Сініца ў страсе дзірку і вылез праз яе.

Саскочыў ён са страхі, зірнуў вакол сябе. Нікога не было. Вартавы мусіць заснуў, бо Васіль быў ужо далёка за вёскай, калі пачуў ззаду стрэлы. Думаў: „Каб-жа ўцячы! Папаведалі-б яны мяне, Васіля Сініцу. То-ж я ім паказаў-бы“. Ён бег да лесу.

Калі лес быў ужо недалёка, Васіль Сініца застанавіўся і прыслухаўся. Навакол было ціха. Пагоні не было. Тады Васіль Сініца пайшоў пацíху...

Доўга ішоў ён лесам. Уперадзе забрахаў сабака. Спалоханы, Васіль Сініца застанавіўся. Недалёка на паляне стаяла хатка. Падаўся асцярожна Васіль да хаткі, агледзеўся вакол і зарадаваўся. „Ды гэта-ж лясніка Антэка двор—пляменніка забітага дзеда Янэка. Ляснік схавае мяне“,—падумаў ён. (Некалі Сініца ездзіў у гэты лес і ведаў тутэйшую мясцовасць). Але ў наступную хвіліну Васіль пачаў сумнявацца. Антэк—паляк. Ці не выдасць ён яго? Праўда, Антэк добры чалавек. І тут Васіль Сініца вельмі, здзівіўся. Дзед Янэк—родны дзядзька Антэка. Ён-жа таксама паляк і яго забілі палякі. На Васілёвых руках разрэзаў рамень таксама паляк. Чаму гэта так? Брахаў сабака, звінеў жалезны ланцуг, на які ён быў навязаны. Асцярожна пастукаў Васіль у вакно. На двор вышаў Антэк з дубальтоўкай у руках.

— Хто стукаецца?

— Гэта я, Сініца Васіль. От толькі ад жаўнераў уцёк. Схаваў бы ты мяне на колькі дзён.

Прыкрыкнуў Антэк на сабаку, каб той змоўк, сказаў:

— У хату хадзем...

Прагна піў з гладыша Васіль малако ды казаў:

— Мар‘ю збілі. Я-ж от нейк уцёк. Дзед Янэк, дзядзька твой, кінуўся да паручыка, крыкнуў вяскоўцам: „біце, моў, іх, жаўнераў“. Ды забілі яго, сам бачыў.

— Янэка забілі?

— Забілі.

— Сволачы!—Антэк шпарка захадзіў па хаце.

— Антэк, як, гэта, я не разумею. Янэка забілі свае-ж палякі.

— Свае, якія ў чорта свае! Палякі—розныя. Бываюць бедакі, як я, і такія як паручык—панскія сынкі.

— Мабыць, яно так...

Праз некаторы час Антэк запытаў у Васіля:

— Куды-ж ты зараз пойдзеш, Васіль? Да партызанаў хіба? Хочаш я табе да іх дарогу пакажу!

— А ты ведаеш дзе яны?—здзівіўся Васіль.

— Ведаю.

— Туды я і пайду, Антэк. Папаведаюць у мяне жаўнеры! От Мар'я захлыналася крывёю, я сваёю кроўю харкаў. Кроўю за кроў яны нам заплоцяць...

Назаўтра сабраўся Васіль Сініца і пайшоў у глыб лесу.

3

— Васіль Сініца! Захапіў абоз, налётам выбіў нашых з вёскі Баравой. Ходзіць з сваім атрадам у нашым тылу, шкодзіць нам. Мы адступаем. Трэба нам было перапраўіцца праз раку—Васіль Сініца узарваў мост. Сорамна, паны, дапускацца да таго, каб нейкі каравы мужык так зневажаў панства. Яго неабходна злавіць, што-б там ні было, бо не сёння—заўтра ён можа зрабіць налёт і на наш штаб... Ітак, паны—хто возьмецца заўтра-ж злавіць Васіля Сініцу?—палкоўнік дапытлівым позіркам агледзеў прысутных.

Была ноч. Гарэла над сталом невялікая газнічка, кідала на падлогу цмянае святло. Сядзелі ў пакоі вусатыя і бязвусыя афіцэры і паручыкі—усе маўчалі.

Палкоўнік зноў агледзеў прысутных, застукаў рукою па сталу:

— Ну, дык хто?—нецярпліва запытаў ён.

— Я, ваша высокае благароддзе!

Усе аглянуліся. Гаварыў малады сухарлявы паручык з суслікавымі чорнымі вусамі на твары. Паручыкі і афіцэры з палёгкаю ўздыхнулі.

— Вас ведаю,—загаварыў палкоўнік.—Думаю, што вы справіцеся з заданнем.

— Буду старацца.

— Так,—палкоўнік пастукаў пальцамі па сталу, казаў далей:— Заўтра а шостай гадзіне вы выступаеце... Паны афіцэры! Можаце разыходзіцца. А вы, паручык, застаньцеся ў мяне.

Сухарлявы паручык радасна ўсміхнуўся, абцягнуў гімнасцёрку, важнецкі прайшоў да стала...

Быў поўдзень. Лес, упрыгожаны першай зеленню, звінеў птушынымі галасамі. Пахла порсткая маладая трава. Выглядалі з травы белыя кветкі. А на чыстым небе паўзла хмарка...

Перад лесам паручык застанавіў атрад і выслаў уперад разведку. Вузкайляснай дарогай коннікі хутка рухаліся па акраіне лесу. Дарога выходзіла на шырокую лясную прагаліну, зарослую з краёў маладым хвойнікам і густымі кустамі граба. На прагаліне стаяў воз насечаных дроў, каля яго—поп. Ен без шапкі, на галаве даўгія, ільнянага колеру валасы. Воз акружаны яго разведчыкамі. Паручык злосна ўсміхнуўся.

Увабрала лясная прагаліна ўвесь паручыкаў атрад, згрудзіліся коннікі вакол воза дроў і дзіўнага папа.

— Ты хто такі?—строга спытаў паручык папа.

— Я? Хто-ж я, божы чалавек.

— Чалавек, пся-крэў!

Узвілася нагайка, секанула папа па галаве. Разляцеліся ільняныя валасы, чалавек прысеў да зямлі, войкнуў.

— Пане паручнік, даруйце. Партызан я. Па дурасці ў партызаны пайшоў.

— У чыім атрадзе?

— У Васіля Сініцы. Талковы такі ён чалавек—усіх афіцэраў б'е.

— Што? Што ты сказаў?

— Даруйце, пане паручык. Па дурасці гэта я кажу. Яно чалавек ён не такі ўжо дрэнны, толькі кажуць, дужа польскія афіцэры баяцца яго. Калі ўбачаць—аж каленкі трымцяць, ды на лбе дзесяты пот выступае.

— Смяяцца, галган!

Паручык схапіўся за кабуру.

— Пане паручык, не страляйце мяне. Я-ж вам пакажу атрад гэтага Сініцы.

Адкінуў паручык руку ад кабуры, сказаў:

— Глядзі, калі толькі збрэшаш—не жыць табе!

— Чаго мне маніць, пане.

Прысеў партызан, свіснуў у два пальцы. Не паспеў паручык і аглянуцца, як выхапіў партызан з-пад пояса рэвольвер і навёў проста на яго.

— Рукі ўгору!

А з кустоў на праталіну выскаквалі партызаны. Польскія салдаты нават і не спрабавалі адбівацца. Абяззброілі іх, выстраілі ў адну калону, паручыка збоку паставілі.

Хадзіў сярод партызан каранасты Васіль Сініца, аглядаў захопленую зброю, казаў:

— Вось, хлопцы, гэта здабыча! Цяпер нам і да самае Варшавы зброі хопіць. От малайцы хлопцы!

Падышоў Сініца да паручыка, выцягнуўшы з-пад пояса наган. Паручык пабялеў у твары. Успомніў ён і вёску, дзе страляў у людзей і чалавека, якога вёз у штаб.

А Васіль Сініца казаў:

— Кроў яна не прападае дарма. Шмат ты нашай, бядняцкай крыві праліў, ды от прышлі і самому канцы.

Суха трэснуў адзінокі стрэл.

Палахлівая сарока паднялася з дрэва і знікла ў гушчары зараснікоў.

Менск, снежань 1937 г.

---

*Генрых Гейне*

# ГЕРМАНІЯ

## ЗІМНЯЯ КАЗКА *)

### XIV

Халодны вецер, пустыя палі,
Колы ў калюжы асенняй;
Але ў сэрцы маім звініць і гучыць.
„Сонца ты, скаргі праменне!“

Гэта прыпеў у той песні старой,
Што часта мне няня спявала—
„Сонца, ты скаргі праменне!“ нібы
Ражок лясны прагукала.

Аб забойцы тым, што ў роскашы жыў,
Пяецца ў гэтым спеве;
Яго нарэшце ў лесе знайшлі
Павешаным на дрэве.

Пра смяротны прысуд над забойцам было
Прыбіта на пні абвяшчэнне;
Гэта помста Фемы была—
Сонца, ты скаргі праменне!

Сонца абскарджвала і давяло,
Выкананне такога рашэння.
Отылія **) звала ў смяротнай нудзе:
Сонца, ты скаргі праменне!

Успомню я спеў і ўспомню з ім
Любую няню старую;
Я бачу цёмны ў зморшчынах твар
І галаву сівую.

Яна з-пад Мюнстэра родам была
І ведала безліч розных
Народных спеваў і казак старых,
Паданняў аб прывідах грозных.

---

*) Канец, глядзі пачатак у № 1 „Полымя Рэволюцыі“ 1938 г.
**) Отылія—гераіня нямецкага народнага спева.

Як стукала сэрца, калі яна
Аб каралеўне казала,
Якая сядзела ў полі адна
Ї золата кос расплятала.

Яна мусіла гусі пасвіць там,
Калі-ж іх дамоў прыганяла
Адвячоркам праз браму—ізноў яна
У смутку доўга стаяла.

Яна бачыла конскую галаву,
Прыбітую цвікам да брамы.
У чужую далёкую старану
Завёз яе конь гэты самы.

Уздыхала цяжка дачка караля:
„О, Фалада, вось вісіш ты!“
А галава ёй ў адказ:
„О, гора, тут стаіш ты!

Уздыхала цяжка дачка караля:
„Калі-б мая маці знала!“
А галава ёй у адказ:
„О, як бы яна сумавала!“

Стаіўшы дыханне слухаў я,
Як старая з сур'ёзным аблічам,
Пачынала аб Ротбарце мне казаць,
Аб кайзеры таямнічым.

Яна запэўняла, што ён не памёр,
Як кажуць вучоныя людзі,
Што ён з таямнічым войскам сваім
Пад гарой захаваны будзе.

Кіфгайзер назва гэтай гары,
Ї ў сярэдзіне ў ёй сутарэнне;
Лампады гараць, асвятляючы там
Высокіх залаў скляпенне.

Стайня для коней—першы зал,
Ї там чаргою ў чаканні
Шмат тысяч коняй ля ясляў сваіх
Стаяць у багатым убранні.

Стаяць закілзаныя і ў сядле
Прыгожыя коні тыя,
Не затупочуць, не заіржуць
Стаяць, як з жалеза літыя.

У зале другой на саломе ляжаць
Салдаты, іх не пералічыш,
Шмат тысяч слаўных барадачоў,
З выглядам ваяўнічым.

Узброены з ног да галавы,
Нерухома ляжаць героі
Не крануцца ані, не прачнуцца ані,
Ляжаць бы ў смяротным спакоі.

Да столі напоўнілі трэці зал
Мячы і сякеры са сталі,
Старафранкскія стрэльбы і панцыры
Шаломы і пішчалі.

Малавата гармат, але-ж для таго,
Каб трафей утварыць хапае.
Чырвона-чорны з залатым
Над нім штандар лунае.

У чацвертым зале кайзер жыве.
Ужо шмат стагоддзяў сядзіць ён
На крэсле ля каменнага стала,
Галаву падпёршы глядзіць ён.

Яго барада дарасла да зямлі
Бы полымя клін багровы.
Ён часам бокам чагось міргне
Ці зсуне памалу бровы.

Ці спіць ён, ці ў задуменні сядзіць,
Нельга сказаць безумоўна,
Але як надыйдзе належны час,
Ён узварухнецца раптоўна.

Свой слаўны штандар ён схопіць тады,
Гукне: „Да коняй, да коняй"!..
Бразгочучы зброяй войска ўстае
Гатовае да пагоні.

І кожны ускаквае на каня,
Што б'е землю пад сабою,
Яны выязджаюць у звонкі свет.
І трубы клічуць да баю.

Яны спрытна гарцуюць і спрытна б'юць,
Яны-ж выспаліся на славу.
Кайзер забойцаў будзе судзіць,
Ён выцягне іх на расправу—

Згубцаў дзяўчыны чароўнай красы,
(Што вінны ў яе знішчэнні)—
Золатакудрай Германіі —
Сонца, ты скаргі праменне!

І шмат, хто у замках лічыў сябе
Захаванымі ад пагрозы,
Не ўнікне таго суда
І гневу Барбаросы.

Як міла, пяшчотна мне казкі гучаць
Няні старой. У захапленні
Маё забабоннае сэрца пяе:
„Сонца, ты скаргі праменне!“

## XV

Драбнюткі дождждык сячэ у твар,
Нібы ледзяныя іголкі.
У смутку коні круцяць хвастом
У пату і багне па холкі.

У рог свой трубіць паштальён.
Я ведаю гэту пагудку—
„Тры коннікі скачуць скрозь браму у свет!“
Душа мая ў цемры і смутку.

Мяне ўкалыхала і я заснуў,
І бачу, у сне мне здалося,
Што знаходжуся я у цудоўнай гары
У кайзера Барбаросы.

Ён на лаўцы каменнай цяпер не сядзеў
За каменным сталом, як каменны;
І гэткім шаноўным не выглядаў,
Як яго уяўляем сабе мы.

У фамільярнай размове ён
Бадзяўся па залах са мною,
Ён мне выхваляўся як анціквар,
Скарбам сваім і казною.

У першай зале тлумачыў ён мне
Як карыстаюцца зброяй,
З асобных мячоў сціраў ён іржу
Гарнастаеваю палою.

Ён браў у рукі паўліна хвост
І абмахваў пыл адвечны,
То панцыр сабе які абмяце,
То шалом востраканечны.

Ён пераходам выпыліў сцяг
І сказаў: „Вось гордасць наша,
Што ніводная моль не кранула шоўк
І дрэўка не точыць шашаль“.

І калі ў той прыйшлі мы зал,
Дзе ў сне на падлозе ляжала
Шмат тысяч байцоў, гатовых у бой,
Стары прамовіў дбала:

„Тут трэба цішэй гаманіць і хадзіць
Каб не абудзіліся людзі;
Ізноў мінулася сотня год,
Дзень адплаты сёння будзе“.

І, вось, Барбароса наблізіў свой крок
Да спячых сваіх салдатаў
І таямніча засунуў ў кішэнь
Кожнаму па дукату.

Ён сказаў, задаволена зморшчыўшы твар,
Калі я здзівіўся надта:
„Праз кожнае стагоддзе я
Плачу па дукату на брата“.

У зале, там дзе коні стаяць
Маўклівай доўгай чаргою,
Кайзер далоні свае пацёр,
Задаволены вельмі сабою.

Ён коней лічыў аднаго за адным
І стукаў па рэбрах ласкава,
Ён лічыў, ды лічыў, і вусны яго
Рухаліся боязка жвава.

„Гэта яшчэ не належны лік,—
Сказаў ён са смутнаю мінай,—
Салдат і зброі хапае мне,
Але коней быць болей павінна.

„Рэманцёраў я разаслаў у свет
Каб скупілі мне як найболей
Коняй. Ужо я маю табун,
Але гэта яшчэ не даволі.

Чакаю я пакуль будзе камплект,
Тады я ўдарам адзіным
Вызвалю верны нямецкі народ
І маю дарагую радзіму“.

Так кайзер казаў, але я ў адказ:
„Бярыся, стары ваяка!
У бой! А коней не хопіць—у аслах
Ніколі не будзе брака“.

Барбароса з ухмылкаю адказаў:
„З гэтым зусім не к спеху.
І Рым не ў адзін будаваўся дзень,
З паспеху наробіш смеху.

Што сёння не будзе, будзе праз дзень,
І дуб расце не так жвава.
І chi va piano, va sano *) гучыць
Прыказка Рымскай дзяржавы.

*) Італьянская пагаворка: „Цішэй едзеш, далей будзеш“.

## XVI

Штуршок карэты мяне абудзіў,
Ды зноў мае вейкі сыйшліся.
Мяне ўкалыхала і я заснуў.
Мне зноў Барбароса прысніўся.

Я зноў з ім у гутарцы хадзіў
Туды і сюды па зале.
Пра тое, пра сёе пытаў ён мяне,
Пра ўсё каб яму расказалі.

Ўжо вельмі, вельмі шмат гадоў
Ён не бачыў жывога нікога.
Бадай ад сямігадовай вайны
Ён не чуў чалавечага слова.

Пытаў ён як Маісей Мендэльсон? *)
Як Каршына, **) з інтарэсам
Распытваў ён, як Дзюбары,
Людовікава метрэса.

„О, кайзер,—сказаў я,—„Як ты адстаў!
Маісей даўно на пагосце.
І Равэка яго і сынок Абрам,
Іх даўно спарахнелі косці.

Абрам-жа з Ліяй нарадзі
Хлапца, ён Фелікс завецца,
Далёка ён ў хрысціянстве пайшоў—
Ужо капельмейстэр, здаецца.

Старая Каршын памерла ўжо,
Таксама дачка яе, Кленке;
Гельміна Чэзы, ўнучка яе,
Яшчэ жыве памаленьку.

Дзюбары салодка жылося пакуль
Людовіка не пахавалі
Пятнаццатага. Старою ўжо
Яе гільяцініравалі.

Людовік пятнаццаты ў ложку сваім
Спакойна сыйшоў са свету.
Шаснаццаты—гільяцініраваны
З каралевай Антуанетай.

Каралева мужна спаткала свой лёс,
Як ёй і належыць па чыну,
А вось Дзюбары, тая нема раўла,
Як убачыла гільяціну“...

*) Мендэльсон—філосаф-ідэаліст XVIII стаг.
**) Каршына—другарадная нямецкая паэтэса.

Раптоўна кайзер на месцы стаў,
Ды вылупіўся вачыма.
„Гільяцінірабаць? Што ты сказаў?
Божа мой, якім гэта чынам“?

„Гільяцініраваць“,—так я пачаў
Яму растлумачваць—„гэта
Новы метад адпраўкі людзей
На той, вось з гэтага света.

„Пры метадзе гэтым,—сказаў я яму,—
Карыстаюцца новай машынай.
Вынайшаў гэта масье Гільятэн,
Таму яна гільяціна.

Да дошкі прывязваюць цябе,—
Яна апушчаецца,—хутка
Цябе заціскае між двух брусоў,—
Угары—сякеры трыкутнік.

Пацягнуць за шнур і сякера ўніз
Ляціць, як ні ў чым не бывала,
Пры гэтых варунках твая-б галава
У падстаўлены кошык упала“.

Але кайзер прамову маю перарваў:
„Маўчы ты з сваёй машынай,
Хай бог сцеражэ, каб я калі
Карыстаўся той гільяцінай.

Кароль! з каралевай! прывязаныя!
Да дошкі рэмнямі! Ды гэта
Супроць усялякіх правіл двара
І ўсякага этыкета!

І ты, ды хто ты, што смееш так
Да мяне фамільярна звяртацца?
Ужо я табе, хлопчык, гонар саб'ю,
Дай да цябе мне дабрацца.

Аж жоўць разлілася у жылах маіх
Як тваё я пачуў тлумачэнне.
Твой подых—дзяржаўная здрада ўжо
Кароны зневажэнне!“

Калі гэтак у раж прышоў стары
І, як ні ў чым не бывала,
Мяне закрануў, тады і мае
Патаемныя думкі прарвала.

„Гер Ротбарт!—гукнуў я ў голас—ды ты
Байка старая, не болей.
Ідзі праспіся! Ужо без цябе
Сваёй мо' даб'емся волі.

Рэспублiканцы-ж высмяюць нас,
Калi толькi хто з iх пачуе
Што гэткая каранаваная здань
Iзноў над намi пануе.

I сцяг твой мне не па густу даўно,
Бо старагерманцаў дурнота
Ужо з часу студэнцтва ад фарбаў яго,
Даўно мне адбiла ахвоту.

Найлепей было-б, каб ты дома сядзеў,
Вось тут твае месца—Кiфгайзер.
Абмеркаваўшы справу, як след,
Дык навошта наогул той кайзер?"

## XVII

Я з кайзерам пасварыўся быў
У сне, у сне зразумела,—
У бодрым стане гаворым мы
З каралямi не гэтак смела.

Толькi у сне, ў iдэальным сне,
Iм немец з адвагай падносiць
Нямецкую думку, якую ён
Глыбока ў сэрцы носiць.

Калi я прачнуўся, мы ўехалi ў лес.
I выгляд дрыўляных абшараў,
Дубовай нагой рэчаiснасцi iх
Развеяў усе мае мары.

Галавою сурова кiвалi дубы,
Хiлiўся дадолу бярэзнiк,
Ды розны хмызняк, i я гукнуў:
„Прабач мне, кайзер любезны!

Прабач мне, о Ротбарт, дзёрзкасць маю.
Я ведаю,—ты разумнейшы
Шмат за мяне, я палкi такi.
З'явiся, з'явiся! хутчэй-жа.

Калi ты гiльяцiну не ўпадабаў,
Пры даўных застанься сродках:
Меч—для дваранства, пятлю для селян
Ды iншых—усё, як пры продках.

Але часам ролю змянi i крыху
Сялянам i бюргерам, можа,
Галовы сцiнай, а дваран—у пятлю:
Усе мы стварэннi божыя.

Галаварэзны суд аднаві,
Карла Пятага статут суровы,
Па гільдзіях, цэхах, і станах народ
Ты падзялі нанова.

Дзяржаву Рымскую аднаві
Святую тую, старую,
Звярні спласнявелае ўсё рыззё,
У яго мішуру шутаўскую.

Сярэднявечча, як яно ёсць,
Сапраўднае—хай сабе будзе,—
Я выцярплю ўсё, толькі вызвалі нас
Ад тых, што ублюдкі—не людзі;

Ад камашных рыцараў гэтых усіх,
Што з'яўляюцца сумесьсю хіба
Гатычнага брэду з сучаснай маной,
А проста ні мяса, ні рыба.

У шыю гані каменд'янцкі зброд,
Пазбаў нас ад гэтых пародый,
Ад усіх імітацый пад-даўні час,—
З'явіся, Чырвонабароды!"

## XVIII

Міндэн—умацаваны пункт,
Узброены на славу!
З прускаю крэпасцю я, аднак,
Не вельмі люблю мець справу.

Пад вечар пад'ехалі мы туды.
Цемрай равы пазяхалі.
Пад'ёмнага моста стагналі брусы
Калі мы па ім праязджалі.

Бастыёны наўкол аглядалі мяне
З пагрозаю суровай.
Жалезная брама адкрылася ўраз
І закрылася з бразгам нанова.

Ах, сумна было на душы ў мяне,
Як Адысею калісьці,
Калі ён пачуў, як Паліфем
Пячоры завальваў выйсце.

Да нас падыйшоў стары капрал,
Куды я і хто я?—пытае.
—Я завуся „Ніхто", я вочны ўрач,
Я волатам бельмы здымаю.

Ў гасцініцы стала мне яшчэ горш,
Не лезла вячэра ў горла.
Я лёг адразу, ды спаць не мог.
Ад коўдры дыханне сперла.

Шырокі ложак гэты быў
Зацягнут чырвоным атласам,—
Блёклага золата балдахін
З чорным, брудным кутасам.

Праклятым кутас! ён праз усю ноч
Ані не даваў мне спакою.
З пагрозаю, як Дамоклаў меч,
Ён вісеў над маёй галавою.

З шыпеннем вужачым зіваўся ён
І я чуў у таемным шыпенні:
—„Ты ёсць і будзеш у крэпасці тут.
Адсюль няма збавення!“—

„О, калі-б быць мне,—я ўздыхаў,—
Калі-б мне быць на кватэры
Ў Парыжы ля любай жонкі сваёй
У Faubourg Poissoniére *)!“

Я чуў, як часам па лбу мяне
Халоднае штось закранала
Нібыта цэнзара рука,
І думка мая застывала.

Жандары у саванах белых вакол
Кружыліся, і як здані,
Абступілі мой ложак. Ужо я чуў
Нібы ланцугоў бразгатанне.

Ах, тыя здані схапілі мяне
І цягнуць на пакуты,
Я апынуўся ля стромкай скалы;
Там быў я моцна прыкуты.

Брудны і злы балдахіна кутас!
Яго зноў знайшоў цяпер я,
Але каршуном ён ужо выглядаў—
Кіпці і чорнае пер‘е.

Падобны да прускага арла
Ён у кіпцях трымаў мае цела,
Ён печань ірваў з маіх грудзей;
Я рваўся, стагнаў—мне балела.

Я доўга стагнаў, тут певень гукнуў,
І я ад сноў прачнуўся.
Я ў Міндэне ў потным ложку ляжаў,
Арол на кутас абярнуўся.

*) Faubourg Poissoniere— назва квартала ў Парыжы.

Я з экстранай поштай адбыў адтуль
І дух перавёў на свабодзе
Ужо сярод Букембургскіх палёў
У прывольнай спакойнай прыродзе.

XIX

Ты памыліўся, о Дантон,
І паплаціўся, няшчасны!
Занесці можна радзіму з сабой
На нагах, на падэшвах уласных.

Палова княства Букенбург
Мае абляпіла ногі,
Сапраўды я з роду не бачыў такой
Гразкай і згубнай дарогі.

У Букенбургу я ў горад схадзіў
Пазнаёміцца пераходам
З тым месцам, дзе мой дзед убачыў свет;
(Бабуля з Гамбургу родам).

Ў Гановер прыехаў апоўдні я
І даў сабе боты пачысціць,
І зараз-жа горад пайшоў аглядаць,—
У вандроўках шукаю карысці.

Мой божа, як чыста ўсё навакол,
На вуліцах ні парушынкі!
Шмат пышных гмахаў бачыў я там,
Імпазантныя ўсё будынкі.

Асабліва я плошчу упадабаў,
Вакол шмат домоў дабрэвных.
Кароль там жыве, яго там палац,
Ён мае выгляд не дрэнны,

(Гэта значыць палац). Абапал яго
Па будцы стаіць невялікай.
Мундзірчыкі з стрэльбамі там стаяць,
Выглядзяць жудасна дзіка.

Па-мойму, плошча была-б яшчэ лепш,
Калі-б—для напамінку
Паставіць ў сярэдзіне супроць дварца
Маленькую гільяцінку.

Мой чычэроне сказаў: „Тут жыве
Эрнст Аўгуст, сапраўдны торы,
Высокашаноўны джэнтльмен,
Для год сваіх досыць бадзёры.

Ідылічна спакойна ён тут жыве,
Бо лепш за ўсіх вартаўнічых
Яго ахоўвае мужнасці брак
У нашых сяброў ваяўнічых.

Я часам бачу яго, і ён
Кляне нуду пасады
Сваёй каралеўскай, якой ён і сам
У Гановеры, значыць, не рады.

Ён вырас у Вялікабрытанскай зямлі
І тут яму цесна мясціцца.
Гняце яго сплін. Ён баіцца на'т,
Каб, часам, не задавіцца.

Заўчора я ля каміна яго
Застаў, ён быў не ў гуморы;
Яго вялікасць уласнай рукой
Грэў клізму сабакам хворым".

## XX

З Гарбурга ў Гамбург прыехаў я
За гадзіну. Быў ужо вечар.
Зоркі на небе віталі мяне,
Дзьмуў ціхі і цёплы вецер.

І калі я да маткі прыйшоў, дык яна
Самлела з радасці, ледзьве;
„Мой любы сынок!"—праказала яна
Узняўшы рукі абедзьве.

— Мой любы сынок! трынаццаць год
Прабегла ужо тым часам!
Ты, мусіць, галодны, сыночак, зусім
І чым мне цябе паласаваць?

„Есць смачная рыба, гусяціна,
Цудоўныя апельсіны!
Няхай сабе рыба, гусяціна,
Цудоўныя апельсіны".

І калі з апетытам я есці стаў
Матуля ў зачараванні
Пра тое, пра сёе пытала мяне;
Пякучыя досыць пытанні.

„Мой любы сынок! ці ёсць за табой
Догляд належны ў чужыне?
Ці ведае штопку жонка твая,
Ці добрая гаспадыня?

„Рыбка, што трэба, матулька мая,
Але моўчкі яе трэба есці:
Ты не павінна перашкаджаць,
Можа костка у горле засесці“

Калі-ж я належнае рыбцы аддаў,
Ужо гуска увагі просіць.
Пра тое, пра сёе матуля ізноў,—
Пытанні пякучыя досыць.

„Мой любы сынок! У краіне якой
Лепей за ўсё жывецца?
Ці тут, ці ва Францыі? і які
Народ табе лепшы здаецца?“

„Нямецкая гуска, матуля мая,
Нішто, ды вось у чым справа—
Французы лепей шпігуюць гусей
  лепшая ў іх прыправа“.

І калі развітаўся з гускай я,
З‘явіліся з прывітаннем
Апельсіны, і слодыч іх была
Звыш усякага чакання.

Матка аднак пачала ізноў
Мне задаваць у чаканні
Аб тысячы рэчаў, часам такі—
Далікатныя досыць пытанні.

„Мой любы сынок! Які твой настрой,
Ці ўсё прыхільнік упарты
Палітыкі ты і да якой
Ты зараз належыш партыі?

„Апельсіны—слодыч, матуля мая,
І з захапленнем глытаю
Заўсёды я іх салодкі сок
А кажуру—адкідаю“.

XXI

Напалову Гамбург абгарэў,
Адбудоўваецца паступова;
Як пудзель выглядае ён
Абстрыжаны напалову.

Шмат якіх вуліц мне не стае,
Яны выгаралі да звання.
Дзе гэты дом, дзе я атрымаў
Пацалунак першы кахання?

Дзе тая друкарня, дзе я друкаваў
„Падарожныя малюнкі“?
Дзе той паграбок, дзе я спрабаваў
Лепшых устрыц гатункі?

А Смеццевы вал, дзе Смеццевы вал?
Яго я шукаю дарэмна!
Дзе павільён, у якім я еў
Столькі піроЖных з крэмам?

Дзе ратуша, ў якой сенат
І бюргерства панавала?
Здабыча полымя! Яно
Свяцейшага не шкадавала.

Цяпер яшчэ людзі ад страху дрыжаць
І, са смуткам на твары,
Расказваюць жудаснага шмат
Аб тым вялікім пажары.

„Гарэла адразу з усіх бакоў,
Агонь і дым шугалі.
Званіцы займаліся полымем ўраз
І з трэскам страшэнным знікалі.

Старая біржа згарэла ў канец,
Дзе нашы бацькі нязменна
Спекулявалі адзін з адным
Наколькі магчыма сумленна.

Але банк—срэбраная душа
Горада з запісам поўным
Грашовай вартасці кожнага з нас,
Не згарэў ён выпадкам цудоўным!

Дзякуй богу, усюды збіралі для нас,
Н‘ат у самых дальніх народаў—
Добрае дзельца!—збор гэты даў
Да васьмі мільёнаў прыходу.

Дапаможную касу тую вялі
Сапраўдныя хрысціяне—
Не ведала левая рука
Колькі правая сцягне.

Працягнутыя далоні нам
Напоўнілі хутка грашыма.
Натурай таксама прымалі мы,
Не грэбавалі нічым мы.

Прыслалі вопратку і пасцель,
І мяса, і хлеба, і бульёны.
Прускі кароль збіраўся н‘ат
Пасланць нам свае батальёны.

Матар'яльную страту звярнулі нам,
З гэтым можна зусім пагадзіцца—
Але-ж перапуд і страшэнны жах,
На іх ніяк не забыцца.

Я падбадзёрыў іх: „Людцы мае,
Не стагніце з-за гэтага хлама;
Троя хоць лепшы горад была,
Але згарэла таксама.

Сушыце лепей лужы свае
І будуйце дамы нанова,
І лепшых законаў прыдбайце сабе
І пажарныя установы.

У занадта тлустыя супы свае
Не сыпце гэтулькі перцу,
Таксама карпаў не смажце з луской,
Усё гэта шкодна для серца.

Індзейкі вам не пашкодзяць, але
Сцеражыцеся гэнага птаха,
Што яйкі свае у бурмістраў парык
Паклаў без ніякага страху.

А хто ён, гэты фатальны птах,
Вам казаць не мая тут справа.
Як успомню аб ім дык лезе назад
З маіх вантроб уся страва".

## XXII

Людзі змяніліся болей яшчэ
Чым горад. З маркотнаю мінай
Блукаюць панурыя постаці іх—
Хадзячыя руіны.

Худыя—яшчэ схуднелі больш,
А тоўстыя пасыцелі.
Старыя здзяцінелі ужо,
А дзеці пастарэлі.

І шмат з каго, што цялятками я знаў,
Павырасла буйнае быдла.
І шмат хто з маленькіх гусенят—
Пышнапёрыя сталі страшыдлы.

Старую Гудэль я сустрэў—
Размаляваную маску,
Чорныя кудры прыдбала сабе
і белыя зубы—да бляску.

Гандляр паперы, сябра мой,
Закансерваваўся з удачай.
Пажоўк валасоў яго арэол—
Іоан Хрысціцель, няйначай.

[Га́лле] з далёку пазнаў я ледзь,
Ён праскочыў, усхваляваны.
(Кажуць, згарэла яго душа
І у Бібера застрахавана).

Старога цэнзара свайго
Я сустрэў, з сагнутай спіною
У тумане ён йшоў праз Гусіны базар,
Відаць быў у сумным настроі.

Мы рукі пацiснулі, сляза
Яго напоўніла зрэнкі.
Як рады ён быў пабачыць мяне!
Чуллівыя досыць сцэнкі.

Не ўсіх я знайшоў. Некаторы ўжо
З жыццём даўно расквітаўся.
Ах, Гумпеліно нават мой,
Ён болей мне не спаткаўся.

Благародны той муж тымчасам ужо
Выхаўкнуў дух свой здаровы
І мусіць лунае, як серафім,
Ля трона Іеговы.

Дарэмна па гораду я шукаў
Крывога Адоніса. Ўсюды
На вуліцах Гамбурга ён прадаваў
Начное начынне і блюды.

Ці жывы яшчэ мой Майер малы,
Не магу я сказаць вам гэта.
Мне не ставала яго, ды забыў
Спытацца аб ім у Карнета.

Сарас, той верны пудэль—здох,
І гатовы я паручыцца,
Што Кампе лепей згадзіўся-бы
Дзесятка паэтаў пазбыцца.

Насельніцтва Гамбурга з даўных часоў
Складаецца з яўрэяў
І хрысціян. Апошнія з іх
Таксама не з дабрадзеяў.

Хрысціяне, наогул добры народ
І палудзень ядуць апетытна
І ўжо за дзень да пратэсту яны
Векселя пагашаюць спрытна.

Яўрэяў зноў такі падзяліць
На пару партый не шкодзіць:
У сінагогу старыя ідуць,
А ў школу новыя ходзяць.

Новыя нават свініну ядуць—
Пярвейшыя дэмакраты
І пратэстанты. Старыя-ж якраз—
Супраўдныя арыстакраты.

Люблю я новых, люблю старых,
Але, вечны бог таму сведка,
Я лепей капчоныя шпроты люблю,
Хоць здараецца есці іх рэдка.

## XXIII

Як рэспубліка Гамбург, з Венецыяй там
Ці з Флорэнцыяй не йдзе ў параўнанне.
Але вустрыцы лепшыя тут. Іх ядуць
У Лорэнца ў рэстаране.

Быў вечар прыгожы, калі я туды
З Кампам надумаў пусціцца.
Хацелі мы да рэйнвейна там
І да устрыц прылажыцца.

Кампанію добрую я там спаткаў
З прыемнасцю бачыў зноў іх,
Старых сяброў, напрыклад Шопфі,
Таксама шмат каго з новых.

Там Віллє быў, якога твар
Нагадваў альбом, дзе з адвагай
Акадэмічныя ворагі ўсе
Распісаліся росчаркам шпагі.

Тут быў і Фукс, язычнік, сляпы,
Асабісты вораг Еговы.
Ён верыць ў Гегеля і яшчэ,
Можа, ў Венеру Кановы *).

Мой Кампе ад радасці ўвесь квітнеў
У ролі амфітрыёна;
Яго вочы струменілі міласць нібы—
Зрок прачыстай мадонны.

Я з апетытам еў і піў
І думаў: бог таму сведка
Кампе—вялікі чалавек
Сярод выдаўцоў кветка,

*) Канова—вядомы італьянскі скульптар.

У іншага выдаўца якраз
Я можа-быць з голаду згінуў.
А гэты мне нават выпіць дае,
Ніколі яго не пакіну.

Хвала ўсявышняму на небесі,
Што сок вінаграду даў нам,
І што ў выдаўцы на гэтай зямлі
Юліюса Кампе*) паслаў нам.

Хвала ўсявышняму на небесі,
Хто сваім вялікім „Хай будзе!“
У моры устрыцы стварыў,
А рэйнвейн на зямлі, дзе людзі.

Які таксама лімоны стварыў
Для устрыц падмацаванне—
Цяпер яшчэ, божа, пашлі мне ўначы
Ўдалага стрававання!“

Рэйнвейн лагодны дае мне настрой
І гоніць рэшткі сумненняў.
У маіх грудзях запаляецца жар
Чалавекалюбных імкненняў.

Ен гоніць нястрымна з хаты мяне
Па вуліцах пакруціцца.
Душа шукае роднай душы
У якой-небудзь белай спадніцы.

Ад прагных імкненняў, ад смутнай тугі
Я растаў-бы. У момант гэны
Ўсе кошкі шэрыя для мяне
І ўсе жанчыны—Елены.

Калі я да Дрэбана падыйшоў
Я ўбачыў у месяца свеце
З высачэнным бюстам цудоўную
Асобу з роду кабецін.

Твар яе быў, як кроў з малаком
Вочы, як два агаты,
Шчокі, як ружы, як вішня—рот,
Носік—чырванаваты.

На галаве яе быў чапец
Накрухмалены, белы, свежы
Увесь у зыгзагах і зубцах
Ен нагадаваў мураў вежы.

На ёй была белая туніка,
Да лытак спадалі фальбоны.
А лыткі якія!—Дзве нагі
Як дзве дарычных калоны.

*) Юліус Кампе—выдаўца твораў Гейне.

Сапраўды зямную істоту яе
Выяўляла рысаў магутнасць,
Але звышчалавечая задняя часць
Выдавала вышэйшую сутнасць.

Яна падыйшла і сказала мне:
„З прыездам на Эльбу вітаю!
Праз трынаццаць доўгіх год цябе
Я гэткім-жа спатыкаю.

Ты, пэўна, шукаеш прыгожых істот,
Што марылі часта з табою
У гэтым прыгожым месцы калісь
Позняй начною парою.

Нібы стогаловая гідра, жыццё
Паглынула іх без карысці.
Ты больш не знойдзеш старых часоў
І сучасніц, што знаў калісьці.

Прыгожых тых кветак не знойдзеш больш,
Што ў юнацкім сэрцы царылі.
Тут цвілі яны—тут завялі яны,
Навальніцы красу іх згубілі.

Сарваны, задушаны, ўтоптаны ў прах,
Ліхая іх доля зсушыла.
Мой любы, вось той лёс на зямлі
Ўсяго, што салодка і міла!“

„О хто ты?—я гукнуў. Глядзіш
Бы сон стары на мяне ты!
Ці нельга дахаты правесці цябе,
Вялізарны вобраз кабеты?“

Жанчына з ухмылкай сказала мне:
„Мыляешся ты, калі гэтак,
Маральная асоба я,
А не з якіх там ларэтак.

Я не якая небудзь мамзель,
Інакшага я гатунку.
Ведай: багіня Гамонія я—
Гамбурга апякунка!

Ты здрыгануўся, злякаўся на‘т,
Пясняр заўсёды брэвы,
Ну, ўсё яшчэ хочаш правесці мяне?
Дык пойдзем, у чым-жа справа!“

Я-ж голасна зарагатаў:
„Дык што-ж, ну ідзі наперад!
Я за табою следам пайду,
Няхай хоць к чорту у нерат!“

## XXIV

Як я па сходах крутых узышоў
Не ведаю. Нейкая сіла
Нябачная, відаць, мяне
Пад пахі падхапіла.

Тут у куточку Гамоніі
Прабеглі гадзіны прыемна.
Багіня прызналася хутка мне
У сімпатыі патаемнай.

„Бачыш,—сказала яна,—раней
Быў больш за ўсё дарагі мне
Песняр, які Месію васпеў
У сваім багамольным гімне.

Там, на камодзе ‘шчэ зараз стаіць
Бюст майго Клапштока *),
Але ўжо даўно ён служыць мне
Толькі балванкай для штопкі.

Ты мой любімец цяпер, і вісіць
Твой партрэт ля майго ўзгалоўя;
І, бачыш, свежым лаўровым вянком
Яго упрыгожыла зноў я.

Але тое, што часта з сыноў маіх
Ты кпіў, дык трэба прызнацца,
Крыўдзіла часам моцна мяне,
Не павінна яно паўтарацца.

Трэ‘, спадзявацца, цябе жыццё
Ад дрэннай звычкі злячыла
І большай цярплівасцю цябе
Да дурасці ‘нат надзяліла.

Але, як на думку ўспала табе
На поўнач пусціцца, скажы мне,
У гэткае надвор‘е? У паветры ўжо
Зусім зрабілася зімна“.

„—Багіня мая!—я адказаў:
Глыбока хавае аснова
Чалавечага сэрца думкі, што ураз
Прачынаюцца несвоечасова.

Знадворку нібы ішло ўсё, як след,
Але сэрца мне нешта сціскала.
На тугу па радзіме я захварэў
І яна што дня ўзрастала.

*) Клапшток Ф. Т.—нямецкі паэт XVIII стаг.

У лёгкім паветры Францыі
Мне стала душна страшэнна;
Я мусіў паветрам радзімы дыхнуць
Інакш задыхнуўся-б я пэўна.

Я пахі торфу у марах сніў
І табакі нямецкай дымы,
Нецярпліва трымцела нага
Даткнуцца да глебы радзімы.

Я стагнаў уначы, так цягнула мяне
Зірнуць хоць адзіным вокам
На старую, што тут ля брамы жыве;
Лотхен жыве недалёка.

Таму старому, які не раз
На мяне сварыўся, бывала,
І вялікадушна мяне бараніў
Прысвеціў я ўздохаў не мала.

Я з вуснаў яго хацеў-бы зноў
Пачуць таго „хлопца дурнога“.
Гучэла музыкай у сэрцы маім
Гэта прымоўка старога.

Я смуткаваў па сінім дымку,
Што ідзе праз нямецкі комін,
Па ніжнесаксонскіх салаўях
І буковым гаям знаёмым.

Я нават імкнуўся да тых мясцін,
Да той Галгофы нанова,
Дзе я цягнуў юнацтва крыж
І свой вянец цярновы.

Хацелася плакаць мне, дзе калісь
Я слёзы праліў. Здаецца
Любоўю да радзімы у нас
Дурны гэты сум завецца.

Па сутнасці хворасць гэта і лепш
Яе закранаць я не стану,
Я сарамліва хаваю заўжды
Ад публікі маю рану.

Нязносна мне ўся тая шваль,
Што, каб сэрцы расчуліць толькі,
Свой патрыятызм нясе на паказ
І ўсе яго раны і болькі.

Бессаромныя проста яны жабракі,
Што клянчаць усюды—хаця-бы
На грош папулярнасці ты ім падай—
Менцэль і яго швабы.

Багіня мая, ты сёння мяне
У чуллівым спаткала настрої;
Я крыху нядужы, лячуся, аднак,
Ї хутка здароўе настрою.

Так, хворы я, і ты-б магла
Мне вельмі душу ўлагодзіць
Добрай шклянкай гарбаты. Туды
Ї рому падліць не шкодзіць".

## XXV

Багіня чаю зварыла мне
Ды з ромам яго змяшала;
Сама аднак, яна гэты ром
Без ніякага чаю глытала.

Да мяне на плячо схіліла яна
Галаву (пры гэтым у кароне—
Вежы былі змяты крыху)
Ї сказала ў салодкім тоне:

„Я часам думаю з жахам аб тым
Што ты сярод ўсякіх спакусаў
У Парыжы адзін без нагляду жывеш
У гэтых фрывольных французаў.

Бадзяешся ты і няма пры табе
Побач, у патрэбным выпадку,
Немца—выдаўца, які-бы цябе
Часам прызваў да парадку.

А розных спакусаў колькі там!
Там столькі сільфід няпэўных,
Яшчэ і хворых. Лёгка тады
Страціць пакой душэўны.

Няйдзі туды, застаніся у нас;
У нашым сціпным коле
Квітнее прыстойнасць. Тут знойдзеш ты
Ціхіх пацехаў даволі.

Застаніся ў нас, Нямеччыну ты
Лепей цяпер спадабаеш.
Мы рушым наперад. Ты недзе прагрэс
Ї сам ужо заўважаеш.

Цэнзура змягчылася. Гофман стаў
Старэйшы і спакайнейшы
Ї падарожных малюнаў тваіх
Не крэсліць з палам ранейшым.

Ты сам лагаднейшы й старэйшы стаў
Ї пагадзіўся шмат з чым
Ї нават мінулае цяпер
Пабачыш у свеце інакшым.

Так, тое, што быццам дрэнна было
У Германіі—гэта глупства;
Пазбавіцца кожны пакутаў мог,
Як у Рыме, праз самагубства.

Свабодай думак нямецкі народ
Меў моўчкі заўжды карыстацца,
Маўчаць быў прымушаны толькі той
Хто меў намер друкавацца.

Беззаконнасць не мела мейсца ў нас
Ї суд хоць самы суровы
Нікога кукарды пазбавіць не мог
Без належнае пастановы.

Гэтак дрэнна ў Германіі не было,
Хоць здараліся злыя гадзіны;
Павер, галоднаю смерцю ніхто
У нямецкай турме не загінуў.

У мінулым квітнела не мала тут
Прыгожых і мірных з'яўленняў
Адданнасці і дабрадушнасці.
Цяпер—адчай, аднаўленне.

Знадворная цалкам свабода сатрэ
Той ідэал, што насілі
У сваіх мы грудзях. Ён быў такі
Чысты, бы мара лілій.

Таксама пісьменства прыгожае
У нас памалу згасае—
З царамі іншымі чорны кароль
Фрэйліграта́ў таксама канае.

Унук будзе смачна есці і піць,
Ды не ў той цішыні спазірання.
Наблізіўся з грукатам балаган,
Знікае ідыліі ззянне.

Калі-б мог ты змаўчаць, распячатала-б я
Табе кнігу лёсу адразу
Ї ў люстры цудоўным адкрыла-б табе
Будучыню для паказу.

Што смертны ні водзін не бачыў яшчэ
Я-б сёння табе адчыніла:
Будучыню радзімы тваёй—
Але ах ты маўчаць не ў сілах!"

„Мой божа, багіня“—я гукнуў,
„О як-бы я быў шчаслівы!
Германію будучага пакажы!
Я мужчына значыць—маўклівы.

Я паклянуся табе усім,
Чым толькі ты пажадаеш,
Захоўваць маўчанне. Скажы мне, якой
Ад мяне ты прысягі жадаеш?“

Але тая ў адказ: „Кляніся мне
Па спосабу Аўраама,
Як Елеазара калісь ён вучыў,
Кляніся мне гэтак сама.

Паднімі мне спадніцу і пакладзі
Вось тут на сцягно сваю руку,
Ды пакляніся ў маўчанні мне
У вуснай размове і ў друку“.

Урачысты момант! Мяне нібы
Абвеяла духам стагоддзяў
Калі я прысягу переказаў
Па старадаўняй модзе.

Спадніцу багіні я падняў
І на сцёгна паклаў ёй руку
Ды гэтак пакляўся ў маўчанні ёй
У вусных размовах і ў друку.

## XXVI

Шчокі багіні гарэлі, як жар
(Я думаю, ёй у карону
Ударыў ром) і яна да мяне
У меланхалічным тоне:

„Старэюся я. Радзілася яшчэ
У час Гамбурга заснавання.
У вусці Эльбы матка мая
Была каралева тарання.

Бацька мой быў вялікі манарх,
Каролюс Магнус ён зваўся.
Фрыдрых Вялікі Прускі нат
У магутнасці-б з ім не зраўняўся.

Той трон у Ахене, на якім
Ён сядзеў у час каранацыі;
Той трон, на якім ён сядзеў уначы,
Застаўся ў спадчыну матцы.

„Ад маткі ён перайшоў да мяне,
Хлам ні на што не прыгодны,
Але дай мне Ротшыльд ўсе грошы свае
Яго аддаць я не згодна.

„Бачыш, вунь у куточку стаіць
Старое падранае крэсла,
Сядзенне ад молі струхнела зусім,
На спінцы скура злезла.

„Але падыходзь і падымі
Падушку з сядзення, на вочы
Адразу дзірка трапіць табе,
Пад ёю такі кацялочак.

„Гэта чароўны кацёл, у якім
Магічная сіла брузуе,
А прасунеш у дзірку сваю галаву
Цябе будучыня зачаруе.

„Германіі будучыню вось тут
Ты ўбачыш у хвалях фантазмаў,
Але не пужайся, калі з брыды
Паўстануць струмені міазмаў!“

Так казала яна, смеючыся ў твар,
Але мне было не да жартаў—
У страшную дзірку тую ураз
Галаву я засунуў упарта.

Што я ўбачыў я не скажу,
Я-ж пакляўся даўнім духам,
Дазволена хіба сказаць мне аб тым
О, божа! што чуў я нюхам!—

З агідаю я успамінаю яшчэ
Агідны, смярдзючы дух той—
Прэлюдыю пахаў, сумесь ці што
Тухлай капусты з юхтай.

О божа! што гэта быў за пах
Які узняўся тагды,—як
Быццам адразу выгрэблі гной
Усе трыццаць шэсць памыяк—

Усе сцервы што здохлі даўно і цяпер,
Смердзючы гістарычна-духоўна,
Ужо выпускалі апошні смурод
Падлюгі і падлы пароўна.

І нават тая святая здань,
Ускрэсшая мертвячына,
Якой аддалі усю кроў жыцця
Шмат які народ і краіна,

Яшчэ раз хацела атруціць увесь свет
Сваім заплеснелым духам,
Страшэнныя гады лезлі уверх
З яе раздутага бруха.

І кожная гадзіна—новы вампір—
Ізноў смяротна смярдзела
Калі працінаў ратавальны стрэл
Яе мярзотнае цела.

І пахла табакай, крывёю, віном,
Павешаным падлюгай,—
Хто у жыцці, смярдзеў, якім ён шчэ
Па смерці запахне духам".

І пахла пудалем, таксай, яшчэ
І мопсам, якія лізалі
Нагу, што іх адкідала штуршком
І з сабачай верай здыхалі.

Гэта быў смярцельны трупны смурод,
Смурод атрутны, кволы
І ў гэтым быў ўвесь сабачы цэх,
Увесь дух гістарычнай школы.—

Я добра ведаю, што Сэн Жюст
Казаў ў камітэце збавення:
„Мускус і ружовая вада
Для грамадскіх хвароб не лячэнне".

Але будучыні нямецкай смурод
Ён, здаецца, усё перадоляў
Што толькі мог уявіць сабе нос;
Я не мог гэта вытрымаць болей.—

Я страціў прытомнасць. Калі-ж адчыніў
Зноў вочы, сядзеў я нязменна
Побач з багіняй, мая галава
На яе грудзях шырачэзных.

Блішчэў яе зрок, палаў яе рот,
Уздрыгваліся ноздры разам,
Вакхічна паэта яна абняла
Ды запела з дзікім экстазам:

„Ёсць у Фуле кароль і ёсць у яго
Келіх, каштоўны надзвычай,
І калі ён з гэнага келіха п'е
Заліваюць слёзы абліча.

Думкі тады паўстаюць у яго,
Аб якіх мы нават не снілі,
Шалее ён і шле загад
Каб цябе, мой хлопчык, злавілі.

На поўнач не едзь, сцеражыся яго,
Кароль той занадта вясёлы,
Сцеражыся паліцыі і сабак
І ўсёй гістарычнай школы.

Застаніся ў Гамбургу ў мяне,
Мы піць і есці будзем
Сучаснасці устрыц і віно
І пра будучыню забудзем.

Накрыўку на гэта! каб тая брыда
Нам радасці не псавала—
Я кахаю цябе, як з жанчын ніхто
Паэта яшчэ не кахала!

Я цалую цябе і я чую нібы
Твой геній мяне акрыляе,
Якісь цудоўны бурны хмель
Душу маю напаўняе.

Здаецца на вуліцы чую я
Спевы начное варты,
Гімэнэі гэта, вясельны спеў,
Каханы мой, гэта не жарты.

Вось і коні пад'язджаюць сюды,
Факелы пышна палаюць.
Гэта ў факельным танцы гарцуюць яны,
Яны скачуць, гайсаюць, граюць.

Ідзе высока-шаноўны сенат,
Старэйшыны гораду крочаць,
Бурмістр пакраквае,—ён гатоў,
Трымаць прамову ён хоча.

Дыпломатычны корпус увесь
Ідзе ў бліскучым убранні—
Ён ад імя суседніх дзяржаў
Нам прыносіць сваё прывітанне.

Духоўная дэпутацыя
Рабінаў і пастыраў пнецца;
Але ах! з нажніцамі ў руках
І Гофман сюды падаецца.

Нажніцы звіняць у яго руках,
Накідваецца, дзікая бэстыя,
Ураз на цябе—ён у мяса папаў—
Прэч лепшы кавалак зместа!"

## XXVII

Што далей у тую цудоўную ноч
Здарылася—аб гэтым
Я вам ў другі раз раскажу
Калі-небудзь цёплым летам.

Пакаленне старое ілжы і маны,
Дзякуй богу, сёння знікае;
Яно зыходзіць памалу ў магілу. Яно
Ад сухот сумлення сканае.

Расце пакаленне новых людзей
Без фальшы старой і бруду,
Свабодны іх думкі, свабодна любоў,
Яго я паэтам буду.

Ужо моладзь квітнее, якой зрадні
Імкненні й пачуцці паэта,
І хоча сагрэцца ад сэрца яго,
Ад сонечнага яго света.

Маё сэрца любіць, як любіць свет
І як полымя чыста і шчыра,
Прыгажэйшых грацый уласнай рукой
Наладжаны лад маёй ліры.

Гэта тая ліра, якую калісь
Прымушала гучэць паслухмяна
Рука майго бацькі, любімца Камен,
Славутага Арыстафана.

Гэта тая ліра, якой ёнваспеў
Уладу—Базілею,
Якую сасватаць Пайстэтар хацеў
І лётаў пад неба за ею.

У апошнім раздзеле я спрабаваў
Скарыстаць крыху для ўзору
Канец яго „Птушак“. Яны сапраўды—
Лепшае з бацькавых твораў.

„Жабы“ таксама нішто сабе. Іх
Даюць на берлінскай сцэне
У перакладзе нямецкім зараз якраз
У каралеўскае увесяленне.

Каралю падабаецца п'еса—вось
Класічнага густу адзнака,
Аўгусцейшы іх бацька больш спадабаў
Жабаў сучаснага кваку.

Каралю падабаецца п'еса, аднак,
Калі-б аўтар быў жыў, дык прызнацца,
У Прусію я-б не параіў яму
Уласнай персонай падацца.

Прышлося-бы крута, нябогу яму,
Сапраўднаму Арыстафану,—
Паліцыя мела-б загад—хапаць!
І быць яму арыштаванаму.

Атрымаў-бы натоўп ураз дазвол
На яго накінуцца сворай,
Мы-б хутка ўбачылі выхад яго
У акружэнні жандарскіх хораў.

О кароль, я жадаю дабра табе
І раю, павер ў мае слова,
Паэтаў-нябожчыкаў шануй,
Але паважай і жывога.

Жывых паэтаў не зневажай,
Ёсць у іх страшная зброя,—
Страшней за Зевеса маланку і гром,
Каго той-жа паэт узброіў.

Ты можаш чапаць, якіх хочаш багоў
Таго і гэтага света,
З ўсявышнім Іеговай самім на чале,
Але не чапай паэта.

Так, праўда, багі праступкі людзей
Караюць даволі крута,
Пякельны агонь гарыць нішто
І смажыцца ў ім досыць люта.

Але ёсць святыя, каб з пекла нас
Адмальваць грэшных: як болей
Ахвяр на царкву, малебстваў, дароў—
Яны граюць не малую ролю.

А ў канцы павінен прыйсці Хрыстос,
І рухне аду скляпенне;
Няхай сабе страшны тады будзе суд,
Сёй той увільне без сумнення.

Але ёсць такія геены, з якіх
Ніколі не будзе збаўлення;
Ні малітва тут не дапаможа, ані
Спасіцеля прабачэнне.

Ты не ведаеш гэты Дантаў ад,
Страшэнныя тэрцыны?—
Каго паэт туды затачыў
Не выдзе адтуль ні адзіны.

Ні бог, ні спасіцель яго не спасе
Ад пякельнага полымя песняў!
Глядзі, беражыся і гора табе
Калі мы туды цябе змесцім!

*Пераклад з нямецкай мовы*
*М. ВАСІЛЕЎСКАЙ*

---

*Алесь Гурло*

## ПЕРШЫ СНЕГ

Засняжыла снегам сцежкі
І дарогі замяло.
Ну, хадзем гуляць у снежкі,
На прасторы за сяло!

Заінелі вербалозы,
Паглядаючы ў ваду,
Мы у сівага мароза
Скубсці будзем бараду!

Будзем бегаць і смяяцца—
Радасць—нашая пара
І у школе і на працы
Ўсе вяршыні будзем браць!

Першы снег, дзень адпачынку
Сёння злучаны ў адно.
Быстра кружацца сняжынкі,
Дол ўсцілаюць дываном.

## НА ЛЫЖАХ

На белым снезе свежы след—
У лес паклыпаў заяц.
Там усцярогся ён ад бед—
Дрэвы яго хаваюць.

Усё—сосны, параснік густы
Зазіхацеліся ад белі.
І промень сонца залаты
Заплёўся ў косы елі.

А я на лыжах наўздагон,
Па мяккім сыпкім снезе,
Ўсё павялічаю разгон
У шпаркім маім безе.

І ўсё свяжэй заечы след,
Бліжэй яго бярлога.
Ужо ён—блізкі мой сусед,
Агорнуты трывогай.

І я яму крычу ў нару:
— Ну, хто каго абгоніць!
І перашкоды гор бяру
Ўсё з большага разгону!

---

## АЛЕСЬ ГУРЛО

Памёр адзін з старэйшых беларускіх паэтаў—**Алесь Кандратавіч Гурло.**

Алесь Гурло нарадзіўся ў 1892 годзе, у м. Капылі, БССР, у беднай сялянскай сям'і. З малых гадоў ён пазнаў шмат гора і бяды. Невялічкая гаспадарка бацькоў не магла пракарміць досыць вялікай сям'і і старэйшым дзецям трэба было шукаць заработкаў на старане, г. зн.ісці ў батракі, альбо на падзёншчыну.

Вядома, што ў такім становішчы атрымаць якую-небудзь сталую асвету Алесю Гурло не было ніякай магчымасці. Правучыўшыся некалькі гадоў у дырэктара (хатняга вучыцеля), Алесь Гурло прымушаны быў кінуць вучобу і зарабляць сабе на хлеб, працуючы пастушком, парабкам, а потым выязджае ў Петраград, дзе працуе рабочым на заводзе „Вулкан".

У 1909 годзе Алесь Гурло пачынае пісаць вершы. Нават першыя вершы яго вызначаюцца лірычнай пачуццёвасцю, шчырай паэтычнай непасрэднасцю.

Але ў хуткім часе Алесь Гурло прызываецца ў царскую армію і накіроўваецца ў Балтыцкі флот. Ён плавае на мінаносцы „Забіяка", дзе яго і застае імперыялістычная вайна.

Шмат вершаў напісаў Алесь Гурло будучы матросам царскага карабля. Страшэнны ўціск і здзекі, якія пераносілі матросы царскага флота, не заглушылі яго паэтычнага голасу. Ён упарта працуе над паэтычным словам. Вершы „На моры", „Перад плаваннем" і інш. напісаны на востравах Юсарэ, Эзэле, Экэнэс і ў гор. Рэвелі. У гэтых вершах паэт марыць аб светлых днях, спадзяецца на сілу марака, які пераможа „сустрэчных хваляў рад".

Лютаўская рэвалюцыя захапіла Алеся Гурло на мінаносцы „Забіяка". Ён прымае актыўны ўдзел у вайсковым камітэце і рэвалюцыйных падзеях таго часу, удзельнічае ў захопе Зімняга палацу ў Кастрычніцкія дні ў Петраградзе.

У часе баёў з белымі ён быў цяжка паранены. Гэта зрабіла яго інвалідам на ўсё жыццё. Ён доўга ляжыць у ваенным шпіталі. На гэты час прыпадаюць якраз яго вершы сумнага настрою.

Самыя шчаслівыя дні для паэта насталі пры савецкай уладзе. У 1921, 1922, 1923 годах ім напісана шмат вершаў, якія выходзяць у 1924 годзе, асобным зборнікам пад назвай „Б а р в ё н а к". Потым

адна за другой выходзяць яго кніжкі „Зорнасць“, „Сузор‘е“, „Межы“ і інш. Алесь Гурло актыўна ўключаецца ў літаратурнае жыццё. Надзвычай плённа працуе паэт пасля ачышчэння беларускай літаратуры ад ворагаў народа. Акрамя лірычных вершаў Алесь Гурло напісаў вялікую аўтабіяграфічную паэму, напісаў у 1937 годзе новы зборнік лірыкі.

Але сухоты і калецтва канчаткова падарвалі сілы паэта і 4 лютага 1938 года Алесь Гурло памёр. Адыйшоў ад нас добры таварыш, старэйшы паэт.

---

# ЧЫРВОНАЯ, УСЕНАРОДНАЯ, НЕПЕРАМОЖНАЯ

Працоўныя квітнеючай краіны соцыялізма, увесь 170-мільённы шчаслівы совецкі народ у гэтыя дні адзначае яшчэ адну слаўную дату—20 гадавіну існавання нашай роднай, гераічнай, усенароднай і непераможнай Чырвонай Арміі і доблеснага Ваенна-Марскога флота. Дваццаць год прайшло з таго часу, калі ў агні рэволюцыйных боек нарадзілася першая ў свеце, сапраўды народная армія—Чырвоная Армія, абараняючая заваёвы першай у гісторыі чалавецтва соцыялістычнай рэволюцыі.

Калі ў Кастрычніку 1917 года парвалася найбольш слабое звяно ў капіталістычным ланцугу, калі замест царскай Расіі—жандарма Еўропы—Расіі капіталістычнай, нарадзілася першая ў свеце краіна Советаў,—супроць яе апалчыліся ўсе чорныя сілы сусветнай рэакцыі, уключаючы і рускую контррэволюцыю. З першых жа дзён і нават гадзін існавання дыктатуры пролетарыята перад комуністычнай партыяй,—арганізатарам і кіраўнікам соцыялістычнай рэволюцыі,—задача абароны заваёў соцыялістычнай рэволюцыі паўстала як адна з важнейшых і рашаючых задач.

„Пролетарыят,—гаварыў В. І. Ленін на VIII з'ездзе партыі,—як пануючы клас, калі толькі ён хоча і будзе панаваць, павінен даказаць гэта і сваёй ваеннай арганізацыяй.“

Прыступаючы да арганізацыі Чырвонай Арміі з існаваўшых раней чырвонагвардзейскіх атрадаў, партыя кіравалася ўказаннем тав. Леніна, указаннем пра тое, што „першай запаведдзю ўсякай пераможнай рэволюцыі было: разбіць старую армію, распусціць яе, замяніць яе новай“.

Наша Чырвоная Армія заўсёды была і з'яўляецца зараз арміяй „соцыялістычнай абароны“ (Ленін).

Владзімір Ільіч Ленін вучыў нас, што перамога пролетарскай рэволюцыі ў адной краіне не азначае яшчэ, што тым самым знішчаюцца войны і прычыны іх параджаючыя. Пакуль Совецкі Саюз знаходзіцца ў акружэнні капіталістычных краін, якія не могуць паміры́цца з існаваннем і росквітам краіны соцыялізма, краіны міра, рэальная пагроза вайны, узброенага нападу на нашы свяшчэныя рубяжы існуе штодзённа,—а гэта вымушае нас быць заўжды падрыхтаванымі да вайны, мець першакласную, добра абучаную, тэхнічна аснашчоную Чырвоную Армію. Наша слаўная, любімая ўсім совецкім народам, Чырвоная Армія—армія міра. Але яна не толькі ўмее адстойваць справу міра, яна здолее выйсці пераможцам у будучай вайне, калі яе навяжуць нам агалцелыя банды імперыялістычных захопнікаў.

Варта прыгадаць словы В. І. Леніна, сказаныя ім яшчэ ў 1916 годзе. „Перамогшы ў адной краіне соцыялізм зусім не выключае разам усе войны. Наадварот, ён іх прадпалагае...“

І далей: „Гэта павінна выклікаць... прамое імкненне буржуазіі і другіх краін да разгрома пераможнага пролетарыята соцыялістычнай дзяржавы. У гэтых выпадках вайна з нашага боку была-б законнай і справядлівай. Гэта была-б вайна за соцыялізм, за вызваленне другіх народаў ад буржуазіі“ (Зб. тв. т. XIX, стар. 324—325).

„Усякая рэволюцыя толькі тады чаго-небудзь варта, калі яна ўмее абараняцца“ (Ленін).

Усе гэтыя геніяльныя ўказанні правадыра і настаўніка нашага В. І. Леніна выхаваная і выпеставаная ім партыя ўлічыла як прамое ўказанне, яна імі кіравалася ў справе арганізацыі і ўмацавання нашай Чырвонай Арміі, у справе ўмацавання агульнай абароназдольнасці совецкага народа, краіны соцыялізма.

У чым-жа заключаюцца асноўныя асаблівасці нашай Чырвонай Арміі? На гэта пытанне адкажам словамі правадыра народаў, лепшага з лепшых вучня В. І. Леніна—тав. І. В. Сталіна:

„Першая і асноўная асаблівасць нашай Чырвонай Арміі састаіць у тым, што яна ёсць армія вызваленых рабочых і сялян, яна ёсць армія Кастрычніцкай рэволюцыі, армія дыктатуры пролетарыята...

Другая асаблівасць Чырвонай Арміі састаіць у тым, што яна, наша армія, з'яўляецца арміяй братэрства між народамі, арміяй вызвалення прыгнечаных народаў, арміяй абароны свабоды і незалежнасці соцыялістычных рэспублік, уваходзячых у склад Совецкага Саюза...

Нарэшце, трэцяя асаблівасць Чырвонай Арміі. Састаіць яна ў духу інтэрнацыяналізма, у пачуцці інтэрнацыяналізма, пранікаючых усю нашу Чырвоную Армію“. (Сталін „Марксізм-ленінізм аб вайне і арміі“—Партвыдат, 1932, стар. 223).

Улічваючы сілу і магутнасць нашай Чырвонай Арміі, улічваючы яе баявую гатоўнасць адстойваць свяшчэнную недатыкальнасць совецкіх межаў, тав. Сталін у сваім справаздачным дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б) гаварыў:

„Хто хоча міра і дамагаецца дзелавых сувязей з намі, той заўсёды знойдзе ў нас падтрымку. А тыя, якія паспрабуюць напасці на нашу краіну,—атрымаюць сакрушальны адпор, каб надалей не повадна было ім соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод“.

Таварышы В. І. Ленін і І. В. Сталін—геніі чалавецтва, найвялікшыя стратэгі пролетарскай рэволюцыі, правадары і арганізатары партыі большэвікоў—з'яўляліся адначасова правадырамі і арганізатарамі Чырвонай Арміі. Усе важнейшыя пытанні абароны краіны ад знешняй і ўнутранай контррэволюцыі ў перыяд грамадзянскай вайны, усе важнейшыя пытанні будаўніцтва ўзброеных сіл пролетарскай рэволюцыі распрацаваны партыяй большэвікоў па прамым указанням тт. Леніна і Сталіна. Ленінска-сталінскае кіраўніцтва—вось тая магутная сіла, якая забяспечыла Чырвонай Арміі яе вялікія і слаўныя перамогі.

Тав. Сталін на II Усесаюзным з'ездзе советаў (1924 г.) гаварыў: „Ленін не раз гаварыў нам, што перадышка, адваяваная намі ў капіталістычных дзяржаў, можа аказацца кароткатэрміновай. Ленін не раз гаварыў, указваў нам, што ўмацаванне Чырвонай арміі і палепшанне яе становішча з'яўляецца адной з важнейшых задач

нашай партыіі... Паклянемся-ж, таварышы, што мы не пашкадуем сіл для таго, каб умацаваць нашу Чырвоную Армію, наш Чырвоны флот“.

І гэтая клятва правадыра пролетарскай рэволюцыі тав. І. В. Сталіна з гонарам выконваецца нашай партыяй і совецкім урадам.

Асаблівая роля і заслуга ў арганізацыі абароназдольнасці Чырвонай Арміі належыць тав. Сталіну.

„У перыяд 1918—1920 гг. тав. Сталін з'яўляўся амаль адзіным чалавекам, якога Цэнтральны камітэт кідаў з аднаго баявога фронта да другі, выбіраючы найбольш небяспечныя, найбольш страшныя для рэволюцыі месцы. Там, дзе было адносна спакойна і благапалучна, дзе мы мелі поспехі, там не было відаць Сталіна. Але там... дзе контррэволюцыйныя сілы, развіваючы свае поспехі, пагражалі самому існаванню совецкай улады, дзе смяценне і паніка маглі ў любую хвіліну ператварыцца ў бездапаможнасць, катастрофу,—там з'ўляўся тав. Сталін. Ён не спаў начамі, ён арганізоўваў, ён браў у свае цвёрдыя рукі кіраўніцтва, ён ламаў, быў бязлітасны,—і ўтвараў пералом, аздараўляў абстаноўку“ (К. Е. Варашылаў „Сталін і Чырвоная Армія“).

Нарком абароны, жалезны народны палкаводзец, першы маршал Совецкага Саюза тав. К. Е. Варашылаў у дзень 50-годдзя тав. Сталіна пісаў: „Сваю ваенную работу тав. Сталін распачаў з царыцынскага фронта...“ Гэта быў час, калі: „Рэволюцыя перажывае велізарныя іспыты. Тэлеграма за тэлеграмай ляціць па правадах да тав. Сталіна ў Царыцын ад Леніна і назад. Ленін папярэджвае аб небяспеках, абадзёрвае, патрабуе рашучых мер. Становішча Царыцына набывае аграмаднае значэнне.“

„... адказваючы на турботы Леніна з прычыны магчымага выступлення левых эсэраў у Царыцыне, ён (тав. Сталін—*рэд.*) піша коротка, але цвёрда і ясна:

Што датычыцца гістэрычных, будзьце упэўнены, у нас рука не задрыжыць, з ворагамі будзем дзейнічаць па-варожаму“.

І тав. Сталін з уласцівай яму мужнасцю і настойлівасцю разграміў ворагаў і атрымаў перамогу на найбольш небяспечным у той час участку фронта.

Асаблівая роля і заслуга належаць т. т. Сталіну і Дзержынскаму ў справе абароны і перамог на Усходнім фронце, асабліва на ўчастку ІІІ-й арміі.

Калі вясною 1919 года ўтварылася рэальная пагроза захопа Ленінграда белагвардзейскай арміяй царскага генерала Юдзеніча, Цэнтральны камітэт нашай партыі ўскладае на тав. Сталіна абавязак абароны Ленінграда і ліквідацыі кронштацкага мяцежа. Праз кароткі тэрмін тав. Сталін тэлеграфаваў В. І. Леніну „Услед за „Краснай Горкай“ ліквідавана „Серая лошадь“, гарматы на іх у поўным парадку, ідзе хуткая, (неразборчыва)... усіх фартоў і крэпасцей. Марскія спецыялісты ўпэўніваюць, што ўзяцце „Краснай Горкі“ з мора апракідвае ўсю марскую навуку. Мне застаецца толькі аплакваць так-званую навуку. Хуткае ўзяцце „Горкі“ тлумачыцца самым грубым умяшацельствам з майго боку і наогул штацкіх у аператыўныя справы, якое даходзіла да адмены загадаў

на мору і сушы і навязвання сваіх уласных. Лічу сваім доўгам заявіць, што я і надалей буду дзейнічаць такім чынам, не гледзячы на ўсё маё благагавенне перад навукай. Сталін." (К. Е Варашылаў, „Сталін і Чырвоная Армія," стр. 28).

Аграмадная творчая работа, ініцыятыва, настойлівасць, рашучасць, праяўленыя тав. Сталіным пры ліквідацыі рэальнай небяспекі, што ўтварылася вясною 1919 года пад пролетарскім Ленінградам, забяспечылі перамогу.

Увосень 1919 года, калі на гэты раз асноўным звяном у ланцугу вайсковых падзей з'явіўся паўднёвы флот, дзе белыя полчышчы Дзенікіна падыходзілі да Орла, дзе небяспека пагражала не толькі Туле, але і непасрэдна Маскве,—Цэнтральны камітэт партыі пасылае тав. Сталіна ў якасці члена Рэволюцыйнага Военнага Совета Паўднёвага фронта. У лістападзе 1919 г. тав. Сталін па ініцыятыве В. І. Леніна ўзнагароджваецца ордэнам Чырвонага Сцяга.

У гэты час ствараецца авеяная славай конная армія, ініцыятыва ў арганізацыі якой належыць таксама тав. Сталіну.

Бліжэйшы саратнік вялікага настаўніка і правадыра тав. Сталіна—Клімент Ефрэмавіч Варашылаў пісаў:

„... перастаўшы даўно быць фармальна военным, тав. Сталін ніколі не пакідаў глыбока займацца пытаннямі абароны пролетарскай дзяржавы. Ён і зараз, як і ў былыя гады, ведае Чырвоную Армію і з'яўляецца яе самым блізкім і дарагім другам" (К. Е. Варашылаў, Сталін і Чырвоная Армія", стр. 46—47).

У адрозненне ад буржуазных армій капіталістычных краін, наша Чырвоная Армія не супроцьстаіць працоўным нашай краіны, а арганічна з імі зліваецца. У нас: „народ і армія складаюць адно цэлае, адну сям'ю" (Сталін). Нездарма глава совецкага ўрада, старшыня СНК СССР тав. В. М. Молатаў гаварыў у сваім дакладзе аб 20 гадавіне Вялікай пролетарскай рэволюцыі, што ў нас створана—за дваццаць прайшоўшых год існавання дыктатуры пролетарыята—палітычнае і маральнае адзінства ўсяго совецкага народа.

У выніку сусветна-гістарычных задач, атрыманых нашай партыяй у будаўніцтве бяскласавага соцыялістычнага грамадства, абароназдольнасць Совецкага Союза ўзнята на адпаведную вышыню, на ўзровень задач сёнешняга дня. Поспехі геніяльнай лініі партыі прывялі да таго, „што з краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны Совецкі Саюз ператварыўся ў краіну магутную ў сэнсе абароназдольнасці, у краіну, гатовую да ўсякіх выпадковасцей, у краіну, здольную вытвараць у масавым маштабе ўсе сучасныя сродкі абароны і забяспечыць імі сваю армію ў выпадку нападу з-вонку" (Сталін „Вынікі першай пяцігодкі").

Чырвоная Армія ўзброена зараз сапраўды найлепшай военнай тэхнікай, якую даюць ёй нашы соцыялістычныя прадпрыемствы.

Агідныя мярзотнікі з трацкіска-бухарынскай контррэволюцыйнай клаакі, гнусныя шпіёны—агенты сусветнага фашызма, прабраўшыся ў рады Чырвонай Арміі, імкнуліся паслабіць яе баявую магутнасць і боездольнасць. Для выканання сваіх зладзейска-бандыцкіх намераў яны, гэтыя тройчы праклятыя совецкім народам

яго заклятыя ворагі, не спыняліся ні перад чым, робячы самыя цяжкія злачынствы перад радзімай і народам. Але чорныя здраднікі радзімы, яе заклятыя ворагі, пралічыліся. Наша слаўная савецкая разведка—органы НКВД—дзецішча партыі Леніна—Сталіна, выпеставаная слаўным рыцарам рэволюцыі—Феліксам Эдмундавічам Дзержынскім, выкрыла гэтыя асіныя гнёзды чорных здраднікаў і ў радах Чырвонай Арміі, разаблачыла іх здрадніцка-шпіёнскі і дыверсійны твар, знішчыла іх назаўсёды. Увесь савецкі народ аднадушна, з вялікім пачуццём радасці і задавальнення сустрэў разгром гэтых агідных банд, як вялікую перамогу ў барацьбе з міжнародным фашызмам.

Ліквідацыя фашысцкай агентуры ў радах Чырвонай Арміі яшчэ больш умацавала магутнасць і абарочаздольнасць нашай радзімы, магутнасць і абараназдольнасць нашай гераічнай Чырвонай Арміі і доблеснага Ваенна-Марскога Флота.

Чырвоная Армія з'яўляецца адначасова для соцень тысяч маладых савецкіх патрыётаў школай дзяржаўнага кіравання. Яе слаўныя байцы, камандзіры і палітработнікі, дастойныя патрыёты сваёй соцыялістычнай радзімы-бацькаўшчыны, прымаюць актыўны ўдзел не толькі ў грамадскім жыцці краіны, але ў дзяржаўным кіраванні, у палітычным жыцці нашай квітнеючай радзімы. Разам з усім 170-мільённым савецкім народам, на аснове самай дэмакратычнай у свеце Сталінскай Канстытуцыі, байцы, камандзіры і палітработнікі прымалі актыўны і роўны з усім савецкім народам удзел у выбарах дэпутатаў вярхоўнай улады краіны Саветаў—Вярхоўнага Савета Саюза ССР. Чырвоная Армія—плоць ад плоці і кроў ад крыві вялікага Савецкага народа—аддала свае галасы непераможнаму блоку комуністаў і беспартыйных. Яна аднадушна прагаласавала за мірную міжнародную і ўнутраную палітыку савецкага ўрада, за роднага, любімага бацьку, настаўніка і друга—вялікага Сталіна.

„Выбіраючы ў Вярхоўны Савет вялікую групу прадстаўнікоў Чырвонай Арміі—радавых чырвонаармейцаў, камандзіраў, палітработнікаў, кіраўнікоў Чырвонай Арміі, савецкі народ на ўвесь свет заявіў: „Чырвоную Армію любім бязмежна, Чырвоную Армію мацавалі і будзем мацаваць, бо Чырвоная Армія ахоўвае нашу мірную працу, стаіць на варце нашых граніц“. (З прамовы старшыні мандатнай камісіі 1-й сесіі Вярхоўнага Савета).

Выконваючы заветы Леніна, Вярхоўны Савет прыняў гістарычную пастанову аб арганізацыі асобнага наркамата Ваенна-Марскога Флота, на які ўскладзена абарона нашых марскіх граніц.

Чырвоная Армія вырасціла ў сваіх радах шматлікія кадры стаханаўцаў баявой падрыхтоўкі, герояў Савецкага Саюза. Усёй краіне вядомы імёны гордых сокалаў нашай краіны, імёны Громава, Юмашова, Даніліна, зрабіўшых гістарычны пералёт з Масквы ў Амерыку праз Паўночны полюс; імёны Чкалава, Байдукова, Белякова, Каманіна, слаўных пагранічнікаў Агеева, Чэрных і інш.

Ахоўваць недатыкальнасць нашых свяшчэнных рубяжоў і меж савецкай радзімы—вышэйшы закон для кожнага савецкага патрыёта. Згрупаваны вакол партыі Леніна—Сталіна вялікі савецкі народ

непераможны. Ён непераможны таму, што ў яго ёсць ШТО абараняць, ёсць КАМУ абараняць, ёсць ЧЫМ абараняць.

„Ні адной пядзі чужой зямлі не хочам, але і сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддадзім нікому“ (Сталін).

Тав. Варашылаў у наступных словах выказаў усеагульнае пачуццё совецкага народа: „Калі капіталісты нападуць на нас, Чырвоная Армія, Армія міру, ператворыцца ў самую нападаючую армію у свеце і вайну будзе весці на тэрыторыі той краіны, якая адважыцца напасці на нас“.

Па першаму ўказанню партыі, Совецкага ўрада, тав. Сталіна не толькі Чырвоная Армія, але і ўвесь вялікі і магутны совецкі народ устане грознай сцяною на абарону соцыялістычнай радзімы і пад чырвонымі сцягамі нашай вялікай партыі Леніна—Сталіна знішчыць ворага на яго ўласнай тэрыторыі. Чырвоная Армія, узброеная ленінска-сталінскай тэорыяй, згуртаваная моцна вакол партыі Леніна—Сталіна, маналітным уцёсам стаіць на варце магутнага Совецкага Саюза—соцыялістычнай радзімы і бацькаўшчыны працоўных усяго свету.

Няхай жыве слаўная 20 гадавіна непераможнай, усенароднай Чырвонай Арміі і яе жалезны нарком, першы маршал Совецкага Саюза тав. Клімент Ефрэмавіч Варашылаў!

---

*Віктар Гольцаў*

# ШОТА РУСТАВЕЛІ ЯК ВЫРАЗНІК СВАЁЙ ЭПОХІ

## I

Пра Шота Руставелі і яго геніяльную паэму ў Грузіі існуе досыць значная літаратура. Але, нажаль, многія працы, прысвечаныя „Руставеліане“, грунтуюцца на розных домыслах і здагадках, часта вельмі цікавых, але ўсё-ж пазбаўленых сапраўднага навуковага значэння. Вакол гэтых гіпотэз, супярэчачых адна другой, нават і зараз працягваюцца жорсткія спрэчкі спецыялістаў. Адсутнасць якіх-небудзь дакументальных і цалкам праўдзівых даных аб вялікім паэце Грузіі дае для гэтага шырокі прастор. Сапраўды навуковае, марксіцкае вывучэнне ўсяго складанага комплекса пытанняў аб „Віцязі ў тыгравай скуры“, аб асобе аўтара паэмы і аб эпосе, у якую ён жыў, пачалося зусім нядаўна.

Да ліку хісцкіх гіпотэз, што выстаўляліся раней некаторымі грузінскімі літаратуразнаўцамі, трэба аднесці сцвярджэнне, што Руставелі жыў не на рубяжы XII і XIII стагоддзяў, а ў XIV стагоддзі. Між тым, усе шматлікія народныя песні і легенды сведчаць пра адно і тое-ж: вялікі паэт жыў у перыяд царствавання царыцы Тамар. Самы тэкст „Вепхіс ткаосані“ змяшчае ў сябе зварот аўтара да царыцы і да яе другога мужа Давіда Саслані, як да сваіх сучаснікаў. Нарэшце, у наступных творах выдатных грузінскіх паэтаў (напрыклад, у „Споре Теймураза с Руставели“, напісаным царом Таймуразам II) жыццё Руставелі бясспрэчна адносіцца да таго-ж гістарычнага перыяда. Таму нам здаецца, што без дастатковых навуковых падстаў нельга адкідаць усе гэтыя сведчанні і ў першую чаргу—сведчанне самога грузінскага народа, акружыўшага імя паэта велізарнай пашанай і любоўю. Да таго-ж, увесь тэкст паэмы, пры дэтальным разглядзе, сведчыць пра тое, што Шота Руставелі жыў іменна на рубяжы XII і XIII стагоддзяў і з'яўляецца яскравейшым выразнікам сваёй эпохі.

„Віцязь у тыгравай скуры“ з'яўляецца для савецкіх чытачоў не толькі надзвычай цікавым чытаннем дзякуючы багаццю і займальнасці свайго гераічнага сюжэта. Паэма мае таксама вялікае п а з н а в а л ь н а е  з н а ч э н н е. У сваёй прадмове да італьянскага выдання „Комуністычнага маніфеста“ Ф. Энгельс пісаў у 1893 годзе: „Закат феадальнага сярэдневечча, зара сучаснай капіталістычнай эры адзначаны адной велізарнай фігурай. Гэта—італьянец, Дантэ, апошні паэт сярэдневечча і ў той-жа час першы паэт новага часу“*). Гэтыя словы Энгельса пра Дантэ мы можам цалкам прымяніць і да

*) К. Маркс, і Ф. Энгельс.—Архіў, Т. XVI, ч. II, стар. 108.

вялікага паэта Грузіі. На самай справе: Шота Руставелі паўстае перад намі на грані культур Усхода і Заходняй Еўропы, як велізарная фігура, якая знамянуе сабою закат сярэдневечча. Аддалёны сям'ю стагоддзямі ад нас і адным стагоддзем ад Дантэ, ён быў амаль ці не самым значным прадвеснікам эпохі адраджэння.

Геніяльная паэма Руставелі была творам глыбока рэалістычным і сучасным, баявым, прапагандысцкім. У „Вепхіс ткаосані" вельмі яскрава і вобразна выяўлены соцыяльна-палітычныя погляды аўтара і адлюстраваны асноўныя тэндэнцыі развіцця грузінскай дзяржавы XI—XII стагоддзяў. Паэт вырысоўваецца, як прадстаўнік прагрэсіўнай часткі, якая ўсяляк падтрымлівала грузінскіх цароў у іх гістарычна-апраўданым імкненні ўтварыць адзіную магутную і незалежную ад знешніх і ўнутраных ворагаў дзяржаву. Па сведчанню вядомых грузінскіх гісторыкаў праф. Івана Джавахішвілі і праф. Карнелія Кекелідзе яшчэ з X стагоддзя на тэрыторыі Грузіі пачаўся працэс аб'яднання паўнезалежных палітычных адзінак у вялікую цэнтралізаваную дзяржаву. Праф. Кекелідзе піша з прычыны гэтага: „Феадальныя сілы Грузіі неаднолькава адносіліся да гэтага працэса. Дробнамаёнткавае грузінскае дваранства і параўнальна бліжэй стаячае да яго сялянства былі зацікаўлены ва ўтварэнні цэнтралізаванай улады. Яны імкнуліся некалькі паслабіць іга сваёй залежнасці ад буйных радавітых феадалаў. Аналагічны ўдзел ва ўтварэнні цэнтралізаванай грузінскай дзяржавы прымалі і прадстаўнікі гандлёвага капітала, які не мірыўся ў сваім развіцці з вобласна-палітычнымі межамі і мытнымі рагаткамі. Пры ўмове параўнальнай недатыкальнасці сваіх прывілегій, у падтрыманні цэнтралізаванай улады былі зацікаўлены нават некаторыя буйныя феадалы, якія бачылі ў ёй орган, аб'ядпаючы іх для барацьбы з знешнімі ворагамі. Аднак, большасць іх баялася паслаблення сваёй магутнасці і значэння" *).

Бясспрэчна, што барацьба грузінскіх цароў за паўнату і цэнтралізацыю ўлады супроць няўгамаванага сваволля буйных феадальных уладароў, была прагрэсіўнай. Старая замкнутая феадальная сістэма з перавагай натуральнай гаспадаркі тармазіла нармальнае соцыяльна-палітычнае развіццё Грузіі, перашкаджала мірнаму развіццю гандля, гарадскіх рамёслаў і г. д.

Відавочна, да указанай упартай барацьбы далучыўся і Шота Руставелі. Калі феадальныя церкі імкнуліся затрымаць пераўтварэнне Грузіі і супроцьдзейнічалі яе палітычнаму аб'яднанню, то ў аўтара „Віцязя ў тыгравай скуры" мы знаходзім гарачую абарону ідэі падначалення асобных уладароў вярхоўнай цэнтральнай уладзе.

Калі буйныя грузінскія феадалы стала праяўлялі непакорлівасць і паўставалі супроць цароў Грузіі, то ў Руставелі мы знаходзім значнае асуджэнне падобных мецяжоў. У яго паэме апісваюцца галоўным чынам дзве вялікія дзяржавы: Арабія і Індыя, але не цяжка пераканацца, што ў абодвух выпадках вялікі грузінскі паэт адлюстроўвае соцыяльна-палітычны лад у Грузіі на тым этапе, калі працэс палітычнага аб'яднання краіны, які аформіўся пры

*) Гл. зборнік артыкулаў, прысвечаных Ш. Руставелі (Дзяржлітвыдат).

Давідзе Вазабнавіцелі (1089—1125), у асноўным быў закончаны. Носьбіты цэнтральнай улады атрымалі тады перамогу над непакорлівымі феадаламі з іх сепаратысцкімі тэндэнцыямі.

З самага пачатку I песні „Вепхіс-ткаосані", арабскі цар Ростэван вызначаецца, як „глава васалаў", „узмацніўшы магутнасць сваю". Узвёўшы на трон сваю дачку Тінацін, Ростэван вітае яе як „царыцу аравійскую" і як „уладычыцу ўладык". Тут-жа ён заклікае яе абараніць „далячыню і шырыню" царства. У гутарцы з візірам Сагратам Ростэван зноў адзначае вялікую колькасць земляў, якія належалі яму. Ён гаворыць:

И едва ль найдется в *шири покоренных мной владений*
Кто б воспринял, словно витязь, дух отваги от меня *).

Абшырнасць сабраных у адно ўладанняў Ростэвана падкрэсліваецца таксама ўказаннем, што яго малады военачальнік Аўтандзіл толькі пасля дваццацідзённага падарожжа ўдзень і ўначы дасягнуў „рубяжа роднага краю". (Песня II).

Руставелі ўтварае велічнае аблічча Ростэвана, звыкшага да пачцівасці і беспярэчнаму паслухмянству. У паэме скрозь гаворыцца: „цар загадаў", „даў загад", „загадаў стралкам" „загадаў падручным" і г. д. Цара называюць не інакш, як „уладыка", „павяліцель", „уладар" і нават „всех властителей властитель". Так звяртаюцца да Ростэвана не толькі прыдворныя, воіны і слугі. Нават дачка Ростэвана Тінацін, стаўшы ўжо царыцай, называе яго ўладаром.

Рабам і слугам Ростэвана даецца характэрны эпітэт: „паслушныя". Яго вуснамі паэт гаворыць, што „непочтительность к владыке для слуги вина большая". (Песня I). Цар прывык да выражэння пакорлівасці. Пагэтаму ён быў жахліва абражаны, калі невядомы яму віцязь у тыгравай скуры не паслухаўся яго закліка і „не пришел к ему с лобзаньем" (Песня II). Неабходнасць пакорлівасці і пачцівасці да цара заўсёды падкрэсліваецца ў паэме. Калі цар маркотны ці гнеўны—вакол яго заціхае ўсё. Аўтандзіл пачынае свой зварот да Ростэвана: „Хоць я прах перад табою..." (Песня I). Не маючы магчымасці выканаць царскі загад, слуга Ростэвана дрыжыць і просіць злітавацца над ім (Песня II). Візір Саграт не менш простага слугі баіцца за сваё жыццё, перадаючы цару „дзерзкую" просьбу Аўтандзіла; ён кажа:

Кто заденет властелина, в гнев повергнув дерзкой речью,
Как бы ни был почитаем, испытает мой удел.

(Песня XIX)

Значэнне цара Ростэвана, як усемагутнага вярхоўнага ўладара краіны, як главы асобных, больш дробных уладароў, адзначаецца не аднойчы. Напрыклад, Тінацін звяртаецца да свайго бацькі так:

Выслушай меня, владыка, *повелитель над царями.*
Велики твои владенья, непоколебим твой трон.

(Песня II).

*) Усе цытаты намі ўзяты з пераклада Георгія Цагарэлі.

А вось што піша між іншым Антандзіл пра завяшчанне, якое складзена для Ростэвана перад другім ад‘ездам з Арабіі:

О, цари, меня забудьте и не облачайтесь тьмою!
Вы могучи! К нам приблизясь, пусть враги узнают страх.

(Песня XXI).

Паколькі ў абодвух гэтых выпадках гаворыцца не аб адным арабскім цары, а пра некалькіх цароў, трэба думаць, што арабская дзяржава па Руставелі ўяўляла сабою нейкае шматадзінства, купнасць невялікіх дзяржаў ці феадальных уладанняў, аб‘яднаных цэнтральнай уладай „властителя властителей“, „царя царей“. Такім і была грузінская дзяржава ў XI—XIII стагоддзях.

II

З самога тэкста паэмы высвятляецца таксама, што Аўтандзіл, будучы васалам цара Ростэвана, сам мае „наследственный удел“ (Песня XIX), валодае шматлікімі васаламі, знатнымі прыбліжонымі (Песня II). Ен расказвае асноўному герою паэмы Тарыэлю, што ў краіне арабаў у яго маюцца „замки и владения“ (Песня IV). А ў эпоху Руставелі сістэма патраната („патронмоба“) як раз ляжала ў аснове соцыяльна-палітычнага ўкладу Грузіі. Адна і тая-ж асоба магла адначасова быць васалам свайго патрона і мець сваіх уласных васалаў, толькі менш значных і моцных. Такога роду соцыяльная іерархія, намаляваная ў „Вепхіс-ткаосані“, надзвычай характэрна для грузінскай феадальнай рэчаіснасці XI—XIII стагоддзяў. У паэме мы знаходзім і другія звесткі аб існаваўшай тады лесвіцы грамадскіх адносін. Напрыклад, калі Аўтандзіл удачліва звярнуўся ў свае ўладанні пасля доўгіх вандраванняў, усе радаваліся гэтай шчаслівай падзеі, але знадворна выражаць сваю радасць розным людзям даводзілася па-рознаму:

Те из близких, *кто достойны*, господина целовали
И равно возликовали и сановник и слуга.

(Песня XVIII).

Уся складаная іерархія феадальнага грамадства ў разуменні Шота Руставелі аснована на адданасці і пакорлівасці вышэйшай уладзе. Аўтандзіл, як ваеначальнік і васал цара Ростэвана, кажа яму:

Ведомо, о повелитель, и вельможам и рабам,
Что тебе дает победу меч, карающий измену,
И об этом надо помнить пограничных стран царям!

(Песня II).

Збіраючыся ў далёкі шлях, Аўтандзіл, гаворачы цару, што хоча абыйсці зямлю суседзяў, „зависть вызвавши врагов“, заяўляе:

Осчастливлю верных трону, непокорных обуздаю“

(Песня II).

Такім чынам, ідэя законнасці, ідэя вернасці кожнага васала свайму патрону праходзіць чырвонай істужкай праз усю паэму.

Той-жа Аўтандзіл, у вусны якога аўтар найбольш часта ўкладвае свае заветныя думкі, звяртаючыся ўжо не да цара, а да свайго „вернага з верных“, васала Шэрмадзіна, кажа яму ў настаўленне: „Пребывай земным владыкам нерушимою оградой“, „служба правдой господину никогда не пропадет“ (Песня XIX).

Альбо:

Преданно служить патрону—обязательство вассала.
Быть покорным властелину—это первый долг слуги.

А другім сваім васалам Аўтандзіл асобнай граматай загадвае ва ўсім падпарадкавацца Шэрмадзіну: „Вы служите, как патрону преданность всегда храня“. А тыя пакорліва заяўляюць апошняму: „Мы в любом твоем веленьи будем чтить закона силу“ (Песня III).

Варта ўвагі, што хоць Аўтандзіл вышэй за ўсё ставіць захаванне свяшчэннай клятвы, дадзенай пабраціму Тарыэлю, ён вельмі пакутуе, будучы прымушаным цішком выехаць у другі раз з Арабіі супроць волі Ростэвана. Разлічваючы, што цар зразумее чыстату яго намеранняў, Аўтандзіл усклікае ў моцным горы:

Воспитателю-патрону, кто перстом отмечен божьим,
Чью узнал любовь и щедрость, в ком я чту небес звезду,
Изменил и вот блуждаю, словно путник в бездорожьи,
Согрешивши пред владыкой, я от неба благ не жду.

(Песня XXIV).

Гэта вымушанае парушэнне Аўтандзілам царскай волі Тарыэль таксама вызначае як віну (гл. песню XIII). Сэнс соцыяльна-палітычных падзей, якія разгортваюцца ў Індыі вакол Тарыэля цалкам адпавядаюць адзначанай вышэй тэндэнцыі ўтварыць у Грузіі магутную цэнтралізаваную дзяржаву, незалежную ад якіх-небудзь іншаземцаў. Седзячы ў пячоры, Тарыэль дзеліцца з Аўтандзілам успамінамі пра тое, як адбывалася палітычнае аб'яднанне Індыйскай дзяржавы. Спачатку цар Парсадан—„над владыками владыка“ кіраваў шасцю царствамі Інда з сямі. Сёмым царствам валодаў бацька Тарыэля Сарыдан, але ён палічыў за лепшае добраахвотна падпарадкавацца Парсадану.

Неабходна адзначыць, што Руставелі не толькі апраўдвае і ўхваляе ўчынак Сарыдана, але нават усяляк усхваляе працэс канцэнтрацыі дзяржаўнай улады ў адных руках. Паэт імкнецца давесці, што ў добраахвотным падпарадкаванні асобных уладарнікаў моцнаму вярхоўнаму ўладару няма нічога зневажлівага; такога роду падпарадкаванне нават прыносіць узаемную выгаду, бо яно забяспечвае спакой усёй краіны. Вось як Тарыэль апавядае далей аб утварэнні адзінага індыйскага царства, адцаняючы мудрасць свайго нябожчыка бацькі:

Испытавши бремя власти, мой отец благословенный
Думал: „Покоряя земли, подчинил строптивых я.
Трон упрочен и обуздан враг, готовивший измену.
Стать подвластным Парсадану не обидно для меня.

И в столицу к властелину отослал с гонцом посланье,
Написав: „Властитель Инда, не страшны тебе враги!
Подданным твоим назваться—давнее мое желанье,
Чтоб навеки сохранилось имя верного слуги".

Торжеством отметив радость, повелитель достославный
Передал ответ: „Владыка! Я творца восславить рад
За достойное решенье, что принял со мною равный.
Посети мой двор—я встречу, как родитель или брат!"

И за ним оставил царство, в чин возведши амирбара,
Дал и званье спасалара, как вождю подвластных сил.
Став вассалом Парсадана, мой отец, еще не старый,
От престола отказавшись, власть былую сохранил.

(Песня V).

Нават апісваючы царства поўміфічных істот—каджаў, паэт праводзіць сваю соцыяльна-палітычную канцэпцыю. Каджэція, прыкладна, таксама, як і Арабія і Індыя, уяўляе сабой феадальную дзяржаву, якая аб'яднана узмацаваўшайся царскай уладай. У ёй таксама высока ставіцца вернасць васалаў, іх гатоўнасць служыць патрону. Правіцельніца Каджэціі—Дулардухт „недругов разя, вассалов ограждала как стена" (Песня XI). Рошак, маючы тысячы сваіх рабоў, кваліфікуецца як яе раб і біцца правініцца перад ёй.

Неабходна звярнуць увагу на адну дэталь паэмы, істотна дапаўняючую наша ўяўленне аб дзяржаўнай пабудове радзімы Тарыэля. Калі герой, разам з Нестан-Дарэджан, нарэшце, авалодвае тронам, ён дорыць вернай служанцы Асмат адно з сямі царстваў, складаючых Індыю. У песні LIV—мы чытаем:

Царь сказал: „Асмат я знаю, ты болела нашей болью,
И того, что ты свершила, смертный в мире не свершал.
Золотой короны Инда отдаю седьмую долю,—
Управляй и будь послушна нам, как преданный вассал!

Значыцца, сапраўднай уладай цара, поўнай і спадчыннай валодаў, па Руставелі, толькі „цар цароў". Астатнія цары былі, у паказе паэта, толькі буйнымі феадаламі, для якіх улада магла адбірацца і перадавацца іншым слугам вярхоўнага ўладара.

На матэрыяле Індыі Шота Руставелі шырока разгортвае знаёмы нам малюнак соцыяльна-палітычнага жыцця ў эпоху барацьбы цэнтральнай манархічнай улады супроць непакорлівых феадалаў. З аднаго боку, цар Парсадан, якому падуладны розныя цары, шчодра адарае адданых людзей. Напрыклад, зрабіўшы Тарыэля пасля смерці Сарыдана начальнікам усіх узброеных сіл, ён перадае яму вотчыну (гл. канец песні V). З другога боку, ён клапоціцца аб захаванні дзяржаўнага адзінства і патрабуе поўнай пакорлівасці ад усіх падуладных яму правіцеляў. Прыгожая дачка Парсадана — Нестан Дарэджан з глыбокім абурэннем гаворыць аб тым, што ўладар Хатаэціі Рамаз збіраецца ўзняць мяцеж:

Вероломство замышляют наши данники хатавы—
Можем ли простить измену возмутившейся стране?!

(Песня VII).

Перад тым як накіравацца ў карную экспедыцыю супроць мяцежнага Рамаза, Тарыэль робіць апошнюю спробу закончыць справу мірам. З песні IX мы даведваемся як ён:

Отослал гонца к хатавам, их коварством возмущенный,
Написав: „Силен царь Инда, непокорных истребя.
Им насыщен будет каждый, кто остался верным трону,
А неверные—изменой не обрадуют себя.

Знай же, о владыка края, не ведет к добру коварство!
Должен ты предстать с повинной пред властителем моим,
А не то—мы покараем возмутившееся царство,
Вашей собственною кровью за измену причастим.

Далей, Шота Руставелі ў радзе надзвычайных эпізодаў паказвае паспяховую барацьбу носьбітаў цэнтральнай улады з непакорным уладаром. Усе сімпатыі паэта, як гэта і вынікае з яго палітычных установак, аказваюцца на баку законнага манарха, аб'ядноўчага ўсю краіну. Тут Руставелі карыстаецца падыходзячым выпадкам паказаць, з якім каварствам некаторыя ўладары спрабавалі змагацца супроць адзінадзяржаўя: напужаны хуткім наступам Тарыэля Рамаз здрадніцкі ўтварае пастку для героя, але і такія нізкія спосабы не дапамагаюць: Тарыэль даведваецца аб усіх казнях мяцежнікаў, перамагае іх і законнасць зноў урачыста пануе.

Мімаходзь Шота Руставелі ўсяляк падкрэслівае, што пагібель у імя абавязка і абароны інтарэсаў радзімы—прыгожа. Калі воін мужна аддае жыццё за свайго законнага ўладара—ён варты вышэйшай узнагароды. Іменна аб гэтым гаворыць Тарыэль:

Кто падет за венценосца—духом вознесется в небо.
Выступим на бой с врагами—с нами верные клинки.

(Песня X).

Адначасова паэт з вялікай сілай пераканання сцвярджае, што здрада дзяржаве, здрадніцтва і мяцеж павінны карацца па закону. Не выпадкова той жа Тарыэль расказвае потым Аўтандзілу аб пачатку бітвы з хатавамі, аб тым, як ён выстраіў свае войскі ў баявым парадку, як раз'юшана панёсся насустрач ворагам,—„чтоб замысливших измену, не щадя, мечом карать“. А пасля поўнай перамогі над мяцежнікамі ён не пашкадаваў злоўленых зачыншчыкаў, з мэтай устрашыць і прывесці да пакорлівасці ўсіх астатніх:

Тех, кто жаждал нашей крови, предал казни на поляне,
И без боя и осады нам сдавались города.

(Песня X).

Праўда, у якасці ўзора паводзін мудрага палітыка, Руставелі апісвае эпізод з палонным Рамазам. З прычыны міласцівага вызвалення царом Парсаданам гэтага главара мяцежнікаў, паэт заяўляе: „Это высшая заслуга—благородство храбреца“ (Песня XI). Аднак, далейшым развіццём сюжэта сам ён даказвае, што Парсадан зрабіў вялікую палітычную памылку, памілаваўшы Рамаза. На самай справе: выкарыстаўшы часовыя цяжкасці Парсадана, Рамаз зноў узняў мяцеж; яму нават удалося ненадоўга захапіць уладу ў Індыі, пакуль яго не пакараў звярнуўшыся Тарыэль.

Асаблівую нянавісць Руставелі праяўляе да цёмных людзей, якія, маскуючыся прыхільнікамі, на самай справе з'яўляюцца здраднікамі. Вуснамі Аўтандзіла паэт заклікае да няўсыпнай пільнасці „Недруга опасней близкий, оказавшийся врагом“ (Песня XXXI). Ён кажа аб неабходнасці бязлітаснай барацьбы з нягоднікамі такога роду: „Вероломному и злому сердце пусть пронзит клинок!“ (Песня II).

Пачаўшы паэму ўвасхваленнем цароў, ажыццяўляючых справу палітычнага аб'яднання і ўмацавання краіны, вялікі грузінскі паэт паслядоўна праводзіць ідэі цэнтралізма і асветніцкага абсалютызма. У апошняй песні зноў увасхваляюцца Тарыэль, Аўтандзіл, Фрыдон і даецца магутны заключны акорд:

Три героя охраняли три благословенных края
И друг друга навещали, соблюдая добрый нрав.
Непокорных укрощали, гибельным мечом карая
И расширили границы, земли у врагов огняв.

III

Палітычны сэнс розных падзей, апісаных у паэме Шота Руставелі, не заўсёды поўнасцю зразумелы. Напрыклад, неабходна дэталёва разабрацца ў супярэчлівым эпізодзе з забойствам абязброенага і як быццам бы ні ў чым не павіннага Хваразмійскага царэвіча. З аднага боку, паэт і ў гэтым эпізодзе праводзіць сваю ідэю законнасці; учынак Тарыэля кваліфікуецца як злачынства; пасля забойства злашчаснага жаніха Нестан-Дарэджан, цару Парсадану даносяць аб Тарыэлю: „Безумец скрылся, убоясь закона“ (Песня XIV). А з другога боку, Тарыель і ў асаблівасці кіраваўшая ім у гэтай цёмнай справе Нестан-Дарэджан, знаходзяць для сябе своеасаблівае маральнае апраўданне і нават прыпадабняюць забойства Хваразміі „суду правдивому“. Нестан заяўляе свайму ўлюбёнаму:

Выслушай, о Лев! Из лучших ты—отважней и достойней,
Убери с пути пришельца, не зови на помощь рать.
Не губи его охраны, словно скот на скотобойне,—
Витязю не подобает кровь невинных проливать.

(Песня XIII)

Зусім відавочна, што і тут Нестан прадоўжвае клапаціцца аб захаванні маральнай чыстаты. Царэвіча-жаніха яна лічыць віноўным і падлягаючым неадкладнаму гвалтоўнаму адхіленню. Аднак жа, гэтага Хваразмшу сам цар Парсадан вызначыў ёй мужам і запрасіў у Індыю. Іншаземец збіраецца стаць мужам Нестан-Дарэджан і атрымаць пасля смерці Парсадана ўладу над усёй Індыяй на законнай падставе. Дык у чым жа заключалася тады яго віна?

На гэта пытанне можна адказаць наступнае. Перш за ўсё, з пункту гледжання такой развітой, свабодалюбівай і прывыкшай да самастойнасці жанчыны, як Нестан-Дарэджан, Хваразмійскі царэвіч павінен быў запытаць яе згоды на жаніцьбу. Але справа нават і не ў гэтым. Трэба думаць, што ва ўсіх перыпетыях гэтага супярэчлівага і трагічнага эпізода паэмы, знайшлі сабе адлюстра-

ванне складаныя і вострыя падзеі соцыяльна-палітычнага жыцця Грузіі канца XII стагоддзя. Вядома, было-б грубай, вульгарна-соцыялагічнай памылкай ставіць прымітыўны знак роўнасці паміж гістарычнымі фактамі і сюжэтам паэмы, як гэта робіць, напрыклад, Д. Дандурау*). Аднак, вядомае збліжэнне гэтых фактаў з паэтычным замыслам зусім дапусціма. Прыгадаем, што палітычныя забойствы былі не рэдкім з'явішчам у феадальную эпоху Грузіі. Напрыклад, бацьку царыцы Тамар Георгію III трэба было ўступіць трон свайму пляменніку—царэвічу Демне. Але калі Демна падрос і, пры падтрымцы часткі феадалаў спрабаваў прад'явіць свае правы на прастол, ён быў хутка забіты пры досыць таямнічых абставінах. Потым абвінавачвалі ў арганізацыі гэтага забойства самога Георгія III.

Бясспрэчна, што Руставелі ўсё-ж апраўдваў забойства Хваразмшы. Складаны вузел, так туга завязаны ў гэтай частцы паэмы „Віцязь у тыгравай скуры", як бачна, адлюстроўвае сутычку розных палітычных груповак Індыі па пытанню аб наследванні прастола.

Сама Нестан-Дарэджан лічыла, што, паколькі яе бацька не мае сына, царская ўлада павінна перайсці да яе і да таго, каго яна сама абрала мужам, г. зн. да Тарыэля. Пытанне аб наследванні прастола ў Індыі спачатку лічылася вырашаным іменна так. Апавядаючы Аўтандзілу аб тым, як падрастала Нестан, Тарыэль паведамляе: „Дочери решил владыка передать на трон права" (Песня V). Больш таго: сам Парсадан гаворыць сваім прыбліжаным:

Бог не даровал мне сына, но царевна—как светило,
И преемницу готовлю—для индийского венца.

(Песня XIII).

На гэту заяву цара Тарыэль адказаў, што „сына не иметь тяжелый жребий", але, што „дарит упованье расточающая свет", г. зн. Нестан-Дарэджан. Будучы сынам нябожчыка цара Сарыдана і галоўнакамандуючым, ён лічыў, што пасля смерці Прыдона, трон павінен перайсці да яго і да Нестан. Царскае рашэнне аддаць руку дачкі ў індыйскае царства Хваразмійскаму царэвічу было для яго поўнай нечаканасцю. На царскім савеце ён „для вида дал согласие", відавочна таму, што не знайшоў неабходнай падтрымкі сярод уплывовых палітычных дзеячоў Індыі. Але „боль скрывая и крепясь", ён з самага пачатку парашыў супярэчыць царскаму рашэнню запрасіць іншаземца. Гэта неабходна адзначыць наперакор распаўсюджанай думцы аб тым, што толькі пасля бурнай размовы з Нестан, Тарыэль вырашыў дзейнічаць актыўна. У час пасяджэння царскага савета ён:

Думал, уязвлен обидой: „Должен знать и сам владыка,
Что могуче наше царство и защитник верный есть!
Я один права имею на венец и край великий,
И Хваразмше не позволю на индийский трон воссесть!"

*) Д. Дандурау. Шота Руставелі. М. 1937 г.

І не толькі Тарыэль, але і Нестан-Дарэджан лічыла, што аддаць разам з яе рукой царскую ўладу іншаземцу зусім недапушчальна палітычна.

Как бы не завладел престолом, уступать его не стану.
Никаким путем пришельцу власть над Индией не взять!

— усклікае яна ў гневе і дадае: „Нет! Не быть сынам Ирана властелинами у нас!“ Невыпадкова Руставелі называе яе „мудрай дзевай“, расказваючы аб тым, як яна параіла Тарыэлю дзейнічаць далей і гаварыць з яе бацькам. Дзве страфы той-жа XIII песні сцвярджаюць наша тлумачэнне палітычнай сутнасці паказаных падзей. Вось да чаго зводзіцца парада Нестан-Дарэджан, якая (парада) даецца ёю Тарыэлю:

Рассчитавшись с хваразмийцем, повелителю державы
Об'яви: *„Над нами парсам не владычить никогда!*
Драхма не отдам другому, раз на трон имею права!
Не уступишь мне—восстану и разрушу города!
Пусть мешать не будет в деле ни любовь, ни страсть земная,
И тогда договоришься с повелителем твоим.
Он тебя признает зятем, власть над царством уступая.
И индийская корона нам достанется двоим.

Калі мы звернемся да рэальных палітычных падзей, якія адбываліся ў Грузіі на рубяжы XII і XIII стагоддзяў, дык шмат што нам стане зразумелым. Бо самой-жа царыцы Тамар давялося выйсці замуж за іншаземца—за рускага царэвіча Юрыя, малодшага сына Андрэя Багалюбскага. Пазней гэты шлюб быў скасаваны. Аднак, „няшчасны рускі“, як яго называлі потым, пры падтрыманні часткі грузінскіх феадалаў няўдала спрабаваў адваяваць свае „правы“ на трон і хутка загінуў. Царыца Тамар у другі раз выйшла замуж за царэвіча Давіда Саслані. Ён-та і ўсхваляецца ў заключных страфах „Вепхіс-ткаосані“.

Трэба падкрэсліць, што наогул аўтар паэмы недарэмна надае выключную ўвагу пытанню аб наследванні прастола, такому злабадзённаму ва ўказаную эпоху. Уся першая песня „Віцязя ў тыгравай скуры“ была асабліва актуальна палітычна для свайго часу. Прыгадаем, што не маючы сына і адчуваючы набліжэнне старасці, арабскі віцязь Ростэван (паказаны мудрым у супроцьлегласць непрадбачліваму Парсадану) парашыў пры жыцці перадаць правы на трон сваёй дачцы Тінацін. Скліканыя царом вяльможы бяспрэчна падпарадкаваліся царскаму рашэнню. Яны заявілі з гэтай прычыны:

Женщина, но небо ей в удел престол излило;
Мы не льстим тебе—достойна Тинатин принять венец
Путь царевны светозарной ярок, словно ход светила,
Льву во всем подобен львенок, будь то самка, иль самец.

(Песня I).

Палітычная тэндэнцыя, якая так упарта праводзілася паэтам, зусім зразумела. Ён належаў да той палітычнай групоўкі, якая была супроць перадачы царскай улады каму-небудзь з іншаземцаў,

з прычыны чаго дапушчала магчымасць перадачы наследвання прастола па жаночай лініі. Неабходна звярнуць увагу на характэрную дэталь „Вепхіс-ткаосані“. Хоць цар Ростэван, каб пазбегнуць палітычных ускладненняў і смут, пры сваім жыцці ўзвёў на прастол Тінацін, яго ўсё-такі працягваў турбаваць лёс дзяржавы; бо не меў ён героя сына, здольнага ўспрыняць ад яго „дух адвагі“. Сумна ўсміхаючыся, Ростэван гаворыць візіру Саграту:

Дочь я вырастил—царевну, мной воспитанную в неге,
Сына не дал мне создатель, чтоб отцу подобен был.
(Песня I).

Калі мы зноў звернемся да падзей грузінскай гісторыі канца XII стагоддзя і параўнаем іх з сюжэтным развіццём паэмы, тады нам стане зусім яснай яе палітычная накіраванасць. Бацька царыцы Тамар Георгій III, шмат змагаўшыся на сваім жыцці з мяцежным сваволлем буйных феадальных уладароў, як Ростэван і Парсадан не меў сына. Але калі састарэўшыся Парсадан не здолеў у час урэгуляваць пытанне аб наследванні прастола, у выніку чаго краіна аказалася ахопленай міжусобіцай, то Георгій III у гісторыі, як і Ростэван у паэме, паклапаціўся пры жыцці зрабіць царыцай сваю дачку. Тамар была каранавана ў 1179 годзе, а Георгій III памёр праз пяць год. Падобнае супадзенне—не маючага пратэндэнтаў гістарычнага факта з мастацкім вымыслам—вядома невыпадкова. Зусім відавочна, што Шота Руставелі, калі нават і не быў прыбліжоным царыцы Тамар (аб чым гаворыць і народнае паданне), дык ва ўсякім выпадку належаў да ліку перадавых людзей, прыхільнікаў умацавання адзінай палітычнай улады ў Грузіі.

## IV

Усе асноўныя героі „Віцязя ў тыгравай скуры“ належаць да перадавой феадальнай арыстакратыі. Аўтар надзяляе прадстаўнікоў свайго класа лепшымі чалавечымі ўласцівасцямі—розумам, гераізмам, сумленнасцю, здольнасцю захоўваць вернасць і сталасць ва ўсіх выпрабаваннях, уменне упарта дамагацца ажыццяўлення пастаўленай мэты. Побач з гэтым Руставелі надае вельмі шмат увагі прадстаўнікам гандлёвага свету. У XV песні, у апісаннях Мульгазанзары, сталіцы Фрыдона—Нурэдзена можна знайсці ускосныя паказанні на развіццё гандлю. Напрыклад, там гаворыцца што горад вабіў да сябе не толькі „стройных зданий красотою“, але і „заморскими шелками“. Усё аблічча горада з'яўляецца зусім нетыповым для феадалізма з яго замкнутасцю, сістэмай натуральнай гаспадаркі і г. д.

А пачынаючы з XXX песні на сцэну выводзяцца купцы і ім адводзяцца вялікія ролі ў цэлым радзе далейшых эпізодаў. Рэалістычна, у яскравых і запамінаючыхся вобразах, апісваецца вялікі купецкі караван, які напаткаў Аўтандзіл на беразе мора. На першым плане выводзіцца „пачцівы купец“, Усам, глава гандляроў з Багдада. Чытачы даведваюцца аб розных гандлёвых аперацыях і прыгодах багдадскіх купцоў, якія пастрадалі ад нападу марскіх разбойнікаў на шляху з Егіпта. Вельмі характэрна, што Аўтандзіл

выступае далей у якасці заступніка гэтых гандляроў. Ён бярэ на сябе ахову іх у часе морскага падарожжа, знішчае карсараў разам з іх караблём.

Выключнай рэалістычнай выразлівасці Руставелі дасягае ў наступнай песні. Тут мы знаходзім яшчэ больш яскравую і дэталізаваную абмалёўку купецтва. Пад выглядам мірнага купца, Аўтандзіл прыбывае ў буйны гандлёвы порт—у сталіцу „царя морей" Меліка-Сурхава. Калі Арабія і Індыя былі паказаны ў прагрэсіўна-феадальных танах, як арэна дзеянняў доблесных віцязяў, то Гуланшаро аўтар характарызуе, як спецыфічна гандлёвы купецкі цэнтр. Усе гараджане заняты там купляй і прадажай, „богатыми барышами". Яны прагнуць нажывы, хуткага абагачэння шляхам розных камерцыйных здзелак. Усякае імкненне да заваёў, да вайсковых подвігаў, аказваецца зусім не ўласціва ім.

Здесь купцы изобретают хитроумные затеи,
Всюду купля и продажа, барышей, убытков счет,
Неимущий за неделю может выйти в богатеи.
Отобрав товар на рынке, бедный на год в долг берет.

(Песня XXXI).

Руставелі неаднаразова адзначае заможны дабрабыт гаражан, мірны росквіт Гуланшаро. У багатым горадзе шмат розных крам, караван-сараяў, гасцініц для прыязджаючых. Затое ў гарадскі пейзаж зусім не ўваходзяць якія-небудзь апісанні абаронных пабудоў, сцен і вежаў, так характэрных для феадальнага горада-крэпасці. Калі асноўныя ўлюбёныя героі Руставелі ўвесь час гавораць аб подвігах, заваёвах і ў канечным ліку ўсе жыццёвыя цяжкасці вырашаюць сілай, то ў „царстве морей" усё прадаецца. Характэрна ў гэтых адносінах, што Фацьма-Хатун, жонка главы мясцовых купцоў Усена, гаворыць аб сваіх дарагакаштоўных камнях: „за любой отдали-б город, не потребовав приплаты" (Песня XXXIX). Не менш характэрна і тое, што „царь морей" Мелік-Сурхаў славіцца не вайсковымі подвігамі, як Ростэван, а „магутнасцю і багаццем". Усен, маючы свабодны доступ да гэтага цара, усхваляе толькі яго шчодрасць, а не сілу і звяртаецца да яго так: „Ты питаешь все земное щедрым золотом лучей" (Песня XXXIX). Толькі ў адным месцы той-жа песні мімаходзь гаворыцца аб тым, што царскі сын павінен звярнуцца „возвеличенный победой". Пры гэтым аўтар вызначае царэвіча як „водителя ратей". Але гэтая дэталь не парушае спецыфічны каларыт „царства морей"—дзяржавы мацнеючай гандлёвай буржуазіі. Дадамо, што ў ім стала ўжо заўважна сацыяльная няроўнасць: апрача купецкай іерархіі (простыя купцы—старэйшыны—глава купцоў), грамадства падзяляецца на „господ" і „подвластных" (Песня XXXVII); багатыя купцы валодаюць шматлікімі рабамі і дамінуюць у жыцці горада.

Бясспрэчна, надаючы вялікае палітычнае значэнне развіццю гандля, Шота Руставелі ўсё-такі выяўляе праз вобразы сваіх любімых герояў спагадліва-высокамерную пагардлівасць да купцоў. Падкрэсліваючы свае прыгоды ў купецкай дзяржаве, Аўтандзіл не здарма называе сябе прышэльцам з „воинственного края"

(Песня XI). А ў часе нападу піратаў на купецкі карабль ён усклікае:

> Вы, купцы—народ трусливый и не созданы для брани.
> Скройтесь в трюмы, чтобы стрелы вас настигнуть не могли.
> (Песня XXX).

І па жаданню аўтара купцы баязліва хаваюцца, пакінуўшы Аўтандзіла аднаго з ворагамі.

А нарысаваўшы вельмі яскравы малюнак росквіту гуланшэрскіх гаражан-гандляроў, Руставелі ўслед затым выказвае пагарду да грошай і ўсякіх каштоўнасцей. Драпежнае імкненне да нажывы не толькі зусім не ўласціва паэту, але нават рашуча адмаўляецца ім:

> Золото, лаская взоры, смертному не дает отрады,
> Алчностью томит о смерти, равнодушное к слезам.

— гаворыць Руставелі ад свайго імя ў XXXIX песні. І нават Фацьма-Хатум, будучы развітай прадстаўніцай гандлёвай буржуазіі, у адпаведнасці з пераконаннем аўтара часам праяўляе пагарду да прадстаўнікоў гандлёвага свету. Яна не шкадуе свайго мужа Усена, характарызуючы яго як „поденщика торга“, як „хвастливого хмельного торгаша“.

Такім чынам бясспрэчна, што Шота Руставелі адлюстраваў купецтва з пункту гледжання свайго класа. Як прадстаўнік перадавой часткі феадальнага грамадства, паэт, з аднаго боку, дапушчае магчымасць самастойнага існавання гандлёвай дзяржавы; з другога боку, ён ставіць купцоў непамерна ніжэй прадстаўнікоў ваенна-феадальнага саслоўя.

Звернемся зноў да гістарычных дадзеных. У эпоху, папярэднюю да з'яўлення Руставелі, гандаль адыгрываў ужо значную ролю ў культурна-эканамічным жыцці Грузіі. Праф. Карнелі Кекелідзе адзначае, што „з прычыны асаблівага міжнароднага становішча аб'яднанай Грузіі, ляжаўшай на перасячэнні вялікіх гандлёвых шляхоў, паміж краінамі Захада і Усхода, у ёй востра адчувалася пульсацыя сусветнага рынка. Інтэнсіўны гандаль вёўся пераважна з Багдадам, а таксама з Егіпетам, г. зн. як раз з краінамі, якія ўпамінаюцца Руставелі ў эпізодзе з купцамі і піратамі. Прадстаўнікі гандлёвай буржуазіі падзяляліся ўжо на „буйных“ і „дробных“. Буйныя купцы сталі адыгрываць вельмі заўважную ролю ў сацыяльна-палітычным жыцці Грузіі. Мастацкае адлюстраванне падобных з'яў мы і знаходзім у паэме Руставелі, так характэрнай для той эпохі.

## V

Наша ўяўленне аб Шота Руставелі, як аб перадавым чалавеку свайго часу было-б далёка няпоўным, калі-б мы не высвятлілі хоць бы ў агульных рысах пытанне аб гуманізму вялікага паэта. У яго паэме, бясспрэчна, выражана тое „жыццёрадаснае свабодамысле“, аб якім гаварыў Энгельс у прымяненні да эпохі Адраджэння*). Яна прасякнута светлым і бадзёрым светаадчуваннем, непахіснай упэўненасцю ва ўрачыстасць чалавечага розума. Нездарма Руставелі вуснамі мудрага героя Аўтандзіла ўскліквае, што людзям дан „светлы розум“ (Песня XXI). А прыгожая і смірная Асмат гаворыць Аў-

*) Ф. Энгельс. „Дыялектыка прыроды. Партвыдат, 1935 г. стр. 86.

т
\андзілу: „Сердце, дух и разум ясный—все единой цепи звенья“ Песня XXV). Здзіўляючым поўнакроўем, здароўем і радаснымі адносінамі да рэчаіснасці вее ад старонак „Вепхис-ткаосани“.

Руставелі дарэмна параўноўваюць з Дантэ і Петраркай, а таксама з іншымі італьянскімі паэтамі і мысліцелямі Рэнесанса. Ён шмат у чым апярэдзіў вялікіх італьянскіх гуманістаў. На рубяжы XII і XIII стагоддзяў ён быў прадвеснікам магутнага гуманістычнага руху, які хутка распаўсюджыўся ў Заходняй Еўропе і часткова ў краінах Бліжняга Усходу.

Калі вялікі грузінскі паэт паслядоўна і няўхільна вучыў караць здраднікаў і мяцежнікаў, то да чэсных і праўдзівых ён заклікаў адносіцца мяккасэрдна. Адвяргаючы дагматызм і схаластычныя ўмоўнасці сярэднявечча, якія скоўвалі разумныя сілы чалавецтва, ён адстойваў свабоду індывідуальных імкненняў. Ён адкрыта агалашаў роўнапраўе полаў, роўнасць паміж мужчынай і жанчынай. Героі „Вепхіс-ткаосані“ нязменна праяўляюць поўную самастойнасць, паступаюць так, як ім падказвае іх уласны розум. Тінацін і Нестан-Дарэджан самі вырашаюць свой лёс, выбіраюць улюбёных, не запытаўшы думкі бацькоў, і прымаюць актыўны ўдзел у палітычным жыцці. Мала таго: у радзе эпізодаў жанчыны аказваюцца мацней за мужчын і нават кіруюць імі. А героі Руставелі праяўляюць беражлівыя і пачцівыя адносіны да жанчын. Калі Аўтандзілу давялося груба абыйсціся з Асмат пры першай сустрэчы ў пячоры, ён надзвычай шкадуе аб здарыўшымся і ўсклiквае: „Женщину обидев, где найду себе покой?“ (Песня IV).

Пракланенне Аўтандзіла перад Тынацін і Тарыэля перад Нестан-Дарэджан істотна адрозніваецца ад традыцый сярэдневяковага рыцарскага культа жанчыны. Адносіны ўлюбёных у Руставелі значна больш простыя, праўдзівыя і натуральныя, чым у персанажаў рыцарскіх раманаў ці паэтычных твораў сярэдніх вякоў. Героі „Вепхис-ткаосани“, пракланяючыся перад жанчынамі, часта звяртаюцца да іх, як да сваіх таварышоў і сяброў. Зусім новую, уласцівую не сярэднявеччу, а хутчэй эпосе Адраджэння сістэму ўзаемаадносін паміж мужчынай і жанчынай, адкрывае нам Шота Руставелі.

Свае гуманістычныя ідэі вялікі грузінскі паэт выказвае неаднаразова, даючы сціслыя, бліскучыя па форме і глыбокія па думцы, афарызмы. Характэрны ў гэтых адносінах настаўленні, даныя царом Ростэванам сваёй дачцы Тінацін пасля каранавання яе. Ён раіць маладой царыцы быць светлай і шчодрай, „вельмож и нищих равным благом озарив“ (Песня I). Візіру Саграту цар гаворыць: „Мудрецы нас поучают: злоба—корень наихудших бед“ (Песня XXII). Далей ён выхваляе Тінацін за тое, што яна перш за ўсё скарыстала атрыманую ўладу для раздачы народу ўсіх багаццяў, якія знаходзіліся ў палацы. Па яго думцы, скупасць, эгаістычнае прысвайванне пры сябе багаццяў—дрэнны шлях для чалавека:

Доброта сродни владыкам, как Эдему—сень алоэ.
Щедрому покорен даже вероломный человек.
Дом, открытый—благо; копит только сердце злое.
Что раздашь—твое, что скроешь—то потеряно навек!

(Песня I).

Адпраўляючыся ў далёкі і небяспечны шлях, Аўтандзіл пакідае цікавейшае завешчанне. На выпадак сваёй смерці ён прадпісвае Шэрмадзіну: „Раздари богатства бедным—серебро, червонцы, медь“ (Песня II). А ў грамаце, пакінутай другім васалам, ён зноў праяўляе гуманныя і беражлівыя адносіны да людзей, прыгадваючы аб тым, што Шэрмадзін павінен „лелеять приближенных“, заспакойваць незадаволеных „как смягчают воск рукой“ (Песня III).

Той жа Аўтандзіл піша Ростэвану аб неабходнай чуласці і міласэрднасці: „Разделяя скорби ближних, мир пройдешь неуязвимый“. І тут жа просіць цара распарадзіцца за яго ўсімі багаццямі так:

Не исчислены ни разу и никем мои богатства!..
Раздари их бесприютным и освободи рабов!
Обеспечь сирот достатком, беднякам благоприятствуй
И добром меня помянут, обретающие кров.

(Песня XXXI).

Бясспрэчна, што Шота Руставелі стаяў на вышэйшай ступені развіцця свайго часу. Ён выяўляе блізкае знаёмства не толькі з літаратурай Усхода, але і з антычнай філасофіяй. У пісьме да Ростэвана, Аўтандзіл абгрунтавана прыводзіць выслоўе Платона, а сам аўтар не выпадкова гаворыць аб Тінацін: „Чтоб воспеть ее мне нужно красноречие Афин!“ (Песня XVIII). Захавалася паданне аб тым, што ў маладосці Руставелі быў пасланы вучыцца ў Візантыю ці ў Афіны. Ва ўсякім выпадку ён праяўляе веданне філасофіі неоплатонікаў.

Гуманістычная асвета вялікага паэта вельмі акрэслена выявілася на яго адносінах да рэлігіі. У той час царква ў значнай меры страціла пануючае становішча ў палітычным жыцці Грузіі. Але ўсё-ткі царкоўнікі былі вельмі моцны. Між тым, Шота Руставелі адкрыта праявіў у паэме зусім не дапушчальныя, з царкоўна-дагматычнага пункту гледжання, шырыню светапогляду, свецкасць і верацярпімасць. Яму не толькі была варожай усякая клерыкальнасць, але, наогул, усе яго погляды зусім не ўкладваліся ў рамкі хрысціянскага мышлення.

Усе асноўныя, любімыя героі вызначаны як мусульмане. Але і з пункту гледжання магаметанства іх рэлігійнасць вельмі няпэўная. Возьмем для прыкладу такі эпізод: калі пасля першай сустрэчы з Нестан-Дарэджан Тарыэль захворвае ад кахання, ложак яго акружаюць мулы; апісваючы гэта, Руставелі ўкладае ў вусны свайго героя кпіну над бездапаможнымі і невуцкімі служыцелямі культа, якія спрабавалі знайсці прычыну хваробы:

И муллы и муталимы обступили изголовье
И кораны раскрывая, толковали письмена.
Одержимы об'явивши, бормотали бестолково.

(Песня VI).

Надзвычай характэрна, што літаратурны папярэднік Шота Руставелі—буйны паэт Шаўтэлі сваю оду „Абдул Мессия“, якая звярнута да грузінскіх цароў, пачаў так: „Бог единый и трехликий дал уменье вас воспеть“. А другі вядомы паэт Чахрухадзе, які быў,

відаць, старшым сапляменнікам Руставелі, у сваёй одзе „Тамарыані“ пісаў: „Бог единый и трехликий создал землю, как и твердь“. Затое ў самога Руставелі няма гэтых упамінанняў аб трох ипостасях, „божественной троицы“, так абавязковых у сярэднія вякі.

Праўда, у песні XXI досыць глуха ўпамінаецца аб тым, што „нас любви пророки учат“ і што „смысл апостольских заветов надо чутко воспринять“. Але гэтым і вычэрпваюцца ўсе знешнія элементы хрысціянства ў паэме. Аўтар надзвычай рэдка гаворыць аб „запредельном мире“, аб загробным жыцці (Песня XXI), аб „мире неземном“. (Песня XXV). Разуменне бога ў Руставелі не хрысціянскае і не мусульманскае, а хутчэй язычаскае. Характэрна, што носьбіты зла—каджы звяртаюцца да „бога“. Героі паэмы моляцца вельмі рэдка, прычым іх малітвы зусім не падобныя на традыцыйна-хрысціянскія. Напрыклад, для Аўтандзіла бог ёсць „полнота всего земного, предрешивший ход светил“ (Песня XXVII), „создатель неба и земли“ (Песня XXII). Малітвы героя гучаць зусім паязычаску: „Пусть к тебе мои хваленья жертвенным восходят дымом!“ (Песня XXVII). А славуты астральны гімн, з якім Аўтандзіл малітвенна звяртаецца да обожаствляемых небесных свяціл (Песня XXVIII), яшчэ больш супярэчыць усім догмам хрысціянскай царквы. Нарэшце, ва ўсёй паэме праводзіцца своеасаблівы язычаскі культ сонца, як бажэственага пачатку ўсяго жыцця.

Наздарма паэма Шота Руставелі была варожа сустрэта грузінскім духавенствам і ацэнена як „ерэтычная“ кніга. На працягу вякоў царкоўнікі спрабавалі перашкодзіць распаўсюджанню „Вепхіс-ткаосани“ сярод грузінскага народа, палілі рукапісы і затаплялі першае выданне паэмы. Грузінскі літаратуразнаўца праф. Саргіс Какабадзе піша з гэтай прычыны: „Паэма Руставелі, як найвялікшая апалогія кахання, відавочна, заўсёды выклікала пратэст і асуджэнне з боку клерыкальна-аскетычных колаў“. У другой палове XVIII стагоддзя такі чалавек як каталікас Антоні і—чалавек, які так шмат зрабіў для развіцця грузінскай навукі—загадаў сабраць надрукаваныя Вахтангам VI экзэмпляры паэта „Вепхіс-ткаосані“ і кінуць у Куру—„як кнігу шкодную для чытачоў“, як „атруту хрысціянскай свядомасці і пачуцця“*). А мы цэнім Шота Руставелі як найвялікшага паэта-гуманіста, які смела пераступіў вузка-нацыянальныя і вузка-царкоўныя рамкі. Не змрочнае сярэднявечча манастырскіх келляў, а светлы, велізарны, шматгранны свет, напоўнены шматлікімі фарбамі, поўны цудаў і прыгод, населены рознымі народамі, прадстае перад намі. Геніяльная Грузінская паэма напоўнена непаўторнай нацыянальнай своеасаблівасці. Але разам з тым, яе аўтар здолеў выявіць здзіўляючую шырыню светапогляду і ўзняўся да вышыні агульначалавечай. сусветнай паэзіі. Нездарма адна з гераінь бессмяротнай паэмы Шота Руставелі так добра гаворыць аб „мире безбрежном“.

---

*) Гл. уступны артыкул С. Какабадзе да грузінскага выдання „Вепхіс-ткаосані“. Тбілісі, 1927 г.

## ХРОНІКА

### ВЕЧАР ПРЫСВЕЧАНЫ 750-ГОДДЗЮ З ДНЯ З'ЯЎЛЕННЯ ПАЭМЫ „ВІЦЯЗЬ У ТЫГРАВАЙ ШКУРЫ“

27 студзеня адбыўся агульна-гарадскі літаратурны вечар, прысвечаны 750-годдзю з дня з'яўлення бессмяротнай паэмы грузінскага паэта Шота Руставелі „Віцязь у тыгравай шкуры“.

На вечары выступіў сакратар усесаюзнага руставелеўскага камітэта т. Гольцаў, які зрабіў даклад аб паэме Шота Руставелі „Віцязь у тыгравай шкуры“.

Народны паэт Якуб Колас зачытаў свой верш „Жыве Руставелі“, паэт П. Броўка, удзельнік юбілейнага пленума праўлення ССП СССР, які адбываўся ў Тбілісі, падзяліўся ўражаннямі аб паездцы па цудоўнай Грузіі і зачытаў свой пераклад на беларускую мову ўрыўка з паэмы Руставелі.

З чыткай сваіх перакладаў на беларускую мову выступілі П. Глебка, К. Крапіва, Камянецкі, Агняцвет.

Беларускія паэты абавязаліся ў 1938 г. цалкам перакласці і выдаць на беларускай мове геніяльны твор „Віцязь у тыгравай шкуры“, які набыў сусветную славу.

### ТВОРЫ ВЯЛІКІХ ПАЭТАЎ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

На пасяджэнні паэтычнай секцыі ССПБ абмяркоўвалася пытанне аб перакладзе „Віцязь у тыгравай шкуры“ на беларускую мову. Паэтычная секцыя даручыла тт. Крапіву, Хведаровічу і П. Глебку пераклад паэмы Шота Руставелі „Віцязь у тыгравай шкуры“, які павінен быць выкананы ў 1938 годзе.

На паэтычнай секцыі таксама абмяркоўвалася пытанне аб перакладзе „Еўгенія Онегіна“ А. С. Пушкіна на беларускую мову. Паэтычная секцыя даручыла перакласці паэму „Еўгеній Онегін“ тт. Броўку і Куляшову. Пераклад павіннен быць выкананы ў 1938 г.

Таксама на паэтычнай секцыі абмяркоўвалася пытанне аб перакладзе на беларускую мову твораў геніяльнага украінскага паэта Тараса Шэўчэнка. Як вядома, народны паэт БССР Янка Купала даўно працуе над перакладамі Шэўчэнка. Ім перакладзена вялікая частка „Кабзар“. Паэтычная секцыя пастанавіла вылучыць у дапамогу Янку Купалу, па арганізацыі пераклада твораў Т. Г. Шэўчэнка, таварышоў Александровіча і Агняцвет.

### ФАЛЬКЛОРНЫЯ ВЫДАННІ АКАДЭМІІ НАВУК БССР

Акадэмія Навук БССР выпусціла да XX-годдзя Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота два цікавыя фальклорныя выданні.

На беларускай мове пад рэдакцыяй Якуба Коласа выйшаў зборнік „Чырвоная Армія і абарона радзімы ў беларускай народнай творчасці“. У зборнік уключана каля 200 тэкстаў: песень, сказаў, прымавак, пагаворак, загадак, былін аб гераічнай Чырвонай Арміі. Зборнік ілюстраваны ўзорамі народнай творчасці на абаронную тэматыку: здымкамі разьбы па дрэву, вышыўкамі і пляценнямі. Тыраж 4500 экз.

Таксама ў выданні Акадэміі Навук БССР выйшаў зборнік на яўрэйскай мове: „Яўрэйскія народныя песні аб Чырвонай Арміі“, які з'явіўся першым зборнікам яўрэйскага савецкага фальклора не толькі ў БССР, але і ва ўсім Савецкім Саюзе.

### ГРУЗІНСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ АБ БССР

Грузінскія пісьменнікі, якія наведалі БССР, напісалі рад твораў, прысвечаных Савецкай Беларусі.

Пісьменнік К. Лордкіпанідзе напісаў цэлы цыкл апавяданняў аб Беларусі, якія аб'яднаны адной сюжэтнай лініяй—паказам адной сям'і беларускага селяніна. Апавяданні Лордкіпанідзе ўжо вышлі на-

грузінскай мове. У перакладзе на беларускую мову яны будуць змешчаны ў часопісу „Полымя рэволюцыі“. Грузінскія паэты Кутатэлі і Іло Масашвілі напісалі некалькі вершаў аб Беларусі. У адным з вершаў Кутатэлі апісваецца Гомель.

## ЯЎРЭЙСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ Ў ГРУЗІІ

Па сканчэнні руставелеўскага пленума Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР праўленне Саюза разам з Груз'азетам вылучыла спецыяльную брыгаду пісьменнікаў для паездкі ў раёны Грузіі. Мэтай паездкі гэтай брыгады было:—арганізаваць вечары, прысвечаныя яўрэйскай савецкай літаратуры і азнаёміцца з новымі пасёлкамі для грузінскіх яўрэяў, іх жыццём і побытам.

У брыгаду ўвайшлі тт. Аршаруні, Фефер, Гофштэйн, Хашчэвацкі, Камянецкі, Альтман, Баазаў, Палумардвінаў, Бабахідзе і старшыня Груз'азета Етгулашвілі.

Брыгада арганізавала тры літаратурныя вечары ў Тбілісі, Батумі і Сухумі, на якіх з дакладам аб яўрэйскай савецкай літаратуры выступіў пісьменнік І. Фефер.

Паэты чыталі свае вершы, прысвечаныя І. В. Сталіну і Шота Руставелі.

За час гэтай цудоўнай паездкі пісьменнікі сабралі вельмі шмат цікавага матэрыялу для літаратурных нарысаў, апавяданняў і навел.

Пісьменнікі паставілі пытанне перад саюзам савецкіх пісьменнікаў СССР аб выданні анталогіі яўрэйскай літаратуры на грузінскай мове і анталогіі грузінскай літаратуры на яўрэйскай мове.

## КНІГІ СМАЛГІЗА Ў 1938 г.

Зацверджаны на 1938 год выдавецкі план Смаленскага абласнога аддзялення дзяржаўнага выдавецтва.

З мастацкай літаратуры ў 1938 годзе намячаецца выданне аповесці В. Арыстава „Смаленск“. Гэта гістарычная аповесць аб вядомым самародку строптэле Фёдоры Коне, які кіраваў на рубяжы XVII стагоддзя пабудовай смаленскай крэпаснай сцяны.

У плане выдавецтва запраектаваны выпуск зборніка абаронных апавяданняў, мастацкага зборніка да XX-годдзя рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі „Чырвонага песенніка“, а таксама антырэлігійнага мастацкага зборніка.

У гэтым годзе намячаецца шэраг перавыданняў твораў Салтыкава-Шчэдрына, Чэхава, а таксама народнай казкі беларускага паэта Я. Коласа „Як поп зрабіўся авіятарам“.

Народная творчасць — паслякастрычніцкі фальклор—будуць прадстаўлены ў зборніку народных казак, запісаных у Смаленскай вобласці.

План выдання дзіцячай і юнацкай літаратуры невялікі. Намячаецца выпусціць толькі некалькі навукова-папулярных брашур. У прыватнасці, мяркуецца выданне брашуры І. Дзебрына—„Аб двух вялікіх падарожніках—Пржэвальскім і Казлове“.

Перавыдаецца ў перакладзе з беларускай мовы—„Салавей“ Зм. Бядулі.

## ЛЕНІНГРАДСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ ДА СЛАЎНАЙ ГАДАВІНЫ XX-ГОДДЗЯ РЭЧА

Ленінградскія пісьменнікі адзначаюць XX гадавіну Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота новымі творамі, прысвечанымі гераічным эпізодам з гісторыі Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота, знатным людзям Чырвонай Арміі і Флота, бясстрашнай рабоце слаўных пагранічнікаў.

Над зборнікам „Пагранічнікі“ працуе пісьменнік Сланімскі. Пісьменнік Лукніцкі піша апавяданне аб пагранічніках. Вершы ленінградскіх паэтаў—Тіханава, Пракоф'ева, Браўна, Садоф'ева і інш. будуць змешчаны ў зборніку „На варце радзімы“. Драматург Шчэглоў працуе над п'есай „Бронепоезд № 6“—аб удзеле пуцілаўцаў у грамадзянскай вайне. Малады драматург Дзябічаў скончыў п'есу—„На заставе“.

Дзіцячыя пісьменнікі Грыгор'еў, Вальдэ, Лебядзеў рыхтуюць новыя кнігі для дзяцей.

## „МЫ—РУСКІ НАРОД“

Да XX-годдзя Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота Дзяржлітвыдат выпусціў у выданні „Раман-газеты“ тыражом у 362 тысячы экземпляраў раман-фільм Вс. Вішнеўскага „Мы—рускі народ“.

## ЮБІЛЕЙНАЯ БІБЛІЯТЭКА

Да XX гадавіны Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота Дзяржаўнае ваеннае выдавецтва Наркамата абароны СССР выпусціла вялікую колькасць новых кніг.

Юбілейная бібліятэка адкрываецца прамовaю І. В. Сталіна „Аб трох асаблівасцях Чырвонай Арміі“.

„Сталін і Чырвоная Армія“—так называецца кніга К. Е. Варашылава, якая апіс-

вае, як нястомна працаваў таварыш Сталін на франтах грамадзянскай вайны і натхняў перамогі Чырвонай Арміі. Да юбілея выходзяць з друку серыі ваенна-гістарычных манаграфій і нарысаў, якія прысвечаны асноўным этапам грамадзянскай вайны. Асобная серыя, прысвечана палкаводцам грамадзянскай вайны.

Масавым тыражом выдадзены дзве брашуры: „Армія Кастрычніка" і „Дваццаць год на варце соцыялізма", разлічаныя на шырокія колы чытачоў.

У раздзеле ваенна-гістарычнай літаратуры выйшлі кнігі: „Партыя большэвікоў у гады грамадзянскай вайны" (1918-1922 гг.) і „Варашылаўград—Сталінград".

Выдавецтва выпускае таксама масавымі тыражамі асобныя зборнікі „Чырвоная Армія" і „Грамадзянская вайна".

## ПЛЕНУМ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ УКРАІНЫ

Адбыўся пленум Саюза совецкіх пісьменнікаў Украіны з удзелам прадстаўнікоў абласных арганізацый.

Прысутнічаючыя на пленуме пісьменнікі выступілі з рэзкай крытыкай недахопаў Праўлення. Асабліва рэзка крытыкавалі пісьменнікі орган Саюза совецкіх пісьменнікаў Украіны „Літаратурную газету", за яе бяззубасць і беспрынцыповасць у ацэнцы літаратурных з'яў.

Праўленне выбрала новы склад рэдкалегіі „Літаратурнай газеты" і журнала „Совецкая літаратура". Вырашана прыступіць да выдання 2-тыднёвага крытычнага часопіса і аднавіць выданне рускага літаратурнага часопіса „Совецкая літаратура". Часопіс яўрэйскіх пісьменнікаў перайменаваны з „Фарпоста" ў „Советышэ літаратурэ". Выбрана камісія па правядзенню юбілеяў, якія адбудуцца ў гэтым годзе: Лесі Украінкі, М. Кацубінскага, І. Катлярэўскага. У гэтым годзе будзе таксама святкавацца 125-гадовы юбілей з дня нараджэння вялікага украінскага паэта Т. Г. Шэўчэнка.

## АНТАЛОГІЯ УКРАІНСКАЙ ПАЭЗІІ

Скончана работа над рускім перакладам анталогіі украінскай совецкай паэзіі, якая выдаецца Дзяржлітвыдатам па ініцыятыве групы ленінградскіх паэтаў А. Пракоф'ева, Н. Браўна, І. Садоф'ева, М. Камісаравай.

Праўленне ленінградскага Саюза совецкіх пісьменнікаў атрымала ліст ад сакратарыята ССП Украіны, у якім падкрэсліваецца, што першая вялікая анталогія украінскай совецкай паэзіі на рускай мове з'яўляецца фактам усё растучай сувязі і дружбы паміж брацкімі культурамі рускага і украінскага народа.

На чарговым пасяджэнні ленінградскага саюза пісьменнікаў будуць абмеркаваны вынікі работы ленінградскіх паэтаў над украінскай анталогіяй.

## ПЕРШЫ З'ЕЗД АШУГАЎ АРМЕНІІ

8 лютага ў Эрыванскім доме пісьменнікаў адчыніўся першы рэспубліканскі з'езд ашугаў Арменіі. Прысутнічала 130 армянскіх, азербайджанскіх і курдскіх паэтаў.

У праграме работы з'езда—выступленне ашугаў пад акампанімент народных інструментаў.

Дзяржаўнае выдавецтва Арменіі выпускае першы том зборніка народнай творчасці, у які ўвойдуць творы 400 ашугаў.

## АНТАЛОГІЯ КАЗАХСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Брыгада ленінградскіх пісьменнікаў на чале з Леанідам Собалевым, якая наведала Казахстан, закончыла работу над выданнем анталогіі казахскай літаратуры.

Анталогія казахскай літаратуры знаёміць рускага чытача з гераічным бытавым эпасам казахскага народа, паэтамі XIX і пачатку XX стагоддзяў, з пісьменнай паэзіяй XIX ст., з творамі народных акынаў і жыршы, а таксама з прозай і вершамі пісьменнікаў і паэтаў Казахскай саюзнай рэспублікі. У анталогію ўключаны ўрыўкі з паэмы: „Кабланды-батыр", „Ер-Саін", „Ер-Таргын", „Камбар-батыр" „Козы-Корпеш", „Кыз-Жыбек", „Айман-Шолпан", абрадныя песні „Бет-ашар" „Айт-Келін", „Жаржар". „Баксы-жыры".

Змешчаны таксама ўрыўкі з твораў паэтаў: Абая Кунанбаева, Насынбая Даскажана, Махамбета, Шортанбая, Шэрніяза, Алтынсарына, Шэнгерэя, Тарайжыра і інш.

З песень народных акынаў і жыршы, якія апавядаюць аб шчаслівым радасным жыцці казахскага народа пад праменнямі Сталінскай Канстытуцыі, аб яго любові і адданасці радзіме, вялікаму Сталіну, змешчаны: „Я чуў Сталіна", „Песня аб вясне народаў", „Мая радзіма", „Песня аб брацтве народаў", „Паэма аб Варашылаве"—Джамбула, „Песня аб Сталіне"—Умурзакава, „Аскандана" — Рахімбая, „Песня аб жалезным Наркоме"—Кенена, „Домбра"—Орумбая, „Сталінскае лета"—Рахімбая, „Песня аб хлопку"—Турмухамбета.

## ВЕЧАР ПАМЯЦІ А. КАЗБЕГІ

28 студзеня ў Палацы пісьменнікаў Грузіі адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння Аляксандра Казбегі. З дакладам і прамовамі аб жыцці і творчасці А. Казбегі выступалі пісьменнікі і крытыкі: Лео Кіачэлі, Л. Асаціані, Д. Шэнгелая, С. Кλдыашвілі, П. Чхыквадзе, А. Гацэрэлія і інш.

## АПОВЕСЦІ А. КАЗБЕГІ НА РУСКАЙ МОВЕ

Творы Александра Казбегі на рускай мове ўпершыню былі надрукаваны ў 1899—1902 гг. у часопісу „Кавказский вестник", які выходзіў у той час у Тбілісі.

Але шырокую магчымасць азнаёміцца з творчасцю выдатнага рускага класіка грузінскай літаратуры рускі чытач атрымаў толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

За апошнія гады асобнымі кнігамі выйшлі аповесці Казбегі „Элгуджа" і „Элісо".

Аднатомнік выбраных твораў на рускай мове выпушчаны нядаўна выдавецтвам „Заря Востока". У яго ўвайшлі аповесці „Элгуджа", „Хевіс беры Гоча" і „Элісо".

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

## ЗМЕСТ

*Стар.*


**Я. Колас**—Слава героям—*верш* . . . . . . . . . . 3
**М. Хведаровіч**—Папанінцам—*верш* . . . . . . . . . . 4
**П. Глебка**—*Вершы* . . . . . . . . . . 6
**С. Стальскі**—Чырвоная Армія—*верш* (пераклад М. Хведаровіча) . . . . . 9
**А. Талстой**—Хлеб (Абарона Царыцына)—*аповесць* . . . . . . . . . . 11
**А. Ушакоў**—Песні—*вершы* . . . . . . . . . . 87
**М. Аўрамчык**—Парашутыстка—*верш* . . . . . . . . . . 89
**А. Астрэйка**—Нашы родныя, блізкія—*вершы* . . . . . . . . . . 90
**Ю. Віцьбіч**—Апавяданне каваля Раяка—*апавяданне* . . . . . . . . . . 91
**А. Жаўрук, А. Ушакоў**—Песня пра дукорскіх партызан—*верш* . . . . . 96
**А. Піскавіцін**—Смерць салдата—*апавяданне* . . . . . . . . . . 97
**Вл. Глазырын**—Вораг—*апавяданне* . . . . . . . . . . 102
**В. Шахавец**—Песня касца—*верш* . . . . . . . . . . 109
**А. Алешка**—Блакітная ноч—*апавяданне* . . . . . . . . . . 111
**А. Радзюк**—Вецер, буй-вецер—*верш* . . . . . . . . . . 117
**П. Хадарэнка**—Смерць Сямёна Труханава—*верш* . . . . . . . . . . 118
**М. Лупсякоў**—Кроў—*апавяданне* . . . . . . . . . . 119
**Г. Гейне**—Германія—*сатыры* (пераклад М. Васілеўскай) . . . . . . . . . . 125
**А. Гурло**—Першы снег, На лыжах—*вершы* . . . . . . . . . . 155
**А. Гурло**—некралог . . . . . . . . . . 157
**Чырвоная, усенародная, неператожная**—*артыкул* . . . . . . . . . . 159
**В. Гольцаў**—Шота Руставелі, як выразнік сваёй эпохі—*артыкул* . . . . . 165
**Хроніка** . . . . . . . . . . 181


---



## Заўважаныя памылкі друку

| Стар. | Радок | Надрукавана | Павінна быць |
|---|---|---|---|
| 20 | 25 знізу | з найбольшай | ў найбольшай |
| 28 | 2 знізу | з берагах у пумпернікеля | ў берагах з пумпернікеля |
| 67 | 19 знізу | завтра | заўтра |
| 77 | 21 зверху | прыглынуць | праглынуць |
| 103 | 1 знізу | яны плыл | яны плылі |
| 119 | загаловак | Кроу | Кроў |
| 137 | 16 зверху | лепшая ў іх прыправа | І лепшая ў іх прыправа |
| 147 | 10 зверху | Меў моўчкі заўжды карыстацца | Мог моўчкі заўжды карыстацца |
| 147 | 24 зверху | цяпер—адчай, аднаўленне | цяпер—адчай, адмаўленне |
| 151 | 5 зверху | Застаніся ў Гамбургу ў мяне | Застанься ў Гамбургу ў мяне. |

Зак. № 3110.

